**Валер Каліноўскі. Справа Бяляцкага.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2012. 364 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Дубавец*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Мікола Раманоўскі*

Гэтая кніга ня столькі пра крымінальную справу № 11081100188, паводле якой Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 года турмы, колькі пра справу ягонага жыцьця — абарону грамадзянскіх і культурных правоў чалавека.

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі аўтара, Багдана Арлова, Уладзімера Грыдзіна, Сяргея Грыца, Юліі Дарашкевіч, Аляксея Лапіцкага, Уладзімера Паца, Сяргея Сыса, Міхала Чэрнага, з архіваў Алеся Бяляцкага, Праваабарончага цэнтру «Вясна», Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека, інтэрнэт-парталаў http://vytoki.net, http://bymedia.net.


FOL

ISBN 978-0-929849-49-2

# Зьмест

## Яго віна

«Я заўсёды любіў і зараз люблю глядзець на неба...»

Гэта радок зь ліста героя аўтару кнігі — з турмы на свабоду.

Першым чытачом гэтых словаў быў турэмны цэнзар.

Лісты пісаліся ад рукі — і ня толькі таму, што за кратамі не было кампутара. Ён ня надта стараўся, каб яны былі чытэльныя — наадварот, імкнуўся зрабіць іх неразборлівымі для чужога халоднага вока.

Забаронена пісаць пра ўнутраныя парадкі (як жывеш), прозьвішчы (хто мае ўладу над тваім жыцьцём), дзяржтаямніцы (колькі ахоўнікаў на аднаго зэка). Забароны глядзець на неба, здаецца, няма.

«Так шмат у ім колераў і адценьняў неперадавальных...»

Паэзія не абавязкова павінна быць з рыфмамі. Як і судовы прысуд не абавязкова вызначае віну, а чалавек у турме — не абавязкова злачынец.

«Жалезныя дзьверы і ваконныя краты густа захіснутыя жалезнымі гарызантальнымі палоскамі, якія тут ласкава называюць „расьнічкамі”, за імі ў шчыліны праглядаецца расьпілаванае бяздоннае верасьнёўскае неба і белыя ватныя аблокі. Колькі разоў ужо, стоячы ля вакна і ўглядаючыся ў заманлівую сінечу неба, я паўтараў сам сабе: «Вось воблака, сяду і ў сьвет палячу!»

Хто мае права на беларускае неба над беларускай зямлёй?

«Ну, а неба ж над намі — вольнае!»

Усё сваё жыцьцё ён стараецца зраўняць у правах зямлю зь небам.

«Вось і зараз гляджу…»

Сапраўдная віна Алеся Бяляцкага.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

## Яго мужнасьць

У шырокіх рухах за дэмакратыю і свабоду чалавека заўжды бывае так, што пэўныя асобы становяцца лідэрамі пераменаў. Яны ўмеюць фармуляваць супольныя памкненьні і маюць такую рэпутацыю, што на іхнае лідэрства з гатоўнасьцю пагаджаюцца самыя розныя групоўкі. Іхная адданасьць справе не выклікае сумневаў, а мужнасьць натхняе іншых на ахвяры дзеля агульнай мэты — пабудовы больш справядлівага грамадзтва.

Нярэдка такі чалавек трапляе ў турму і зазнае перасьлед з боку рэжыму, якому супрацьстаіць. Але такія цяжкасьці не ламаюць яго, а толькі шыраць ягоны ўплыў і мацуюць аўтарытэт. За сваё жыцьцё я пабачыў такіх лідэраў, як Марцін Лютэр Кінг-малодшы ў ЗША, акадэмік Андрэй Сахараў у Савецкім Саюзе, Нэльсан Мандэла ў Паўднёвай Афрыцы, Аун Сан Су Чжы ў Бірме. Вядома, ня ўсе лідэры пераменаў маюць такую славу, як гэтыя выключныя фігуры, і ня ўсе аказваюць такі ж уплыў на падзеі і гісторыю. Але яны абараняюць тыя ж каштоўнасьці, будзяць тыя ж надзеі і бяруць на сябе цяжар лідэрства – ня дзеля асабістых амбіцыяў, а дзеля маральнага абавязку. Іх мэта — служыць справе, вышэйшай за іх саміх, і робяць яны гэта ня толькі каб падняць дух людзей, якіх вядуць за сабой, але і ў імя ўнівэрсальнага прынцыпу чалавечай годнасьці.

Што да Беларусі, якую часта называюць апошняй дыктатурай Эўропы, дык тут лідэрам, які ўвасабляе гэтую традыцыю, стаўся сьціплы праваабаронца Алесь Бяляцкі. Яму яшчэ няма пяцідзесяці, а валасы ў яго ўжо чыста белыя. Напрыканцы 1980-х, у апошнія гады існаваньня Савецкага Саюзу, ён як дысыдэнт займаўся незалежнай палітычнай і культурнай дзейнасьцю – і не спыняў працы цягам усяе гісторыі незалежнай Беларусі. Бяляцкі – дзяяч парэнэсанснаму рознабаковы: ён служыў справе свабоды як палітычны дысыдэнт і культурнік, як навуковец,

пісьменьнік і інтэлектуал, як лідэр палітычнай партыі і абраны дэпутат Менскага гарадзкога савету, як назіральнік на выбарах і, перадусім, як прызнаны ва ўсім сьвеце абаронца правоў чалавека. Ён быў адным з заснавальнікаў першага дэмакратычнага руху ў Беларусі – Беларускага Народнага Фронту, а таксама першай праваабарончай арганізацыі — «Мартыралёгу Беларусі». Ён узначальваў Асамблею няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі — найбуйнейшую ў краіне сетку асяродкаў грамадзянскай супольнасьці. А ў 1996 годзе ён заснаваў Праваабарончы цэнтар «Вясна», якім з таго часу і кіруе. «Вясна» стала ў Беларусі асноўнай праваабарончай арганізацыяй і дапамагла тысячам ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.

Уся гэтая праца патрабавала вялікай асабістай ахвярнасьці. З 1988 году Бяляцкага арыштоўвалі больш за 20 разоў. Апошні раз — 4 жніўня 2011 году, пасьля чаго ён быў асуджаны на чатыры з паловай гады калёніі ўзмоцненага рэжыму. Яго абвінавацілі ва ўхіленьні ад выплаты падаткаў са сродкаў, якія «Вясна» атрымлівала на дапамогу ахвярам рэпрэсіяў. Справа была непрыхавана палітычная, бо рэальнае «злачынства» Бяляцкага — абарона правоў чалавека. Такое абвінавачаньне, аднак, было б нязручным для рэжыму Лукашэнкі, і таму была сфабрыкавана юрыдычная фармулёўка, каб схаваць за ёю сапраўдныя матывы. Але з гэтай стратэгіяй перамудрылі, і яна нікога не ўвяла ў зман. Міжнародная супольнасьць і праваабарончыя арганізацыі прызналі Бяляцкага палітвязьнем і вязьнем сумленьня, ён быў трэці раз намінаваны на Нобэлеўскую прэмію міру.

Нобэлеўская прэмія — гонар, якога Бяляцкі цалкам варты. Як і Лю Сяо-бо (кітайскі ляўрэат Нобэлеўскай прэміі 2010 году, які сядзеў у турме, калі яму прысудзілі прэмію, і дагэтуль застаецца за кратамі), Бяляцкі — асоба вялікай адвагі і сілы духу. Яшчэ

да арышту ён ведаў, што на яго завялі справу, і меў магчымасьць уцячы за мяжу, але вырашыў не рабіць гэтага. Прынцыпы для яго заўсёды былі вышэйшыя за палітыку. Ён сышоў з палітычнай сцэны ў 1990-я гады, таму што яна спараджае звады і таму, што ён адчуваў: у якасьці абаронцы правоў чалавека ён можа зрабіць больш. Ён дапамагаў усім, хто ў патрэбе, незалежна ад партыйнай прыналежнасьці або ідэалёгіі. Бяляцкі — адзін зь нямногіх лідэраў апазыцыі, хто аб'ядноўвае, а не разьдзяляе. Ён карыстаецца павагай ва ўсім палітычным спэктры апазыцыі і, выйшаўшы з турмы, можа стаць палітычным лідэрам, які адыграе аб'яднаўчую ролю.

Ягоная палітычная прывабнасьць узмацняецца патрыятызмам. Бяляцкі — архетыповы беларус. Ён заўсёды выступаў за незалежнасьць краіны, абараняў яе мову і культуру, падкрэсьліваючы ў той жа час эўрапейскую ідэнтычнасьць Беларусі і падтрымліваючы яе інтэграцыю ў Эўропу ў якасьці свабоднай і дэмакратычнай дзяржавы.

Да ягонай прывабнасьці прычыняецца і такая рыса, як сьціпласьць. Бяляцкі — дзяяч стрыманы, спакойны, адданы сваёй справе. У цэнтры ўвагі яму няўтульна. У ім няма самалюбства, ён не імкнецца да прызнаньня, не клапоціцца пра зьнешнія атрыбуты посьпеху. Ён сьціпла паводзіць сябе, гаворыць і апранаецца. Нягледзячы на акадэмічную адукацыю і інтэлектуальныя дасягненьні, ён трымаецца як звычайны чалавек. Яму зручней у джынсах і на вуліцах, гэтаксама як нябожчыку Яцку Кураню з Польшчы. Ён мае добрае пачуцьцё гумару, у яго заўсёды знойдзецца досьціп пра ўладу, апазыцыю, Эўрапейскі Зьвяз, нават пра свой уласны лёс — напрыклад, калі ён піша: «Зараз акурат знаходжуся там, дзе і павінен быць праваабаронца пры такой сытуацыі ў краіне». Галоўнае ж — нягледзячы на цяжкую працу

і суровыя ўмовы існаваньня, ён заўсёды ўсьміхаецца і ніколі ня траціць надзеі.

Цяпер, калі яго натхняльных словаў і іранічнага голасу з турмы не чуваць, ягоным грамадзкім сьпікерам стала жонка Натальля. Яна закінула свае гістарычныя дасьледаваньні і сад у Ракаве, каб данесьці праўду пра ягоную справу і пра становішча іншых палітычных зьняволеных у Беларусі і за мяжой. Я слухаў нядаўна яе прамову на Ўроцлаўскім глябальным форуме і магу засьведчыць, як красамоўна і годна яна выступала.

Бяляцкага можна параўнаць з многімі вядомымі змагарамі за свабоду — такімі, як Вацлаў Гавэл, Лю Сяо-бо ці Яцэк Курань. Але асаблівае падабенства існуе паміж ім і бірманскім актывістам, пра якога ён, можа, нават і ня чуў. Я маю на ўвазе По У Тхуна, вядомага пад псэўданімам Мін Ко Найн, што азначае «Заваёўнік каралёў». Як і Бяляцкі, Мін Ко Найн нарадзіўся ў 1962 годзе, а ў 1988-м — тады ж, калі распачынае палітычную дзейнасьць Бяляцкі, — ён робіцца найвыбітнейшым лідэрам студэнцкага руху супраць ваеннай дыктатуры. Неўзабаве Мін Ко Найна арыштавалі, і большую частку наступных двух дзесяцігодзьдзяў ён правёў у турме, дзе яго жорстка каталі. Цяпер ён выйшаў з турмы, бо сытуацыя ў Бірме пачынае пакрысе зьмяняцца.

28 жніўня 1988 году Мін Ко Найн выступіў на адкрыцьці зьезду, які меўся адрадзіць Усебірманскую фэдэрацыю студэнцкіх саюзаў, разагнаную ў 1962 годзе, калі ўладу ў Бірме захапілі вайскоўцы. Ягоныя словы тычыліся праблемаў, якія стаялі перад тагачаснай Бірмай, але яны знаходзяць водгук і сёньня, калі мы думаем пра Бяляцкага і Беларусь. Мін Ко Найн гаварыў пра доўгую барацьбу дзеля таго, каб зрынуць мур дыктатуры, які быў спачатку «надта тоўсты», але пачынае даваць расколіны. «Калі мы аб’яднаемся, — казаў ён, — і наляжам на сьцяну, яна паваліцца».

Завяршыў ён свой выступ вершам «Вера», у якім былі наступныя радкі:

*Нават калі жыцьцё давядзецца аддаць у ахвяру*
*дзеля гэтай незавершанай рэвалюцыі,*
*я ня буду журыцца, што пакідаю гэты сьвет,*
*наадварот, буду рад,*
*што быў аддаНЫ сваймУ народу.*

Бяляцкі падзяляе гэтую адданасьць. І гэта адна з прычынаў, чаму мур дыктатуры ў Беларусі мусіць разваліцца — гэта толькі пытаньне часу. Калі той час настане, Бяляцкі ўвойдзе ў гісторыю як ціхі герой, чыя мужнасьць дапамагла краіне стаць свабоднай. А пакуль тое, ён заслугоўвае нашай поўнай салідарнасьці — і павінен яе атрымаць.

*Карл Гершман,*
*прэзыдэнт Нацыянальнага фонду*
*падтрымкі дэмакратыі (NED), ЗША*

# Клетка

У траўні 2006 году славацкая газэта SME надрукавала малюнак вядомага карыкатурыста Марціна Шутаўца: Аляксандар Лукашэнка адной рукой трымае клетку для птушак, унутры якой — абрыс Беларусі, а другой пасыпае зернейкі. Подпіс: «Так ён корміць краіну».

Карыкатура мела вялікі посьпех, яе заўважылі і перадрукавалі шмат якія СМІ.

Праз 5 гадоў, 9 кастрычніка 2011 году, беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі, адказваючы на віншаваньне з нагоды дня нараджэньня, які ён сустрэў у менскім сьледчым ізалятары нумар 1, у лісьце гомельскаму актывісту Васілю Палякову напісаў:

«Я таксама перакананы, што праўда возьме верх. У мяне ўсё добра. Зараз акурат знаходжуся там, дзе і павінен быць праваабаронца пры такой сытуацыі ў краіне. Як пісаў Ул. Караткевіч у „Хрысьце…”, якога зараз перачытваю, — уся Беларусь — гэта клетка. І па той бок мура, па ўсім відаць, не нашмат лепей. А тут пабываўшы, пачынаеш болей цаніць жыцьцё».

Герой рамана Ўладзімера Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Фларыян Басяцкі прамаўляе крылатую фразу:

«Увесь сьвет — клетка. А ўжо такой клеткі, як княства Беларуска-Літоўскае, — пашукаць, дык ня знойдзеш...»



Дзеяньне раману адбываецца ў 16-м стагодзьдзі, калі Беларусь была часткаю Вялікага Княства Літоўскага. У стагодзьдзі 20-м яна апынулася ў складзе СССР — агульнай клеткі, што займала ўжо шостую частку сушы. У 1991-м «імпэрыя зла» разваліласяся, і птушкі выпырхнулі на волю. Але пачынаючы з 1994-га, з абраньня першага прэзыдэнта, у Беларусі будуюць сваю асобную клетку.

Алесь Бяляцкі ўсё жыцьцё разгойдвае пруты клетак, у якія трапляла яго краіна, пачынаючы з савецкіх часоў. У яго за плячыма — першыя нефармальныя суполкі, першыя нелегальныя выданьні, першыя мітынгі і шэсьці — усё тое, з чаго пачаўся рух Беларусі да свабоды і разбурэньня савецкай клеткі.

Але клеткі існуюць найперш у сьвядомасьці, і таму на месцы разбураных паўстаюць новыя. Узьдзейнічаць на сьвядомасьць людзей можна праз культуру (Бяляцкі піша кнігі і стварае музэі), празь веру (Бяляцкі ўваходзіць у Каталіцкую грамаду і выдае рэлігійны часопіс), праз будаваньне грамадзянскай супольнасьці (Бяляцкі арганізуе па ўсёй Беларусі праваабарончы рух).

Дыктатура жорстка распраўляецца з усім, што яе разбурае. У выніку Бяляцкі апынаецца ў клетцы, але ўжо не мэтафізычнай, а самай што ні ёсьць рэальнай.

* * *

2 лістапада 2011 году Бяляцкі трапіў у судовую клетку ў залі пасяджэньняў на першым паверсе будынка суду Маскоўскага раёну Менску. Яго абвінавацілі ў нясплаце падаткаў з грошай, якія ён зьбіраў за мяжой для дапамогі беларускім палітвязьням і для праваабарончай дзейнасьці. Высьвятляючы ягоную асобу паводле судовага трафарэту (прозьвішча, імя, дзе нарадзіўся, ці меў судзімасьці...), судзьдзя не згадаў ні пра ранейшыя здабыткі Бяляцкага для Беларусі, калі Алесь быў арганізатарам першых масавых менскіх Дзядоў у 1988-м, стваральнікам таварыстваў «Тутэйшыя», «Мартыралёг Беларусі», Беларускага Народнага Фронту, дырэктарам музэю Максіма Багдановіча, дэпутатам Менскага гарадзкога савету; ні пра яго цяперашнюю дзейнасьць як старшыні Праваабарончага цэнтру «Вясна» і віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека…

Алесь Бяляцкі выглядаў спакойна, усьміхаўся,

вітаў з-за кратаў сваіх знаёмцаў. А ягоныя сваякі ды сябры, калегі-праваабаронцы, якія прыехалі на гэты працэс з розных краін сьвету, казалі, што шакаваныя відовішчам.

На словы судовай сакратаркі «Ўстаць, суд ідзе!» Алесь узьняўся з дубовай лавы. Клетка была вялікая, паўтара мэтры на тры, высокая, каля двух мэтраў, да залі пастаўленая бокам. Яе жалезныя палосы і пруты былі сьвежа пафарбаваныя ў белы колер. З тыльнага боку да клеткі мацаваліся кратаваныя дзьверы з замком, каля якіх стаяў канваір. Яшчэ адзін міліцыянт-канваір зь пісталетам і дубінкай ахоўваў клетку з боку залі, сьпінай ён затуляў аб’ектывы журналісцкіх фатакамэр. У такую клетку на судах за Плошчу, якія масава адбываліся ў Менску на працягу мінулых вясны і лета, зьмяшчалі да шасьці падсудных. Яшчэ адна лаўка ў гэтай клетцы, за сьпінай Алеся, была вольная…

У перапынку расейскі праваабаронца Валянцін Гефтэр, які прыехаў падтрымаць Бяляцкага, сказаў мне:

«У клетцы ніякага чалавека ня хочацца бачыць, ні калегу, ні нават ворагу не пажадаў бы гэтага. Як бы ні ставіцца да абвінавачаньняў па сутнасьці, чалавек не павінен сядзець да вынясеньня прысуду ці ўступленьня прысуду ў законную сілу ў клетцы. Нават ва ўмовах таго, што адбываецца ў Беларусі, дзеля чаго было неабходна так разьдзімаць статус ахвяры рэжыму?»*

Сябры Бяляцкага зь «Вясны» ў шматлікіх хадай-

* Тут і далей цытаты, крыніцы якіх не пазначаныя, даюцца паводле аўдыёзапісаў інтэрвію, зробленых аўтарам пры падрыхтоўцы кнігі.

ніцтвах і паручальніцтвах за Алеся даводзілі, што трымаць яго пад вартай няма ніякай патрэбы, бо яго не абвінавачвалі ў нейкім гвалтоўным злачынстве і не было ніякіх довадаў, што ён можа ўцячы ад суду. Алеся маглі трымаць пад падпіскай аб нявыезьдзе, як звычайна робяць зь іншымі, хто абвінавачаны паводле эканамічных артыкулаў Крымінальнага кодэксу.

Намесьнік старшыні «Вясны» юрыст Валянцін Стэфановіч прызнае, што дзейныя законы гэтай клеткай не парушаныя. Але клетка дае выразны сыгнал, што чалавек ужо прызнаны вінаватым і пакараны, яшчэ да абвяшчэньня выраку. У Беларусі на гэты конт нават зьявілася прыкмета: калі ты сваімі нагамі прыйшоў у суд, то, хутчэй за ўсё, сам зь яго і пойдзеш. А калі ты быў пад вартай да суду і ў клетцы ў часе працэсу — то разьлічваць на мякчэйшае пакараньне, не зьвязанае з пазбаўленьнем волі, складана.

Апошнім часам у Расеі ў судах замест кратаў, калі сапраўды ёсьць патрэба жорсткай ізаляцыі падсудных, пачалі выкарыстоўваць шкло. У студзені 2012 году законапраект з ініцыятывай замяніць у судах мэталічныя клеткі на шкляныя камэры быў унесены і ў парлямэнт Украіны.

Тым часам у Беларусі стала нормай судзіць асоб, у адносінах да якіх абраная мера стрыманьня ў выглядзе знаходжаньня пад вартай, менавіта ў «клетках падсудных». Палітычныя працэсы тут не выключэньне. Калі ў 1998 годзе за надпісы «Жыве Беларусь!» на будынку райвыканкаму ў Стоўбцах і «Кат» на помніку Дзяржынскаму судзілі 19-гадовага Аляксея Шыдлоўскага і 16-гадовага Вадзіма

Лабковіча, дык мала таго, што падсудных трымалі ў такой самай клетцы, іх яшчэ вартаваў канвойны нарад з сабакамі, чаго не было нават падчас суду над выканаўцамі менскага тэракту 11 красавіка 2011 году...

Тады ж, у 1998-м, калі судзілі двойчы героя працы 74-гадовага Васіля Старавойтава, кіраўніка ЗАТ «Расьсьвет», які крытыкаваў Лукашэнку, выявілася, што ў Кіраўскім раённым судзе Магілёўскай вобласьці няма жалезнай клеткі для падсудных. І яе адмыслова зварылі перад судом. У новай мэталічнай клетцы стары аграрнік праседзеў увесь працэс і нават не ўставаў, калі яму зачытвалі вырак. Старавойтава таксама судзілі паводле эканамічных артыкулаў Крымінальнага кодэксу.

«Гэта рабілася, каб прынізіць, растаптаць чалавечую годнасьць, прымусіць адчуваць сябе няўтульна ў працэсе, глядзець на сьвет праз гэтыя жалезныя пруты: на суд, на жонку, на адваката, на аднавяскоўцаў… Усё гэта робіцца адмыслова, бо нашая ўлада дэспатычная ў сваім стаўленьні да людзей», — гэтак ацэньвае той эпізод юрыст і праваабаронца Гары Паганяйла, які быў адвакатам Старавойтава.

* * *

У лютым 2011 году Алесь Бяляцкі наведаў Туніс, першую краіну рэвалюцыйнай «арабскай вясны». Разам з калегамі-праваабаронцамі і палітыкамі з Тунісу і ўсяго сьвету Алесь абмяркоўваў шляхі дэмакратычнай трансфармацыі гэтай краіны. Былы прэзыдэнт Тунісу Бэн Алі, які нязьменна правіў з 1987 году і на выбарах у 2010-м зноў стаў «усенарод-

наабраным», у студзені 2011 году разам зь сям’ёю ўцёк з краіны.

У той час, калі Бяляцкі ўжо быў за кратамі ў сябе на радзіме, у Тунісе абралі новага прэзыдэнта. Ім стаў былы апазыцыянэр, праваабаронца Мунсыф Марзукі. Раней у сваіх краінах прэзыдэнтамі рабіліся былыя палітвязьні Вацлаў Гавэл, Нэльсан Мандэла, Лех Валэнса…

У адрозьненьне ад іх, Бяляцкі ня зможа стаць прэзыдэнтам сваёй краіны, кажа ягоная паплечніца зь «Вясны» Тацяна Равяка:

«Справа ў тым, што паводле Канстытуцыі прэзыдэнтам Беларусі можа быць толькі грамадзянін краіны па нараджэньні, а Алесь нарадзіўся ў Расеі. Але ён абавязкова зойме годнае месца ў вольнай Беларусі».

Пакуль жа ў біяграфіі Алеся Бяляцкага пачаўся новы этап. Ён стаў зьняволеным, зэкам, палітвязьнем. Суд пастанавіў, што ў такім статусе ён мае адбыць чатыры з паловай гады. Ня выключана, што тым часам Алесь стане ляўрэатам Нобэлеўскай прэміі міру, на якую яго вылучылі пасьля зьняволеньня. Гэтаксама, як у 1935 годзе ляўрэатам Нобэля стаў нямецкі антыфашыст Карл фон Асецкі, на той час вязень канцлягера. Альбо як бірманская апазыцыянэрка Аун Сан Су Чжы, што атрымала прэмію ў 1991-м, седзячы пад хатнім арыштам…

* * *

Гучны крымінальны працэс над Алесем Бяляцкім цягнуўся 8 дзён зь перапынкамі, з 2 да 24 лістапада 2011 году. Я прыходзіў у суд як журналіст Радыё Свабода, з ноўтбукам і дыктафонам, пера-

даваў адтуль інфармацыю на сайт і ў эфір радыё. І былі ночы на роздум.

Кожны дзень працэсу, дачакаўшыся сваёй чаргі, пасьля прыдзірлівых праверак міліцыянтаў у форме і ў цывільным, з параскрыванымі імі торбамі ў абедзьвюх руках я заходзіў у залю і вітаўся з Алесем. Ён адказваў мне ўсьмешкай і ўзмахам рукі.

З клеткі.

## 2 лістапада 2011 году.

# Суд. Дзень першы. Дзяды

Першы дзень судовага працэсу для вязьняў асаблівы. Ня толькі таму, што мае вырашыцца іх далейшы лёс, але й таму, што пасьля доўгага расстаньня можна пабачыць родных і сяброў. Алесь Бяляцкі ў лістах прасіў жонку Натальлю і сына Адама, каб на суд не прыходзілі, бо гэта занадта цяжкое выпрабаваньне і для яго, і для іх — пабачыць мужа і бацьку ў кайданках на лаве падсудных.

Як пачуваўся Алесь у ноч перад пачаткам суду, невядома. Іншы палітвязень Алесь Кіркевіч, выйшаўшы на волю, распавёў пра сябе, што ў ноч перад судом «пачытаў Дастаеўскага, памаліўся і лёг». Спаў нармальна. Раніцай яго абудзілі а шостай, вывелі ў прыбіральню, потым далі сьняданак з аўсянкі і хлеба. Усё як звычайна ў турме. Толькі што ў гэты дзень без чаргі далі пагаліцца, бо звычайна станкі для галеньня выдаюць толькі два разы на тыдзень. Пасьля турэмшчык папярэдзіў: рыхтуйся на выезд. Быў час пераапрануцца, сабраць у торбачку сшытак для запісаў, газэту, каб пачытаць у перапынку, шакалядку, каб зьесьці ў абед, бо карміць да канца дня ня будуць. На першым паверсе сьледчага ізалятара турэмшчыкі перадалі вязьня канваірам, якія паса-



Алесь Бяляцкі ў судовай клетцы.

дзілі яго ў «газэль» і павезьлі ў суд. Праз вароты з тыльнага боку суду машына заехала ў агароджаны дворык. Там вязьня абшукалі і да пачатку працэсу пакінулі ў малюсенькім, паўтара на паўтара мэтры, бэтонным пакойчыку бяз вокнаў, які на турэмным слэнгу называюць «стаканам». У ім даводзіцца каля гадзіны чакаць пачатку працэсу, тутсама сядзяць і ў перапынку.

Пакуль Алеся Бяляцкага ў канвойнай «газэлі» пад эскортам машыны ДАІ везьлі зь менскай турмы на вуліцы Валадарскага, на ганку суду на праспэкце газэты «Праўда», 27 зьбіраліся праваабаронцы, палітыкі, журналісты, пазьней пад’ехалі замежныя дыпляматы. Прыпаркавацца каля будынка было немагчыма, стаянку з раніцы перакрыла ДАІ, туды падагналі два аўтобусы са спэцназам. У самім судзе



У першым шэрагу ў судовай залі — амбасадар Вугоршчыны Фэрэнц Контра і нямецкі дыплямат Эрнст Крэс, далей Валянцін Стэфановіч, які вітае Бяляцкага знакам вікторыі.

ўсталявалі два пункты агляду наведнікаў: на ўваходзе ў будынак і на ўваходзе ў залю пасяджэньняў. У будынак ахова пачала прапускаць а дзявятай, у судовую залю — хвілін за 15 да адкрыцьця працэсу, які пачаўся ў дзесяць.

Калі, адстаяўшы ў дзьвюх чэргах да мэталашукальнікаў, я трапіў у залю, Алесь ужо сядзеў на лаве ў клетцы, праглядаў нейкія матэрыялы і вітаў знаёмых.

У гэтай самай залі за ўдзел у мітынгу апазыцыі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 году судзілі расейскіх грамадзян Арцёма Брэўса і Івана Гапонава, а таксама лідэраў Маладога Фронту

Зьмітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава, арыштаваных 18 сьнежня, напярэдадні Плошчы, нібыта за хуліганства. Заля даволі прасторная. Паміж судзьдзём і клеткай падсуднага на памосьце — чырвона-зялёны сьцяг, на сьцяне, над самай галавой судзьдзі — керамічная выява дзяржаўнага герба.

Драўляныя лавы для наведнікаў адгароджаныя бар'ерам, на іх можа зьмясьціцца каля 80 чалавек. Ва ўсе дні суду над Бяляцкім заля была поўная. Шмат каму месца не хапала — стаялі ў калідоры.

Здаецца, што першы дзень працэсу цягнецца надзвычай доўга, бо ён нагружаны рознымі фармальнасьцямі: высьвятляюць асобу падсуднага, выслухоўваюць адводы і хадайніцтвы бакоў, зачытваюць абвінавачаньне, пытаюцца, ці прызнае падсудны віну, ці не, дапытваюць яго… Праз усё гэта Алесю, як і іншым беларускім палітвязьням, трэба было прайсьці. Без асаблівай надзеі на апраўданьне. Як падлічылі праваабаронцы зь «Вясны», у апошнія гады колькасьць апраўдальных судовых выракаў у Беларусі складае 0,3%, а ў палітычных справах — каля 0%.

Валянцін Стэфановіч прыгадаў толькі адзін выпадак апраўданьня ў палітычна матываванай крымінальнай справе — калі Менскі гарадзкі суд цалкам апраўдаў прадпрымальніка Андрэя Бандарэнку, і то не раней, чым той адбыў у турме два гады.

## Права на мову

Першым хадайніцтвам Бяляцкага да судзьдзі Сяргея Бандарэнкі была просьба весьці ўвесь працэс на беларускай мове. У шмат якіх краінах

дзяржаўнымі лічацца некалькі моваў, і такое хадайніцтва звычайна задавальняецца аўтаматычна. Цяжка ўявіць, каб грамадзяніну Канады, напрыклад, адмовілі ў вядзеньні судовага працэсу на францускай мове, аддаўшы перавагу другой дзяржаўнай мове краіны — ангельскай. У Беларусі іначай. Выкананьня канстытуцыйнага права на судачынства па-беларуску даводзіцца дамагацца. І часьцяком безвынікова. Моўная калізія ў судзе над Бяляцкім — дадатковае таму пацьвярджэньне.

Алесь хацеў, каб беларуская мова выкарыстоўвалася таксама падчас сьледзтва і падрыхтоўкі да суду. Але ягонае жаданьне сутыкнулася з тым, што ў Рэспубліцы Беларусь няма ні Крымінальнага, ні Крымінальна-працэсуальнага кодэксаў па-беларуску, хоць Канстытуцыя, нібыта, гарантуе роўны статус расейскай і беларускай дзяржаўных моваў. За некалькі тыдняў да пачатку суду Алесь з-за кратаў зьвярнуўся ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, Вярхоўны Суд і Нацыянальны цэнтар заканадаўства і прававых дасьледаваньняў з патрабаваньнем перакладу гэтых законаў. Адсутнасьць кодэксаў па-беларуску Бяляцкі ў лісьце свайму калегу Ўладзімеру Лабковічу назваў «парушэньнем права на абарону».

У гэтай справе Бяляцкі пасьлядоўны. Ягоны аднакурсьнік Сяргей Сыс згадвае, як яшчэ ў Гомельскім унівэрсытэце на пачатку 1980-х Алесь быў першым студэнтам, які загаварыў па-беларуску і прынцыпова па-беларуску здаваў усе іспыты, у тым ліку расейскую літаратуру, што раздражняла выкладчыкаў. У інтэрвію да 15-х угодкаў «Вясны», незадоўга да арышту, Бяляцкі казаў:

«Маё жыцьцё непарыўна зьвязанае зь беларускай мовай, хоць вучыў я яе пасьля расейскай школы, ва ўнівэрсытэце, але, тым ня менш, загаварыў у 20 гадоў і вось ужо амаль 30 гадоў пасьлядоўна стараюся гаварыць па-беларуску. Фактычна гэта ня проста мова, гэта мая грамадзянская пазыцыя, гэта мой погляд на працэсы, зьвязаныя са зьнішчэньнем беларускай мовы і культуры ў Беларусі. Мая жонка і сын гавораць па-беларуску, гэта мова нашай сям'і»*.

Адстойваць «права на мову» ў судах Беларусі Алесь пачаў задоўга да свайго ўласнага працэсу. Часам яму і ягоным паплечнікам удавалася дамагчыся ад судовай сыстэмы датрыманьня дзяржаўнага статусу беларушчыны. Гэтак было падчас усіх чатырох працэсаў у Вярхоўным Судзе з нагоды закрыцьця і нерэгістрацыі Праваабарончага цэнтру «Вясна» ў 2003–2009 гадах. Гэтыя працэсы зь Мін'юстам у ролі пазоўніка ці адказьніка «Вясна» вяла па-беларуску, судзьдзі і прадстаўнікі ўлады таксама выкарыстоўвалі беларускую мову, на ёй вёўся пратакол, прымаліся рашэньні.

Адказваючы на скаргу Бяляцкага ў Камітэт ААН па правах чалавека з прычыны неправамернага закрыцьця «Вясны», улады нават пахваліліся, што суд супраць гэтай арганізацыі на запатрабаваньне прадстаўніка «Вясны» быў праведзены на беларускай мове.

Тым часам дамагчыся беларускамоўнага працэсу ў судах ніжэйшай інстанцыі дагэтуль амаль ніколі

* Таццяна Сьнітко. Алесь Бяляцкі: «Час зрабіў нам выклік. Мы яго прынялі» // Сайт Праваабарончага цэнтру «Вясна», 29.09.2011.

не ўдавалася. Судзьдзям не хапала кваліфікацыі. Не хапіла яе і судзьдзю Сяргею Бандарэнку, і пракурору Валерыю Сайкоўскаму.

Пракурор заявіў, што правы Бяляцкага ня будуць парушаныя, калі працэс будзе весьціся па-расейску: маўляў, і сьведкі давалі паказаньні па-расейску, і толькі па-расейску існуюць адпаведныя кодэксы. Судзьдзя падтрымаў пракурора і, нядоўга думаючы, адхіліў хадайніцтва. Фармальна ён спаслаўся на тое, што «ў краіне дзьве дзяржаўныя мовы». Пры гэтым ён сказаў Алесю, што калі той недастаткова добра валодае расейскай мовай, на якой вядзецца працэс, дык мае права даваць паказаньні і пісаць хадайніцтвы па-беларуску:

«А калі нейкія тэрміны будуць незразумелыя, то вам будзе дадзены перакладчык».

Тады Алесь папрасіў перакладчыка. Перакладчыца Кацярына Ермакова ўжо сядзела ў першым шэрагу, гатовая да працы. Яе запрасілі, прадставілі суду і пасадзілі побач з адвакатам, за паўтара мэтра ад Алеся. Судзьдзя папрасіў, каб яна не перакладала яму паказаньні Бяляцкага, бо ён, маўляў, усё разумее, з чым Бяляцкі не пагадзіўся: «Я магу сказаць — „сябар Саюзу пісьменьнікаў”, а вы патлумачыце — „друг”». Заля адрэагавала на рэпліку сьмехам і воплескамі. Судзьдзя ўсё ж вырашыў, што ён дастаткова добра разумее беларускую мову, а калі што, сам папросіць перакласьці.

Затое адносна кваліфікацыі перакладчыцы адразу ўзьніклі сумневы. Яе мова была густа перасыпаная русізмамі, а пераклад быў такі няўпэўнены, што адвакат Зьміцер Лаеўскі папрасіў яе спыніцца і сам зачытаў сваё хадайніцтва па-беларуску. Юрыст

Уладзімер Лабковіч выказаў меркаваньне, што суд, відаць, не вінаваты ў тым, што запрасілі недасьведчанага спэцыяліста. Проста няма лепшых, а праца Кацярыны Ермаковай сьведчыць пра нізкі ўзровень выкладаньня роднай мовы ў школах і ВНУ апошнія 15 гадоў, пасьля ініцыяванага Аляксандрам Лукашэнкам рэфэрэндуму 1995 году, калі беларуская мова страціла статус адзінай дзяржаўнай.

Апроч гэтага, трэба мець на ўвазе, што судовы пераклад патрабуе асаблівае кваліфікацыі і практыкі. Тым больш калі гаворка ідзе пра пераклад зь беларускай і на беларускую, што здараецца вельмі рэдка. Адгэтуль няўпэўненасьць у самых спрактыкаваных у іншых сфэрах перакладчыкаў.

Кацярына Ермакова, якую запрасіў суд, працуе начальніцай аддзелу адной зь менскіх перакладчыцкіх фірмаў. У 2007 годзе яна скончыла славянскае аддзяленьне філялягічнага факультэту БДУ па спэцыяльнасьці «польская мова і літаратура». Перакладала з польскай і ангельскай. Вучылася ў Беларускім калегіюме. У 2006 годзе ў часопісе «Паміж» выйшаў яе пераклад на беларускую апавяданьня канадзкай пісьменьніцы Маргарэт Этвуд «Сьвінцовы век».

Першым, хто ў часы прэзыдэнцтва Лукашэнкі на палітычным працэсе запатрабаваў у судзе перакладчыка з расейскай на беларускую мову, быў паэт Славамір Адамовіч, асуджаны на 10 месяцаў турмы за верш «Убей президента!»

На тым працэсе ў 1996–1997 гадах працавалі два перакладчыкі, асьпіранты катэдры беларускай мовы Віцебскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Сла-

вамір кажа, што асаблівых прэтэнзіяў да іх працы ён ня меў.

У выраку Віцебскі абласны суд пастанавіў спагнаць з Адамовіча 756 700 рублёў (28 даляраў ЗША) судовых выдаткаў, зьвязаных з удзелам перакладчыкаў у працэсе. Вярхоўны Суд гэтае рашэньне пазьней адмяніў як незаконнае.

У лютым 2011 году перакладчыка запатрабаваў актывіст Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Сяргей Каваленка, абвінавачаны ў парушэньні рэжыму адбыцьця пакараньня, атрыманага ім за вывешваньне бел-чырвона-белага сьцяга на віцебскай ёлцы 7 студзеня 2010 году. Спачатку Першамайскі раённы суд Віцебску запрасіў на працэс настаўніцу беларускай мовы адной зь віцебскіх школ. Але яна зь першых фраз пачала блытацца, ужываць русізмы. Каваленка заявіў ёй адвод, а пазьней і сама перакладчыца прызнала сваю негатовасьць і пакінула працэс.

Тады суд зьвярнуўся ў рэктарат Віцебскага ўнівэрсытэту, і адтуль прыслалі выкладчыка катэдры беларускай філялёгіі Сяргея Міхайлава.

Міхайлаў як перакладчык працаваў у розных судах Віцебску з 2010 году. І ніколі яму за гэтую працу не плацілі, а адміністрацыя ВНУ не скарачала працоўныя абавязкі. «Суды лічылі гэта грамадзкай нагрузкай, але я б і так за гэта грошы ня ўзяў. Сваім удзелам у працэсах я жадаў падтрымаць людзей, погляды якіх падзяляю», — кажа спадар Міхайлаў.

Зь меркаваньнем Уладзімера Лабковіча аб прычынах нізкай кваліфікацыі перакладчыкаў, якіх выклікаюць у суд, Сяргей Міхайлаў пагаджаецца:

«Гэта сапраўды так. Калі людзі вучыліся ў нас на факультэце ў 90-я гады, у іх была моцная лінгвістычная падрыхтоўка і маўленчая практыка, адпаведны ўхіл быў і ў самім унівэрсытэце — на гутарку, дыспуты… Зараз жа засталіся маленькія групы, скараціліся гадзіны на вывучэньне беларускай мовы, зьмяніліся праграмы, меней увагі аддаецца камунікатыўным, маўленчым якасьцям, пісьменнасьці. Мы выпускаем студэнтаў, якія нават дыктоўку не напішуць. Гэта бяда беларускамоўнай адукацыі. Што не выпадкова і ня дзіўна».

Тым ня менш у выпадку Бяляцкага суд фармальна выканаў закон — ня даць Алесю перакладчыка ён ня мог. У адваротным выпадку прысуд Алесю можна было б аспрэчыць ужо толькі на гэтай падставе. Прэцэдэнты былі.

У 2003 годзе судзьдзя Ленінскага раёну Менску Дзьмітры Жданок адмовіўся весьці працэс над юрыстам «Вясны» Ўладзімерам Лабковічам па-беларуску ды заклікаў яго «говорить на нормальном языке», а таксама дазволіў сабе зьдзек зь няведаньня праваабаронцам расейскай мовы і адхіліў яго хадайніцтва наконт перакладчыка. Лабковіч абскардзіў прысуд. У выніку рашэньне судзьдзі Жданка было скасаванае Менскім гарадзкім судом. Праўда, пры гэтым пастанова гарадзкога суду ў адказ на скаргу Лабковіча была напісаная па-расейску.

І ўсё ж судзьдзя Бандарэнка ня здолеў захаваць карэктнасьць адносна беларускай мовы да канца: зачытваючы вырак Алесю напрыканцы апошняга пасяджэньня, ён не дазволіў перакладчыцы агучыць рэзалютыўную частку прысуду па-бела-

руску, пра што хадайнічаў Бяляцкі. «Вам пазьней перакладуць», — сказаў ён Алесю.

Паэтка Ларыса Геніюш, якая прайшла ГУЛАГ, у лісьце да гісторыка Міколы Ермаловіча ад 17 лютага 1971 году пра такое чужамоўнае правасудзьдзе пісала:

«Усе суды, усе прыгаворы, пачынаючы ад Кастуся Каліноўскага і яшчэ да яго, мы чулі і чуем толькі на іх мове! Хлебам не кармі, а „прыемнасьць” судзіць, асуджаць па-расейску пакінь! І нам прыгавор у Менску гучаў на іх мове, і гэта спадзе няхай на іх голавы!»*

## Судзьдзя «Не»

Справу Бяляцкага пасьля папярэдняга сьледзтва (яго выканаў Дэпартамэнт фінансавых расьсьледаваньняў Камітэту дзяржаўнага кантролю Менску і Менскай вобласьці) перадалі ў суд Першамайскага раёну Менску — па месцы прапіскі Алеся. Але паколькі ў будынку гэтага суду на вуліцы Талбухіна, 9 няма прасторных заляў, працэс вырашылі правесьці ў залі суду Маскоўскага раёну.

Суд Першамайскага раёну Менску даволі рэдка выкарыстоўвалі для палітычна матываваных працэсаў. Магчыма, якраз таму, што ён разьмешчаны ў старым будынку, залі яго малыя і не прыстасаваныя для надзвычайных захадаў бясьпекі, якія ўжываюцца ўладамі на працэсах супраць сваіх апанэнтаў. За час прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі ў Менску пабудавалі некалькі «палацаў правасудзь-

---

* Міхась Скобла. Ліст да Алеся Бяляцкага // Радыё Свабода, 4.11.2011.

дзя», шматпавярховых будынкаў раённых судоў зь вялікім штатам ахоўнікаў і сакратароў. У такіх і судзяць апазыцыю.

У 2011 годзе ў часе канвэеру судоў над арыштаванымі за Плошчу ў судзе Першамайскага раёну быў толькі адзін палітычна матываваны крымінальны працэс — там асудзілі Зьмітра Бандарэнку, актывіста выбарчага штабу Андрэя Саньнікава. Раней у гэтым судзе за абразу Лукашэнкі былі асуджаныя на «хімію» (прымусовую працу) актывіст БНФ Віктар Івашкевіч, сябра Маладога Фронту Артур Фінькевіч, палітык і прадпрымальнік Андрэй Клімаў.

Старшыня Першамайскага суду Тамара Высоцкая даручыла справу Бяляцкага судзьдзю Сяргею Бандарэнку. Апошні вызначыўся тым, што быў у ліку 84-х менскіх судзьдзяў, якія прымалі асуджальныя рашэньні ў адміністрацыйных справах за ўдзел у пратэстах пасьля выбараў прэзыдэнта 19 сьнежня 2010 году.

Сяргей Бандарэнка — адзін з судзьдзяў, якіх у Беларусі прызначае і якім дае ўказаньні прэзыдэнт краіны. «Няма спадзеваў на тое, што ў такіх умовах судзьдзя можа разглядаць справы, асабліва супраць апазыцыі, аб’ектыўна, бесстаронна, з улікам прынцыпу спаборнасьці бакоў і прэзумпцыі невінаватасьці», — мяркуе былы беларускі судзьдзя і адвакат Гары Паганяйла.

Бандарэнка выключэньнем ня стаў. Праваабаронцы на судзе Бяляцкага казалі, што судзьдзя вядзе працэс з абвінаваўчым ухілам. Ён не задаволіў большасьць хадайніцтваў падсуднага і ягонага адваката Лаеўскага, у тым ліку адмовіўся весьці працэс па-беларуску.

Калісьці на Захадзе ўпартага савецкага міністра замежных спраў Андрэя Грамыку называлі «містэрам „Не"». За няўступлівасьць да ініцыятываў абароны Бандарэнка відавочна заслужыў званьне «судзьдзі „Не"». Як і іншыя ягоныя калегі, што вядуць працэсы супраць апазыцыі і на звароты падсудных і адвакатаў у большасьці выпадкаў кажуць «Не», а на патрабаваньні пракурораў — «Так».

Як зазначыў сам Бяляцкі, ягоныя словы і словы адваката ў судзе былі нічым іншым, як «марным крыкам у пустэльні».

Адхіліў судзьдзя Бандарэнка і адно з самых важных хадайніцтваў — аб зьмене Бяляцкаму меры стрыманьня з арышту на падпіску аб нявыезьдзе. Як сьведчыць юрыст Гары Паганяйла, грамадзян, якім інкрымінуюцца эканамічныя злачынствы, не заўсёды трымаюць пад вартай: «Гэта не забойства, не рабунак, не гвалтаваньне. Тут можна абмежавацца іншымі, альтэрнатыўнымі арышту мерамі стрыманьня. І гэта адно з патрабаваньняў Крымінальна-працэсуальнага кодэксу пры выбары меры стрыманьня: дасьледаваць і тыя абставіны, якія дазваляюць не ўжываць арышт».

На стадыі папярэдняга сьледзтва Алеся не ўдалося вызваліць з-за кратаў, нягледзячы на хадайніцтвы абаронцы на адрас сьледзтва і суду, асабістыя паручальніцтвы соцень беларускіх і замежных грамадзян, якія ў адпаведнасьці з артыкулам 121 КПК пісьмова гарантавалі, што падазраваны Бяляцкі не схаваецца ад крымінальнага перасьледу і суду. На гэта сьледчыя адказвалі стандартнай адмовай.

Паводле Міжнароднага пакту 1966 году аб грамадзянскіх і палітычных правах, да якога фар-

мальна далучылася і Беларусь, пасьля завядзеньня справы меру стрыманьня абвінавачанаму мае вызначаць суд. У Беларусі ж гэта робіць пракуратура. Гэткі парадак ня раз быў аб’ектам крытыкі з боку цэнтру «Вясна».

Але і суд, калі ў яго на пачатку працэсу зьявілася магчымасьць зьмяніць меру стрыманьня на мякчэйшую, выявіў жорсткасьць. Судзьдзя Бандарэнка атрымаў у першы дзень працэсу адразу два хадайніцтвы на гэты конт: вуснае ад самога Алеся і пісьмовае — ад ягонага адваката. Адвакат пісаў: «Няма дастатковых падстаў і неабходнасьці ўтрыманьня Бяляцкага пад вартай».

Каб вынесьці рашэньне па апошнім хадайніцтве, судзьдзя нават на паўгадзіны выйшаў у дарадчы пакой. Вэрдыкт той самы: «Не».

Сваю адмову Бандарэнка аргумэнтаваў цяжкасьцю злачынства, якое інкрымінуецца Бяляцкаму. Як і раней сьледчыя, судзьдзя фармальна нічога не парушыў. Адпаведны закон дазваляе ўтрымліваць чалавека пад вартай толькі на падставе цяжкасьці артыкула, паводле якога заведзена справа, і не тлумачыць гэта доказамі таго, што падсьледны ці падсудны можа ўцячы, або ўплываць на ход расьсьледаваньня, або чыніць ціск на сьведак...

«А трэба было ўлічыць і асобу, і характар інкрымінаванага злачынства. Гэта ж не гвалтоўнае злачынства. Плюс да таго Алесь меў тысячы магчымасьцяў зьехаць з краіны ад моманту, калі даведаўся пра перасьлед напрыканцы чэрвеня, і да моманту затрыманьня 4 жніўня», — разважае юрыст «Вясны» Валянцін Стэфановіч.

Судзьдзя Бандарэнка адказваў адмовай і на

іншыя важныя для справы хадайніцтвы, у тым ліку просьбы адваката Лаеўскага зрабіць запыт да замежных арганізацыяў, што фінансавалі дзейнасьць «Вясны» праз рахункі Бяляцкага ў Польшчы і Літве, каб тыя паведамілі, для чаго яны перасылалі гэтыя грошы. Адвакат нагадаў, што на гэты конт было нават даручэньне сьледзтву ад першага намесьніка пракурора Менску Казіміра Кежуна, але сьледчая брыгада Дэпартамэнту фінансавых расьсьледаваньняў яго ня выканала. Сьледчыя не паслухалі пракурора, а судзьдзя — адваката. На думку Валянціна Стэфановіча, гэта сьведчыла пра абвінаваўчы ўхіл працэсу. Судзьдзя такім чынам ігнараваў акалічнасьці, якія маглі б апраўдаць Бяляцкага. Міжнародныя праваабарончыя цэнтры, якія падтрымлівалі дзейнасьць «Вясны», пазьней і бяз запытаў зь Менску напісалі ў суд, што яны накіроўвалі грошы не асабіста Бяляцкаму, а на дзейнасьць арганізацыі, на дапамогу беларускім палітвязьням, і што ніякіх прэтэнзіяў да Бяляцкага наконт выкарыстаньня іхніх грошай ня маюць.

Трэба прызнаць, што некалькі хадайніцтваў абароны судзьдзя ўсё ж падтрымаў, у тым ліку — пра пераклад з розных замежных моваў дакумэнтаў справы, дасланых зь Літвы і Польшчы, пра рух грошай на рахунках Бяляцкага. Гэтыя дакумэнты былі пакладзеныя ў аснову абвінавачаньня, хоць сьледзтва й ня здолела перакласьці іх да пачатку суду. У выніку сам Бяляцкі ў часе працэсу перакладаў, што мог.

## Дзіўны зварот пракурора

Падтрымліваў дзяржаўнае абвінавачаньне на судзе над Алесем Бяляцкім начальнік аддзелу нагляду за выкананьнем падатковага і мытнага заканадаўства пракуратуры гораду Менску Валеры Сайкоўскі. На працэс ён прыходзіў у сіняй форме з пагонамі «дзьве зоркі, два прасьветы». Гэта азначае ранг дарадцы юстыцыі, што адпавядае вайсковаму званьню падпалкоўніка.

Прадстаўляючы яго як яшчэ аднаго ўдзельніка суду, трэба разьвязаць блытаніну зь ягоным імем, якая ўзьнікла ў СМІ пры асьвятленьні гэтага працэсу. Звычайна судзьдзя, прадстаўляючы ўдзельнікаў слуханьняў, скорагаворкай агучвае толькі іх прозьвішчы, і журналістам высьветліць імя кагосьці зь дзяржаўных абвінаваўцаў бывае складана. Тым больш што і самі яны не зацікаўленыя афішавацца. У выніку адны газэты і інтэрнэтсайты называлі пракурора Сайкоўскага Валерыем, іншыя — Уладзімерам. Гэта прывяло да таго, што 16 сьнежня 2011 году Рада Эўразьвязу, уносячы ягонае прозьвішча ў «сьпіс неўязных», зрабіла гэта з памылкай, назваўшы Ўладзімерам, а не Валерыем, як ёсьць насамрэч.

Карыстаючыся гэтай памылкай, нейкі час пракурор Сайкоўскі мог яшчэ езьдзіць у Вільню ці Беласток. Але, магчыма, яму было і не да паездак у Эўразьвяз. Празь месяц пасьля прысуду Бяляцкаму, 29 сьнежня 2011 году, пракурор Валеры Сайкоўскі пайшоў на падвышэньне, стаў намесьнікам начальніка Сьледчага камітэту па горадзе Менску. На разглядзе касацыйнай скаргі Бяляцкага 24 студзеня



Пракурор Валеры Сайкоўскі.

2012 году ў Менскім гарадзкім судзе яго замяніў пракурор Кірыл Чубкавец.

Паплечнік Бяляцкага юрыст Валянцін Стэфановіч кар'ерны рост пракурора Сайкоўскага ацаніў гэтак:

«Відаць, такім чынам улады аддзячылі яму за зробленую працу. Гэта дадаткова пацьвярджае, што гэта была не звычайная справа, як кажуць улады, а палітычна матываваная».

Стэфановіч невысокай думкі наконт прафэсійных якасьцяў пракурора Сайкоўскага, бо аргумэнты пракурора на судзе былі неперакануўчымі. Напрыклад, ён задаў Бяляцкаму дзіўнае пытаньне: чаму той не зарэгістраваўся «індывідуальным праваабаронцам», калі ўлады пазбавілі афіцыйнай рэгістрацыі цэнтар «Вясна»? Пракурор зь дзьвюма

зоркамі на пагонах зблытаў праваабаронцаў з «іпэшнікамі», індывідуальнымі прадпрымальнікамі, якія сапраўды могуць легальна дзейнічаць без рэгістрацыі ў якасьці юрыдычнай асобы.

Яшчэ больш дзіўным выглядаў зварот пракурора да Бяляцкага ў першы дзень працэсу перад пачаткам судовага допыту падсуднага. Перад гэтым, калі разглядаліся хадайніцтвы аб зьмене Алесю меры стрыманьня з арышту на падпіску аб нявыезьдзе, пракурор быў адназначна супраць. А тут ён даў зразумець, што можа і памяняць сваю пазыцыю:

«Прапаную вам адказваць шчыра. У выпадку атрыманьня зьвестак, што вы ня будзеце перашкаджаць працэсу і што вы ня будзеце ўхіляцца ад суду, магчымая зьмена меры стрыманьня — вызваленьне пад заклад ці паручальніцтва... У выпадку сплаты шкоды магчымы перагляд хадайніцтва аб зьмене меры стрыманьня».

Адвакат Лаеўскі адразу выказаў пратэст, бо ў прапанове пракурора быў схаваны ціск на падсуднага, якога абяцанкай вызваленьня з-пад арышту схілялі прызнаць віну. Крымінальна-працэсуальны кодэкс не прадугледжвае нейкай сувязі меры стрыманьня з адказамі абвінавачанага ў часе судовага допыту. Няма ў беларускім заканадаўстве і такога паняцьця, як «зьдзелка з правасудзьдзем».

Толькі ў 2005 годзе Аляксандар Лукашэнка надаў сабе паўнамоцтвы вызваляць ад крымінальнай адказнасьці за эканамічныя злачынствы ў выпадку раскаяньня і сплаты абвінавачанымі матэрыяльнай шкоды. У пракурора Сайкоўскага такіх паўнамоцтваў няма. Прадстаўніца Хэльсынскага фонду правоў чалавека (Варшава) Вольга Саламатава рас-

цаніла гэтую заяву пракурора як «непавагу да суду, дэманстрацыю ягонай залежнасьці ад пракуратуры і ціск на абвінавачанага»*.

Сам Бяляцкі адмовіўся ад такой «зьдзелкі», бо не лічыў сябе вінаватым. Варта супаставіць прапанову пракурора з тым, што сказаў Аляксандар Лукашэнка 23 сьнежня 2011 году на прэсавай канфэрэнцыі:

«Трапіце, як гэты, як ягонае прозьвішча, што мільярд не заплаціў унёскі… Бяляцкі. І потым будзеце зноў казаць, што Лукашэнка вінаваты. А калі б у Амэрыцы не заплаціў такога падаходнага падатку? Ня вылез бы з турмы. А вы нас папракаеце разам з амэрыканцамі. Дык заплаці, дык, можа, яшчэ з турмы выпусьцяць!»**

Паплечнік Бяляцкага Ўладзімер Лабковіч, рэагуючы на гэтую заяву, нагадаў пра Дэклярацыю ААН аб праваабаронцах, у якой сказана, што кожны мае права асабіста або ў складзе групы «запытваць, атрымліваць і выкарыстоўваць рэсурсы спэцыяльна для мэтаў заахвочваньня і абароны правоў чалавека і асноўных свабодаў мірнымі сродкамі». Уладзімер Лабковіч: «І не было ніводнага прыкладу ў ЗША ці іншых краінах Захаду, каб падатковыя службы адносілі сабраныя для праваабарончых і гуманітарных мэтаў ахвяраваньні да даходаў ды падавалі за нясплату зь іх падаткаў у суд».

* Міжнародная назіральная місія Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Кароткі агляд першага дня судовага пасяджэньня па справе Алеся Бяляцкага // Сайт Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, 02.11.2011.

** Сталічнае тэлебачаньне, 23.12.2011.

З 15 сьнежня 2011 году да 18 студзеня 2012-га на заклік Алесевых калегаў прайшоў збор ахвяраваньняў для сплаты сумы, якую, паводле суду, завінаваціўся дзяржаве Бяляцкі. 765 чалавек заплацілі фактычна за тое, каб Алеся выпусьцілі з турмы. Жонка Бяляцкага Натальля Пінчук, на якую быў аформлены дабрачынны рахунак, пералічыла 757 526 717 беларускіх рублёў (каля 70 тысяч эўра) на дэпазыт суду Першамайскага раёну.

Гэта было зроблена за тыдзень да разгляду касацыйнай скаргі Бяляцкага ў Менскім гарадзкім судзе. Людзі пералічвалі, колькі маглі: па 50, па 200 тысяч, па мільёну… Родныя і калегі Бяляцкага пры гэтым падкрэсьлівалі, што збор грошай не азначае прызнаньня віны ні імі, ні самім Алесем. «Калі суд ня ўлічыць аплаты, то гэта пакажа цану заявы Лукашэнкі. Гэта выключна дэманстрацыя таго, што ў сытуацыі адсутнасьці правасудзьдзя ў прынцыпе мы ствараем такую сытуацыю, каб улады былі вымушаныя пайсьці хаця б на нейкае зьмякчэньне ў дачыненьні да палітвязьня», — сказаў з гэтай нагоды юрыст Уладзімер Лабковіч.

24 студзеня 2012 году Менскі гарадзкі суд вырак Алесю Бяляцкаму пакінуў бязь зьмены, а касацыйную скаргу — без задавальненьня.

«Дакумэнты, прадстаўленыя ў суд, павінны былі хоць бы мінімальна, але паўплываць на зьмену выраку. Адвакат будзе абскарджваць гэты прысуд у наглядным парадку выключна для таго, каб мець магчымасьці і пэрспэктывы міжнароднай юрыдычнай рэакцыі, не шукаючы больш праўды ў тым абрадзе, які ў Беларусі чамусьці завецца судом. Гэта чыста палітычная расправа над вядомым бела-



Жонка Бяляцкага Натальля Пінчук унесла на рахунак суду падаткі, за нясплату якіх судзілі Алеся.

рускім праваабаронцам», — так расцаніў рашэньне Менскага гарадзкога суду Лабковіч.

## Сола адваката

Абараняў Бяляцкага адвакат Зьміцер Лаеўскі. Да справы Бяляцкага ён далучыўся ў дзень арышту Алеся — 4 жніўня.

Лаеўскі — выпускнік Беларускага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа. У адрозьненьне ад іншай выпускніцы гэтага ліцэю Вольгі Комар (Канойкі), якая спачатку была адвакатам, а потым стала судзьдзёй і на гэтай пасадзе выносіла палітычна матываваныя прысуды, у прыватнасьці, першы суровы вырак за Плошчу — 4 гады зьняволеньня ў калёніі ўзмоцненага рэжыму Васілю Парфянкову, — Зьміцер Лаеўскі «палітычных» бараніў.

Сярод ягоных падабаронных быў лідэр Маладога Фронту Зьміцер Дашкевіч. Спадар Лаеўскі прадстаўляў ягоныя інтарэсы ў самы складаны для палітвязьня час — калі Дашкевіча кідалі ў карцэр у Горацкай калёніі.

Адвакат Лаеўскі мае пазытыўны досьвед абароны палітычных зьняволеных — напрыклад, прадпрымальніка і апазыцыйнага ўдзельніка парлямэнцкай выбарчай кампаніі 2008 году Андрэя Бандарэнкі. Дзякуючы высілкам адваката, Менскі гарадзкі суд цалкам апраўдаў Бандарэнку, пасьля таго як той ужо адбыў два гады зьняволеньня з прысуджаных яму сямі. Выйшаўшы з турмы, Андрэй Бандарэнка стварыў і ўзначальвае грамадзкую арганізацыю «Плятформа», якая бароніць правы асуджаных.

Быў Лаеўскі і абаронцам свайго роднага ліцэю, які ўлады закрылі з палітычных прычын і гэтым прымусілі сысьці ў падпольле. А яшчэ раней Зьміцер браў удзел у ліцэйскім музычным гурце, граў у 2004-м на сола-гітары ў музычным праекце ў абарону ліцэю «Веру ў цябе».

16 жніўня 2011 году суд Першамайскага раёну разглядаў ягоную скаргу на абраную сьледзтвам меру стрыманьня ў выглядзе ўзяцьця пад варту. Разгляд скаргі адбываўся ў закрытым пасяджэньні і меў нэгатыўны для Алеся вынік. 2 верасьня Лаеўскі перадаў ва ўпраўленьне Дэпартамэнту фінансавых расьсьледаваньняў Камітэту дзяржкантролю Менску і Менскай вобласьці 816 хадайніцтваў аб зьмене меры стрыманьня арыштаванаму праваабаронцу.

І на судзе Зьміцер быў, відаць, самым актыўным удзельнікам працэсу, зьвяртаўся з хадайніцтвамі, далучаў да справы новыя матэрыялы, задаваў пы-



Кожны судовы дзень перад пачаткам працэсу Алесь Бяляцкі кансультаваўся са сваім адвакатам.

таньні і выступаў з камэнтарамі да працэсу. Лаеўскі выкрываў хібы крымінальнай справы, недакладнасьці ў матэрыялах, быў нязручным для судзьдзі і пракурора. Да Алеся Бяляцкага адвакат Лаеўскі ў судзе зьвяртаўся па-беларуску, чым фактычна ператвараў працэс у дзьвюхмоўны.

Палітычныя па сутнасьці абвінавачваньні Лаеўскі вымушаны быў зьняпраўджваць, апэруючы дзейнымі ў Беларусі законамі. Асновай ягонай абароны Бяляцкага сталі нормы Падатковага кодэксу, якія дазваляюць не адносіць да падаткаабкладанай

базы сродкі, атрыманыя грамадзянінам з мэтай іх далейшай перадачы трэцяй асобе. Справа Бяляцкага з улікам гэтага палажэньня закону проста развальвалася, бо ён сапраўды атрымліваў грошы і перадаваў іх трэцім асобам на розныя праваабарончыя праекты, і ў суду на гэты конт былі адпаведныя пісьмовыя дакумэнты і вусныя сьведчаньні. Дый з тых банкаўскіх раздрукоўвак, якія былі пакладзеныя ў аснову абвінавачаньня, відаць было, што грошы з Алесевага рахунку пераводзіліся трэцім асобам, у тым ліку іншым беларускім праваабаронцам.

Галоўнае ж, што даводзіў адвакат Лаеўскі, — гэта «незаконнасьць і неабгрунтаванасьць абвінавачаньня ад пачатку і да канца, як на матэрыяльна-праўных падставах, так і ў сувязі з выключнымі парушэньнямі працэсуальнага закону».

У калегаў праца Лаеўскага выклікала захапленьне. Іншая рэч, што сола адваката на гэтым працэсе судзьдзя не пачуў, амаль не адлюстраваўшы ягоных аргумэнтаў у выраку.

Тым ня меней улады пачулі адваката і ацанілі ягоную працу. Увесь час, пакуль ішоў працэс Бяляцкага, на Лаеўскага ціснулі. Ціск працягваўся і пасьля суду. 2 красавіка 2012 году Лаеўскі быў вымушаны здаць сваю адвакацкую ліцэнзію ў Менскую гарадзкую калегію адвакатаў.

## Абвінавачаньне і допыт

Пасьля ўсіх хадайніцтваў і адводаў, якія судзьдзя збольшага адхіляў, суд перайшоў да чытаньня абвінавачаньня. Пракурор Сайкоўскі ўзяў працэс у свае рукі. Тэкст абвінавачаньня склаў 6 старонак

дробным шрыфтам. Бяляцкага вінавацілі ў тым, што ён **«шляхам ухіленьня ад падачы падатковай дэклярацыі за 2007 год, а таксама наўмыснага заніжэньня падатковай базы і ўнясеньня ў прадстаўленую ў інспэкцыю Міністэрства па падатках і зборах РБ па Першамайскім раёне гораду Менску падатковую дэклярацыю па разьліку падаходнага падатку за 2008, 2009, 2010 гады заведама лжывых зьвестак, ухіліўся ад выплаты сум падаходнага падатку з даходаў, атрыманых у 2007–2010 гадах у выглядзе грашовых сродкаў у суме 567 721 эўра 9 эўрацэнтаў, гэта значыць 2 мільярды 70 мільёнаў 970 тысяч 110 беларускіх рублёў паводле курсу Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь, што пацягнула за сабой прычыненьне шкоды дзяржаве ў памеры 352 мільёны 274 тысячы 360 рублёў, што ў 10064 разы перавышае памер устаноўленай базавай велічыні, якая складае 35 тысяч беларускіх рублёў, а гэта значыць — у асабліва буйным памеры».**

Зыходзячы з гэтага, Бяляцкага абвінавацілі ў крымінальным злачынстве, прадугледжаным часткай 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэксу, паводле якой пагражае пакараньне да сямі гадоў пазбаўленьня волі.

Усе паступленьні грошай на рахункі Бяляцкага ў Літве і Польшчы арытмэтычна паскладалі і без разбору аднесьлі да ягоных даходаў, зь якіх ён нібыта мусіў плаціць падаткі Рэспубліцы Беларусь. Тлумачэньні абвінавачанага, што ён не выкарыстоўваў гэтых грошай сам, што пералічваў іх трэцім асобам і арганізацыям для праваабарончай

дзейнасьці, у тым ліку для праектаў па-за межамі Беларусі, для арганізацыі сэмінараў і друкаваньня кніг праваабарончай тэматыкі, сьледзтва да ўвагі не прыняло, і ў дакумэнт яны не ўвайшлі.

Калі абвінавачаньне было зачытанае, Алесь Бяляцкі заявіў, што не прызнае сябе вінаватым, што сутнасьць абвінавачаньня яму зразумелая, але незразумела, якія сумы сьледзтва лічыць ягонымі даходамі. Тое, што да ягоных прыбыткаў аднесеныя ўсе сумы, якія пераводзіліся на рахункі, незалежна ад таго, на што яны траціліся, Бяляцкі назваў пазбаўленым усялякай лёгікі і заявіў пра палітычныя матывы сваёй крымінальнай справы:

«Я перакананы, што мяне перасьледуюць за мае палітычныя погляды, за праваабарончую дзейнасьць, за тое, што я крытыкую дзейныя ўлады. Я быў уладальнікам рахункаў, але грошы ішлі на дзейнасьць „Вясны" і нашых партнэраў у Беларусі. Я не распараджаўся гэтымі сродкамі, на іх расходаваньне складаліся адпаведныя дамовы. Апроч іх, існавалі іншыя дакумэнты. Я ня быў уладальнікам гэтых грошай, а быў перадатачным зьвяном. Гэтыя сродкі тычыліся працы рэгіянальных грамадзкіх прыёмных Праваабарончага цэнтру „Вясна", яны перадаваліся ахвярам палітычных рэпрэсіяў. Нашым міжнародным партнэрам накіроўваліся справаздачы па расходаваньні сродкаў — квіткі, друк, выданьне бюлетэняў, дапамога рэпрэсаваным. Апрача таго, ня ўсе гэтыя грошы расходаваліся ў Беларусі, частка зь іх выкарыстоўвалася за мяжой — на друк, на навучаньне. Я ня бачу сваёй карысьці з гэтых сродкаў, я асабіста іх у Беларусь ня ўвозіў».

У часе допыту Алесь патлумачыў, чаму грошы на праваабарончую дзейнасьць, на дапамогу ахвярам рэпрэсіяў ішлі на ягоныя пэрсанальныя рахункі. Прычына ў тым, што з 2003 году грамадзкае аб’яднаньне «Вясна» ня мае легальнага статусу, яно было ліквідаванае Вярхоўным Судом. Шматлікія спробы заснаваць новую праваабарончую арганізацыю пад новай назвай не далі выніку, нягледзячы на тое, што Камітэт ААН па правах чалавека ў 2007 годзе прызнаў ліквідацыю «Вясны» незаконнай, назваў гэта парушэньнем фундамэнтальнага права грамадзян Беларусі на свабоду асацыяцыяў ды абавязаў улады зарэгістраваць аб’яднаньне. Але ўлады РБ ня выканалі рашэньне Камітэту ААН.

У 2009 годзе пасьля трэцяй няўдалай спробы рэгістрацыі «Вясны» яе актывісты вырашылі дзейнічаць безь легальнага статусу, усьведамляючы магчымасьць перасьледу з боку ўладаў. Але, ня маючы рэгістрацыі ў Беларусі, «Вясна» ня можа тут адкрываць рахункі. Таму было вырашана для дзейнасьці арганізацыі ў фактычна падпольных умовах адкрыць рахункі за мяжой на імя старшыні арганізацыі Алеся Бяляцкага.

«Каб праводзіць праваабарончую працу, мною як старшынём былі адкрытыя два рахункі ў Польшчы і Літве для атрыманьня сродкаў... Я выступаў як гарант, што гэтыя грошы будуць накіраваныя туды, куды яны былі прызначаныя фундатарамі. Я асабіста не распараджаўся гэтымі грашыма, а толькі ажыцьцяўляў кантроль над гэтым», — заявіў падсудны.

У часе допыту Бяляцкі пацьвердзіў, што сродкі на ягоныя рахункі пералічвалі Швэдзкі Хэльсынскі



На працэсе Алеся Бяляцкага.

камітэт, які пазьней ператварыўся ў міжнародную арганізацыю Civil Rights Defenders; Нарвэскі Хэльсынскі камітэт; МЗС Галяндыі. Аднак ці адпавядаюць сапраўднасьці перададзеныя суду раздрукоўкі руху грошай па рахунках, Алесь пацьвердзіць ня змог. Прычына ў тым, што гэтыя дакумэнты не былі завераныя банкам, а потым Мін'юст Літвы афіцыйна зьняпраўдзіў іх. (Польшча сваіх зьвестак пра Алеся не адклікала, але на знак пратэсту супраць перасьледу Бяляцкага выйшла з пагадненьня аб спрошчаным парадку абмену інфармацыяй паміж пракуратурамі Беларусі і Польшчы.)

Некаторыя назвы арганізацыяў, якія пералічвалі «Вясьне» грошы, у матэрыялах справы ў першы дзень працэсу не былі перакладзеныя з замежных моваў, таксама як і суправаджальныя запісы пра

мэты пераводу грошай. Гэта выклікала іранічную заўвагу Бяляцкага пракурору Сайкоўскаму: «Што ж вы так?»

Сайкоўскі распытваў Бяляцкага пра тое, якім чынам грошы пераводзіліся ў Беларусь, каму ён пералічваў іх далей, і нават называў прозьвішчы магчымых атрымальнікаў. Алесь адмаўляўся адказваць на гэтыя пытаньні, бо не хацеў, каб перасьледавалі і гэтых людзей, перш за ўсё — ягоных калегаў па працы ў «Вясьне»: «Гэтая справа ініцыяваная КДБ, і таму я не магу ствараць базу для перасьледу іншых асобаў», — казаў на гэта Бяляцкі.

Даючы паказаньні, а гэта доўжылася амаль тры гадзіны, Алесь увесь час стаяў, трымаючы ў руках дакумэнты. Тыя, хто вёў допыт, сядзелі. За ўвесь першы дзень працэсу Бяляцкаму не прынесьлі абеду, нават не далі вады. Міжнародныя назіральнікі, якія зафіксавалі гэтыя факты, ацанілі іх як парушэньне і жорсткае абыходжаньне з абвінавачаным.

## Віза ў суд

На працэс Алеся Бяляцкага не змаглі трапіць прадстаўнікі міжнародных арганізацыяў, у тым ліку і тых, якія пералічвалі гранты на дзейнасьць «Вясны», а таксама кіраўніцтва Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека (МФПЧ), віцэ-прэзыдэнтам якой зьяўляецца Алесь.

Афіцыйны Менск адмовіўся даць візы прэзыдэнтцы МФПЧ Сугайр Бэльхасэн і ганароваму прэзыдэнту гэтай арганізацыі Патрыку Бадуэну. Апрача іх, у склад дэлегацыі салідарнасьці з Але-



Чарга ў судовую залю.

сем першапачаткова была ўключаная і ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі міру 2003 году Шырын Эбадзі, іранская юрыстка і праваабаронца.

«Мы накіравалі ліст у беларускую амбасаду ад нашай фэдэрацыі як міжнароднай арганізацыі з просьбай аб візах для назіраньня за судом. У іншых амбасадах нам заўсёды даюць візы на падставе такога ліста, але зь беларускай гэта не спрацавала. Нам сказалі падаваць дакумэнты на агульных падставах і запатрабавалі прадставіць шмат папер», — сьведчыць супрацоўніца МФПЧ Саша Кулаева.

Сярод іншага, консульства РБ у Парыжы запатрабавала афіцыйнага запрашэньня ад зарэгістраванай у Беларусі арганізацыі, ліста з францускага Мініс-

тэрства замежных спраў у падтрымку візавых заявак, а таксама рэкамэндацыйнага ліста непасрэдна ад судзьдзі Бандарэнкі. Такім чынам выходзіла, што сам судзьдзя мусіў бы выдаць ім візу на працэс, хоць такія лісты зусім не ўваходзяць у афіцыйны пералік дакумэнтаў для атрыманьня візы, і гэта можна спраўдзіць на сайце амбасады Беларусі ў Францыі.

Праваабаронцы не пагадзіліся на патрабаваньні наконт рэкамэндацыйных лістоў ад МЗС ды судзьдзі і падалі толькі тыя дакумэнты, якія вызначаныя афіцыйным пералікам.

31 кастрычніка 2011 году яны даслалі дзьве тэрміновыя заяўкі на атрыманьне візаў для прэзыдэнта і ганаровага прэзыдэнта МФПЧ. Сабраць усе запатрабаваныя дакумэнты для Шырын Эбадзі не ўдалося. У адказ консульства РБ паведаміла пра чарговыя складанасьці: да 1 лістапада яно нібыта мусіць апрацаваць больш за 200 заявак — ад дзьвюх камандаў французскіх спартоўцаў і ад групы журналістаў. «Прыярытэтам для нас зьяўляюцца спартовыя сувязі», — цытуе заяву прадстаўніка беларускага консульства Саша Кулаева. Але заяўкі прынялі.

1 лістапада ў фэдэрацыю патэлефанавалі з амбасады: «Прыяжджайце, дакумэнты гатовыя». Аднак на рукі Сугайр Бэльхасэн і Патрыку Бадуэну выдалі ня візы, а адмовы, якія былі праштампаваныя 31 кастрычніка.

Прэзыдэнту МФПЧ Сугайр Бэльхасэн у беларускай візе адмовілі другі раз. Першы раз ёй не далі візу ў 2009 годзе, калі яна хацела трапіць на суд у сувязі зь нерэгістрацыяй цэнтру «Вясна». У

пасольстве тады ёй патлумачылі, што яна кантактуе ў Менску зь людзьмі, якія «даюць ёй неаб’ектыўныя ацэнкі сытуацыі ў краіне». Гэтым разам ніякіх тлумачэньняў не было.

Імкнуліся, але ня трапілі ў Менск на працэс Бяляцкага віцэ-старшыня ірляндзкай арганізацыі Front Line Эндру Андэрсан, кіраўніца праграм праваабарончай арганізацыі Civil Right Defenders са Швэцыі Марые Монсан, праваабаронцы з Нарвэгіі Анэ Бондэ і Дайва Пяткявічуце, якія прадстаўляюць Фонд дамоў правоў чалавека, прадстаўніца Нарвэскага Хэльсынскага камітэту Бэрыт Ліндэман, Марыяна Роча з арганізацыі Partnership for Human Rights (Бэльгія) і Рэйчэл Дэнбэр з арганізацыі Human Rights Watch…

Усяго не атрымалі беларускіх візаў на працэс Бяляцкага 15 прадстаўнікоў міжнародных праваабарончых арганізацыяў, падлічыў юрыст «Вясны» Ўладзімер Лабковіч. Змаглі прыехаць толькі тыя зь іх, хто меў пашпарт Расеі, Украіны ці іншых краін, зь якімі ў Беларусі бязьвізавы рэжым. І то ня ўсе, а толькі тыя, хто ня быў раней дэпартаваны з РБ за праваабарончую дзейнасьць.

Замежныя праваабаронцы вымушаныя былі канстатаваць, што «недапушчэньне на суд міжнародных назіральнікаў з Эўропы шляхам нявыдачы ім візаў з надуманых прычын супярэчыць міжнародным абавязаньням, якія ўзяла на сябе Беларусь». З такой заявай выступіла Міжнародная назіральная місія за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. А Абсэрваторыя абароны праваабаронцаў (сумесная праграма МФПЧ і Сусьветнай арганізацыі супраць катаваньняў) назвала візавыя бар’еры для

прыезду міжнародных назіральнікаў на суд над Бяляцкім «абуральнай дэманстрацыяй страху, што незалежнае назіраньне за судом будзе мець сваім вынікам паведамленьні аб парушэньнях належнага выкананьня правасудзьдзя»*.

Віцэ-старшыня арганізацыі Front Line Defenders Эндру Андэрсан, даведаўшыся пра адмову ў беларускай візе, выступіў зь відэазваротам на сайце YouTube, у якім шкадаваў, што ня зможа асабіста падтрымаць Алеся, ягоную сям'ю і беларускіх праваабаронцаў: «Няспынныя спробы перасьледу любога, хто выступае ў абарону правоў чалавека ў Беларусі, — знак адчаю з боку беларускіх уладаў»**, — заявіў Андэрсан.

Імкнуўся на суд у Менск і кіраўнік Міжнароднай назіральнай місіі Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі Андрэй Юраў, даўні знаёмец Бяляцкага. Яго, расейскага праваабаронцу, дэпартавалі зь Беларусі 16 сакавіка 2011 году і забаранілі ўезд у краіну на 5 гадоў.

«Я быў бы абавязкова на гэтым працэсе, калі б гэта было мэтазгодна. Мы абмяркоўвалі з калегамі, ці трэба гэта рабіць, бо зразумела, што гэта завершыцца маім арыштам. Гэта магло б быць у добрым сэнсе правакацыяй перад пачаткам працэсу, але гэта дадало б працы мясцовым праваабаронцам. І яны мяне папрасілі гэтага не рабіць, бо ў іх і так

* Міжнародная назіральная місія Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Кароткі агляд першага дня судовага пасяджэньня па справе Алеся Бяляцкага // Сайт Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, 02.11.2011.

** Andrew Anderson Statement on Ales Bialiatski Nov 2 2011 // YouTube, 02.11.2011.



Андрэй Юраў.

шмат працы было, а тут яшчэ са мной прыйдзеццаваждацца. Я ж проста не знаходзіў сабе месца ад думкі, што я не магу там быць», — згадвае Андрэй Юраў.

На момант суду над Бяляцкім больш за дзесяць прадстаўнікоў місіі, якую ўзначальвае спадар Юраў, былі ў статусе неўязных у Беларусь. Многіх яе актывістаў цягам 2010–2011 гадоў беларускія памежнікі і міліцыя здымалі зь цягнікоў або дэпартавалі зь Беларусі, забараняючы ўезд у краіну на 5 гадоў.

У місію ўваходзяць пераважна праваабаронцы з краін СНД, яна была заснаваная адразу пасьля разгону Плошчы 19 сьнежня 2011 году. Місія паведамляла пра суды і рэпрэсіі, якія масава адбываліся

ў Беларусі, уздымала голас пратэсту, працуючы ў экстрэмальных умовах, пад пільным назіраньнем КДБ, яе перасьледавалі і перашкаджалі ёй распаўсюджваць інфармацыю.

Не заўсёды маючы магчымасьць накіраваць сваіх прадстаўнікоў у суд, місія з дапамогай мясцовых назіральнікаў «акрэдытавала» на працэсе Бяляцкага свае дыктафоны. Яе прадстаўнікі не афішавалі сябе, каб пазьбегнуць дэпартацыі і дабыць у Беларусі да канца працэсу. З кожнага судовага дня яны рыхтавалі справаздачы, якімі карысталіся і тыя праваабаронцы, якія не змаглі трапіць у Менск.

«Віза ў суд» не спрацавала, інфармацыя пра парушэньні ў працэсе разышлася далёка за межы залі пасяджэньняў, перакананы Андрэй Юраў:

«Гэты працэс не адпавядаў стандартам справядлівага правасудзьдзя згодна зь Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах. Ні паводле зьместу, ні паводле працэдуры».

# Ноч на роздум. Турма

*Цяпер, калі ты не са мной,*
*Не на плячы маім, ня побач,*
*З турмой я засынаю ў поўнач*
*І прачынаюся з турмой.*

*З турмы ў турму пішу лісты:*
*«Каханая мая! Сьвятая!..»*
*І што не прачытала ты —*
*Турма ўначы са мной чытае.*

*Я цалаваўся зь ёю ў сьне,*
*Яна ў маіх абдымках спала!*
*«Ты закахаесься ў мяне!» —*
*Турма мне горача шаптала.*

*І не было такога сна,*
*Каб у якой нары ваўчынай*
*Табой ня сьнілася яна*
*І не была маёй жанчынай...*

*І голасам тваім турма,*
*Душу мне змучыўшы да болю,*
*Шаптала, што пішу дарма*
*Лісты*
*зь няволі*
*у няволю.*

Уладзімер Някляеў.
Паэма «Турма». 2011 год

Уладзімер Някляеў, паэт і кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2010 году, 19 сьнежня быў зьбіты да непрытомнасьці ў цэнтры Менску, калі ішоў на Кастрычніцкую плошчу, на акцыю пратэсту апазыцыі. З чэрапна-мазгавой траўмай ён трапіў у шпіталь хуткай дапамогі. Празь некалькі гадзін быў адтуль выкрадзены супрацоўнікамі спэцслужбаў, арыштаваны паводле абвінавачаньня ў арганізацыі масавых беспарадкаў. Паэму «Турма» ён пачаў пісаць 25 сьнежня 2010 году ў «Амэрыканцы», унутранай турме КДБ, а скончыў пад хатнім арыштам, пад які яго перавялі 29 студзеня 2011 году.

Асуджаны на два гады зьняволеньня з адтэрміноўкай адбыцьця пакараньня, Някляеў у жніўні 2011 году напісаў хадайніцтва аб вызваленьні Бяляцкага пад сваё паручальніцтва. Някляеў называе сябе сябрам Алеся:

«Бяляцкага я ведаю з часоў ягонай рамантычнай маладосьці, калі ён быў яшчэ студэнтам Гомельскага ўнівэрсытэту і вучыўся разам з паэтам Анатолем Сысом. Потым быў асьпірантам, у 1980-х — адным з заснавальнікаў таварыства маладых літаратараў „Тутэйшыя”. Алесь — вельмі грунтоўны, сур’ёзны дасьледчык літаратуры і добры літаратар.

Але асноўная дзейнасьць Бяляцкага — менавіта праваабарончая. Я сам сядзеў у турме і ведаю, што гэта такое. Там думаеш перш за ўсё не пра сябе, а пра тое, што робіцца з тваімі блізкімі, з тымі, каго ты любіш. Хто-небудзь клапоціцца пра іх ці не клапоціцца? І калі ты ведаеш, што гэта так, што нехта пра іх клапоціцца — ты не трасесься на допытах, ты не баісься, што з табой будзе, таму што ты ўпэўнены, што ўсё добра будзе з тваімі роднымі, пра іх

клапоцяцца. А калі ты ня ведаеш — ты зусім іншы чалавек: ты баісься, ты трасесься, ты ўжо не змагар. Бяляцкі дапамагаў усім тым, хто сядзеў, усім тым, хто быў пад пагрозай арышту, быць змагарамі».

## Самыя сумныя Каляды

Вечар 24 сьнежня 2011 году, калі каталікі па ўсім сьвеце рыхтаваліся сустрэць першую зорку, Алесь Бяляцкі правёў у камэры нумар 212 Жодзінскае турмы. Як актыўны вернік, адзін з заснавальнікаў Беларускай каталіцкай грамады, думаў пра сьвята і ён, пісаў сябрам, што зьбіраецца выпіць за Каляды і Новы год кубак кіпеню... За некалькі дзён да таго жонка Натальля пабывала на спатканьні зь ім у турме і праз шкло ды краты перамоўнага пакою паведаміла, што спрабуе дамагчыся ягонага спатканьня з бацькам Віктарам Усьцінавічам, безнадзейна хворым на рак лёгкіх 4-й ступені. Размова ішла пра дні і гадзіны, якія засталіся Віктару Ўсьцінавічу.

Бацька Алеся сам напісаў ліст з просьбай аб спатканьні з сынам у суд Першамайскага раёну. Менавіта гэты суд быў упаўнаважаны вырашаць такія пытаньні, бо Алесеў прысуд на той час быў абскарджаны ў гарадзкім судзе і не ўступіў у законную сілу.

19 сьнежня сястра Алеся Вольга і жонка Натальля перадалі старшыні суду Тамары Высоцкай зварот ад паміраючага бацькі. Спачатку ім адмовілі, а потым Натальлі патэлефанавалі і запрасілі ў суд. Судзьдзя Высоцкая дала дазвол з наступнай прыпіскай:

«Разам з тым тлумачым, што вырашэньне ўсіх

пытаньняў, зьвязаных з дастаўкай, этапаваньнем абвінавачанага, арганізацыяй бясьпекі ў часе шляху сьледаваньня і спатканьня, адносіцца да кампэтэнцыі СІЗА № 8 гораду Жодзіна».

З гэтым лістом у той жа дзень Натальля паехала ў Жодзінскую турму.

Але начальнік турмы, які вёў прыём, адказаў: «Па гэтым дазволе я ня маю права яго адпускаць. Тут павінна быць указаньне суду на адрас ГУУС Менгарвыканкаму, абласной міліцыі, дазвол на вываз абвінавачанага зь СІЗА. Калі ўсё гэта будзе, то мы адпусьцім. Нам патрэбен новы дакумэнт, і мы можам яго прыняць нават факсам».

20 сьнежня Натальля зноў прыйшла да Высоцкай і падала яшчэ адну заяву аб спатканьні Алеся з бацькам, ужо ад свайго імя, ды папрасіла яе гэтым разам «даць указаньні ўсім службам». Судзьдзя напісала новы дазвол.

«Пры гэтым яна мне сказала: майце на ўвазе, тое, што я даю гэты дазвол, гэта я зрабіла вам крок насустрач, гэта мой добры жэст. А ў што вы ўсё гэта пераўтвараеце? Гэта вам ня ЖЭС, што вы прыходзіце сюды і пішаце свае заявы», — кажа Натальля.

Але новы ліст старшыні суду быў толькі дапаўненьнем да ранейшага дазволу, у якім яна напісала:

«Суд лічыць магчымым ажыцьцявіць прадстаўленьне спатканьня, у тым ліку з канваіраваньнем абвінавачанага да месца спатканьня за межы СІЗА нумар 8 пры ўмове арганізацыі бясьпекі ў часе шляху сьледаваньня і спатканьня».

Гэты дакумэнт таксама не даваў указаньняў

«усім службам». З гэтым лістом Натальля паехала ў гарадзкую ўправу міліцыі Менску, канвойную службу, Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў…

«Але ўсё бяз сэнсу, увесь тыдзень я бегала па гэтых службах. У чацьвер зноў прыйшла ў суд, прынесла паперу з адмовай Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў. Чакала паўтары гадзіны, але Высоцкая мяне не прыняла, выйшла яе сакратарка і сказала: „Для вас судзьдзя Высоцкая зрабіць нічога ня можа"».

У суботу 24 сьнежня, не дачакаўшыся сына, Віктар Усьцінавіч памёр. На 83-м годзе жыцьця.

Старому Бяляцкаму стала блага ў канцы жніўня, ужо пасьля таго, як арыштавалі Алеся. Спачатку лекары падазравалі запаленьне лёгкіх. Дыягназ «рак» яму паставілі 11 кастрычніка 2011 году. Да гэтага бацька трымаўся нядрэнна, яшчэ працаваў на лецішчы ў Ракаве, а жыў у Алесевай сястры Вольгі ў Менску. Пасьля 4 жніўня, калі арыштавалі Алеся, ад Віктара Ўсьцінавіча нейкі час хавалі гэтую сумную навіну, стараліся адцягнуць ад тэлевізара, каб часам не пачуў, што пра гэта расказвае дзяржаўнае тэлебачаньне. Але Віктар Усьцінавіч чытаў незалежную прэсу, таму доўга ў таямніцы для яго гэты факт застацца ня мог.

Да арышту Алеся і прысуду яму Віктар Усьцінавіч паставіўся рэзка адмоўна, у гутарках зь нявесткай Натальляй ён станавіўся на бок сына, але больш ні з кім асабліва не абмяркоўваў гэтую тэму. Боль ён насіў у сабе.

«Апошняя размова ў нас была за тыдзень да сьмерці. Я была ў яго ў нядзелю 18 сьнежня. Бацька яшчэ сеў, хапіла сіл на гэта. Спытаўся, як там што.

Я яму кажу: „Бацька, вы ж ведаеце, што па-другому нельга было…” Ён кажа: „Я ўсё, Наташа, разумею”. Ён цалкам апраўдваў, ведаў, што іначай Алесь ня мог учыніць, што зьехаць яму проста нельга было, — распавядае Натальля. — Бацька ўсё разумеў, але гэта не зьмяншала ягонага болю за сына».

Алесь Бяляцкі даведаўся пра хваробу бацькі за некалькі дзён да суду, зь ліста жонкі. Калі Натальля прыйшла па выкліку ў суд у якасьці сьведкі, першае яго пытаньне да Натальлі было: «Як бацька?»

Пасьля 24 сьнежня зноў трэба было прасіць дазволу. Але ўжо не на спатканьне, а на ўдзел у пахаваньні. Натальля адразу пасьля навіны пра сьмерць сьвёкра паехала ў МУС. Там па выходных ідзе прыём наведнікаў у экстраных выпадках. Але яе не дапусьцілі да супрацоўніка, які вёў гэты прыём. Тады Натальля накіравалася ў Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў, напісала заяву з просьбай даць дазвол на ўдзел Алеся ў пахаваньні бацькі. Заяву прынялі і паабяцалі прыслаць адказ поштай. У панядзелак 26 сьнежня Натальля пакінула такія ж заявы ў Генэральнай пракуратуры, МУС і судзе. У Першамайскім судзе 26 сьнежня выдалі дазвол Алесю прысутнічаць на хаўтурах у Сьветлагорску, дзе сваякі вырашылі пахаваць Віктара Ўсьцінавіча побач зь ягонай жонкай. У гэты дакумэнт судзьдзя Высоцкая нарэшце ўпісала распараджэньні даставіць Алеся на пахаваньне — на адрас ГУУС Менску, абласной управы міліцыі і Жодзінскай турмы.

«Начальніку ГУУС Менгарвыканкаму, начальніку УУС Менаблвыканкаму, начальніку ПУ

„Турма № 8”. Аб дазволе на вываз абвінавачанага зь СІЗА…

Суд Першамайскага раёну гораду Менску дазваляе вываз Аляксандра Віктаравіча Бяляцкага пад канвоем з турмы № 8 гораду Жодзіна для ўдзелу ў пахаваньні бацькі 27 сьнежня 2011 году ў горадзе Сьветлагорску зь вяртаньнем яго неадкладна ў гэты ж дзень у ПУ „Турма № 8 гораду Жодзіна” безь зьмяненьня яму меры стрыманьня пры ўмове забесьпячэньня аховы і бясьпекі ў часе шляху сьледаваньня і мерапрыемства».

Атрымаўшы гэты дакумэнт, Натальля патэлефанавала ў менскую міліцыю. Там сказалі: «Нічога ня ведаем, перадтэлефануйце праз паўгадзіны». І так некалькі разоў. Яснасьці, ці адпусьцяць Алеся, не было да канца дня. Увечары міліцыянты шэсьць разоў тэлефанавалі ў кватэру да сястры Алеся, у тым ліку ўдакладнялі, хто ў ёй жыве. Заходзіў таксама ўчастковы — нібыта шукаў сьведак, бо ў двары нехта пабіў шыбу ў аўтамабілі.

«Яны так і не сказалі, што Алеся прывязуць на пахаваньне, але я пасьля ўсяго гэтага зразумела, што разьвітаньне з бацькам рыхтуецца», — згадвае Натальля.

Раніцай 27 сьнежня, у дзень пахаваньня, Натальля прыехала ў менскі морг разам зь сястрой Алеся Вольгай і ягоным братам Уладзімерам.

Каля брамы іх спынілі тры супрацоўнікі ў цывільным, спыталі: «Вы хто?», але дакумэнты не правяралі і прапусьцілі далей. У двары моргу стаяў міліцэйскі мікрааўтобус і машына суправаджэньня ДАІ.

Непадалёк ад уваходу ў морг стаяла група муж-

чын у цывільным, чалавек пяць. Натальля падышла да іх, спадзеючыся ўбачыць Алеся. Адзін зь іх, старэйшы за астатніх, гадоў каля сарака, сказаў:

— Разьвітаньне з бацькам адбылося... Тое, чаго вы хацелі.

— Ну як так можна… Бацька ў труну не пакладзены, не накрыты, не падрыхтаваны… Гэта вы з халадзільніка дасталі цела? І гэта апошняе, што запомніць сын, разьвітваючыся з бацькам… Як так бесчалавечна можна ўчыніць?

Каб неяк стрымацца і не заплакаць, Натальля разьвярнулася і сышла.

Празь некалькі хвілін той самы супрацоўнік у цывільным паклікаў Натальлю і спытаў пра труну, ці тут яна. Потым даў дазвол, каб машыну з труной прапусьцілі ў двор моргу, і сказаў: «Няхай пакладуць бацьку ў труну, мы вам дамо нейкі час разьвітацца зь ім разам з Алесем». Калі супрацоўнікі моргу ў рытуальнай залі паклалі бацьку ў труну, накрылі цела, Натальлі, Вользе і Ўладзімеру дазволілі зайсьці, а праз хвіліну Алеся ўвялі з вуліцы. Без кайданкоў, але ў суправаджэньні аднаго ахоўніка. У рытуальную залю зайшла і тая група апэратыўнікаў у цывільным.

Алесь, уваходзячы, заўважыў, што ягоны старэйшы брат Уладзімер, які прыехаў на пахаваньне зь Сібіры, у здранцьвеньні ня зьняў шапкі каля нябожчыка. Алесь абняўся з братам і зьняў яму шапку... У сямейным коле пры труне некалькі хвілін пагутарылі пра апошнія дні бацькі. Апэратыўнікі між тым здымалі ўсё гэта на відэа, камэру часам падносілі вельмі блізка. Хвілін празь дзесяць Алесю сказалі, што пара сыходзіць.

Разьвітваючыся з жонкай, ён сказаў: «Абдымацца будзем потым. Хутка ўжо». Але тады Натальля гэтых словаў нават не пачула, толькі потым іх пераказала Алесева сястра Вольга. На само пахаваньне ў Сьветлагорск Алеся не пусьцілі.

Пазьней у лісьце жонцы ад 5 студзеня Алесь напісаў, што сустрэча пры бацькавай труне была вельмі сумная: «Але добра, што так атрымалася, іначай я б адчуваў сябе вельмі кепска. Я і так адчуваю сябе вінаватым, што ня змог быць на пахаваньні. Ды нічога ня зробіш».

Як выявілася на разьвітаньні ў моргу, пра сьмерць бацькі Алесь даведаўся толькі ў дзень пахаваньня, яму пра гэта паведамілі раніцай 27 сьнежня перад ад’ездам у морг.

25 лютага 2008 году, калі памерла Ірына Казуліна, яе мужа, таксама палітвязьня Аляксандра Казуліна, адпусьцілі на пахаваньне на тры дні. Алесю ж на разьвітаньне далі менш за гадзіну. Розьніца фармальна тлумачыцца тым, што Казулін у той момант быў у статусе асуджанага і скарыстаў працэдуру, прадугледжаную Крымінальна-выканаўчым кодэксам, а Алесь на момант сьмерці бацькі быў асобай, якая ўтрымліваецца пад вартай, бо ягоны прысуд у законную сілу не ўступіў. Для гэтай катэгорыі грамадзян такая працэдура законам не прадугледжаная наогул.

На разьвітаньне зь Віктарам Бяляцкім у Сьветлагорску прыйшло шмат сваякоў, суседзяў, сяброў. Пераважна пажылыя людзі. Гаварылі пра тое, як паўплываў на здароўе нябожчыка арышт сына, шкадавалі, што Алесю не далі разьвітацца з бацькам пры жыцьці.

Пахавалі Віктара Бяляцкага на сьветлагорскіх могілках побач з жонкай Нінай Аляксандраўнай. Маці Алеся памерла ў 1994 годзе пасьля інсульту. Гэта здарылася паміж першым і другім турамі першых выбараў прэзыдэнта Беларусі, калі стала зразумела, што ў Беларусі зьявіцца новы кіраўнік. Згадваючы свой душэўны стан у той пэрыяд у кнізе «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера», Алесь Бяляцкі абраў слова «спустошанасьць».

Мая перапіска з галоўным героем гэтай кнігі пачалася ў красавіку 2012 году, калі ён ужо больш за паўгода правёў у турме. Я слаў Алесю пытаньні, ён дасылаў падрабязныя адказы. Алесь прыслаў мне больш за 10 лістоў, напісаных неразборлівым почыркам, на канвэртах стаяў штамп калёніі. Сьведчаньні «зь першых вуснаў» істотна дапаўнялі агульную карціну, стваралі эфэкт прысутнасьці, тлумачылі тое, што мог патлумачыць толькі Алесь.

Пра сваіх бацькоў Алесь напісаў у лісьце з Бабруйскай турмы:

«Калі антыкамунізм у маці быў прыродным і стыхійным, выходзіў з рэаліяў праўды жыцьця — яна не любіла камуністаў так, як ня любіць просты чалавек любое начальства, — то ў бацькі гэтая пазыцыя мела ўнутранае ідэалягічнае абгрунтаваньне. Ён успрымаў калектывізацыю як катастрофу адладжанага дабрабыту ягонай сям'і, ён прынцыпова не ўступаў у камуністычную партыю, хаця я памятаю, як да нас у кватэру ў Сьветлагорску прыходзілі і ўгаворвалі яго туды ўступіць. Ён па жыцьцёвых абставінах, маючы адукацыю ўсяго 8 клясаў, быў чалавекам унутрана інтэлігентным, з пэўнымі маральнымі правіламі. Яны вельмі добра

жылі з маці, душа ў душу. Ён ніколі на яе нават голасу не павысіў. Пасьля сьмерці маці ў 1994 годзе бацька так і застаўся адзін.

Калі я заняўся грамадзянскай дзейнасьцю, ён заўсёды падтрымліваў мяне. Гэтак жа ён падтрымліваў мяне і пасьля арышту. Ён лічыў усё слушным, што я рабіў у апошнія гады, і лічыў, што мяне арыштавалі несправядліва з-за маёй грамадзкай праваабарончай дзейнасьці. І для мяне ягоная падтрымка ў турме была вельмі важнаю. Я лічу, што многія рысы характару да мяне перайшлі па спадчыне і крыві ад бацькі».

Бацька і маці Алеся Бяляцкага Віктар і Ніна (у дзявоцтве Кавальчук) пазнаёміліся і пажаніліся ў Расеі, у Карэліі, куды іхнія сем’і паехалі па савецкай вярбоўцы. Але абое паходзілі з Гомельшчыны, Віктар — са шляхецкага роду Бяляцкіх зь мястэчка Гарадзец Рагачоўскага раёну, Ніна — зь вёскі Буда-Красноўская Нараўлянскага раёну.

«Сям’я майго бацькі ў 1940 годзе выехала з Рагачоўскага раёну на забраныя Савецкім Саюзам у Фінляндыі карэльскія землі. Выехалі, уцякаючы ад калгасаў і калектывізацыі. Тады ў Беларусі не было чаго есьці і дзеці проста пухлі ад голаду. Як распавядаў мой бацька, яны апынуліся ў Карэліі ў такім перадкалгасным раі. Іх расьсялілі па хутарах карэлаў, якія так хутка ўцякалі ад СССР, што пакінулі ўсё, што было ў хаце», — пераказваў гісторыю сваёй сям’і Алесь Бяляцкі ў інтэрвію газэце «СН плюс»*.

---

* Віталь Цыганкоў. Алесь Бяляцкі: «У беларусаў існуе калектыўны інстынкт страху» // Свободные новости Плюс, 01.09.2010.

Маці Алеся Ніна Аляксандраўна ў Карэлію трапіла ўжо пасьля Другой сусьветнай вайны, у 18 гадоў. Яна была другая па старшынству ў сям'і. Старэйшы брат застаўся ў вёсцы, там і пражыў сваё жыцьцё, а малодшыя ўсе паехалі за Нінай, выходзілі замуж, жаніліся і разьяжджаліся ў розныя бакі.

Алесь Бяляцкі нарадзіўся ў Карэліі, у мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёну 25 верасьня 1962 году. Назвалі яго ў гонар дзеда па матчынай лініі, які загінуў на вайне.

Алесю было два з паловай гады, калі бацькі вярнуліся ў Беларусь. Яны ўсё жыцьцё працавалі на Сьветлагорскім хімзаводзе: бацька — брыгадзірам сьлесараў, маці — доўгі час апаратчыцай, а перад пэнсіяй — круцільшчыцай.

«Нягледзячы на тое, што бацька больш за 20 гадоў жыў у Карэліі, ён і ягоныя сёстры і браты заўсёды марылі вярнуцца ў Беларусь. У 60-я ў Беларусі пачалі будаваць вялікія прамысловыя аб'екты, набіралі працоўных, частка беларусаў вярталася на радзіму. Калі перад маёй сям'ёй у 1964 годзе паўстаў выбар — Сьветлагорск ці Салігорск, — то бацькі выбралі Сьветлагорск, бо ён быў бліжэй да радзімы і бацькі, і маці», — распавядаў Алесь газэце «Свободные новости Плюс»*.

У Сьветлагорску Алесь скончыў сярэднюю школу № 5, а ў 1979 годзе паступіў у Гомельскі ўнівэрсытэт на беларуска-расейскае аддзяленьне гісторыка-філялягічнага факультэту.

…Сугайр Бэльхасэн, намесьнікам якой у Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека зьяўляецца Бя-

* Тамсама.

ляцкі, выказваючы ў лісьце спачуваньні Алесю, успомніла, як за год да гэтага падчас іх сумеснай місіі ў Кіргізстане Алесь падтрымаў яе, калі прыйшла сумная вестка з Тунісу, што памёр яе бацька:

«Страта бацькі — гэта страшны парог у жыцьці кожнага. Але як уявіць сабе боль пасьля гэтай страшнай весткі, атрыманай у зьняволеньні, удалечыні ад блізкіх і родных, сярод бяздушных турэмшчыкаў і глухіх сьцен, у краіне, улада якой даўно забылася ня толькі пра справядлівасьць і законнасьць, а проста пра элемэнтарную чалавечнасьць? За тваю прынцыповую пазыцыю і дабро, якое ты зрабіў столькім людзям, рэжым працягвае помсьціць. Помсьціць нізка і подла, але і балюча... Словы — нішто ў такі момант. Але ўсё ж мне хацелася б, каб ты ведаў: ні ў тваім горы, ні ў тваёй штучна створанай адзіноце насамрэч ты не самотны! Мы ўсе з табой у гэты цяжкі час».

## Лісты зь няволі і ў няволю

Лісты, якія прыходзяць у турму з волі, для палітвязьня значаць нашмат больш, чым для звычайнага «зэка». Апроч вестак з дому і ад сяброў, яны нясуць пасыл салідарнасьці. Ты ўсьведамляеш сваю невінаватасьць, і лісты падтрымкі ад тых, хто для цябе аўтарытэт, і нават проста ад незнаёмых людзей робяць цябе ўпэўненым і дужым перад несправядлівасьцю і выпрабаваньнямі.

Алесю Бяляцкаму пішуць шмат. 6 студзеня 2012 году ён атрымаў асаблівы ліст — навагодняе віншаваньне ад Вацлава Гаўла, якое чэскі драматург, былы дысыдэнт і прэзыдэнт сваёй краіны напісаў




Сугайр Бэльхасэн падчас пікету за вызваленьне Бяляцкага каля беларускай амбасады ў Парыжы.

15 сьнежня, за тры дні да сьмерці. Ліст, падпісаны «фірменным знакам» Гаўла — сэрцайкам — стаў апошнім тэкстам вялікага гуманіста.

Гавэл выказаў салідарнасьць зь беларускімі палітвязьнямі і намер выкарыстоўваць і надалей усе магчымасьці, каб прыцягваць увагу міжнароднай супольнасьці да парушэньня правоў чалавека ў Беларусі: «Жадаю вам усяго добрага і свабоды вашай краіне».

Алесь атрымаў гэтае віншаваньне празь некалькі тыдняў пасьля сьмерці Гаўла, і гэта яго моцна ўразіла. У лісьце да сяброў ён назваў допіс з Чэхіі «вялікім суцяшэньнем пасьля нядаўняй страты бацькі»:

«Гэты ліст падтрымкі з подпісам Вацлава Гаўла — зараз самае каштоўнае, што ёсьць са мною тут…

Як зьнікаюць вялікія зоркі і сьвятло ад іх ідзе яшчэ доўгія гады, асьвятляючы цемру, так і ліст Вацлава Гаўла да мяне зьявіўся такім жывым промнем ужо пасьля ягонай сьмерці».

Алесь быў знаёмы з Гаўлам, у 2005 годзе ён сустракаўся зь ім у складзе дэлегацыі беларускай апазыцыі, якая наведвала Прагу, у 2006-м Бяляцкі атрымаў з рук Вацлава Гаўла прэмію Homo Homini.

Алесь казаў, што лічыць Гаўла сваім духоўным настаўнікам. З Жодзінскай турмы ў лісьце паплечнікам ён аддаў пашану памяці вялікага чэха:

«За што я яго паважаў і паважаю — за сапраўдную, не каньюнктурную салідарнасьць з дэмакратычнымі сіламі, зь беларускім народам. Я проста на духоўным узроўні пры сустрэчы адчуваў, што мы зь ім адной крыві. Гэта як зь іншымі праваабаронцамі, няважна зь якой краіны ці кантынэнту. Такое я адчуваў і ў Расеі, і на Кубе, і ў Тунісе, і ў Францыі. Нягледзячы на тое, што ён быў два тэрміны прэзыдэнтам Чэхіі, улада не сапсавала яго. Я, вядома, паважаў яго за інтэлігентнасьць, за тое, што ён быў сусьветна вядомым пісьменьнікам, і за той стаіцызм, зь якім ён пераносіў рэпрэсіі ў дачыненьні да яго. Ён выступаў за правы чалавека і перасьледаваўся ў значна больш жорсткія часы. Але ў яго была высокая непахісная вера ў тое, што ён мае рацыю і што чэскі народ варты лепшага. На жаль, зь ягонай сьмерцю ў беларусаў, у дэмакратычна настроеных грамадзянаў, на аднаго сябра ў сьвеце стала меней.

Я таксама спачуваю чэскаму народу, які страціў выдатную і вялікую постаць, чалавека, які рэальна

паўплываў на пазытыўныя зьмены ў гісторыі Чэхіі».

У форме перапіскі з актывісткай «Вясны» Аленай Лапцёнак Алесь піша і перасылае на волю для публікацыі ўспаміны пра свой удзел у адраджэнскіх падзеях 1980–90-х гадоў. Іх друкуе незалежная менская газэта «Народная Воля». Да суду выйшлі тры публікацыі ўспамінаў Алеся, якія ён напісаў на «Валадарцы», у менскім сьледчым ізалятары нумар 1. Судовы працэс прыпыніў мэмуары, але пасьля суду, у сьнежні 2011 — студзені 2012 году, ужо з Жодзінскай турмы Алесь даслаў яшчэ два лісты з успамінамі.

У турме ён напісаў таксама прадмову да публікацыі ў «Дзеяслове» падборкі раней невядомых вершаў свайго сябра Анатоля Сыса. У прадмове Алесь кажа пра горкую іронію лёсу — пісаць пра сябра і паэта, які найбольш у жыцьці цаніў свабоду, яму даводзіцца з турмы:

«Жалезныя дзьверы і ваконныя краты густа захіснутыя жалезнымі гарызантальнымі палоскамі, якія тут ласкава называюць „расьнічкамі”, за імі ў шчыліны праглядаецца расьпілаванае бяздоннае верасьнёўскае неба і белыя ватныя аблокі. Колькі разоў ужо, стоячы ля вакна і ўглядаючыся ў заманлівую сінечу неба, я паўтараў сам сабе: «Вось воблака, сяду і ў сьвет палячу!» Калі ня целам, дык думкамі і душою»*.

Гэта цытата са знакамітага верша Анатоля Сыса «Маналёг Апанаса Філіповіча»:

* Прарок свабоды і незалежнасьці // Дзеяслоў, № 54 (2011, № 5). С. 282.

*У гэтай краіне ня маю я дому,*
*вось воблака — сяду і ў сьвет палячу*
*над гэтай гаморай, над гэтым садомам,*
*ні грошай, ні славы — я волі хачу...*

Апісваючы ў лісьце да мяне з Бабруйскай турмы свой побыт, Алесь зноў прыгадаў неба: «Ну, а неба ж над намі — вольнае! Я заўсёды любіў і зараз люблю глядзець на неба — так шмат у ім колераў і адценьняў неперадавальных. Вось і зараз гляджу…»

Жонцы Натальлі Алесь піша амаль кожны дзень. Спачатку нават спрабаваў нумараваць лісты, каб было ясна, што нейкія зь іх не прайшлі турэмнай цэнзуры, але потым заблытаўся. У верасьні-кастрычніку 2011 году, перад судом, быў пэрыяд, калі ягоныя лісты з «Валадаркі» не прапускалі ажно дваццаць дзён. Узьняўся шум у прэсе, і тады ў адзін дзень Натальлі пераслалі адразу тры лісты ад Алеся. У сваіх лістах ён імкнецца быць аптымістам, шкадуе і супакойвае родных і сяброў, цікавіцца іхнімі справамі.

25 верасьня 2011 году Алесь Бяляцкі сустрэў у турме свой 49-ты дзень нараджэньня. З гэтай нагоды «Вясна» разгарнула цэлую грамадзянскую акцыю «Павіншуй Бяляцкага з днём нараджэньня», падчас якой віншавальныя паштоўкі падпісвалі грамадзкія ды палітычныя дзеячы. А ў дзень нарадзінаў Алеся актывісты «Вясны» зрабілі вулічную акцыю — прасілі мінакоў падпісваць паштоўкі Алесю проста на вуліцы. Падпісалі іх тады больш за 100.

А невядомыя актывісты ў гэты дзень каля сьцен



«Расьнічкі» на вокнах Жодзінскай турмы.

«Валадаркі» зладзілі для Алеся салют — запусьцілі фэервэрк, які можна было бачыць і з-за кратаў*.

Алесь стараўся адказаць кожнаму, хто яго павіншаваў. Гомельскаму актывісту Ўладзімеру Кацору ён напісаў: «У мяне ўсё збольшага нармальна. Нічога асаблівага тут няма. Галоўнае, каб здароўе было, а ўсё астатняе падолеем. Гляджу на прэсу, што і па той бок плоту нічога асаблівага не адбываецца. Таму — не вялікая розьніца, дзе быць».

За час зьняволеньня Алесю прыйшло столькі лістоў і паштовак, што зь нейкага моманту яму не

* Салют праваабаронцу Бяляцкаму! // YouTube, 25.09.2011.

хапала часу на ўсе адказваць, і ён прасіў жонку і калегаў зь «Вясны» пераказваць усім ягоную ўдзячнасьць за падтрымку.

«Я літаральна пахаваны пад лістамі, віншавальнымі паштоўкамі на Новы год і лістамі спачуваньня ў сувязі са сьмерцю майго бацькі. Я не магу адказаць на ўсе, але я дзякую ўсім вам за так вялікую для мяне вашу падтрымку», — напісаў ён пасьля 1 студзеня 2012 году.

## Галоўная тайна турмы

Першае спатканьне з жонкай Бяляцкі атрымаў пасьля прысуду ў канцы лістапада. Натальлю на гадзіну пусьцілі ў спэцыяльны пакой для наведваньняў у турме на вуліцы Валадарскага ў Менску. Другое і трэцяе спатканьні з жонкай Алесь атрымаў ужо ў сьнежні, калі яго перавялі ў Жодзінскую турму. Размова праходзіла праз шкло і краты з выкарыстаньнем тэлефонных апаратаў. У часе спатканьня забаронена абмяркоўваць умовы ўтрыманьня ў турме, гаварыць на замежнай мове. Па-беларуску гаварыць дазваляюць. Натальля кажа, што пасьля сустрэчы ў Жодзіне мела сапраўдны шок ад усёй гэтай абстаноўкі, нават забыла ў турме свае рэчы і рэчы Алеся, якія ёй перадалі:

«На „Валадарцы" атмасфэра была не такая жорсткая, і таму я, нягледзячы на тое, што гэта першае спатканьне, адчувала сябе больш спакойна. Пагаварылі, і нібы ад сэрца нешта адлягло. Я супакоілася, шчыра кажучы. Я ўжо ня памятаю, пра што мы гаварылі. Я разумела, што наша размова праслухоўваецца, але ўсё роўна была ілюзія таго,

што ты сам-насам з мужам. Чыста эмацыйна ў мяне такое ўражаньне склалася. А жодзінскія спатканьні для мяне былі такія трывожныя, „стромныя”».

Ніякага тлумачэньня, чаму пасьля суду і да ўступленьня выраку ў сілу, да разгляду касацыйнай скаргі Алеся перавялі з «Валадаркі» ў Жодзінскую турму, афіцыйна не падалі. Гэтак распарадзіўся Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў. Умовы ўтрыманьня ў Жодзіне нашмат горшыя, сьведчыць былы палітвязень, экс-кандыдат на выбарах прэзыдэнта Беларусі 2006 году Аляксандар Казулін. Ён быў і на «Валадарцы», і ў Жодзіне:

«У Жодзіне законы іншыя, там нашмат больш жорсткія ўмовы нагляду, чым на „Валадарцы”. На ложак удзень не прыляжаш, ногі выцягнуць няма куды, можна толькі сядзець. Праз кожныя тры хвіліны назіральнік падглядвае ў вочка дзьвярэй, псыхалягічна трымаюць у напрузе, штодня па паўгадзіны сыходзіць на так званы „шмон” —ператрасаюць усе рэчы. Прагулкі адбываюцца ў дворыку на сем крокаў у адзін бок. Сем туды — сем назад. Выводзяць цэлымі камэрамі, таму на прагулцы адчуваеш сябе як селядзец у бочцы. Бібліятэка ёсьць, але кніжкі малацікавыя. Пісаць нешта можна, але ня ўсё, што ты напішаш, выйдзе за межы турмы».

Аляксандар Казулін у турме вёў дзёньнік і склаў сярэдні псыхалягічны партрэт наглядчыкаў. Гэта была амаль навуковая праца, у якой прафэсар Казулін прыйшоў да наступнай высновы: «Такім людзям нельга працаваць зь вязьнямі з-за іх схільнасьці да садызму і праяваў жорсткасьці, схільнасьці да правакацыяў у адносінах да вязьняў, ад чаго яны атрымліваюць асалоду». Гэтыя запісы Казулін

аддаў начальніку Жодзінскай турмы, але ніякіх высноваў той не зрабіў: кадраў і так не хапае, штат наглядчыкаў запоўнены ўсяго на 80 працэнтаў, таму начальства, нават калі яно і кіруе турмой у рамках закону, мусіць працаваць з такімі ахоўнікамі, якія ёсьць. Палітычным вязьням у беларускіх турмах бывае складаней, чым іншым, яны як бы пад мікраскопам. Звычайных вязьняў накіроўвалі ў штрафны ізалятар толькі за тое, што хтосьці зь іх пагутарыў з Казуліным. А той турэмны дзёньнік яму не вярнулі.

Сёньня Казулін, якому ў турме дапамагала «Вясна», пільна сочыць за лёсам палітзьняволенага Алеся Бяляцкага.

«Мне падаецца, што, у адрозьненьне ад многіх, ён усё робіць усьвядомлена. А гэта надае нейкую стойкасьць духу і дазваляе прымаць непазьбежнае як магчымасьць праходжаньня новых унівэрсытэтаў жыцьця. Таму мне падаецца, што Алесь усё вытрымае годна і, у пэўным сэнсе, з карысьцю для сябе, таму што лепшага месца для пазнаваньня сябе, чым турма, няма».

З турмы Бяляцкі прасіў жонку пераслаць матэрыялы, патрэбныя яму, каб пісаць успаміны. Але адміністрацыя вельмі рэдка прапускала друкаваныя тэксты. Калі паплечнікі зь «Вясны» зрабілі сэрыю сваіх фатаграфій на фоне асеньняга Менску, каб Алесь мог пабачыць восень 2011 году, адміністрацыя дазволіла яму пакінуць у сябе толькі два здымкі.

Часам дзеля забавы ў лістах родным Бяляцкі распавядае, якія блатныя песьні напяваюць сукамэрнікі, а неяк напісаў жонцы, што значыць



Сьледчы ізалятар № 1 гораду Менску, «Валадарка», дзе Алеся Бяляцкага трымалі падчас сьледзтва і суду.

татуіроўка «клён». Яна расшыфроўваецца так: «Клянусь любить её навсегда».

Пра тое, што найбольш хвалюе жонку, родных і сяброў Бяляцкага — якія ўмовы ўтрыманьня, як ставіцца адміністрацыя, ахоўнікі, ці ня зьдзекуюцца, — пісаць забаронена, цэнзура не прапускае. Гэта — самая страшная турэмная тайна.

Вядома, што Алесь прыязна размаўляе з тымі, хто сядзіць зь ім разам. Ён ня толькі ўспрымае гэта як свой абавязак праваабаронцы — гэта адпавядае ягонаму характару, кажа калега Валянцін Стэфановіч. Ён даведаўся, што калі Бяляцкі рэпэтаваў у камэры «Валадаркі» сваё апошняе слова, уся ка-



Жодзінская турма нумар 8.

мэра качалася са сьмеху: Алесь даваў ацэнкі працы сьледчых, судовых доказаў і сьведчаньняў. Пазьней, выступаючы з апошнім словам ужо ў судзе, Бяляцкі быў сур’ёзны.

Апрача падрыхтоўкі да судовых пасяджэньняў і перапіскі з воляй, Алесь у турме шмат чытае, дасканаліць сваю ангельскую мову, робіць фізычныя практыкаваньні, піша мэмуары. Пра гэта ён паведаміў у адным зь лістоў:

«Тут болей няма чаго і рабіць, як лісты чытаць і пісаць самому (чаго не рабіў ужо гадоў 15). Уцягнуўся ў тутэйшае жыцьцё збольшага, гляджу тэлевізар (тут два каналы бярэ), вучу (падвучваю) ангельскую, чытаю».

У іншым лісьце ён напісаў, што бібліятэка ў СІЗА «на дзіва, не такая і благая»: «Нават на наступны раз я беларускія кніжкі замовіў. Іх тут развозяць двойчы на месяц». У ізалятары, сярод іншага, Алесь перачытаў кнігу Варлама Шаламава «Калымскія апавяданьні» — пра побыт у ГУЛАГу.

Фізычныя практыкаваньні далі плён: «У мяне зноў зьявіўся апэтыт, першы тыдзень зусім не хацелася есьці. Таксама я вывучаю мясцовыя правілы паводзінаў: калі есьці, калі хадзіць на „дальняк" — тут усё рэглямэнтавана, але вельмі паважаецца асабістая недатыкальнасьць (прастора) вакол цябе і нашая ўбогая ўласнасьць, калі толькі ты сам неназаляеш іншым, — напісаў Алесь неўзабаве пасьля арышту. — Жыцьцё для мяне тут спынілася, калі параўнаць з апошнім годам, але ў гэтым таксама ёсьць свой пазытыўны сэнс, бо ёсьць час шмат думаць. Але я сябе не накручваю, не будую ніякіх вялікіх плянаў, усьведамляючы, што шмат што зараз у маім жыцьці залежыць не ад мяне асабіста, а ад зьнешніх фактараў. Адным словам, я плыву па рацэ лёсу і рыхтую сябе да любога разьвіцьця падзеяў».

Пасьля «Валадаркі» і жодзінскай турмы 28 лютага 2012 году Бяляцкага накіравалі ў Бабруйск, у папраўчую калёнію № 2.

Яна месьціцца на ўскраіне гораду. Раней там адбывалі пакараньне палітвязьні, засуджаныя за ўдзел у Плошчы 19 сьнежня 2010 году — Зьміцер Дрозд, Сяргей Казакоў і Андрэй Пратасеня, а таксама Андрэй Кім, пакараны за ўдзел у мітынгу прадпрымальнікаў у 2008 годзе.

Сяргей Казакоў, згадваючы свой побыт у Бабруй-

скай турме, распавёў, што іншыя зьняволеныя там ставіліся да палітычных у асноўным прыязна:

«Там ёсьць добрая падтрымка, ёсьць людзі, якія сядзелі разам з намі, вязьнямі Плошчы, ёсьць знаёмыя зь іншымі былымі палітвязьнямі Андрэем Бандарэнкам, Васілём Лявонавым, Андрэем Кімам... Там усе ў курсе, хто і за што сядзіць, і палітычных толькі падтрымліваюць. Ёсьць шмат такіх, якія засьпелі ўсіх палітычных вязьняў, што сядзелі ў Бабруйску».

Паводле Сяргея Казакова, адміністрацыя калёніі абыходзілася з палітычнымі стрымана. «Хіба начальнік калёніі дазваляў сабе ціск. Іншыя вязьні за час адседкі бачаць гэтага начальніка адзін-два разы, а мяне выклікалі два разы на тыдзень, і ўсе гутаркі зь ім былі на падвышаных танах. Вядома, зьверху ад адміністрацыі ідзе ўказаньне прыціскаць нас, спыняць нейкія нашыя дзеяньні, але так яўна гэта ішло толькі ад яго».

Сяргей Казакоў прызнаў, што харчаваньне ў Бабруйскай калёніі кепскае. Пры ўзмоцненым рэжыме, як у Алеся Бяляцкага, вязьню дазволеныя тры перадачы ці пасылкі па 30 кіляграмаў за год, два доўгія спатканьні, падчас якіх таксама што-небудзь можна прынесьці — да 30 кіляграмаў. Яшчэ даецца дазвол на тры кароткатэрміновыя спатканьні, адно 15-хвіліннае тэлефанаваньне сваякам раз на тыдзень. Ёсьць магчымасьць нешта купіць у турэмнай краме на суму ад адной да пяці базавых велічынь — ад 35 да 175 тысяч рублёў у месяц (4–20 даляраў). Але прыдзірлівая адміністрацыя можа пазбавіць вязьня ўсіх гэтых магчымасьцяў. Калі вязень, як Бяляцкі, не прызнае сваёй віны, то ўмоўна-датэрміновае



Бабруйская турма нумар 2.

вызваленьне ці замена рэжыму ўтрыманьня на мякчэйшы да яго фактычна не ўжываецца.

«Думаю, Алеся будуць накіроўваць на працу. Мяне са Зьмітром Драздом прымушалі цягаць бярвёны, скалочваць з дошак паддоны і зьбіваць з аўтамабільных пакрышак гуму. Праўда, сэнсу апошняй працы я так і не зразумеў, але гэта прымушаюць рабіць усіх», — кажа Сяргей Казакоў.

Раней зьняволеных з Бабруйскай калёніі вазілі працаваць на мясцовы шынны камбінат, дзе для іх быў створаны адмысловы цэх. Цяпер камбінат адмовіўся ад паслуг зэкаў, і вязьні працуюць у калёніі: вырабляюць спэцвопратку, пагоны, шаўроны і розныя іншыя нашыўкі для сілавых структур. Але гэтым займаюцца ня ўсе, а толькі тыя, хто адбывае вялікія тэрміны, бо навучаньне займае шмат часу.

«Адназначна цяжка ў карантыне, два тыдні адразу пасьля прыбыцьця ў калёнію. А далей — як пашанцуе, гледзячы ў які атрад трапіш», — распавядае Сяргей Казакоў.

Пасьля трох тыдняў карантыну (адзін тыдзень дадала адміністрацыя) Бяляцкага накіравалі ў «швейны атрад» пад нумарам 14. У лісьце Алесь паведаміў, што шыць яго не прымушаюць, а даручылі пакаваць гатовую прадукцыю.

На працу Алесь ходзіць штодня, акрамя нядзелі, то ў першую, то ў другую зьмену:

«У асноўным выварочваем і пакуем працоўныя рукавіцы, але часам і працоўныя робы, халаты, бэрэты і нават міліцэйскія пагоны. Праца фізычна няцяжкая, але „нятворчая”... Тут падобна да войска, толькі ў звальненьні не выпускаюць», — напісаў Алесь пра ўмовы ў калёніі. У вольны час ён чытае кнігі, незалежную і афіцыйную прэсу, якую яму выпісаў сябар Сяргей Сыс.

Усяго ў Бабруйскай калёніі сядзяць каля тысячы асуджаных. Яна была адкрытая ў 1964 годзе. На тэрыторыі ёсьць шыльда ў памяць гэтай падзеі. Апрача людзей, у калёніі «сядзяць» бабры, сымбалі гораду Бабруйску. Алесь налічыў тры фігуркі гэтых жывёл: адна ў карантыне ў турэмнай кепцы, другая — каля штабу (як напісаў Алесь — «мабыць, УДО (умоўна-датэрміновага вызваленьня. — В.К.) чакае», трэцяя ў прамысловай зоне сядзіць на газоне. Каля інтэрнату, дзе адбываюць пакараньне пэнсіянэры, растуць бярозы, пасаджаныя ў 1964-м, а яшчэ ёсьць добра дагледжаныя клюмбы з кветкамі і кустамі. У лісьце, які я атрымаў ад Алеся, ён піша:

«Калі ты хоць раз быў на тэрыторыі савецкай ці

беларускай вайсковай часткі, пабудаванай у 70–80-я гады, то бачыў прыкладна тое, што зараз даводзіцца бачыць мне. Казармы тут па-цывільнаму называюць інтэрнатамі, над уваходам на наш паверх вісіць белая шыльдачка, на якой жоўтай фарбай напісана: „Общежитие отряда № 14”.

Жывем мы ў сэкцыях — асобных пакоях, дзе стаяць двухпавярховыя ложкі, ёсьць стойка, на якой можна што-небудзь парэзаць (сала, хлеб), тумбачкі, шатня раскрытая, дзе нашая адзежа вісіць, паліца з кніжкамі. На вокнах ня краты, а фіранкі зь цюлю. А як выходзіш з сэкцыі — агульны калідор, у канцы — умывальнік і туалет. Тут жа пакой з лаўкамі і тэлевізарам. Закратаваныя толькі два вакны — кабінэт начальніка атраду і так званая „кашарка”, дзе стаяць нашыя торбы-кешары (сумкі з прыватнымі рэчамі. — В.К.). Там жа стаіць лядоўня. Казарма нашая набліжаецца, я б сказаў, да працоўнага інтэрнату. У пакоях ня паляць.

А вось як выходзіш з пад’езду, то тут прастора паўз дом на ўсю ягоную даўжыню і шырынёй мэтраў восем, абгароджаная жалезным плотам з форткаю. Гэта так званая „лакалка” — тэрыторыя атраду, дзе стаяць драўляныя лаўкі, ёсьць сушылка вопраткі пад дахам і турнік. Тут ты можаш пазаймацца фізкультураю, выпіць кавы на сьвежым паветры або пагуляць у даміно, нарды, шахматы ці „мандавошку”. Я тут адціскаюся, падцягваюся і хаджу, у гульні не гуляю, не люблю.

І такіх будынкаў-казармаў шмат. А ёсьць яшчэ будынкі лазьні, сталоўкі, штабу, карантыну, клюбу, ёсьць яшчэ будынак, дзе КБО (камбінат бытавога абслугоўваньня. — В.К.) і бібліятэка. І ёсьць так



Жонка Бяляцкага Натальля і сястра Вольга прыехалі на першае спатканьне з Алесем у Бабруйскую калёнію.

званая „промка”, прамысловая зона, куды мы ходзім працаваць. Там ужо ўсе ходзяць шыхтом, проста так, самавольна ад будынка да будынка не паходзіш. У сталоўку ходзім строем, а праверкі тройчы на дзень праходзяць у „лакалцы”».

Калёнію ў параўнаньні з турмою зьняволеныя ўспрымаюць як палёгку. Тым, хто служыў у войску, калёнія і сапраўды нагадвае армейскія ўмовы. Тут, хоць і ў няволі, але можна жыць, дыхаць сьвежым паветрам, не адчуваць, што ты — у камэры, душнай і перанаселенай. Турма ў параўнаньні з калёніяй — няспынная пакута і выпрабаваньне.

8 чэрвеня 2012 году Алесь напісаў мне з Бабруйскай калёніі:

«Учора я атрымаў трэцяе спагнаньне за год.

Першае было яшчэ ў карантыне — за нестатутны абутак. Вынесьлі мне яго за дзень, як перавялі ў атрад, 21 сакавіка. Другое я атрымаў за дзень перад спатканьнем з жонкай, 16 траўня, за тое, што ў швачным цэху знаходзіўся без апазнавальнай шыльды-бэджа. А трэцяе — за тое, што 2 чэрвеня заснуў у сэкцыі перад абедам. У выніку за апошняе парушэньне пазбаўлены доўгатэрміновага наступнага спатканьня, якое прадугледжанае Крымінальна-выканаўчым кодэксам.

Таксама з наступнага месяца я буду абмежаваны ў закупах у лаўцы — да 100 тысяч рублёў. А зараз было 500 тысяч. І, хутчэй за ўсё, хоць пра гэта рана яшчэ казаць, бо няма тэксту амністыі, але, хутчэй за ўсё, як „злоснага парушальніка" амністыя мяне ня будзе датычыць.

Застаецца толькі дадаць, што мае „Абавязаньні" выконваць Крымінальна-выканаўчы кодэкс і падпарадкоўвацца Правілам унутранага распарадку пакуль што яшчэ не зацьверджаныя. Таму, як тут гавораць на мясцовым слэнгу, я зараз „без папераў".

Апрача таго, Крымінальна-выканаўчым кодэксам прадугледжанае добраахвотнае ўступленьне зьняволеных у СА (самадзейнае аб'яднаньне). Дык вось, улічваючы гэтую добраахвотнасьць, я туды яшчэ не ўступіў, бо я і так сябра многіх арганізацыяў і аб'яднаньняў, у тым ліку БАЖ, Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека, Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, Таварыства беларускай мовы і Беларускага ПЭН-цэнтру, так што СА для мяне было б ужо занадта».

Алесь Бяляцкі і да свайго зьняволеньня ўяўляў, што такое беларуская турма. «Вясна» праводзіла

дасьледаваньне пэнітэнцыярнай сыстэмы, атрымлівала лісты вязьняў. У 2007–2008 гадах «Вясна» разам зь Міжнароднай фэдэрацыяй правоў чалавека правяла маніторынг «Умовы ўтрыманьня пад вартай у Рэспубліцы Беларусь». Яго матэрыялы былі надрукаваныя асобным выданьнем.

Для падрыхтоўкі дакладу было зроблена шмат інтэрвію з былымі зьняволенымі, іх сваякамі, адвакатамі і прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў. Нягледзячы на запыты ў міністэрствы, місія МФПЧ не атрымала магчымасьці сустрэцца з прадстаўнікамі ўладаў і наведаць месцы зьняволеньня.

Праваабаронцы тады зрабілі сумныя высновы — вязьняў сыстэматычна пазбаўляюць прававой абароны, яны церпяць ад перанаселенасьці камэр, адсутнасьці ложкаў, душа, прагулак, ад нізкай якасьці ежы і вады. У турмах высокая вільготнасьць, нізкія тэмпэратуры ў камэрах зімой і высокія ўлетку, вязьні рызыкуюць захварэць на сухоты, якія сталіся сапраўдным бічом беларускіх турмаў.

Прадстаўнікі місіі атрымалі сьведчаньні пра катаваньні, выпадкі жорсткага і нялюдзкага абыходжаньня зь вязьнямі, зьбіцьця і зьнявагаў падчас сьледзтва і зьняволеньня.

Місія заявіла, што ўмовы перавозкі падсудных і асуджаных, так званыя этапы — вельмі цяжкія. Гэта сапраўднае катаваньне, калі вязьняў могуць пазбаўляць ежы і вады некалькі дзён запар.

Справаздача зафіксавала стан на 2008 год. Гэта быў пачатак нядоўгай лібэралізацыі. У 2010–2011 гадах сытуацыя не зьмянілася, а ў дачыненьні да палітычных зьняволеных яшчэ пагоршылася. Супраць Андрэя Саньнікава, як распавядала ягоная

жонка Ірына Халіп, выкарыстоўвалі рознага роду правакацыі ў камэрах, двойчы яго вазілі па доўгіх этапах з турмы ў турму ў розныя канцы Беларусі. Пра катаваньні вязьняў Плошчы-2010 у СІЗА КДБ заявіў экс-кандыдат у прэзыдэнты краіны Алесь Міхалевіч, пра гэта ж казалі іншыя былыя зьняволеныя.

Студэнт-эканаміст Фёдар Мірзаянаў, якога Лукашэнка пад ціскам Захаду вызваліў з турмы, апублікаваў, ужо зьехаўшы вучыцца ў Польшчу, свой турэмны дзёньнік:

«Я знаходзіўся ў „камэры катаваньняў” № 69 СІЗА № 1 гораду Менску. У камэры былі 22 чалавекі, у той час як яна разьлічаная на 13 месцаў. Плошча камэры складала ня больш за 12 квадратных мэтраў. У памяшканьне не пранікала дзённае сьвятло. На вокнах стаялі „расьнічкі”. У камэры існавала блатная герархія. Так званы „смотрящий” разьмяркоўваў спальныя месцы ў камэры, загадваў кожнаму сукамэрніку, чым той будзе займацца. Не паслухацца было немагчыма, таму што яго падтрымлівалі набліжаныя „блатныя”. На мяне чыніўся маральна-псыхалягічны ціск зь першай хвіліны знаходжаньня ў камэры. „Смотрящий” адкрыта выказваўся, што ён ненавідзіць палітычных зьняволеных. У мой адрас дзясяткі разоў гучалі пагрозы фізычнай расправы. „Смотрящий” казаў, што за мае погляды мяне трэба забіць. У гэтым яго падтрымлівалі набліжаныя. „Смотрящий” за камэрай раней адбываў пакараньне ў месцах пазбаўленьня волі. Яго знаходжаньне ў камэры з падсьледнымі, якія раней не адбывалі пакараньня ў месцах пазбаўленьня волі, было грубым парушэньнем

закону. Да таго ж ён знаходзіўся ў сьледчым ізалятары на працягу двух з паловай гадоў. Гэта вельмі незвычайна і можа паказваць на тое, што ён быў агентам КДБ і займаўся выбіваньнем паказаньняў з асуджаных. Ён шмат разоў казаў мне, што не існуе ў прыродзе людзей, якія не дадуць прызнаўчых паказаньняў пасьля катаваньняў. Гаварылася гэта як жарт. Мне давалі ляжаць на нарах ня больш за 8 гадзін на дзень. Заснуць было вельмі цяжка, таму я спаў па 3–4 гадзіны на дзень...

Абразы і пагрозы можна было чуць ледзьве не штохвіліны. Падчас сустрэчы з адвакатам 17 сакавіка я зьвярнуўся да яго з просьбай аб дапамозе. Хутчэй за ўсё, наша размова з адвакатам праслухоўвалася, таму што ўжо на наступны дзень „смотрящий" заявіў, што ён ведае, пра што я гаварыў з адвакатам, і папярэдзіў, што мне гэта не дапаможа, бо ў яго ёсьць сувязі ў адміністрацыі сьледчага ізалятара. 22 сакавіка маім сукамэрнікам стала вядома пра артыкул, апублікаваны на сайце „Беларускі партызан", аб „камэрах катаваньняў". Мне сталі пагражаць згвалтаваньнем і забойствам. Праз некалькі гадзін мяне вывелі з камэры і прывялі да супрацоўніка апэратыўна-рэжымнага аддзелу сьледчага ізалятара, капітана. Ён не прадставіўся. Мне было сказана, што ў інтэрнэце зьявіўся артыкул пра „камэру катаваньняў" і мяне лічаць крыніцай. Мяне папярэдзілі, што мне будзе кепска, калі я не напішу заяву на імя начальніка сьледчага ізалятара, у якой будзе пазначана, што я ня маю прэтэнзій да сваіх сукамэрнікаў і супрацоўнікаў сьледчага ізалятара. Я пагадзіўся, бо ў мяне не было выйсьця. Зьмест лістоў, якія я адпраўляў з камэры, перада-

ваўся „смотрящему" камэры. Ён ведаў, што і каму я пішу. 24 сакавіка, пасьля таго як я напісаў у лісьце, што ўчыню самагубства, калі мяне не перавядуць у іншую камэру, мяне выклікаў на размову начальнік апэратыўна-рэжымнага аддзелу, маёр. Ён сказаў, што мяне перавядуць у іншую камэру, і папрасіў, каб у СМІ не зьяўлялася інфармацыі пра ўмовы ўтрыманьня ў сьледчым ізалятары. Мяне перавялі ў камэру з нармальнымі ўмовамі ўтрыманьня».

У верасьні 2008 году, прадстаўляючы справаздачу пра ўмовы ўтрыманьня ў беларускіх турмах, Алесь Бяляцкі казаў пра катаваньні:

«Зьява рэальна існуе. Прычым на розных этапах зьняволеньня. Умовы ўтрыманьня не адпавядаюць ніякім міжнародным канвэнцыям, нават мінімальным стандартам утрыманьня зьняволеных. Гэтая сыстэма будуецца яшчэ на той сталінскай структуры пакараньняў, якая была запушчаная ў 1920–30-я гады»*.

Ці зазнаў Алесь на ўласнай скуры падобныя катаваньні, на сёньня — вялікая турэмная таямніца. У дасланым мне ў чэрвені 2012 году лісьце ён аднёс да найбольш складаных момантаў зьняволеньня першыя трое сутак пасьля затрыманьня і этап з Жодзінскай турмы ў Менск: «Прычым першы эпізод быў складаны псыхалягічна, а другі — фізычна і псыхалягічна». А яшчэ цяжка было перажыць у турме сьмерць бацькі: «У мяне застаецца непраходзячае пачуцьцё віны, што апошнія месяцы ягонага

* Праваабаронцы: у Беларусі ўжываюцца катаваньні // Радыё Свабода, 02.09.2008. http://www.svaboda.org/content/article/1195741.

жыцьця, калі стала вядома, што ён хворы, мяне не было побач».

У 2005 годзе Бяляцкі разам з былым палітвязьнем Аляксандрам Васільевым наведаў турму ў Беластоку, дзе абодвум удалося ўпэўніцца, як мяняецца ў кірунку гуманізацыі пэнітэнцыярная сыстэма Польшчы, як абароненыя правы вязьняў ад гвалту, наколькі ў горшы бок адрозьніваюцца бытавыя, санітарныя ўмовы ў беларускіх ізалятарах і калёніях. Васільеву, які сядзеў у аршанскай турме, было з чым параўнаць.

Свае ўражаньні ад той паездкі Алесь выклаў у кнізе «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера»:

«„Ад астрогу няма перасьцярогу", — так казалі нашыя продкі. Туды, тым болей сёньня ў сучаснай Беларусі, можа трапіць кожны з нас. Польская сыстэма зьняволеньня перабудоўваецца згодна зь міжнароднымі стандартамі ўтрыманьня вязьняў. Працэс, які пачаўся ў 1989 годзе разам са зьменай камуністычнай улады, пасьпяхова ідзе наперад. У беларускай пэнітэнцыярнай сыстэме засталіся ўсе рысы, закладзеныя яшчэ ў сталінскія часы, калі жыцьцё чалавека не каштавала нават і шэлега»*.

Былы палітвязень, паэт Славамір Адамовіч знаёмы з парадкамі ў беларускіх турмах на ўласным досьведзе:

«Сыстэма адносінаў у турме паміж арыштаванымі (альбо зьмешчанымі пад варту і яшчэ не асуджанымі) і турэмнай адміністрацыяй цягнецца з часоў СССР, сымбалем якіх стаў 1937 год. Гэта ня

* Алесь Бяляцкі. Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера. Менск, 2006. С. 103.

можа лёгка зьнікнуць, а тым больш у нашай краіне, дзе кіраўнік абвясьціў сваім абавязкам закансэрваваць парадкі, якія былі ў Савецкім Саюзе. Тады сыстэма называла крымінальнікаў „папутчыкамі", а палітычныя былі для яе сапраўднымі ворагамі. Палітычныя застаюцца ворагамі і для сыстэмы сёньняшняй. Пры захаваньні крымінальнай псэўдамаралі адміністрацыі лягчэй кіраваць усім кантынгентам арыштантаў. З другога боку, чакаць зьменаў у асобным грамадзкім сэгмэнце, турмах, не выпадае, таму што грамадзтва на волі не мяняецца. Зьмены і там, і там магчымыя толькі са зьменай палітычнага рэжыму».

# 3 лістапада 2011 году.
# Суд. Дзень другі. Сьведкі

На судах за Плошчу зімою і вясною 2011 году ў якасьці пацярпелых выступалі спэцназаўцы, якія насамрэч ня ведалі падсудных-дэманстрантаў, не маглі іх пазнаць і выказаць прэтэнзіі да іх асабіста. «Пацярпелыя» асілкі зь менскага палку спэцназу строем хадзілі з працэсу на працэс. У прыватных размовах яны прызнаваліся: «Ну вы ж разумееце, нам загадалі».

Ім сапраўды загадалі спачатку зьбіваць людзей на Плошчы, а потым сьведчыць супраць зьбітых у судах, дэманстраваць даведкі пра свае пашкоджаныя галовы і ягадзіцы, быццам зьбівалі іх, а не яны. Так стваралася бачнасьць судовага працэсу аб масавых беспарадках зь вялікай колькасьцю сьведак і пацярпелых. Праваабаронца Валянцін Стэфановіч перакананы, што гэтаксама і ў справе Бяляцкага ўлада рабіла бачнасьць гучнага крымінальнага працэсу, загадаўшы быць сьведкамі чыноўнікам, якія ніколі Алеся ня бачылі і нічога не маглі сказаць пра ягоныя дзеяньні.

## Сьведкі-чыноўнікі

На пачатку другога дня, перад допытам сьведак, Зьміцер Лаеўскі прадставіў суду прыклады таго, на што трацiліся атрыманыя Бяляцкім грошы замежных спонсараў. Адвакат хадайнічаў, каб да матэрыялаў справы былі далучаныя кнігі праваабарончай тэматыкі, сярод іх — зборнікі матэрыялаў «Кіраўніцтва па арганізацыі школ правоў чалавека» (Осла, 2008; Менск, 2009) і «Будуйце масты, ня сьцены» (Вільня, 2010). Іх укладальнікамі былі Праваабарончы цэнтар «Вясна» і Нарвэскі Хэльсынскі камітэт. Сродкі на падрыхтоўку і публікацыю выдаткоўваліся зь літоўскага рахунку Алеся за мяжой, не трапляючы ў Беларусь.

На просьбу адваката судзьдзя далучыў да справы і кнігу на швэдзкай мове, адным з аўтараў якой быў Бяляцкі. За яе Алесь атрымаў ганарар, пералічаны на ягоны рахунак. Падаткі з ганарару былі заплачаныя ў Швэцыі.

Першы сьведка абвінавачаньня, які быў выкліканы ў справе, — намесьнік дырэктара Дэпартамэнту па гуманітарнай дзейнасьці Кіраўніцтва спраў прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Леанід Чаўко — заявіў, што калі дапамога беларускай арганізацыі выкарыстоўваецца за мяжой, напрыклад, для публікацыі кніг, то такія выпадкі не рэгулююцца беларускімі нарматыўнымі актамі: «У такім выпадку гэта не зьяўляецца бязвыплатнай дапамогай і наш дэпартамэнт да яе адносінаў ня мае».

Пра дзейнасьць «Вясны» і асабіста Бяляцкага сьведка Чаўко нічога сказаць ня мог. На пытаньне адваката «Ці ведаеце вы што-небудзь па справе?»

ён адказаў адназначна: «Не». Тады адвакат Лаеўскі заявіў пра парушэньне Працэсуальнага кодэксу, бо Чаўко (як і шэраг іншых чыноўнікаў, запрошаных у суд) ня можа быць сьведкам, ён мае права выступаць у працэсе толькі ў якасьці спэцыяліста.

Калі б чыноўнікі былі запрошаныя ў суд у якасьці спэцыялістаў, а ня сьведак, яны б атрымалі іншыя працэсуальныя правы, і іх паказаньні мелі б зусім іншую юрыдычную вагу. На паказаньнях сьведак будуецца вырак, а паказаньні спэцыялістаў — гэта дадатковыя тлумачэньні асобаў, якія валодаюць пэўнымі ведамі ў пэўнай галіне. Іх паказаньням суд ня мусіць даваць юрыдычную ацэнку, кажа юрыст Валянцін Стэфановіч. Апрача таго, падсудны і ягоны абаронца маглі б выступаць з адводамі такіх спэцыялістаў. Аднак судзьдзя Бандарэнка прапусьціў заяву адваката міма вушэй. І чыноўнікі надалей выступалі ў ролі сьведак, а не спэцыялістаў.

Леанід Чаўко патлумачыў, што менавіта ягоны дэпартамэнт рэгіструе гуманітарную дапамогу і кантралюе, як яна выкарыстоўваецца, і што парадак выкарыстаньня гуманітарнай і тэхнічнай замежнай дапамогі рэгулюецца адпаведным дэкрэтам і ўказамі Лукашэнкі. Напрыклад, дэкрэт абавязвае атрымальнікаў такой дапамогі адкрываць дабрачынныя рахункі ў Беларусі, класьці на іх атрыманыя з-за мяжы грошы і рэгістраваць іх у гэтым дэпартамэнце. А для гэтага патрэбна, каб арганізацыя-атрымальніца дапамогі дзейнічала легальна. Калегі Бяляцкага, рэагуючы на паказаньні сьведкі Чаўко, адзначылі, што, пазбавіўшы «Вясну» рэгістрацыі, улады самі выштурхалі яе з поля дзеяньня сваіх дэкрэтаў і ўказаў.

Прычым, як выявілася, усе гэтыя нарматыўныя акты ніяк не рэглямэнтуюць, напрыклад, выкарыстаньне замежнай дапамогі на выданьне праваабарончых кніг. Паводле дэкрэту, такія выдаткі павінны «праходзіць праз узгадненьне з прэзыдэнтам», — заявіў сьведка.

«Немагчыма ўявіць, каб Лукашэнка ўхваліў выкарыстаньне замежнай дапамогі на друк падручнікаў для незалежных назіральнікаў на выбарах прэзыдэнта. У Беларусі кантралююцца як выбары, так і выкарыстаньне гуманітарнай дапамогі, нават адпаведны дэпартамэнт дзейнічае пры Кіраўніцтве спраў прэзыдэнта. У гэтай сыстэме проста няма месца грамадзянскай ініцыятыве», — кажа Ўладзімер Лабковіч.

Адсюль зразумела, чаму Чаўко ня памятае, каб нехта ў Беларусі рэгістраваў у ягоным дэпартамэнце дапамогу ад Швэдзкага Хэльсынскага камітэту і іншых замежных праваабарончых арганізацыяў, якія фігуруюць у справе. Зразумела таксама, чаму Бяляцкі і цэнтар «Вясна» ў ягоны дэпартамэнт не зьвярталіся.

Словы Леаніда Чаўко пра тое, што замежная дапамога вызваляецца ад падаткаў толькі паводле рашэньня прэзыдэнта, выклікалі сьмех у залі.

А ці магчыма ў прынцыпе атрымаць замежную дапамогу для праваабарончай дзейнасьці? — спытаўся ў сьведкі пракурор. Не, — адказаў Чаўко. Падобнага роду праекты ў прынцыпе ня могуць быць зарэгістраваныя ў ягоным дэпартамэнце. Гэта прадугледжана нормамі дэкрэту прэзыдэнта № 24 «Аб атрыманьні і выкарыстаньні замежнай бязвыплатнай дапамогі», якія забараняюць выкарыстоў-

ваць замежнае фінансаваньне для «падрыхтоўкі і правядзеньня выбараў, рэфэрэндумаў, арганізацыі і правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацый, пікетаваньня, забастовак, вырабу і распаўсюджваньня агітацыйных матэрыялаў, а таксама для правядзеньня сэмінараў і іншых формаў палітычнай і агітацыйна-масавай працы сярод насельніцтва». Хоць «Вясна» і не займаецца палітычнай дзейнасьцю, але назіраньне за выбарамі, праваабарончыя сэмінары і сходы — якраз сярод найважнейшых кірункаў яе дзейнасьці.

Міжнародная назіральная місія Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі ў справаздачы па выніках другога дня працэсу расцаніла сьведчаньні Чаўко як імкненьне ўладаў «крыміналізаваць праваабарончую дзейнасьць у краіне і выпхнуць яе за рамкі прававога поля, што ёсьць відавочным парушэньнем міжнародных абавязаньняў Беларусі ў рамках АБСЭ і ААН»*.

## Падатковая вайна з апазыцыяй

Наступныя сьведкі абвінавачаньня — дзьве чыноўніцы з падатковай інспэкцыі Першамайскага раёну: намесьніца начальніка Тамара Шамкуць і супрацоўніца Анжаліка Собалева. Яны рыхтавалі матэрыялы для прыцягненьня Бяляцкага да крымінальнай адказнасьці. Іх роля ў гэтай справе

---

* Міжнародная назіральная місія Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Кароткі агляд другога дня судовага пасяджэньня па справе Алеся Бяляцкага // Сайт Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, 03.11.2011.

збольшага тэхнічная — ім перадалі атрыманыя Мін'юстам Беларусі раздрукоўкі з польскага і літоўскага банкаў і загадалі зрабіць адпаведныя падлікі і скласьці адпаведныя акты. Даволі фармальна іх і дапыталі на папярэднім сьледзтве ў ДФР. Адвакат Зьміцер Лаеўскі запытаў, чаму адказы Собалевай і адказы Шамкуць падчас папярэдняга сьледзтва супадалі цалкам — «ажно да граматычных памылак». На судзе ні Собалева, ні Шамкуць не змаглі патлумачыць, чаму так сталася.

Інспэктар Собалева ведае Бяляцкага як падаткаплатніка ад 2008 году, калі атрымала даручэньне зь Міністэрства падаткаў і збораў запатрабаваць ад Бяляцкага дэклярацыю аб даходах і расходах з 1994 па 2008 год.

У той час прайшла цэлая хваля такіх праверак у апазыцыйных палітыкаў, праваабаронцаў, незалежных журналістаў — усіх, каго можна было падвесьці пад катэгорыю неляяльных да ўлады. Лукашэнка і афіцыйныя СМІ абвінавачвалі апазыцыю ў тым, што яна нідзе не працуе, а соладка жыве на замежныя гранты. Многія апазыцыйныя дзеячы сапраўды ня маюць сталага месца працы, але не таму, што ня хочуць, а таму, што іх пазвальнялі, карыстаючыся кантрактнай сыстэмай, пазакрывалі іх арганізацыі і газэты. Часьцяком чалавека з «кляймом» апазыцыянэра не бяруць на працу. «Вясьне» даводзілася бараніць многіх такіх людзей, якія мусяць выжываць у складаных умовах, і дзякаваць замежным дабрачынным арганізацыям за дапамогу і супольныя праекты.

Ніхто зь іх не жыве ў палацах. Катэджы ў Драздах і ў іншых «царскіх сёлах» належаць ня ім. Гэта і

выявіла ўсеагульная падатковая праверка апазыцыі 2008 году. Не знайшлі тады нічога звышнатуральнага і ў праваабаронцы Бяляцкага, ягоныя даходы і расходы практычна супалі — розьніца за 14 праверaных гадоў склала 33 даляры, кажа Валянцін Стэфановіч.

Бяляцкі падчас працэсу запытаўся ў Собалевай, якія ў 2008 годзе былі падставы для той вялікай комплекснай праверкі ягоных даходаў і выдаткаў. Собалева адказала, што ня мае права ацэньваць распараджэньні начальства, але прызнала, што ў 2010 годзе заданьне на «распрацоўку» Бяляцкага даваў ДФР. Прызнаць, што заданьне было з КДБ, яна адмовілася.

Перад тым, таксама ў 2010 годзе, падаткоўцы на даручэньне Міністэрства падаткаў і збораў ужо разьлічвалі даходы і расходы Бяляцкага — і зноў не знайшлі перавышэньня. Сьведка Собалева прызнала, што Бяляцкі з уласнай ініцыятывы падаваў дэкярацыі за 2008–2010 гады, дзе паведамляў таксама і пра прыбыткі, атрыманыя ім за мяжой.

Собалева сказала ў судзе, што пры складаньні актаў, пасьля таго як паступілі банкаўскія зьвесткі на Бяляцкага зь Літвы і Польшчы, яна кіравалася простым правілам: любыя сумы, атрыманыя грамадзянінам на свой рахунак за мяжой, лічацца ягонымі прыбыткамі, нягледзячы на тое, ці сам ён іх выкарыстаў, ці аддаў трэцяй асобе або патраціў на друк кніг там жа, за мяжой. Сьведка зазначыла, што каб інспэкцыя не залічыла атрыманыя сумы ў даходы, грамадзянін павінен сам падаць адпаведныя даведкі, а гэтага Бяляцкім зроблена не было. Пры гэтым Собалева патлумачыла суду, што акты

пра падатковыя парушэньні Бяляцкага могуць быць перапробленыя, калі зьявяцца дакумэнты, якія пацьвярджаюць, што атрыманыя сумы не былі ягонымі прыбыткамі.

«Бяляцкі не лічыў гэтыя грошы сваім даходам і таму не дэклараваў іх і не падаваў даведак, пра якія казала інспэктар Собалева. Калі ж супраць яго была заведзена крымінальная справа, то цяжар пошуку доказаў, якія абвінавачваюць альбо апраўдваюць абвінавачанага, паводле КПК быў ускладзены на сьледчыя органы. Да таго ж, седзячы ў ізалятары, Бяляцкі ніякіх дакумэнтаў сабраць ня мог», — ацэньвае словы Собалевай юрыст Валянцін Стэфановіч.

Адвакат ня раз пісьмова (і гэта ёсьць у матэрыялах справы) хадайнічаў перад сьледзтвам, каб яно запатрабавала зьвесткі ў тых арганізацый, якія лічыць крыніцай прыбытку. Але яму было адмоўлена.

Тым ня меней такія дакумэнты і сьведчаньні ў распараджэньні суду былі. Прынамсі, яны былі ў матэрыялах справы. Ды і ў банкаўскіх раздрукоўках, на якіх грунтаваліся і акты Собалевай, і матэрыялы крымінальнай справы, былі паказаныя пераводы грошай з рахунку Бяляцкага «трэцім асобам», у тым ліку беларускім праваабаронцам. Гэтыя факты, згодна з Падатковым кодэксам, выводзяць пералічаныя сумы з падаткаабкладанай базы. На гэтым настойваў адвакат, але на гэта не зьвярнулі ўвагі ні падатковая інспэкцыя, ні сьледзтва, ні суд.

«Пракурор і судзьдзя не далі прававой ацэнкі

гэтым фактам, і ў выраку яны былі праігнараваныя», — сьцьвярджае Стэфановіч.

Магчыма, праблема ў тым, што зьвесткі ў банкаўскіх дакумэнтах да пачатку працэсу заставаліся не перакладзенымі з замежных моваў. У запісах, якія суправаджалі грашовыя пераводы, якраз і былі тлумачэньні мэтаў, зь якімі пералічваюцца грошы. Але сьледзтва не перакладала гэтыя запісы.

У часе працэсу інспэктар Собалева так і не змагла прачытаць назвы арганізацыяў, адкуль прыходзілі грошы. Памучыўшыся некалькі хвілін, яна прызналася: «Мовы я ня ведаю... Я вывучала нямецкую».

Камэнтуючы банкаўскія раздрукоўкі ў судзе, падатковы інспэктар Собалева блыталася і ў тым, ад каго паступілі грошы: ці ад «Вясны», ці «Вясьне», ці прыйшлі на рахунак, ці пайшлі зь яго. Яе арытмэтыка была простая: усе паступленьні грашовых сродкаў на рахункі Бяляцкага яна разглядала як даходы, а графы, у якіх пазначалася пералічэньне грошай з рахунку, пры праверцы пад увагу ня браліся.

Акты, напісаныя Собалевай, былі зацьверджаныя яе начальніцай Тамарай Шамкуць. Тая пацьвердзіла ў судзе лёгіку і арытмэтыку сваёй падначаленай: усе прыбыткі, атрыманыя з-за мяжы, абкладаюцца падаткамі, калі няма дакумэнтаў пра льготы; а калі грошы атрыманыя не для сябе, то платнік павінен прадставіць адпаведныя дакумэнты, дамовы, даручэньні: «Падатковы кодэкс не апэруе такімі паняцьцямі, як грант, фінансавая дапамога. Для нас гэта такія самыя даходы».

«Суд, як і сьледзтва, з самага пачатку меў абвінаваўчы ўхіл, ён не дасьледаваў або не прымаў да

ўвагі фактаў, якія апраўдваюць падсуднага. Суд ня быў накіраваны на тое, каб выявіць ісьціну, а проста выконваў заданьне засудзіць праваабаронцу. У гэтым, сярод іншага, праявіўся палітычны характар працэсу Бяляцкага», — перакананы Валянцін Стэфановіч.

## SWIFT-падтрымка падсуднаму

Наступная сьведка, якую таксама, на добры толк, павінны былі б запрасіць на працэс у статусе спэцыяліста, бо яна ня ведала ні Алеся, ні ягонай справы, — Натальля Пашкоўская, кіраўніца ўправы інспэкцыі сыстэмы міжнародных банкаўскіх разьлікаў SWIFT Нацбанку Беларусі.

Яе, сапраўды як спэцыяліста, у судзе папрасілі вывучыць прысланыя зь Літвы і Польшчы банкаўскія раздрукоўкі. Пачытаўшы іх, Пашкоўская вымушаная была расчараваць пракурора. Яна заявіла, што выпіскі аб руху сродкаў на рахунку Бяляцкага ў літоўскім банку па форме не адпавядаюць міжнародным стандартам, яны складзеныя паводле ўнутраных стандартаў канкрэтнага банку. Каб іх ацаніць, трэба ведаць гэтыя стандарты. Бяз гэтага высокакваліфікаваная спэцыялістка з Нацбанку нават не змагла вызначыць, каму пераводзіліся грошы: «Дакладных паказаньняў даць не магу, я магу камэнтаваць SWIFT-паведамленьні».

Пашкоўская ня здолела сказаць, ці пералічваў Бяляцкі грошы праваабаронцы Тацяне Равяцы і іншым асобам, бо выпіскі на гэты конт былі аформленыя не паводле міжнароднай сыстэмы: «Цяжка



Алесь Бяляцкі рыхтуецца да працягу працэсу.

меркаваць, якім чынам яны былі атрыманыя», — прызнала Натальля Пашкоўская.

Пачуўшы гэта, пракурор Сайкоўскі спытаўся ў яе: «А хто б мог гэта патлумачыць?» Пашкоўскай было цяжка адказаць і на гэтае пытаньне.

Гул ухваленьня ў залі выклікалі тлумачэньні Пашкоўскай адносна таго, ці правільна афармленыя дасланыя зь Літвы і Польшчы банкаўскія дакумэнты.

Яна заявіла, што паводле дзейных нормаў выпіскі на паперы з банкаўскіх рахункаў павінны быць афіцыйна завераныя. «Калі яны не завераныя пячаткай, то, на маю думку, такія дакумэнты ня могуць лічыцца сапраўднымі. Малаверагодна, што

банкаўская ўстанова ня мае ўласнай пячаткі», — заявіла Пашкоўская.

Такім чынам, сьведка абвінавачаньня фактычна стала на бок абароны. Яна ўзмацніла пазыцыі Алеся і ягонага адваката, якія настойвалі, што такія дакумэнты — бяз подпісаў, пячатак і выкананьня іншых умоў, прадугледжаных міжнароднымі пагадненьнямі, а таксама безь перакладу — ня могуць прымацца судом як законныя доказы. На думку Валянціна Стэфановіча, сьведка Пашкоўская паказала, як слаба падрыхтаванае было абвінавачаньне паводле фінансавых і дакумэнтальных крытэраў:

«Яго пісалі, не абцяжарваючы сябе пытаньнем, ці можна прызнаваць дакумэнтамі нікім не завераныя паперы, афармленыя паводле невядомых сьледзтву стандартаў».

Сама Пашкоўская заявіла суду, што як банкаўскі працаўнік яна такія дакумэнты не палічыла б за легальныя.

Тым ня менш судзьдзя Бандарэнка, выносячы вырак, праігнараваў высновы Пашкоўскай і не зрабіў на адрас сьледчых прыватнага вызначэньня, якое б засьведчыла неадэкватны ўзровень іх працы з атрыманымі зь Літвы і Польшчы дакумэнтамі. Валянцін Стэфановіч упэўнены, што судзьдзя не павінен быў прызнаваць гэтыя дакумэнты доказамі віны Бяляцкага, а мусіў зьвярнуцца ў Літву і Польшчу па належна афармленыя дакумэнты. Праўда, з улікам заявы Міністэрства юстыцыі Літоўскай Рэспублікі праануляваньне гэтых зьвестак і немагчымасьць іх выкарыстаньня ў якасьці юрыдычнага доказу ў судзе, трэба было ўвогуле закрыць гэтую справу, — мяркуе Валянцін Стэфановіч:

«Але калі ў сьледзтва ёсьць прыкрыцьцё на працэсе ня толькі ў выглядзе пракурора, дзяржаўнага абвінаваўцы, але і судзьдзі, то яно можа спадзявацца, што на ўсе яго працэсуальныя парушэньні і памылкі заплюшчаць вочы. Асабліва калі ёсьць палітычная замова».

## Казус Звоскава

Праваабаронца Барыс Звоскаў, які быў выкліканы на працэс у якасьці сьведкі, прыйшоў у суд добра падрыхтаваным, з цэлай тэчкай дакумэнтаў. Перад працэсам бачна было, што ён хваляваўся, але настроены быў рашуча, называў усё правакацыяй — і гэты суд супраць Бяляцкага, і допыты, якія зь ім самім праводзіла ў гэтай справе сьледзтва.

Барыс Звоскаў даўно ведае Бяляцкага. Раней яны шчыльна супрацоўнічалі, але на час суду Звоскаў быў на пэнсіі, шмат хварэў, таму часткова адышоў ад праваабарончых спраў.

Сьведка заявіў суду, што раней таксама меў рахунак за мяжой, у Літве, але гадоў 7 таму закрыў яго.

На пытаньне пракурора, ці атрымліваў ён ад Бяляцкага грошы, Звоскаў даў адмоўны адказ. Пракурор ажывіўся і зазначыў на гэта, што ў матэрыялах справы ёсьць дакумэнт, які сьведчыць пра адваротнае.

Пракурор хацеў неадкладна прадэманстраваць гэты дакумэнт, але хвілін пяць ня мог яго знайсьці ў матэрыялах справы. Ён нечакана нават папрасіў дапамогі ў Бяляцкага, каб той падказаў, дзе гэтая старонка. Калі ж папера знайшлася, Сайкоўскі



Барыс Звоскаў.

заявіў: «Гэты дакумэнт прыйшоў да нас па міжнародных каналах».

Гаворка ішла пра 8 тысяч эўра, нібыта пераліčаных Бяляцкім Звоскаву на рахунак у польскім банку PKO. Але сьведка аказаўся падрыхтаваны: пра гэты рахунак і перавод яму казалі яшчэ на папярэднім допыце ў ДФР. Тады ён абверг гэта вусна, а ў судзе прадставіў дакумэнт. Пасьля допыту ў ДФР Звоскаў зьезьдзіў у Польшчу, дзе яму выдалі даведку: ніякіх рахункаў у банку PKO ў яго няма і не было. Суд вымушаны быў далучыць гэтую даведку да матэрыялаў справы.

Пракурор Сайкоўскі пры гэтым прызнаў, што ў крымінальнай справе Бяляцкага ў дакумэнтах адносна Звоскава ёсьць недакладнасьці і несупадзеньні. А Звоскаў, перад тым як сысьці з трыбуны, гучна абурыўся:

«Я перакананы, што якасьць такіх доказаў не вытрымлівае ніякай крытыкі, гэта не адпавядае

крытэрам сапраўднасьці і дапушчальнасьці. Гэты так званы доказ калі не сфальшаваны, дык цалкам прыдуманы… І ўвогуле, што гэта за доказы ў вас? Ці і астатнія доказы такія самыя?»

Барыс Звоскаў памёр 17 чэрвеня 2012 году, не дачакаўшыся выхаду Алеся Бяляцкага на волю.

## Артыкул 27 Канстытуцыі

У гэты ж дзень у якасьці сьведак выступілі іншыя праваабаронцы, калегі Бяляцкага, якія, у адрозьненьне ад спадара Звоскава, атрымлівалі ад Алеся грашовыя пераводы на праекты, зьвязаныя зь дзейнасьцю «Вясны». Усе яны прызнавалі гэтыя факты, добра разумеючы, што тым самым падстаўляюць сябе пад пагрозу аналягічнага перасьледу з боку праваахоўных органаў — або паводле артыкула аб незадэклnetwork даходах, або паводле артыкула аб дзейнасьці ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Гэта была сьвядомая рызыка і адмыслова абраная стратэгія, накіраваная на тое, каб зьменшыць агульную суму грошай, якія сьледзтва палічыла схаванымі даходамі Бяляцкага, адцягнуць адказнасьць на сябе, сьведчыць паплечніца Алеся Тацяна Равяка. На рызыку не зьвярталі ўвагі, кажа яна, пагатоў рахункі выкліканых у суд праваабаронцаў і так былі «засьвечаныя» ў матэрыялах з Польшчы і Літвы.

На працэсе Равяка заявіла, што сапраўды атрымлівала асабіста ад Бяляцкага грошы «на праваабарончую дзейнасьць». Сумы назваць адмовілася. Пра свае замежныя банкаўскія рахункі гаварыць




Тацяна Равяка.

таксама адмовілася, спасылаючыся на артыкул 27 Канстытуцыі, які дазваляе грамадзянам ня сьведчыць супраць сябе.

Такія ж паказаньні далі Віктар Сазонаў з Горадні, Алена Лапцёнак зь Менску, якія атрымлівалі ад Бяляцкага грошы на праваабарончую дзейнасьць, ніякіх прыбыткаў зь іх ня мелі і дасылалі справаздачы пра выдаткі. Тое самае казалі і іншыя праваабаронцы, выкліканыя ў суд з той прычыны, што іх прозьвішчы знайшліся ў банкаўскіх раздрукоўках. На больш падрабязныя пытаньні пра рахункі і грошы ўсе адказвалі аднолькава: «Згодна з артыкулам 27 Канстытуцыі я маю права ня сьведчыць супраць сябе».

«Хочаце нешта даведацца — папрацуйце, хлопцы, ня толькі дубінкамі, выкарыстайце ін-

тэлект, зрабіце яшчэ запыты, падумайце. Мы ня будзем укладаць ім у рукі матэрыялы супраць сябе», — так пазьней апісала гэтую супольную стратэгію Тацяна Равяка.

Улады хацелі атрымаць з банкаў Літвы і Польшчы зьвесткі на многіх вясноўцаў. Вядома, што зь Менску ў Вільню падалі запыты на шэсьць актывістаў арганізацыі. У Літве згадзіліся выдаць інфармацыю толькі на двух: Алеся Бяляцкага і Валянціна Стэфановіча.

Жонка Бяляцкага Натальля Пінчук паводле Канстытуцыі мела права ня сьведчыць ні супраць сябе, ні супраць мужа, чым і скарысталася. У той дзень Натальля ўпершыню зьявілася на працэсе. Яе допыт як сьведкі быў вельмі кароткі. Потым яна села на лаву ў залі. Натальля распавядала мне пра свае адчуваньні:

«Я пабыла ў судзе некалькі хвілін да перапынку, калі паказаньні давала Алена Лапцёнак. Хвілін дзесяць, але ў мяне сем патоў са сьпіны сышло. Я зразумела, што ня буду там сядзець, нават і бяз просьбы Алеся, які не хацеў, каб я хадзіла на працэс… Бо перажываецца кожны момант. Калі за чужой справай назіраеш — гэта адно, а калі сваё, і стаўка вялікая, на гады зьняволеньня, — гэта адчуваецца вельмі моцна. Таму Алесь, відаць, і прасіў мяне на суд не хадзіць».

## Цень Ананіма

Калі дапытвалі ў якасьці сьведкі праваабаронцу з Магілёва Аляксея Колчына, пракурор Сайкоўскі прадэманстраваў узятыя са справы фатакопіі

расьпісак аб атрыманьні ім грошай. Сам Колчын адмовіўся нешта тлумачыць, спаслаўшыся на артыкул 27 Канстытуцыі, а адвакат Бяляцкага Зьміцер Лаеўскі заявіў пратэст: ні сьледчыя на папярэднім сьледзтве, ні пракурор на працэсе дакумэнтальна не патлумачылі, як былі здабытыя гэтыя матэрыялы, чым парушылі Крымінальна-працэсуальны кодэкс.

Вясноўцы выявілі, што фатакопіі былі здабытыя так званым апэратыўна-агентурным шляхам. Расьпіскі сфатаграфаваў агент КДБ, якога завербавалі перад выбарамі прэзыдэнта 2010 году. У матэрыялах справы ён праходзіў пад мянушкай «Ананім».

Дзіўна, што гэтыя матэрыялы ўвогуле трапілі ў справу: відаць, «органы» надта ўжо разьняволіліся і зусім не зважаюць на прававыя рамкі, — абураецца Валянцін Стэфановіч.

Адразу пасьля Плошчы гэтыя фатакопіі былі апублікаваныя ў газэце «СБ. Беларусь Сегодня», куды на даручэньне Лукашэнкі спэцслужбы перадалі дакумэнты пра арганізацыю «дзяржаўнага перавароту» 19 сьнежня 2010 году. Прапагандысцкая публікацыя мелася «выкрыць» апанэнтаў рэжыму Лукашэнкі як ворагаў дзяржавы і народу. Згадваліся там і Алесь Бяляцкі, і «Вясна». Фатакопіі ў газэце суправаджаліся подпісам: «Так Запад финансово поддерживает „борцов“. Сын арестован за хулиганство, мать щедро субсидируется»*.

Паказвалі гэтыя фатакопіі і на дзяржаўных тэлеканалах. Праваабаронцы «Вясны» прыгледзеліся

* За кулисами одного заговора // СБ. Беларусь Сегодня, 15.01.2011.

і заўважылі на іх цень таго, хто здымаў. «Гэта значыць, здымкі рабіліся ўначы, пры лямпах, а не пры дзённым сьвятле», — зрабіў выснову Валянцін Стэфановіч.

Стэфановіч прызнае, што па ценю пазнаць было немагчыма, але па датах дакумэнтаў, якія на кароткі час заставаліся ў офісе, па графіку начных дзяжурстваў і іншых дэталях было нескладана вылічыць, хто гэта мог зрабіць. «Небясьпечна тое, што ў сфатаграфаваных дакумэнтах „Вясны" былі бачныя прозьвішчы людзей, якія атрымлівалі дапамогу. Яны маглі пацярпець ад перасьледу ўладаў», — кажа Валянцін.

У органах не хавалі, што «Вясна» — пад пільным вокам спэцслужбаў, супрацоўнікі КДБ у 2010 і 2011 гадах праводзілі ў яе офісеператрусы. Алесь Бяляцкі, які прааналізаваў матэрыялы сваёй крымінальнай справы, у тым ліку перапіску КДБ з Камітэтам дзяржкантролю, выказваў на працэсе думку, што ў КДБ ёсьць некалькі супрацоўнікаў-куратараў «Вясны», і нават называў прозьвішчы імаверных куратараў.

Актывісты арганізацыі таксама лічаць, што спэцслужбы імкнуліся ўкараніць у «Вясну» сваіх людзей.

Касьцяк «Вясны» — людзі, якія працуюць разам зь Бяляцкім 15–20 гадоў і добра ведаюць адзін аднаго. Але знайшлося ў арганізацыі і слабое месца. Як выявілася, менш за паўгода ў 2010–2011 гадах у «Вясьне» папрацаваў «інсайдэр». Яго вылічылі адразу пасьля публікацыі ў «СБ» фатакопіяў зь ценем.

Офіс арганізацыі ў Менску звычайна вартавалі

па начах, і за гэта браліся розныя маладыя людзі. Адзін зь іх паддаўся на ціск «органаў». Як выявілася пазьней, начамі ён некалькі разоў адчыняў шафы і рабіў фатаздымкі дакумэнтаў.

Прозьвішча маладога чалавека, які пакінуў цень на фатаграфіях, паплечнікі Бяляцкага не называюць. Яны кажуць, што пагутарылі з гэтым хлопцам, той спачатку адмаўляў, а потым увогуле замкнуўся. Яму сказалі, што ня будуць агучваць ягонае прозьвішча і ня будуць рабіць нічога, што магло б папсаваць ягоную будучыню. У канцы размовы папрасілі: «Але зрабі высновы з гэтай гісторыі». Пазьней гэты малады чалавек зьехаў зь Беларусі.

# Ноч на роздум. Як згушчаліся хмары

*Краю мой родны! Як выкляты Богам —*
*Столькі ты зносіш нядолі.*
*Хмары, балоты... Над збожжам убогім*
*Вецер гуляе на волі.*

*Поруч раскідаліcь родныя вёскі.*
*Жалем сьціскаюцца грудзі! —*
*Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,*
*Ўсюды панурыя людзі...*

*Песьня пяе, як удовіна сына,*
*Янку, каханьне згубіла;*
*Там, дзе панура схілілась каліна,*
*Беднага хлопца магіла.*

*Ў гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе*
*Сэрца навін не пачуе.*
*Сьціснула гора дыханьне ў народзе,*
*Гора усюды пануе.*

*Хваляй шырокай разьлілась, як мора,*
*Родны наш край затапіла...*
*Брацьця! Ці зможам грамадзкае гора?!*
*Брацьця! Ці хваце нам сілы?!*

Максім Багдановіч. 1909 год

Алесь Бяляцкі, мабыць, даўно звыкся з думкай пра свой магчымы арышт. У 2005 годзе ў інтэрвію ён казаў: «У нашай дзяржаве ўсё можа быць, таму мы павінны ясна сабе гэта ўяўляць і з гэтага зыходзіць. Асабіста я грамадзкай дзейнасьцю займаюся больш за 20 гадоў, гэта галоўная складовая частка майго жыцьця, таму я не зьбіраюся паддавацца меркаваным цяжкасьцям, тэарэтычна магчымым у далейшым»*. Як праваабаронца ён добра ведаў матывы і мэханізмы рэпрэсіяў і разумеў, што асабіста перашкаджае ўладзе, як у савецкія часы, гэтак і за Лукашэнкам.

У 1987 годзе цесьць Бяляцкага Сяргей Міхайлавіч Пінчук, тады функцыянэр КПСС, а пазьней сябра апазыцыйнай Партыі камуністаў Беларускай, постфактум даведаўшыся, што ягоная дачка Натальля пабралася шлюбам з талакоўцам Бяляцкім, папярэдзіў яе: «Глядзі, каб Сібір'ю гэта ўсё ня скончылася!»

Вясельле Натальлі і Алеся адбылося ў Менску 17 красавіка 1987 году. На ім прысутнічалі толькі сьведкі. Расьпісаліся, усклалі кветкі да помніка Багдановічу, пайшлі ў рэстаран «На ростанях». Пасьля было цэлае жыцьцё разам...

Папярэджаньне цесьця спраўдзілася толькі праз 24 гады. Але «гэта ўсё» ня скончылася. Натальля перакананая: «Тое, што цяпер адбываецца, — гэта проста этап».

* «Чалавек, яго правы і свабоды павінны зьяўляцца асноўнай каштоўнасьцю грамадзянскай супольнасьці» // Беларуская інфармацыйна-аналітычная інтэрнэт-газэта Euramost.org, 22.07.2005.

## Канец «лібэралізацыі»

Шмат хто задумваецца, чаму так брутальна і так нелягічна разагналі дэманстрацыю пратэсту пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 году, чаму сотні чалавек былі зьбітыя і арыштаваныя, чаму зноў зьявіліся дзясяткі палітвязьняў, сярод якіх апынуліся амаль усе, хто кінуў выклік Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах? Чаму Беларусь зноў вярнулася ў стан пэрманэнтных палітычных рэпрэсіяў і самаізаляцыі ад Захаду? Да гэтай чорнай даты ў гісторыі Беларусі недзе зь сярэдзіны 2008 году назіралася няпэўная лібэралізацыя: выпусьцілі з турмы Аляксандра Казуліна і іншых палітвязьняў, аднавіліся кантакты з Захадам, улады перасталі саджаць у турму за ўдзел у незарэгістраваных арганізацыях, прыпынілі ціск на незалежныя СМІ, касмэтычна зьмянілі Выбарчы кодэкс і правялі зьнешне свабодную выбарчую кампанію 2010 году. Гэта ўсё было да 19 сьнежня, да моманту разгону Плошчы.

Праваабаронцы папярэджвалі, што мэханізм рэпрэсіяў нікуды ня зьнік і можа быць запушчаны ў любы момант. Бо тое, што мы называем лібэралізацыяй — усяго толькі тактычны ход Лукашэнкі, які ківаецца паміж Захадам і Расеяй. Ківок Захаду — у Беларусі «лібэралізацыя», ківок Расеі — у Беларусі «закручваньне гаек», палітычныя рэпрэсіі і ізаляцыя ад заходняга сьвету.

Улетку 2010-га Расея адказала на беларускае збліжэньне з Захадам масаванай антылукашэнкаўскай прапагандай, артыкуламі ў прэсе, сэрыяй

фільмаў «Крестный батька» на тэлебачаньні і відэаблогам прэзыдэнта Мядзьведзева ў сеціве:

«На адрас Расеі і яе кіраўніцтва ідуць патокі абвінавачаньняў і лаянкі. На гэтым пабудаваная ўся выбарчая кампанія Лукашэнкі. Яго турбуе вельмі многае: і навядзеньне парадку ў нашых эканамічных адносінах, і зносіны расейскіх сродкаў масавай інфармацыі зь беларускай апазыцыяй, і нават лёс некаторых нашых высокапастаўленых пэнсіянэраў і звольненых чыноўнікаў.

Прэзыдэнту Беларусі варта было б займацца ўнутранымі праблемамі. У тым ліку, нарэшце, расьсьледаваць шматлікія справы аб зьнікненьні людзей. Расеі, як і іншым краінам, гэта не абыякава», — так казаў Дзьмітры Мядзьведзеў 3 кастрычніка 2010 году*.

Аднак ужо 25 сьнежня Мядзьведзеў павіншаваў Лукашэнку зь пераабраньнем на пасаду прэзыдэнта. Суд над Алесем Бяляцкім прайшоў на фоне аднаўленьня маштабнай расейскай падтрымкі кіраўніцтву Беларусі. Незалежная газэта «Наша Ніва» зьвязала гэтыя дзьве падзеі: «Танны газ забясьпечаны: Бяляцкі атрымаў 4,5 года калёніі ўзмоцненага рэжыму».

Алесь Бяляцкі, які каардынаваў незалежнае назіраньне на выбарах 2010 году, прадбачыў, што вольнасьці скончацца ў дзень галасаваньня і падліку галасоў. У інтэрвію тэлеканалу «Белсат» за месяц да дня галасаваньня ён дапусьціў, што ў Беларусі можа паўтарыцца азэрбайджанскі варыянт:

* Бессмысленная полоса напряжения в отношениях с Белоруссией // Видеоблог Дмитрия Медведева, 03.10.2010.

«Я прысутнічаў гадоў пяць таму як міжнародны назіральнік на выбарах парлямэнту ў Азэрбайджане, і мяне вельмі моцна ўразіў гэты разгул дэмакратыі падчас збору подпісаў, падчас агітацыйнай кампаніі, калі ўвесь Баку быў заклеены партрэтамі кандыдатаў у дэпутаты. Але калі наступіў момант падліку галасоў, адміністрацыйная сыстэма спрацавала так, як і трэба было. Мне падаецца, мы можам атрымаць азэрбайджанскі сцэнар».

Беларусы ў 2010 годзе атрымалі ня толькі азэрбайджанскі сцэнар фальшывых парлямэнцкіх выбараў 2005 году, але і сцэнар разгону пратэстаў у Баку пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2003 году. Як тады лідэр азэрбайджанскай апазыцыі Іса Гамбар, так лідэры беларускай апазыцыі не чакалі настолькі жорсткіх паводзінаў уладаў, настолькі неадэкватнай рэакцыі на пратэст.

Паралель Беларусь — Азэрбайджан Бяляцкі выкарыстоўваў неаднойчы:

«Найбольш блізкая сытуацыя ў нас з Азэрбайджанам па супрацьстаяньні ўладаў і апазыцыі і тых рэпрэсіях, якія ўлады ўжываюць да грамадзтва», — казаў Алесь у інтэрвію Чэскаму радыё*.

Пра тое, як брутальна скончылася беларуская «лібэралізацыя», міжнародная праваабарончая арганізацыя Human Rights Watch распавяла ў выдадзенай у сакавіку 2011 году справаздачы Shattering Hopes** («Руйнаваньне надзеяў»):

---

* Homo homini amicus est. Інтэрвію Алеся Бяляцкага Чэскаму радыё // Český rozhlas, 10.03.2006.

** Shattering Hopes. Post-Election Crackdown in Belarus. Human Rights Watch, 2011.

— Каля 30 000 чалавек выйшлі на вуліцы Менску на мірны пратэст супраць скрадзеных выбараў.

— Калі была абвешчаная перамога Лукашэнкі, некалькі дзясяткаў чалавек у масках пачалі біць шкло ў будынку Дому ўраду.

— Міліцыя і сілы бясьпекі зьбівалі і хапалі ўсіх, хто быў у межах дасяжнасьці, пераважна мірных дэманстрантаў.

— На працягу наступных двух тыдняў адміністрацыйныя суды асудзілі ня менш як 725 чалавек да арышту на 10–15 сутак за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу.

— Суды доўжыліся ад 10 да 15 хвілін. У большасьці выпадкаў абвінавачаныя ня мелі адваката і ім не дазвалялі выклікаць сьведак.

— Зьняволеныя адбывалі пакараньне ў перапоўненых камэрах, дзе былі вымушаныя спаць на падлозе або па чарзе на нарах. У камэрах людзі мерзьлі, ня мелі туалетаў, не было доступу да мэдычнай дапамогі.

— Паводле стану на 7 сакавіка 2011 году 38 чалавек былі абвінавачаныя ў арганізацыі беспарадкаў або ўдзеле ў іх, у тым ліку 5 былых кандыдатаў у прэзыдэнты ад апазыцыі. У канцы лютага ў сьледчых ізалятарах заставаліся больш за 30 чалавек. Да затрыманых не пускалі адвакатаў.

— Адвакатам улады неафіцыйна забаранілі выказвацца пра стан сваіх падабаронных. Некаторых пазбавілі адвакацкай ліцэнзіі.

— У канцы сьнежня 2010 году ўлады правяліператрусы ў офісах трох праваабарончых груп, канфіскавалі кампутарную тэхніку і дакумэнты. Міліцыя і сілы бясьпекі таксама абшукалі па-

мяшканьні чатырох незалежных сродкаў масавай інфармацыі і кватэры 12 журналістаў і канфіскавалі абсталяваньне.

— 148 з 205 чалавек, апытаных Групай абароны правоў чалавека, паведамілі, што міліцыя зьбівала іх дубінкамі або штурхала падчас арышту або ўтрыманьня пад вартай, колькасьць параненых канчаткова не вядомая…

Махавік рэпрэсіяў раскручваўся вясною і летам 2011 году, калі менскія суды правялі 14 працэсаў над затрыманымі пасьля падзеяў 19 сьнежня. Асудзілі 44 чалавекі, зь іх 30 атрымалі тэрміны турэмнага зьняволеньня ад 2 да 6 гадоў, у тым ліку — тры экс-кандыдаты на пасаду прэзыдэнта: Дзьмітры Вус, Андрэй Саньнікаў, Мікалай Статкевіч.

Аляксандар Лукашэнка паставіў тлустую кропку ў няпэўных і павярхоўных спробах «лібэралізацыі»:

«Больш бязглуздай дэмакратыі ў краіне ня будзе», — заявіў ён 20 сьнежня на прэсавай канфэрэнцыі пасьля брутальнага разгону Плошчы.

Але тут няма адказу на галоўнае пытаньне 19 сьнежня: «Чаму?». 13 ліпеня 2011-га, менш як за месяц да свайго арышту, Алесь Бяляцкі казаў у Эўрапарлямэнце на слуханьнях пра сытуацыю ў Беларусі:

«Мы ўсе задаём сабе пытаньне, чаму ўрад ужыў такі гвалтоўны разгон дэманстрантаў. Да гэтага часу мы ўсё яшчэ ня маем адказу на гэтае пытаньне. Мне падаецца, што гэтая рэакцыя была спрычыненая нечаканасьцю гэтых падзей, калі дзясяткі тысяч чалавек выйшлі на вуліцы і ўлады ня ведалі,

што рабіць з такой масай народу. Гэта й выклікала рэпрэсіі, якія працягваюцца па сёньня»*.

У адказах на пытаньні эўрадэпутатаў Бяляцкі дадаў: акцыя гвалтоўнага разгону і далейшага ўціску апазыцыі была старанна сплянаваная.

Валянцін Стэфановіч кажа, што пасьля суду над Алесем стала ясна: перасьлед яго самога і ўсяго Праваабарончага цэнтру «Вясна» таксама рыхтаваўся ўладамі яшчэ да 19 сьнежня.

Распрацоўка і апэратыўны пошук кампрамату на Бяляцкага і «Вясну» пачаліся як мінімум у лістападзе 2010 году. Менавіта тады ў офісе «Вясны» працаваў «інсайдэр» ад КДБ.

«Улады ўсё сур'ёзна распрацоўвалі, думалі, што рабіць з намі… Гэта наводзіць на думкі, што самі падзеі 19-га былі зусім не выпадковыя, не спантанныя», — мяркуе Стэфановіч.

Відаць, толькі пасьля сыходу Лукашэнкі ад улады ў архівах КДБ можна будзе знайсьці дакладны адказ, як рыхтаваліся падзеі 19 сьнежня, што сталі канцом той кволай «лібэралізацыі».

## Заявы і санкцыі

Рэакцыя Бяляцкага на брутальныя падзеі 19 сьнежня 2010 году, на арышты і канвэер судоў была гучная і жорсткая. Алесь зрабіў дзясяткі заяваў, не асьцерагаючыся самых вострых ацэнак:

«Атмасфэра страху, якая цяпер актыўна насаджаецца органамі ўлады, праваахоўнымі органамі, сілавымі структурамі, распаўсюджваецца з мэтай

* Committee on Foreign Affairs — 09:10 / 12:40 — 13-07-2011 // EPTV, 13.07.2011.

здушыць грамадзкую і грамадзянскую актыўнасьць беларускіх грамадзян і адцягнуць увагу ад усіх фальсыфікацыяў, якія адбываліся на прэзыдэнцкіх выбарах. Улады Беларусі выкарысталі падзеі 19 сьнежня і гэтую тэорыю ўсяленскай змовы, каб удар рэпрэсіяў прыйшоўся ня толькі на маніфэстантаў, а і на грамадзкія арганізацыі, журналістаў, праваабаронцаў, практычна на ўсю Беларусь»*.

У сакавіку 2011 году ў інтэрвію тэлеканалу «Белсат» Бяляцкі вітаў рашэньне Эўразьвязу і ЗША аб увядзеньні санкцыяў супраць Лукашэнкі, яго атачэньня і іншых вінаватых у рэпрэсіях супраць апазыцыі і ў парушэньні правоў чалавека:

«Трэба разумець, што ў гэтым ціску і арганізацыі ціску на беларускае грамадзтва рэальна бярэ ўдзел 1–2 тысячы чалавек. Гэта ўзровень кіраўніцтва выканкамаў, куды ўваходзяць ідэолягі, кіраўнікі выканкамаў ды іншыя асобы, што маюць дачыненьне да органаў улады і сілавікоў. Краіна павінна ведаць сваіх „герояў"».

13 ліпеня 2011 году ў Эўрапарлямэнце Алесь заклікаў Эўразьвяз не спыняць ціск на ўлады Беларусі з мэтай вызваленьня палітвязьняў:

«Тры месяцы назад я быў у Тунісе і ад многіх людзей чуў, што там не было палітычнай апазыцыі, што перамены прынесьлі масы. Гэта мы павінны браць пад увагу і ў выпадку Беларусі… Што да пазыцыі Эўрапейскага Зьвязу — мы чуем адзін голас, голас Эўрапарлямэнту, мы можам яго чуць вельмі добра. І факт, што прынятыя эканамічныя

* Відэаінтэрвію Бяляцкага стваральнікам фільму Bitter Winter in Belarus («Горкая зіма ў Беларусі») // Сайт Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека, 24.05.2011.

кропкавыя санкцыі больш прыкметныя, чым ранейшыя, — для мяне гэта вельмі важны сыгнал, пасланы Эўрапейскім Зьвязам ураду Беларусі. І гэты сыгнал пачуты. Бо любы палітычны ціск, кожнае выкарыстаньне палітычных мэханізмаў у адносінах да Лукашэнкі не прыносіць ніякага плёну. Але эканамічны ціск зьяўляецца эфэктыўным сродкам. Гэта правільны сыгнал, які можа быць пачуты ўладамі Беларусі»*.

Улады Беларусі пачулі і голас самога Алеся Бяляцкага.

У красавіку 2011 году ён разам зь іншай праваабаронцай, Аленай Танкачовай, браў удзел у пасяджэньні Палітычнага камітэту Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы, які абмяркоўваў сытуацыю ў Беларусі.

Пасяджэньне праходзіла раніцай 12 красавіка, на наступны дзень пасьля крывавага тэракту ў менскім мэтро. Фонам для гэтых падзеяў служылі дыпляматычныя перамовы ў Эўразьвязе наконт увядзеньня супраць афіцыйнага Менску ня толькі візавых, але і эканамічных санкцыяў. У тыя дні чакалася, што адпаведнае рашэньне ўхваліць Рада Эўрапейскага Зьвязу.

У пасяджэньні ўдзельнічалі каля ста чалавек, было шмат парлямэнтарыяў, прысутнічалі прадстаўнікі Эўразьвязу і АБСЭ. Туды ж папрасіўся і беларускі дыплямат Андрэй Бушыла, дарадца Прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры Радзе Эўропы. У Бяляцкага і Танкачовай спыталі, як яны

* Committee on Foreign Affairs — 09:10 / 12:40 — 13-07-2011 // EPTV, 13.07.2011.

да гэтага ставяцца, але яны супраць прысутнасьці Бушылы нічога ня мелі. У выніку Бушыла быў на пасяджэньні, але ў дыскусіі ўдзелу ня браў.

У той жа дзень па ўсіх дзяржаўных тэлеканалах у Беларусі прагучаў наступны камэнтар:

«На фоне трагедыі ў Беларусі дзіўная дыскусія адбылася сёньня ў Страсбуры. Камісія ПАРЭ ў палітычных пытаньнях правяла, як яны выказваюцца, „абмен думкамі" па сытуацыі ў Беларусі. Зрэшты, ні пра тэракт, ні пра дапамогу пацярпелым, ні пра дапамогу ў расьсьледаваньні не было прамоўлена ані слова. І калі старшыня палітычнай камісіі спадар фон Сідаў хоць двума сказамі згадаў падзеі ў Менску, то запрошаныя ад беларускай апазыцыі нейкі спадар Бяляцкі і нейкая спадарыня Танкачова казалі толькі пра сваё набалелае. Бяляцкі, у прыватнасьці, адзначыў, цытата: „Сытуацыю ў Беларусі могуць зьмяніць толькі эканамічныя санкцыі, якія былі б карысныя беларускаму грамадзтву". Можна як заўгодна ставіцца да ўлады, але любому нармальнаму чалавеку зразумела: калі ў наш агульны дом прыходзіць бяда, калі нейкія падонкі забіваюць нашых людзей, калі нацыю аб'ядноўвае агульнае гора, нельга паводзіць сябе так, як паводзіць сябе заслужаны апазыцыянэр спадар Бяляцкі — цынічна выціраючы ногі аб людзкое гора...»*

На наступны дзень, 13 красавіка, у кантэксьце менскага тэракту і разгляду Эўразьвязам санкцыяў згадаў праваабаронцаў і Аляксандар Лукашэнка:

«Дайшло да адкрытага блюзьнерства. Увесь народ перажывае трагедыю, смуткуе аб загіну-

* Першы канал БТ, 12.04.2011.

лых. А нашы эўрапейскія так званыя партнэры ў Страсбуры разважаюць пра нейкія правы чалавека. Больш за тое, нашы дамарослыя зь пятай калёны, якія прыехалі туды, заклікаюць увесьці санкцыі супраць народу. Гэта ўчорашні-заўчорашні дзень — скокі на касьцях. Скокі на касьцях — інакш не назавеш такія паводзіны. Хоць бы пачакалі, пакуль жалоба скончыцца, пакуль пахаваем загінулых. Яшчэ раз падкрэсьліваю, гэта ня тычыцца апазыцыі. Апазыцыя павінна, можа, існаваць у нашай дзяржаве. Але пятай калёны ў краіне ня будзе»*.

На думку Ўладзімера Лабковіча, гэтыя заявы Лукашэнкі маглі стацца «паваротным пунктам у лёсе той справы, якую ўжо разгортвалі супраць Алеся Бяляцкага спэцслужбы».

Што ж насамрэч адбылося ў Страсбуры? Па-першае, трэба адзначыць, што Рада Эўропы не прымала і не магла прыняць рашэньня аб эканамічных санкцыях, якія сапраўды рыхтаваліся і якіх так баяўся афіцыйны Менск. Рада Эўропы, перш за ўсё, займаецца правамі чалавека. Пытаньне пра санкцыі належыць да кампэтэнцыі іншай структуры — Рады Эўрапейскага Зьвязу (Council of the European Union).

Па-другое, як сьведчыць Алена Танкачова, удзельнікі пасяджэньня адразу пасьля яго пачатку хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць ахвяраў менскага тэракту, цікавіліся думкамі гасьцей зь Менску, як гэта можа паўплываць на сытуацыю ў краіне, ці ня выкліча хвалі арыштаў і рэпрэсіяў супраць іншадумцаў, паляваньня на ведзьмаў, як

* Сталічнае тэлебачаньне, 13.04.2011.

гэта было пасьля менскага тэракту 4 ліпеня 2008 году. «Скокаў на касьцях» не было.

«Алесь сапраўды гаварыў пра эканамічныя санкцыі, але санкцыі ня супраць краіны, а кропкавыя санкцыі, скіраваныя супраць эканамічных суб'ектаў, якія зьяўляюцца донарамі рэжыму Лукашэнкі. Гэта пазыцыя Алеся, якая пасьлядоўна агучвалася ім цягам даволі працяглага часу пасьля 19 сьнежня ня толькі на міжнародным узроўні, але і ў Беларусі. Думаю, што за сваю пазыцыю ён і пакараны», — сказала мне Танкачова.

На тым пасяджэньні Алесь Бяляцкі ахарактарызаваў бягучую сытуацыю з правамі чалавека ў Беларусі як найгоршую за апошнія 15 гадоў і выказаў думку, што да той пары, пакуль ня будуць вызваленыя палітычныя зьняволеныя, ніякіх афіцыйных міжнародных кантактаў з уладамі Беларусі быць не павінна*.

Тое, што выступ праваабаронцаў у Страсбуры выклікаў у Менску такую рэзкую рэакцыю, тое, што іх выступы прывязалі да тэракту, абурыла і насьцярожыла палітыкаў у Радзе Эўропы. Дыплямата Бушылу нават запрасілі да кіраўніцтва Палітычнага камітэту і папрасілі папярэдзіць МЗС Беларусі, што будуць сачыць, як будзе разьвівацца сытуацыя па вяртаньні беларускіх праваабаронцаў у Менск.

«Вядома, мы з Алесем падрабязна абмеркавалі гэтую сытуацыю і вырашылі, што мы ня будзем мяняць сваіх плянаў, будзем вяртацца ў раней вызначаны тэрмін. Толькі папрасілі, каб нас сустракалі ў аэрапорце нашыя калегі. Апасеньні сапраўды былі,

* Радыё Свабода, 12.04.2011.

найбольш з той прычыны, што гэта зьвязвалася з тэрактам», — згадвае Алена Танкачова.

Амаль адначасова са страсбурскай дыскусіяй пра Беларусь у Люксэмбургу на пасяджэньні Рады міністраў замежных спраў Эўразьвязу абмяркоўвалі эканамічныя санкцыі супраць афіцыйнага Менску. Але ніякага рашэньня ўхвалена не было. Па-першае, наконт санкцыяў не было кансэнсусу, а па-другое, Эўразьвяз не наважыўся рабіць нейкія захады на наступны дзень пасьля менскага тэракту.

Значна пазьней, 20 чэрвеня, Рада Эўразьвязу ўхваліла новыя абмежавальныя захады супраць Аляксандра Лукашэнкі і ягонага атачэньня. Пад эканамічныя санкцыі падпалі тры фірмы, якія кантралюе бізнэсовец Уладзімер Пефціеў: кампанія «Белтэхэкспарт», што займаецца продажам зброі, апэратар лятарэй «Спорт-пары» і прыватнае ўнітарнае прадпрыемства «БТ Тэлекамунікацыі». Апрача таго, быў зацьверджаны сьпіс забароненых на продаж у Беларусь тавараў, якія могуць выкарыстоўвацца для ўнутраных рэпрэсіяў — зброя, паліцэйская амуніцыя, спэцмашыны, выбухоўка, прыборы начнога бачаньня і іншае.

## Папярэджаньні

Тое, што ўлады пасьля разгону Плошчы ня будуць «цырымоніцца» з Алесем Бяляцкім, пацьвярджалася некалькі разоў.

14 студзеня 2011 году афіцыйнае выданьне «СБ. Беларусь Сегодня» апублікавала на замову Аляксандра Лукашэнкі рассакрэчаныя апэратыўныя

матэрыялы КДБ пра падзеі, зьвязаныя з Плошчай. Артыкул называўся «За кулісамі адной змовы»*.

Там былі прадстаўленыя фатакопіі расьпісак зь «Вясны» (пра іх падрабязна распавядаецца ў разьдзеле «Цень Ананіма»), а таксама фрагмэнт электроннай перапіскі праз «Скайп», якая нібыта адбылася паміж Бяляцкім і каардынатарам польскага фонду «Свабода і дэмакратыя» наконт грошай ад ураду Польшчы для падтрымкі рэпрэсаваных у Беларусі ў суме 200 тысяч злотых (70 тысяч даляраў ЗША).

У інтэрвію «Эўрарадыё» Алесь адрэагаваў на публікацыю так: «У „СБ" надрукаваная мана. Мэта гэтай акцыі — скампрамэтаваць грамадзянскую супольнасьць, няўрадавыя арганізацыі і палітычныя партыі. Падобнае працягваецца ўжо 20 гадоў. Штосьці новае цяжка паказаць, але почырк адзін»**.

Роўна праз месяц пасьля публікацыі, 14 лютага, Бяляцкаму патэлефанаваў намесьнік начальніка аддзелу Генэральнай пракуратуры Павал Елісееў і выказаў жаданьне пагутарыць наконт дзейнасьці Праваабарончага цэнтру «Вясна». 16 лютага Бяляцкі атрымаў афіцыйнае папярэджаньне Генэральнай пракуратуры «пра недапушчальнасьць парушэньня заканадаўства аб дзейнасьці ад імя незарэгістраванай арганізацыі». Папярэджаньне пагражала крымінальным перасьледам паводле

* За кулисами одного заговора // СБ. Беларусь Сегодня, 15.01.2011.

** Алесь Бяляцкі пра публікацыю ў «СБ»: Такой размовы па Скайпе не было // Эўрарадыё, 14.01.2011.

артыкула 193.1 Крымінальнага кодэксу (пакараньне — да 2 гадоў зьняволеньня).

Алесь Бяляцкі з гэтай нагоды заявіў, што Генпракуратура парушыла ягоныя канстытуцыйныя правы, у тым ліку права на свабоду асацыяцыяў*.

Алесь абскардзіў гэтае папярэджаньне ў судзе Цэнтральнага раёну Менску. Суд не задаволіў скаргу. У гарадзкім судзе Менску скаргу разглядалі 11 жніўня, ужо без Алеся, ён быў затрыманы. Спадзеву на тое, што суды могуць скасаваць папярэджаньне, не было, але Бяляцкі мусіў выканаць усе ўнутраныя судовыя працэдуры, каб затым зьвярнуцца са скаргаю ў Камітэт правоў чалавека ААН. Як прызнаўся мне Валянцін Стэфановіч, давесьці да канца гэтую справу не ўдалося, бо з арыштам Алеся навалілася шмат іншых праблем.

У сакавіку 2011 году Мін'юст Беларусі накіраваў запыт пра рахункі Бяляцкага ў Літву і Польшчу, а ў красавіку і чэрвені былі атрыманыя адказы. Напрыканцы чэрвеня Алеся запрасілі ў падатковую інспэкцыю Першамайскага раёну. Там яму выдалі акт камэральнай падатковай праверкі (такая праверка праводзіцца згодна з артыкулам 70 Падатковага кодэксу на падставе вывучэньня дэклярацый і іншых дакумэнтаў, прадстаўленых платнікам, або іншай законна атрыманай інфармацыі). Праз некалькі дзён у падатковай інспэкцыі Партызанскага раёну Менску такія ж дакумэнты выдалі на рукі і Валянціну Стэфановічу.

* Артыкул 193.1 – нонсэнс у сусьветным маштабе. Алесь Бяляцкі абскарджвае папярэджаньне Генпракуратуры ў судзе // Права на волю. Праваабарончы бюлетэнь. 2011. № 2. С. 2.



Генпракурор Рыгор Васілевіч, які вынес папярэджаньне Бяляцкаму.

Да актаў прыкладаліся раздрукоўкі з банкаўскіх рахункаў у Літве на імя Бяляцкага і Стэфановіча.

Як кажа Стэфановіч, гэтыя раздрукоўкі былі часткова перакладзеныя на расейскую мову, не замацаваныя пячаткамі і подпісамі службовых асобаў. У актах было напісана, што падатковымі інспэкцыямі была праведзеная камэральная праверка фізычных асобаў, якія не зьяўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, і ўстаноўлена, што на іх рахункі паступілі пэўныя сумы, якія зьяўляюцца іх асабістым даходам. Гэтыя даходы, паводле інспэкцыі, падлягаюць падаткаабкладаньню. Да актаў былі прыкладзеныя разьлікі аплаты падатку і пені. Пра тое, якім чынам была атрыманая гэтая інфармацыя, нічога не паведамлялася.

Разьлікі падаткоўцаў паказвалі, што Бяляцкі можа падпасьці пад крымінальны перасьлед, бо

«ўтоеныя» ім даходы адпавядалі «асабліва буйному памеру» — больш за 1000 базавых велічынь.

На раздрукоўках з банку стаялі штампы ДФР.

«Гэта значыла, што гэтая інфармацыя ўжо была там, і мы ня ведалі, заведзена справа ці не. Мы ўсьведамлялі, што гэта было пытаньнем часу, — прызнаецца Стэфановіч. — Згодна з Падатковым кодэксам асоба мае права напісаць пярэчаньні на акт камэральнай праверкі. Што намі і было зроблена. Паколькі з актаў не вынікала, на падставе якіх прававых працэдур атрыманая гэтая інфармацыя, мы выказалі сумнеў наконт яе законнасьці, а па-другое, аспрэчылі кваліфікацыю гэтых сум як нашых даходаў».

На свае пярэчаньні Бяляцкі і Стэфановіч у канцы ліпеня поштай атрымалі пісьмовыя заключэньні са сваіх падатковых інспэкцыяў.

«Яны былі напісаныя зусім аднолькава, слова ў слова. У іх сьцьвярджалася, што высновы актаў праверак правільныя, а нашыя пярэчаньні не знайшлі пацьвярджэньня. Апрача таго, было сказана, што банкаўская інфармацыя атрыманая зь Мін'юста Літвы ў межах дамовы аб прававой дапамозе», — згадвае Стэфановіч.

Наступным крокам паводле працэдур, вызначаных Падатковым кодэксам, было прыняцьце рашэньня па выніках праверкі. Менавіта гэты дакумэнт цягне за сабою прававыя наступствы, у тым ліку абавязак сплаты падаткаў, а таксама можа служыць падставай для завядзеньня адміністрацыйнай або крымінальнай справы.

«Грамадзянін мае права аспрэчыць гэтае рашэньне ў судовым парадку і прадставіць там свае

доказы. Паралельна мы пачалі зьбіраць такія доказы ў выглядзе дакумэнтаў ад донараў, якія пералічвалі грошы на рахункі. Праблема была ў тым, што гэтыя дакумэнты павінны былі быць адпаведна афармленыя, з выкарыстаньнем апастылю, і гэта не рабілася так хутка. Мы дамовіліся з Алесем, што як толькі атрымаем рашэньні, адразу робім прэсавую канфэрэнцыю і абавязкова абскарджваем іх у судовым парадку. Гэта дало б нам магчымасьць выйграць час і належным чынам падрыхтаваць дакумэнты для абароны. Але рэалізаваць гэта ўжо не давялося. Маё рашэньне было прынятае падатковай 3 жніўня 2011-га, і яго атрымала па пошце мая жонка, бо я з 4 жніўня два месяцы быў вымушаны правесьці па-за межамі Беларусі. Алесь жа азнаёміўся з рашэньнем падатковай інспэкцыі ўжо ў сьледчым ізалятары, бо 4 жніўня ён быў арыштаваны. Ні я, ні ён абскардзіць рашэньні падатковай у судзе ўжо не пасьпелі», — распавёў Валянцін Стэфановіч.

Сума ягоных незадэкляраваных «даходаў» цягнула на адміністрацыйную адказнасьць, бо яна складала менш за 1000 базавых велічынь. А вось супраць Алеся на падставе гэтых дакумэнтаў завялі крымінальную справу.

У ліпені 2011 году Бяляцкі ня раз выяжджаў за межы Беларусі. Безь перашкодаў. Здавалася б, пераканаўся ў безнадзейнасьці спробаў давесьці нешта падаткоўцам, у тым, што справа замоўленая на самым версе ўлады і што распрацоўваюць яе насамрэч спэцслужбы, а не фінансавыя органы. Здавалася б, мог не аднойчы застацца за мяжою. Але не застаўся.

## Чаму ня зьехаў?

Калегі зь «Вясны» раілі Алесю зьехаць на нейкі час у Вільню, адкуль ён мог бы працягваць кіраваць арганізацыяй.

«Усе сыходзіліся на тым, што будзе крымінальны перасьлед. І Алесь гэта добра разумеў. Мы ўсе прапаноўвалі яму зьехаць, і я, і Валянцін Стэфановіч, і Таццяна Равяка, і паасобку, і разам, але ён катэгарычна адмовіўся. Алесь ведаў, што яго могуць у любы момант арыштаваць, і рыхтаваў нас да гэтай сытуацыі», — згадвае Ўладзімер Лабковіч.

«Алесь адмовіўся. Ён сказаў, што гэта тое, чаго ўлады і жадаюць: яны дамагаюцца, каб я зьехаў, таму і прадэманстравалі гэтыя паперы і даюць час… Трэцяга жніўня я бачыў яго апошні раз перад арыштам, я ехаў у Вільню ў праваабарончую школу, а потым хацеў паехаць адпачыць на Балтыйскае мора. Мы зь ім разьвіталіся, пажартавалі, я сказаў, што 15 гадоў „Вясны" мы так і не адзначылі», — кажа Валянцін Стэфановіч.

Літоўскі палітык Юсьцінас Каросас прыгадвае, што палітыкі Літвы таксама засьцерагалі Бяляцкага ад вяртаньня ў Беларусь пасьля таго, як банкаўская інфармацыя на яго была перададзеная зь Вільні ў Менск. «У той час Бяляцкі быў у Літве, і рашэньне аб вяртаньні ў Беларусь належала выключна яму. Я чуў, як Бяляцкі адказваў, што ён грамадзянін і патрыёт Беларусі і што ягонае месца там»*.

У сям'і Бяляцкіх магчымы ад'езд сур'ёзна не абмяркоўваўся. І ніякіх захадаў, каб неяк абараніцца ад

* Тэлеканал «Белсат», 10.08.2011.

магчымых наступстваў, схаваць нейкія дакумэнты, Алесь не рабіў. Натальля Пінчук кажа:

«Тут усё было адназначна, у нас было такое маўклівае пагадненьне, што ён нікуды ня зьедзе, што ў нас усё канфіскуюць, што гэта можа выліцца ў сем гадоў турмы. Я моўчкі пагадзілася, ён зразумеў, што я яго падтрымліваю, і ўсё».

Марцін Угла, старшыня швэдзкай ініцыятывы за дэмакратыю і правы чалавека Östgruppen, на пытаньне, ці ня лепш было б Бяляцкаму зьехаць за мяжу, чым трапіць за краты, адказаў:

«Гэта вельмі мужнае рашэньне. Вядома, нас усіх вельмі хвалюе сытуацыя і тое, што пагражае Алесю. Я магу толькі сказаць, што ягонае рашэньне паказвае, наколькі ён гатовы ахвяраваць сабою для свабоды Беларусі»*.

Палітычная эміграцыя за час праўленьня Лукашэнкі стала ў Беларусі звыклай справай: дзясяткі, калі ня сотні чалавек скарысталі такую магчымасьць, у тым ліку людзі, якія прэтэндавалі на ролю грамадзкіх лідэраў, але мусілі ратавацца ад перасьледу ўладаў. Чарговую хвалю палітычнай эміграцыі выклікалі нечуваныя рэпрэсіі пасьля разгону Плошчы-2010. Алесь таксама меў магчымасьць пазьбегнуць турмы, але не скарыстаў яе. Чаму?

Спадзеву на выпадак, на тое, што «пранясе», не засталося. Арышт быў немінучы, але ён не выглядаў для Бяляцкага поўным крахам жыцьцёвых плянаў. Зьвязаныя з арыштам пэртурбацыі Алесь успрымаў як тое, што ён мусіць перажыць, як аба-

* Марцін Угла: Улады Беларусі можна прымусіць вызваліць палітвязьняў // Сайт Праваабарончага цэнтру «Вясна», 02.11.2011.

вязак. Памятаеце ўжо цытаваныя ягоныя словы ў лісьце з турмы? «Знаходжуся там, дзе і павінен быць праваабаронца пры такой сытуацыі ў краіне».

Падобным чынам павёў сябе расейскі бізнэсовец Міхаіл Хадаркоўскі, які стаў галоўным палітвязьнем Уладзімера Пуціна. Хадаркоўскі меў магчымасьць не вярнуцца ў Расею, але вярнуўся і на доўгія гады трапіў у турму.

«Чаму Міхаіл вярнуўся ў Расею, хоць разумеў, што чакае яго ў краіне? Ці вы як бацькі не шкадуеце, што ён не падумаў пра сям'ю?» — спытаўся журналіст польскага часопіса Wprost у ягоных маці і бацькі.

«Ён мае такі характар. Не ўцякае ад цяжкасьцяў, наадварот: сам іх да сябе прыцягвае. Гэта страшны выбар: паміж свабодай і сумленьнем. Міхаіл мяне калісьці спытаў: а што б ты зрабіла? Я адказала, што зрабіла б гэтаксама», — адказала маці. А бацька дадаў: «Калі б у свой час ён уцёк, то мы б мелі да яго прэтэнзіі з гэтай нагоды»*.

## Арышт

Бяляцкага затрымалі ў 16.45 4 жніўня 2011 году на плошчы Перамогі ў Менску, непадалёк ад ягонай кватэры. Здарылася гэта каля ўваходу ў мэтро побач з крамай «Каравай». Там стаяў супрацоўнік ДФР у цывільным, які спыніў Алеся, паказаў сваё пасьведчаньне і папрасіў падыйсьці ў двор да машыны, старой «Волгі», у якой былі іншыя супрацоўнікі. Бяляцкі згадзіўся.

* Jak trudno czekać na syna // Wprost. 2011. № 51/52.

Пазьней у лісьце з турмы Алесь згадваў гэты момант:

«Памятаю, што ён быў прыкметна ўсхваляваны. У яго перасякаўся голас і дрыжэлі рукі».

Каля машыны Алесю паказалі пастанову аб затрыманьні і ордэр наператрус жытла. Яшчэ каля мэтро Бяляцкі пасьпеў патэлефанаваць Лабковічу: «Уладзя, мяне затрымалі». Патэлефанаваў Алесь і жонцы, але нічога сказаць ня змог. Натальля ў слухаўку пачула ўрыўкі фразаў ягонай размовы з апэратыўнікамі, зь якіх зразумела: Алеся арыштоўваюць.

Пасьля гэтага Алеся прывялі дахаты. У пад'езьдзе была замінка — шукалі панятых. Імі пагадзіліся быць Алесевы сусед і суседка. Чакалі некага з начальства. У кватэры былі жонка Бяляцкага Натальля і 22-гадовы сын Адам. Яны пачулі званок у дзьверы, Натальля адчыніла.

«Мы з Адамам паспрабавалі іх спыніць у дзьвярах, папрасілі прадставіцца, каб перапісаць прозьвішчы. Яны назваліся: Баршчэўскі, Кулак, Нехвядовіч і Пазьняк, супрацоўнікі ДФР. Яшчэ адзін апэратыўнік здымаў усё на камэру. Усе былі ў цывільным, у кашулях ці футболках з кароткімі рукавамі».

Як распавядае Натальля, першым у кватэру зайшоў Кулак з ордэрам наператрус, астатнія крыху пазьней. Яна паспрабавала выйсьці ў суседні пакой, але Кулак з парога закрычаў: «Усім стаяць, нікуды неісьці». Адам сказаў ёй: «Мама, ідзі».

«Мама разгубілася, і я хацеў неяк адгарадзіць яе ад гэтых людзей, папрасіў яе сысьці ў іншы пакой»,

— згадвае Адам Бяляцкі. Натальля паслухалася сына:

«Я бачыла злосны твар гэтага мужчыны, баялася, але тым ня меней пачала рухацца. Тады ён кінуўся да мяне, але заступіўся Адам».

Адам нечакана для Кулака адпіхнуў яго ад маці і сказаў, што маці мае права хадзіць дзе хоча. Той зьбянтэжыўся і прапусьціў Натальлю, але выклікаў двух міліцыянтаў у масках, якія стаялі каля пад'езду. Алесь мяркуе, што гэта былі спэцназаўцы.

Спэцназаўцы схапілі Адама за рукі і спыталі ў Кулака: «Надзець яму кайданкі?» Той адказаў: «Пакуль ня трэба». Увесь наступны час спэцназаўцы стаялі каля Адама або рухаліся па кватэры за ім.

Алесь і Адам запатрабавалі ад міліцыянта ў цывільным, які здымаў усё на відэа, прадставіцца. Але той толькі агрызнуўся на Адама: «Што, у цябе здароўя вагон, б...? Зараз будзем разгружаць. Калі б ты трапіў да мяне, я б з табою хутка разабраўся і зьбіў бы тваё нахабства», — згадвае Адам.

Алесь абсек гэтага апэратыўніка:

«Паглядзі на сябе, прыйшоў наператрус у драных джынсах і залатым ланцугу на шыі, у такой вопратцы ты больш падобны да бандыта, а не супрацоўніка міліцыі».

Інспэктар Кулак пасьля інцыдэнту заявіў, што будуць шукаць фінансавыя дакумэнты і грошы. Размаўляў ён строга, афіцыйна, згадвае Натальля. Інспэктары спачатку абшукалі кухню, потым падзяліліся на дзьве групы і пачалі абсьледаваць пакоі. У пакоі Адама пры гэтым прысутнічала Натальля, у спальні — Алесь.

«Абшуквалі ўсё: паперы, бялізну, адзеньне ў шафах, паглядзелі ложак пад матрацам, заходзілі ў прыбіральню, ванны пакой, перабралі ўсю брудную бялізну, якую я ім вываліла з кантэйнэра. Пазьней мяне паклікалі ў спальню, каб прынесла ключ ад шафы. Там было так шмат народу, што я падумала, што іх пракантраляваць немагчыма, могуць падкінуць што-небудзь», — распавядае Натальля.

Апэратыўнікі забаранялі сям'і адказваць на тэлефанаваньні, але пусьцілі ў кватэру сяброўку Адама, якая прынесла кніжку. Дзяўчына пабыла 5 хвілін, папіла вады на кухні, пагутарыла з Адамам і сышла.

Усё разам доўжылася больш за гадзіну. «Апэратыўнікі ўвесь час торгаліся і тэлефанавалі, просячы інструкцыяў», — згадвае ў лісьце з калёніі Алесь. Паводле пратаколу, ператрус у кватэры праводзіўся з 17.30 да 18.40.

Натальля кажа, што не перакінулася за гэты час з Алесем ані словам:

«Балюча было глядзець на Алеся, і я старалася не пазіраць у яго бок. Ён трымаўся добра, але я бачыла, што яму няёмка за тое, што прыносіць нязручнасьці ўласнай сям'і. Гэта быў ня першы ператрус у кватэры, перад тым быў ператрус 17 студзеня 2011 году, які праводзілі супрацоўнікі КДБ. Але гэтым разам у кватэры прысутнічалі ўсе сямейнікі. Я яго такім ня бачыла ніколі».

Пратакол ператрусу падпісаў маёр Данііл Пазьняк. Паводле гэтага дакумэнту, былі забраныя тры чарнавыя аркушы з рукапісам і тэкстам, «як мяркуецца, на польскай мове», ноўтбук, два сыстэмныя блёкі кампутараў, тэчка з дакумэнтамі, флэш-карты

**ПРОТОКОЛ ОБЫСКА**

г. Минск «04» [illegible] 2011 г.

[illegible]

(должность, классный чин, звание и фамилия лица, производящего процессуальное действие)

[illegible]

на основании постановления от «04» 08 2011 г., с участием понятых:

1. [illegible]

2. [illegible]

а так же специалиста —

(Ф.И.О., область специальных знаний)

в присутствии [illegible]

(фамилия, имя, отчество, адрес места жительства)

с соблюдением требований ст. ст. 208 и 210 УПК Республики Беларусь произвел обыск [illegible]

(где, у кого, по какому адресу)

В соответствии с требованиями ст.193 УПК Республики Беларусь, всем присутствующим разъяснено, что они вправе обращать внимание лица, производящего процессуальное действие, на все, что по их мнению может способствовать выяснению обстоятельств уголовного дела, а так же делать замечания, подлежащие занесению в протокол.

Кроме того, в соответствии с требованиями ст. ст.200 и 202 УПК Республики Беларусь специалисту и понятым были разъяснены их права, предусмотренные, соответственно, ст. ст. 62 и 64 УПК Республики Беларусь, а так же ответственность, установленная ст.133 УПК Республики Беларусь.

До начала производства процессуального действия в соответствии со ст. 193 УПК Республики Беларусь присутствующие лица были уведомлены о том, что в ходе обыска будут применятся

(наименование научно-технических средств)

Перед началом обыска гр-ну(ке) [illegible] было предъявлено постановление об этом от «04» [illegible] 2011 г., и предложено добровольно выдать подлежащие изъятию орудия преступления, предметы, документы и ценности, которые могут иметь значение для уголовного дела, на что он (она) [illegible]

(заявление об отсутствии таковых / добровольно выдал(а))

**после этого был произведен обыск, в результате которого обнаружено и изъято:**

| № п/п | Перечень изъятых предметов, с указанием количества меры, веса, индивидуальных признаков | Место обнаружения | стоимость |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| 1 | 3 [illegible] | [illegible] | |

Пратакол ператрусу кватэры Алеся Бяляцкага.

памяці, кампакт-дыскі, візыткі, мабільны тэлефон, дробныя грошы з розных краін... Забралі кампутар і 200 даляраў, якія належалі Адаму.

Калі скончылі афармляць паперы, Алесь, разьвітваючыся, абняўся з Адамам. Потым яму ўдалося неяк адысьці ад апэратыўнікаў, ён дастаў з кашалька грошы і перадаў жонцы, каб было на што жыць.

«Гэта адбылося неяк спантанна... А як мы тады разьвіталіся, я ўжо і ня памятаю», — кажа Натальля.

Ніякіх рэчаў Алесь з сабою ня ўзяў. Потым сям'ю разлучылі: адна група інспэктараў павезла Алеся наператрус офіса «Вясны», іншая забрала Натальлю з Адамам наператрус на лецішчы ў Ракаве. Алесь сам папрасіў Адама суправаджаць маці ў Ракаў.

«У Адама была тэмпэратура, ён быў прастуджаны. І галава ў мяне была забітая якраз тым, каб гэты ракаўскі вобшук, які будзе адбывацца безь мяне, прайшоў без нэрвовых зрываў жонкі і без наступстваў для здароўя Натальлі і Адама», — напісаў мне ў лісьце Алесь.

Натальля згадвае, што ўсю дарогу ў Ракаў апэратыўнікі маўчалі. Каля самой дачы іх чакала яшчэ адна група інспэктараў ДФР, і адзін зь іх, калі даведаўся, што справа зьвязаная з апазыцыяй, доўга абураўся, стараўся ўнікнуць падпісаньня пратаколу, казаў: «Нашто мне гэта, мне зусім мала да пэнсіі засталося». Пратакол ператрусу ў Ракаве падпісаў маёр фінансавай міліцыі Павал Шабека, на лецішчы забралі нэтбук і 40 кампакт-дыскаў.

Тым часам група інспэктараў ДФР на чале з маёрам Пазьняком (усяго шэсьць супрацоўнікаў

у цывільным, на дзьвюх цывільных машынах) павезла Алеся на сядзібу «Вясны».

Офіс «Вясны» месьціцца на праспэкце Незалежнасьці, 78а. Яшчэ з 14 гадзіны будынак быў аточаны апэратыўнікамі ў цывільным і з рацыямі. Уладзімер Лабковіч згадвае, што было іх больш за 10 чалавек. Пабачыўшы гэта, вясноўцы патэлефанавалі Алесю і папярэдзілі, каб ён не ішоў у офіс, а самі разышліся. Пасьля гэтага частка апэратыўнікаў зьехала. Як потым стала ясна — скіраваліся да Алеся дадому. Бяляцкі тым часам працаваў у сваёй кватэры, а як выйшаў на вуліцу, яго і затрымалі.

«Мы ўжо больш за месяц ведалі, што магчымы арышт Алеся, але да апошняга спадзяваліся, што гэтага ня здарыцца, — згадвае Тацяна Равяка. — У такіх сытуацыях за многія гады выпрацаваўся альгарытм паводзін, што ня трэба кідацца ў паніку, а рабіць адно, другое, трэцяе, для таго каб сытуацыю мінімізаваць: даць інфармацыю ў прэсу, трымаць сувязь зь сям'ёю, падтрымліваць яе».

Пасьля навіны пра затрыманьне Алеся Тацяна Равяка першай прыехала да офіса «Вясны». Каля 18-й гадзіны далучыліся Ўладзімер Лабковіч, Наста Лойка, журналісты, апазыцыйныя актывісты. Прыблізна гадзіну ўсе стаялі ў двары, чакалі.

«Алеся прывезьлі пасьля 19-й гадзіны, — кажа Равяка. — Зь ім было шэсьць апэратыўнікаў, у джынсах і маечках ці кашулях з кароткімі рукавамі, безь ніякіх апазнавальных знакаў. Пакуль ішлі, мне ўдалося перакінуцца з Алесем некалькімі словамі. Алесь сказаў, што яго падазраюць ва ўтойваньні даходаў з-за мяжы ў буйных памерах. Прывялі панятых з суседняга дому. Калі я сьледам за імі паспра-



Алеся прывезьлі да дому, у якім знаходзіцца офіс «Вясны». На заднім пляне — апэратыўнік ДФР.

бавала зайсьці ў пад’езд, дзьверы заблякавалі двое апэратыўнікаў. Адзін зь іх, лысы, у чорнай майцы, праз акенца ў дзьвярах паказаў мне непрыстойны знак, „фак“. Я папярэдзіла, што за такое ён можа атрымаць да 15 сутак за дробнае хуліганства, і сфатаграфавала ягоны жэст на тэлефон».

Іншы супрацоўнік здымаў Тацяну і ўсіх у двары на відэа.Ператрус доўжыўся гадзіну. Забралі дзьве паперкі.

Калі маёр Пазьняк і яшчэ два апэратыўнікі выводзілі Бяляцкага з пад’езду, той спыніўся перад выхадам, па-гаспадарску праўдзіў і замкнуў паштовую скрыню, сустрэў каля дзьвярэй Тацяну

Равяку і аддаў ёй ключы ад офіса, пры гэтым сказаў: «Трымайце „Вясну"!»

У двары Алесь пасьпеў сказаць калегам і журналістам, што ў ягонай кватэры забралі кампутары, флэшкі, а ў офісе — некалькі папер:

«А зараз вязуць ва ўправу ДФР, я так разумею, што будуць нейкія сьледчыя дзеяньні. Так што ўсім прывітаньне!»

Усхваляваная Таццяна Равяка правяла Алеся да машыны ДФР, каля якой яны абняліся на развітаньне.

Алеся пасадзілі ў старую «Таёту Карола» серабрыстага колеру са знакам «70» на заднім шкле, які павінны выкарыстоўваць кіроўцы са стажам да 2 гадоў, і транзытным нумарам «6АХ Т 7750».

Таццяна Равяка зьвярнула ўвагу на нумары:

«Розныя спэцслужбы выкарыстоўваюць такія нумары для таго, каб не засьвечвацца. Яны маскіруюць сваю прыналежнасьць да рэгіёну ці падраздзяленьня, каб дэзарыентаваць сьведак… Аўтобусы са спэцназам, які ўлетку 2011-га разганяў маўклівыя акцыі пратэсту ў Менску, прыяжджалі ўвогуле без нумароў».

Жыхар суседняга дому выказаў прэтэнзіі, што другая машына, на якой ехалі апэратыўнікі ДФР, зачапіла бампэр ягонага аўтамабіля. Ён абураўся, але інспэктары не зьвярнулі на яго ўвагі.

Алеся павезьлі на допыт у ДФР. Там яго ўжо чакаў адвакат Зьміцер Лаеўскі.

У той жа дзень Алеся ўзялі пад варту на 10 сутак да прад'яўленьня абвінавачаньня.

12 жніўня Бяляцкаму выставілі абвінавачаньне, тэрмін ягонага ўтрыманьня пад вартай у СІЗА № 1



Алеся саджаюць у машыну.

быў працягнуты на 2 месяцы. На ўсю маёмасьць Алеся пастановай сьледчай ДФР Тацяны Касынкінай ад 30 жніўня быў накладзены арышт. На гэтай падставе Менскае гарадзкое агенцтва дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельнага кадастру зафіксавала абмежаваньне правоў на кватэру, у якой жывуць Бяляцкія. 5 верасьня рэгістратар нерухомасьці Макоўская накіравала Натальлі ліст з паведамленьнем пра арышт кватэры.

20 верасьня інспэктар ДФР Анціпенка ў прысутнасьці Натальлі склаў пратаколы вопісу арыштаванай маёмасьці, унёсшы ў іх кватэру, у якой жывуць Бяляцкія, кватэру, у якой знаходзіцца офіс «Вясны», хату Алеся ў Ракаве і зямельны ўчастак. Быў арыштаваны і «Сітраен» Алеся, якім карыстаўся ягоны сын Адам. Машыну адагналі на штрафста-

янку яшчэ ў жніўні, а ў верасьні ключы і дакумэнты на машыну забраў той жа Анціпенка.

У сакавіку 2012 году, пасьля ўступленьня судовага выраку Бяляцкаму ў сілу, судовыя выканаўцы апісалі ўсю маёмасьць у ягонай кватэры: люстры, шафы, сталы… У красавіку апісалі маёмасьць на лецішчы, у траўні — у офісе «Вясны».

23 верасьня 2011-га Бяляцкі пачаў знаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы, 4 кастрычніка справу перадалі ў пракуратуру для далейшай перадачы ў суд, 20 кастрычніка — абвясьцілі дату і месца судовага працэсу: 2 лістапада, Першамайскі раённы суд Менску.

## Касынкіна

4 і 5 жніўня ў будынку ДФР Алеся дапытвалі ў прысутнасьці адваката Зьмітра Лаеўскага.

Вялікі шэры будынак ДФР, куды прывозілі на допыт Бяляцкага, не дамінуе на вуліцы Петруся Броўкі, але не заўважыць яго нельга. Тыпова казённая пабудова на чатыры паверхі з гладкім фасадам, без прыкметаў архітэктурнай фантазіі і аздабленьняў, але чыстая і дагледжаная, нагадвае казарму. Ніжнія вокны закратаваныя. Пры фасадзе няма ніводнага дрэва. На мапах Менску дом пазначаны як нежылы. Яго адразу хочацца хутчэй прамінуць. Зусім побач разбураецца будынак былога абласнога дзіцячага шпіталя, помнік функцыяналізму 1930–50-х гадоў, на рамонт якога грошай няма.

У будынку ДФР а 23 гадзіне 4 жніўня Алесь быў фармальна ўзяты пад варту. На пастанове пра



Будынак ДФР у Менску, дзе дапытвалі Алеся.

сваё затрыманьне ён напісаў: «З затрыманьнем ня згодны, вінаватым сябе не лічу».

Першую пасьля затрыманьня ноч Бяляцкі правёў у Савецкім РУУС Менску. У абед 5 жніўня сьледчы ДФР маёр Павал Шабека нават даў яму кароткае спатканьне з жонкай і дазволіў зьесьці прынесеныя ёй бутэрброды. Алесь спытаў у Натальлі, ці папярэдзіла яна ягонага брата Ўладзімера, каб не прыходзіў да іх у госьці, як папярэдне было дамоўлена. Брат Алеся Ўладзімер з жонкай Фарыдою за некалькі дзён перад тым прыехаў у Менск зь Ніжнявартаўску, яны спыніліся ў кватэры сястры Вольгі. На 5 жніўня Алесь быў запрасіўшы іх да сябе ў госьці.

Натальля зараз жа патэлефанавала Вользе і ска-

зала, што «госьці адмяняюцца, Алесь арыштаваны». Скасаваны быў ня толькі прыход брата ў госьці, а і ўсе іншыя пляны Алеся. У дзень арышту Бяляцкі рыхтаваўся да выкладаньня ў праваабарончай школе ў беларускім Доме правоў чалавека ў Вільні, празь некалькі дзён яго там чакалі навучэнцы. А яшчэ зьбіраўся адпачыць, упершыню за апошнія тры гады. Былі пляны скарыстаць для адпачынку на Балтыцы цёплае жнівеньскае надвор'е і палітычнае зацішша ў Беларусі, якое нібыта ўсталявалася пасьля рэпрэсіяў, судоў за Плошчу, «маўклівых» акцыяў пратэсту, якія ў тое лета прайшлі па многіх гарадах Беларусі.

Увечары 5 жніўня Натальля яшчэ раз змагла ўбачыць Алеся, калі зноў прыехала да будынку ДФР. Алеся вывелі адтуль, каб адвезьці ў сьледчы ізалятар, на «Валадарку». Натальля змагла аддаць яму перадачу з адзеньнем і ежай, а таксама кнігу Варлама Шаламава «Калымскія апавяданьні». Натальлі падалося, што досьвед Шаламава прыдасца Алесю ў беларускіх турмах.

Перад тым да Натальлі падышла сьледчая ДФР Касынкіна і сказала, што Алесь арыштаваны і будзе зьмешчаны ў сьледчы ізалятар на Валадарскага. «Я і так усё зразумела», — адказала Натальля.

«Мая справа вас паінфармаваць», — суха сказала Касынкіна.

Наступны раз Натальля пабачыла мужа ў судовай клетцы, а спатканьне атрымала пасьля выраку.

Увечары 5 жніўня Камітэт дзяржаўнага кантролю апублікаваў на сваім сайце «Афіцыйнае паведамленьне для СМІ» пра тое, што грамадзянін

Беларусі 1962 году нараджэньня не задэкляраваў звыш 1 мільярда рублёў даходу, атрыманага за мяжой, і супраць яго заведзена крымінальная справа паводле ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэксу. Прозьвішча Алеся не называлася. «У цяперашні час праводзяцца сьледчыя дзеяньні», — так завяршалася паведамленьне.

Сьледзтва ў справе Бяляцкага вяла цэлая сьледчая група ДФР па Менску і Менскай вобласьці ў складзе 4-х чалавек на чале са старшым лейтэнантам Тацянай Касынкінай. У падпарадкаваньні гэтай маладой жанчыны былі сьледчыя — маёр Данііл Пазьняк, маёр Павал Шабека. Звычайна так не бывае, каб лейтэнанты кіравалі маёрамі. Справа ў тым, што, як удалося высьветліць Уладзімеру Лабковічу, сьледчую групу сфармавалі да арышту Алеся, уключыўшы ў яе гэтых маёраў. Але ўзначальваць групу ніхто не хацеў, таму і прызначылі маладую, амбітную сьледчую.

Чаму для падрыхтоўкі адносна невялікай (6 тамоў) справы Бяляцкага стварылі такую вялікую сьледчую групу? Уладзімер Лабковіч не выключае, што рыхтаваліся да справы ўсёй «Вясны».

Група Касынкінай вяла допыты Бяляцкага і сьведак. Сама Касынкіна паводзілася вельмі актыўна, езьдзіла да праваабаронцаў у іншыя гарады Беларусі, прылюдна давала ўказаньні маёрам, асабіста праводзіла допыт Натальлі Пінчук.

«Яна чалавек заўзяты, бачна, што працавала ахвотна. Натхнёная, як колішняя камсамолка», — згадвае Касынкіну жонка Бяляцкага. 20 верасьня, дапытваючы Натальлю, Касынкіна нават пагражала выгнаць яе адвакатку, калі тая зрабіла заўвагу

наконт ходу вядзеньня допыту, парушэньня ёю працэдуры. «Калі вы выганіце адвакатку, то пайду і я», — сказала на гэта Натальля.

Пасьля гэтага допыту Натальля падала Касынкінай заяву на спатканьне з Алесем з нагоды ягонага дня народзінаў 25 верасьня. На разгляд заявы Касынкінай спатрэбілася некалькі хвілін, пасьля чаго яна надрукавала пастанову: «Кіруючыся артыкуламі 36, 137 КПК Рэспублікі Беларусь, адмовіць у задавальненьні заяўленага хадайніцтва Пінчук Н.С.».

На сотні зваротаў людзей аб вызваленьні праваабаронцы пад паручальніцтва Касынкіна гэтаксама адказвала адмоўна.

Упэўненая ў сваіх дзеяньнях сьледчая асабліва не цырымонілася са сьведкамі, зваротамі людзей. За яе плячыма — дзяржаўны рэпрэсіўны апарат, скіраваны супраць тых, каго Лукашэнка раздражнёна называе «пятай калёнай»:

«Якая гэта апазыцыя: сёньня ў СМІ пайшлі прапановы, каб эканамічна задушыць Беларусь. Гэта ворагі народу, гэтая пятая калёна, таму ім усё дрэнна»*.

У барацьбе супраць ворагаў народу, як і ў сталінскія часы, усе сродкі добрыя. Гэта адносна міліцыянта Лінкуса, які арыштоўваў і запалохваў апазыцыянэраў, а потым зьбіў свайго падначаленага, можна праявіць гуманізм, пакінуць і на час сьледзтва, і пасьля вынясеньня выраку да разгляду касацыйнай скаргі на волі, пад падпіскай аб нявыезьдзе. Бо ён «сацыяльна блізкі» рэжыму. А

* Агенцтва БелТА, 07.07.2011.



Тацяна Касынкіна.

арыштаваныя апазыцыянэры і праваабаронцы мусяць сядзець за кратамі, — напэўна, такой лёгікай кіравалася і сьледчая Касынкіна.

Але ўдзел сьледчай групы Касынкінай і ДФР у справе Бяляцкага быў сымбалічны, — мяркуе Ўладзімер Лабковіч:

«ДФР да таго быў адзіным карным органам, які ня быў заплямлены палітычнымі рэпрэсіямі. Нават Мінабароны „адзначылася" палітычнымі прызывамі апазыцыянэраў у войска. Відаць, таму ў ДФР ніхто не хацеў брацца за справу Бяляцкага. Вось і знайшлі маладую супрацоўніцу, якая нядаўна зьявілася ў сыстэме ДФР і вырашыла зрабіць сабе на гэтым кар'еру. Яна з той самай хвалі маладых чыноўнікаў лукашэнкаўскага прызыву. Гэта мае равесьнікі, мы маглі разам вучыцца... Гэта гор-

шае пакаленьне чыноўнікаў, чым нават савецкае, у пляне беспрынцыповасьці і гатоўнасьці дзеля кар'еры на ўсё».

Да канца 2011 году Тацяна Касынкіна займала пасаду зь вельмі доўгай назвай, але сьціплую — сьледчая Другога сьледчага аддзяленьня Аддзелу папярэдняга расьсьледаваньня Ўправы Дэпартамэнту фінансавых расьсьледаваньняў Камітэту дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь па Менскай вобласьці і горадзе Менску.

На пачатку 2012 году Касынкіна зрабіла-такі кар'ерны крок: яе перавялі ў створаны Аляксандрам Лукашэнкам Сьледчы камітэт. Там яна заняла пасаду вядучага інспэктара групы па зваротах грамадзян Сьледчага камітэту па горадзе Менску. Паводле Лабковіча, тым самым Касынкінай аддзячылі, падвысілі на пасадзе. Але разам з тым яе фактычна адхілілі ад рэальных сьледчых дзеяньняў, прызнаўшы такім чынам недастатковую кампэтэнтнасьць, якую яна праявіла ў тым ліку як кіраўніца сьледчай групы ў справе Бяляцкага, — кажа Лабковіч.

Сама Тацяна Касынкіна ў размове са мною адмовілася ацаніць уплыў справы Бяляцкага на свой кар'ерны рост, пераадрасаваўшы пытаньне начальніку аддзелу кадраў. Нейкіх нотак сумневу наконт мэтазгоднасьці свайго ўдзелу ў палітычнай, па сутнасьці, справе супраць праваабаронцы, нейкага жалю, што яе выкарысталі і адхілілі ад іншых эканамічных спраў, з боку Касынкінай я таксама не пачуў. На новым месцы яна размаўляла па-камсамольску бадзёра, упэўнена. Касынкіна далей служыць уладзе, выконвае загады начальства,

адмаўляецца ад інтэрвію бяз санкцыі кіраўніка. Яна робіць кар’еру, справа Бяляцкага — адзін зь яе этапаў.

Алесь Бяляцкі ў лісьце з турмы гэтак ацаніў ролю Касынкінай у ягонай справе:

«Мне падаецца, што яна так да канца і не зразумела, чым яна займалася. Хітрыя мужыкі самі не хацелі ўмазвацца ў відавочны гной. Вось і разьмеркавалі справу на маладога працаўніка. Яе прысутнасьць у справе была даволі фармальная. Там шмат ляпаў чыста фармальных, якія проста зьдзіўляюць. Відавочна, што ці то намаганьняў вялікіх яна не прыкладала, ці то ёй проста не хапіла ахайнасьці і прафэсіяналізму».

## 4 лістапада 2011 году.
# Суд. Дзень трэці. Дакумэнты

Крымінальная справа Бяляцкага на момант пачатку працэсу налічвала шэсьць тамоў. Амаль тры зь іх — шматлікія, сотні і сотні, паручальніцтвы з просьбай выпусьціць Алеся з-пад арышту. Усе яны суправаджаюцца адмовамі сьледчай Касынкінай. Сярод іншага — нібыта банкаўскія дакумэнты на Алеся зь Літвы і Польшчы. Некаторыя матэрыялы справы былі здабытыя апэратыўным шляхам бяз санкцыі пракурора, і таму суд мусіў бы ацаніць іх як парушэньне закону, за што адказнасьць нясе сьледзтва. Ёсьць у справе і ананімны ліст, зь якога пачаўся апэратыўны перасьлед Бяляцкага. Гэта — па-за межамі юрыспрудэнцыі, як заявіў адвакат Лаеўскі. Часам у ходзе судовага працэсу Бяляцкі сам «лавіў» сьледчых на грубых памылках, якія сьведчылі пра тэндэнцыйны характар іхнай працы: «Вось сьледчая Касынкіна піша: „Таксама ўстаноўлена, што...” А дзе і кім устаноўлена, не падае зусім. Гэта сьведчыць пра неабгрунтаваны абвінаваўчы ўхіл сьледзтва», — заявіў падсудны на працэсе.

Пра тэндэнцыйны характар сьледзтва сьведчыць ня толькі неахайнасьць у дакумэнтах і неабгрунтаванасьць у аргумэнтах, але і нежаданьне Касынкінай выконваць тыя працэдуры, якія маглі б зьмяніць ход працэсу на карысьць абвінавачанага.



Алесь Бяляцкі ў часе працэсу.

Намесьнік пракурора Менску Казімір Кежун пасьля арышту Бяляцкага даваў сьледзтву даручэньне высьветліць, хто перасылаў грошы на рахунак Бяляцкага, якім было мэтавае выкарыстаньне гэтых сродкаў, а таксама ці ўвозіў Бяляцкі грошы ў Беларусь праз мяжу. Абарона настойвала на выкананьні гэтых даручэньняў і заяўляла хадайніцтвы сьледзтву, але сьледзтва іх праігнаравала. А вось санкцыі намесьніка пракурора Менску на апэратыўна-вышуковую дзейнасьць, у выніку якой пасьляператрусу 19–20 сьнежня 2010 году былі вынятыя 27 тысяч кампутарных файлаў, у крымінальнай справе няма. Затое ёсьць у ёй дакумэнты, якія сьведчаць, з чаго насамрэч пачалася справа Бяляцкага.

## Сьлед КДБ

Пракурор Валеры Сайкоўскі чытаў матэрыялы справы хутка і ціха, часамі цяжка было разабраць словы. Скорагаворкай ён прачытаў і лісты, падпісаныя кіраўніцтвам КДБ. Таму ў трэці дзень працэсу сам Бяляцкі ўмяшаўся ў ход вывучэньня пісьмовых матэрыялаў, яшчэ раз агучыў і пракамэнтаваў гэтыя дакумэнты.

Ён зьвярнуў увагу суду на тое, што супрацоўнікі КДБ у лістападзе 2010 году напісалі ліст у Генпракуратуру пра атрыманы імі ананімны зварот. У звароце гаварылася, што кіраўнікі «Вясны» маюць банкаўскія рахункі ў Літве і выкарыстоўваюць атрыманыя на іх сродкі «ў супрацьпраўных мэтах». Гэты ананімны ліст нібыта і прывёў да пачатку расьсьледаваньня, хоць паводле Крымінальна-працэсуальнага кодэксу ананімкі ня могуць служыць падставай для вышукова-сьледчых дзеяньняў, якія пачала пракуратура, а потым працягнуў ДФР.

«Я ня ўпэўненая, ці быў нават гэты ананімны ліст. Насамрэч была замова ад уладаў, пасьля чаго і пачаўся перасьлед. А ліст маглі пазьней сфабрыкаваць», — кажа пра гэты момант Таццяна Равяка.

Усяго Алесь Бяляцкі зачытаў 4 дакумэнты справы, дзе адпраўнікам або атрымальнікам ёсьць КДБ.

Першы дакумэнт — зварот намесьніка старшыні КДБ генэрал-маёра Віктара Вягеры, які курыруе ў ведамстве контравыведную дзейнасьць, да намесьніка генпракурора Беларусі старшага саветніка юстыцыі Андрэя Шведа. Ліст датаваны 3 лістапада

2010 году (старонка 15-я першага тома матэрыялаў крымінальнай справы):

*Паважаны Андрэй Іванавіч,*

*28.10.10 у Камітэт дзяржаўнай бясьпекі паступіла ананімная заява № АБ 1776 ад 28.10.10 пра тое, што прадстаўнікі незарэгістраванай арганізацыі „Праваабарончы цэнтар „Вясна” (ПЦ „Вясна”) з мэтай фінансаваньня радыкальнай апазыцыі выкарыстоўваюць грашовыя сродкі, якія паступаюць з-за мяжы.*

*Так, на імя кіраўніка ПЦ „Вясна” Бяляцкага Аляксандра зарэгістраваны рахунак* [указваецца нумар рахунку] *у банку AB DNB NORD bankas (Вільня, Літва). На імя намесьніка кіраўніка ПЦ „Вясна” Стэфановіча Валянціна зарэгістраваны рахунак у банку AB SEB bankas.*

*Заяўнікам* [ананімам. — В.К.] *прадстаўленыя ксэракопіі дакумэнтаў пра зарэгістраваныя на імёны Бяляцкага і Стэфановіча рахункі ў названых банках, а таксама рух грашовых сродкаў (прыкладаюцца). Названыя грашовыя сродкі ўвозяцца наручным спосабам прадстаўнікамі ПЦ „Вясна” ў аб’ёмах, дапушчальных заканадаўствам, і выкарыстоўваюцца ў супрацьпраўных мэтах, а таксама для асабістых патрэбаў Бяляцкага і Стэфановіча.*

*Акрамя гэтага, заяўнікам прадстаўленыя асобныя копіі расьпісак грамадзян Рэспублікі Беларусь аб прадстаўленьні Бяляцкім і Стэфановічам грашовых сродкаў прадстаўнікам ПЦ „Вясна” (прыкладаюцца). Разам з тым прыняць законнае абгрунтаванае рашэньне па матэрыялах не ўяўляецца магчымым праз адсутнасьць афіцыйных*



Старшыня КДБ Вадзім Зайцаў.

*дадзеных пра факты рэгістрацыі Бяляцкім і Стэфановічам банкаўскіх рахункаў у Літве, а таксама руху грашовых сродкаў на ўказаных рахунках.*

*З улікам выкладзенага просім у максымальна сьціслыя тэрміны аформіць міжнароднае сьледчае даручэньне для яго накіраваньня ў кампэтэнтныя органы Літвы. Намі дасягнутая дамоўленасьць з кіраўніком Нацыянальнага Цэнтральнага Бюро Інтэрполу МУС Рэспублікі Беларусь пра неадкладнае накіраваньне міжнароднага сьледчага даручэньня па каналах Інтэрполу ў Літву.*

Намесьнік генэральнага пракурора Швед гэты зварот перанакіраваў намесьніку старшыні КДК, дырэктару ДФР палкоўніку фінансавай міліцыі Рыгору Верамко. Ад сябе Швед прыпісаў:

*Дырэктару Дэпартамэнту фінансавых рассьледаваньняў Верамко Р. І. накіроўваецца зварот*

*Камітэту дзяржаўнай бясьпекі адносна кіраўнікоў ПЦ „Вясна“ для арганізацыі праверкі і прыняцьця рашэньня ў парадку артыкула 174 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу сумесна з супрацоўнікамі КДБ. Пра прынятае рашэньне прашу паведаміць на наш адрас.*

Яшчэ адзін зварот старшыня КДБ Вадзім Зайцаў накіраваў непасрэдна старшыні КДК Зянону Ломацю. Дакумэнт датаваны 21 сьнежня 2010 году:

*Паважаны Зянон Кузьміч,*

*20.12.10 СУ ПР ГУУС Менгарвыканкаму па факце масавых беспарадкаў узбуджана крымінальная справа № 10011110362 паводле часткі 1, 2 артыкула 293 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.*

*У рамках справы па месцы разьмяшчэньня офіса незарэгістраванай арганізацыі „Праваабарончы цэнтар „Вясна“ (г. Менск, пр-т Незалежнасьці 78А-48) Першамайскім РУУС г. Менску праведзеныператрус, у выніку якога канфіскавана аргтэхніка і дакумэнтацыя, якая мае дачыненьне да матэрыялаў праверкі ў дачыненьні да кіраўніка ПЦ „Вясна“ (знаходзіцца ў 4-м аддзеле УДФР па Менскай вобласьці і г. Менску). Агляд канфіскаваных прадметаў і дакумэнтаў будзе зьяўляцца легалізаванай доказнай базай у дачыненьні да згаданых асобаў. Аргтэхніка знаходзіцца ў Першамайскім РУУС г. Менску.*

*Інфармуем для вырашэньня пытаньня пра ўзбуджэньне крымінальнай справы ў дачыненьні да функцыянэраў ПЦ „Вясна“.*

*З павагай,*

*Старшыня камітэту В.Ю. Зайцаў.*

Зачытаўшы гэтыя дакумэнты, Алесь Бяляцкі заявіў суду:

«Я сьцьвярджаю, што гэтая справа пачыналася і праводзілася зь відавочным палітычным падтэкстам з мэтай перасьледу сяброў Праваабарончага цэнтру „Вясна", у прыватнасьці мяне, за праваабарончую дзейнасьць».

Зьяўленьне ананімкі прыпадае на лістапад 2010 году, калі ў офісе арганізацыі працаваў завербаваны КДБ «інсайдэр»*.

Размовы пра парушэньне Падатковага кодэксу і незаконнае ўзбагачэньне ў гэтай перапісцы не вялося, у лісьце Вягеры толькі згадвалася выкарыстаньне Бяляцкім і Стэфановічам сродкаў на «асабістыя патрэбы». Асноўнай прычынай непакою КДБ было тое, што рахункі нібыта выкарыстоўваліся «з мэтай фінансаваньня радыкальнай апазыцыі». Як вынікае з дакумэнтаў, сьледчыя органы меркавалі спачатку прыцягнуць Бяляцкага і Стэфановіча за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасьць. Аднак праверка, якую на працягу месяца праводзілі КДБ, ДФР і пракуратура Менску, ня выявіла прыкметаў такой дзейнасьці. Тады вырашылі інкрымінаваць нясплату падаткаў у асабліва буйных памерах.

Пазьней, у сваім апошнім слове, Бяляцкі цытаваў даклад старшага інспэктара ДФР маёра Юрыя Кулака ад 24 сьнежня 2010 году. Маёр Кулак паведамляў, што 23.11.2010 ім была праведзеная «*працоўная нарада з прадстаўнікамі КДБ Сінягубам і Мацкевічам* («Гэта, я падазраю, куратары „Вясны"», — дапусьціў Бяляцкі) *...па выніках якой*

* Гл. разьдзел «Цень Ананіма».

*выпрацаваныя напрамкі дзейнасьці па ўказаных матэрыялах праверкі».*

Менавіта дазнаўца КДБ маёр Дзьмітры Сінягуб кіраваў брыгадай опэрупаўнаважаных падчасператрусаў у офісе «Вясны» і ў кватэры Бяляцкіх 17 студзеня 2011 году. Капітан КДБ Аляксандар Мацкевіч быў у складзе гэтай брыгады.

25 лістапада 2010 году, піша далей Кулак, «*у пракуратуры гораду Менску была праведзеная працоўная нарада з начальнікам аддзелу па наглядзе за выкананьнем падатковага заканадаўства Сайкоўскім* (тым самым. — В.К.)*».*

Маёр Кулак працягвае: *«Выпатрабаваньне дэклярацыі пра даходы і маёмасьць Бяляцкага і Стэфановіча, а таксама праверка дакладнасьці ўказаных там зьвестак у цяперашні час праводзіцца падатковымі органамі ва ўзаемадзеяньні з супрацоўнікамі КДБ...»*

Гэта яшчэ раз дало Бяляцкаму падставу заявіць, што «справа гэтая ад пачатку да канца курыравалася КДБ».

Праверкі і перапіска паміж рознымі органамі працягваліся ўсю зіму, вясну і лета. У справе ёсьць пастанова аб завядзеньні крымінальнай справы ў дачыненьні да двух лідэраў «Вясны» — Бяляцкага і Стэфановіча. Пазьней яе скасавалі і працягнулі тэрмін праверкі. Яшчэ пазьней вырашылі завесьці крымінальную справу на аднаго Бяляцкага.

## Банкаўскія раздрукоўкі

На падставе інфармацыі Міністэрства юстыцыі Літвы журналісты склалі храналёгію дзеяньняў у справе перадачы інфармацыі пра банкаўскія зьвесткі Алеся Бяляцкага*.

2 лютага 2011 году. Ад Міністэрства юстыцыі Беларусі атрыманае хадайніцтва аб прававой дапамозе з просьбай падаць зьвесткі пра рух грашовых сродкаў на дзейных у Літве банкаўскіх рахунках прадстаўнікоў праваабарончай арганізацыі «Вясна» Алеся Бяляцкага і Валянціна Стэфановіча.

2 сакавіка. Гэтая просьба накіраваная для выкананьня ў адпаведныя банкі.

15 сакавіка. Банк DNB Nord падаў запатрабаваную ў хадайніцтве інфармацыю пра рахункі Бяляцкага.

15 сакавіка. Банк АО SEB адмовіўся выдаваць зьвесткі на Стэфановіча.

17 сакавіка. Міністэрства юстыцыі Літвы ў сувязі з гэтай адмовай падало пазоў на банк SEB у 2-гі Віленскі ўчастковы суд. Судзьдзя Юраце Гайдзіце-Лаўрыновіч абавязала банк выдаць інфармацыю.

Банк падпарадкаваўся рашэньню судзьдзі. Канчатковае рашэньне перадаць усе зьвесткі Менску прыняла і падпісала дырэктар Дэпартамэнту міжнароднага права Мін'юсту Літвы Аўшра Бярнацене.

28 сакавіка. Інфармацыя пра Бяляцкага адпраўленая Міністэрству юстыцыі Беларусі.

6 чэрвеня. Інфармацыя пра Стэфановіча адпраўленая Міністэрству юстыцыі Беларусі. Яшчэ

* Радыё Свабода, 10.08.2011.

чатыры заяўкі аб выдачы інфармацыі пра рахункі актывістаў «Вясны» задаволеныя не былі, у тым ліку паводле рашэньня таго ж Віленскага суду, як было з запытам на Тацяну Равяку. Суд адмовіў у выдачы яе банкаўскіх матэрыялаў, як мяркуе сама Тацяна, таму што яна ўзначальвае зарэгістраваную ў Літве арганізацыю «Дом правоў чалавека». Яшчэ тры запыты на вясноўцаў паступілі зь Менску пазьней і былі адхіленыя самім Мін'юстам Літвы.

21 чэрвеня. МЗС Літвы папрасіў Мін'юст часова прыпыніць выкананьне хадайніцтваў аб прававой дапамозе зь Беларусьсю.

4 жніўня. У Менску затрыманы Алесь Бяляцкі.

24 жніўня. Мін'юст Літвы накіраваў у Менск зварот, у якім заявіў, што перададзеная ім раней інфармацыя ад 28 сакавіка і 6 чэрвеня — несапраўдная і ня можа выкарыстоўвацца ў крымінальным працэсе.

Запыт аб рахунках Бяляцкага ў Польшчы быў накіраваны ў студзені 2011 году, спачатку непасрэдна ў банкі, а калі тыя адмовілі — у Генэральную пракуратуру Польшчы. Bank Śląski (Катавіцы) прадставіў у польскую пракуратуру зьвесткі па рахунку Бяляцкага за 2007–2011 гады 24 траўня 2011 году. Раздрукоўкі з Польшчы былі выдадзеныя ў Менск у канцы чэрвеня.

У жніўні прэсавы сакратар пракурора Польшчы Мацей Куяўскі паведаміў, што «са зьместу запыту на Бяляцкага не вынікала, што гаворка ідзе пра апазыцыйную дзейнасьць»*.

У абодвух выпадках у беларускага боку ў ад-

* Польскае радыё, 12.08.2011.

паведнасьці з двухбаковымі дамовамі аб прававой дапамозе не было падставаў накіроўваць такія запыты, а ў польскага і літоўскага — іх выконваць, паколькі крымінальнай справы на Бяляцкага яшчэ заведзена не было. Справа зьявілася толькі 4 жніўня 2011 году, у дзень ягонага арышту.

Тым ня меней гэтыя дакумэнты былі пакладзеныя ў аснову справы і разглядаліся судом. Польскія чыноўнікі, як і літоўскія, праявілі халатнасьць, якая скончылася прысудам праваабаронцу.

Толькі на трэці дзень працэсу раздрукоўкі былі перакладзеныя з замежных моваў. Пракурор агучыў ліст ад 7 сакавіка 2011 году, у якім літоўскі банк NORD піша ў Мін'юст Літвы, што рахунак Бяляцкага быў адкрыты ў 2009 годзе і што раздрукоўкі руху на ім грошай ня могуць быць завераныя гербавай пячаткай, таму што банк такой ня мае.

Дасланыя зь Літвы дакумэнты адвакат Лаеўскі назваў «ніяк не заверанай ксэракопіяй»:

«Няма нічыіх подпісаў і пячатак амаль на ўсіх аркушах, толькі на адным аркушы ёсьць нейкі подпіс. На такія зьвесткі суд ня можа зьвяртаць увагу».

NORD-банк як камэрцыйная ўстанова сапраўды можа ня мець гербавай пячаткі, якую звычайна маюць толькі дзяржаўныя ўстановы. А вось Мін'юст Літвы, які перадаваў гэтыя паперы беларускаму боку, дакладна мае гербавую пячатку. Але і ён не заверыў раздрукоўвак, якія ў выніку выглядалі як ксэракопіі. Такі «дакумэнт» сапраўды можна падрабіць на любым кампутары. Альбо ўнесьці праўкі ў той, які быў прысланы з банку. Таму наконт іх праўдзівасьці выказалі сумнеў і Бяляцкі, і ягоны адвакат.

Якасьць дакумэнтаў з польскага банку была такая самая — старонкі бяз подпісаў і пячатак. Адвакат Лаеўскі і іх назваў «нічым і нікім не заверанай ксэракопіяй». Табліцы зь нібыта рухам грашовых сродкаў па рахунку Алеся, перададзеныя з гэтага банку, ніяк не былі завераныя: «Гэты дакумэнт ня ёсьць доказам і ня можа ў прынцыпе дасьледавацца», — заявіў Лаеўскі.

Ён зьвярнуў увагу суду, што дамовы Беларусі аб прававой дапамозе зь Літвой і Польшчай патрабуюць, каб кожная старонка перададзеных матэрыялаў была завераная подпісам службовай асобы і гербавай пячаткай дзяржавы, якая іх выдае. Гэтага зроблена не было. І на гэтую акалічнасьць судзьдзя не зьвярнуў увагі, у сваім выраку вызначыўшы, што праўдзівасьць дакумэнтаў нібыта пацьвярджаецца суправаджальнымі лістамі зь Мін'юсту Літвы і Генпракуратуры Польшчы.

Адвакат у ходзе працэсу пярэчыў такой лёгіцы: пад гэтыя суправаджальныя лісты можна падкласьці і падробленыя дакумэнты.

Чаму аднячасова і Літва, і Польшча перадалі ў Беларусь дакумэнты, неадпаведныя патрабаваньням двухбаковых дамоваў зь Беларусьсю? Гэта можна патлумачыць хіба толькі практыкай, якая склалася ў двухбаковых дачыненьнях: з краіны ў краіну перадаецца маса дакумэнтаў, у тым ліку і банкаўскіх. А чыноўнікі не абцяжарваюць сябе выкананьнем фармальнасьцяў. І беларускі бок, Міністэрства юстыцыі, пракуратуру, суды гэта задавальняе. Парушэньні «ўсплылі» толькі ў працэсе Бяляцкага.

У абароны былі прэтэнзіі ня толькі да афарм-

леньня банкаўскіх матэрыялаў зь Літвы і Польшчы, але і да мэтаду іх атрыманьня. Адвакат Лаеўскі зазначыў, што сам зварот зь Менску ў літоўскі Мін'юст і польскую пракуратуру быў дасланы ў студзені 2011 году, за восем месяцаў да таго, як на Бяляцкага была заведзена крымінальная справа. Гэта супярэчыць беларуска-літоўскай і беларуска-польскай дамовам аб прававой дапамозе, якія патрабуюць, каб бок, які дасылае запыты, указваў, якая справа заведзена і што інкрымінуецца грамадзяніну. Гэта на першы погляд фармальны, але вельмі істотны момант, бо калі нейкія дзеяньні ня ёсьць злачыннымі паводле заканадаўства аднаго з бакоў дамовы, то гэта можа даваць падставы не выконваць запыт.

Але суд ня стаў вывучаць фармальны бок працэдуры атрыманьня дакумэнтаў, якія склалі аснову абвінавачаньня. Ня сталі таксама сьледзтва і суд дасьледаваць, ці былі грошы, пра якія йшлося ў раздрукоўках, прыбыткамі Бяляцкага. Суд кіраваўся лёгікай сьведак-падаткоўцаў: «Усё, што прыйшло на рахунак, — даход». Не накіравалі сьледзтва і суд запыты ў міжнародныя арганізацыі, якія прысылалі грошы на рахунак Бяляцкага, каб тыя патлумачылі, на якія мэты яны іх пераводзілі, ня высьветлілі яны ўрэшце, якім чынам гэтыя грошы былі патрачаныя.

У цэлым, паводле Лаеўскага, сьледзтва так і ня вызначыла, што з тых сумаў, якія былі агучаныя, лічыцца прыбыткам Бяляцкага. Калі Алесь здымае грошы з рахунку, ці значыць гэта, што «Бяляцкі імі распараджаецца», як сьцьвярджае пракурор?

Гэта азначае тое, што ён зрабіў банкаўскую апэ-

рацыю — зьняў грошы з рахунку, а зь якой мэтай ён гэта зрабіў, суд і сьледзтва так і не ўстанавілі, разважае Валянцін Стэфановіч. Бяляцкі мог перадаць грошы іншым праваабаронцам, аплаціць друк кніг, перадаць сем'ям палітвязьняў. І ён гэта рабіў. Але сьледзтва і суд не высьвятлялі ані мэтаў пераводу гэтых грошай на рахунак Алеся, ані іх фактычнага расходаваньня.

Інакш кажучы, суд не ўстанавіў фактаў выкарыстаньня Бяляцкім грамадзкіх грошай на асабістыя мэты.

## Тры тамы паручальніцтваў

Трэці, чацьвёрты і пяты тамы крымінальнай справы Бяляцкага складаюць асабістыя паручальніцтвы беларускіх грамадзян. Пракурор Сайкоўскі на трэці дзень працэсу выбарачна зачытаў адно з 816 такіх хадайніцтваў. І адмоўны адказ на яго сьледчай Касынкінай.

Пасьля арышту Бяляцкага адразу пачалася грамадзкая кампанія за яго вызваленьне пад паручальніцтва. Сярод ініцыятараў кампаніі былі Алесевы калегі — старшыня Беларускага Хэльсынскага камітэту Алег Гулак і ягоны намесьнік Гары Паганяйла. Яны самі прасілі вызваліць Алеся Бяляцкага з-пад варты, а таксама распрацавалі форму, якую маглі раздрукаваць з інтэрнэту, запоўніць і даслаць сьледчым іншыя грамадзяне.

Сваю адмову, адрасаваную Гулаку, сьледчая Касынкіна патлумачыла каротка: «5 жніўня 2011 году ў адносінах да Бяляцкага была абраная мера стрыманьня ў выглядзе заключэньня пад варту,



Алег Гулак.

падстаў для зьмены дадзенай меры стрыманьня няма».

Алег Гулак назваў такую матывацыю незаконнай:

«Крымінальна-працэсуальны кодэкс дакладна рэглямэнтуе, што меры стрыманьня могуць прымяняцца толькі ў тым выпадку, калі сабраныя доказы ў справе даюць дастатковыя падставы меркаваць, што падазраваны ці абвінавачаны можа схавацца ад органаў крымінальнага перасьледу ці суду, перашкодзіць расьследаваньню або разгляду справы судом, зьдзейсьніць грамадзка небясьпечнае дзеяньне, процідзейнічаць выкананьню прысуду. Акрамя таго, пры вырашэньні пытаньняў аб неабходнасьці ўжываньня меры стрыманьня павінен улічвацца

характар падазрэньня або абвінавачаньня, асоба падазраванага ці абвінавачанага.

У пастанове мы ня бачым нічога, што давала б нам разуменьне, чаму ўжытая менавіта гэтая, а ня іншая мера стрыманьня. Сьледчы ніякім чынам не аналізуе, ці ёсьць падставы для ўжываньня меры стрыманьня. Таксама няма ні слова пра характар падазрэньня або абвінавачаньня, пра асобу падазронага або абвінавачанага. Пры такіх абставінах мы ня можам казаць, што гэтая пастанова матываваная, і, адпаведна, яе нельга прызнаць законнай»*.

Адмову Касынкінай вызваліць Бяляцкага Гулак і Паганяйла абскардзілі ў пракуратуры Менску, але намесьнік пракурора гораду Казімір Кежун стаў на бок сьледзтва. Праваабаронцы не прызналі адказ Кежуна абгрунтаваным і законным, але фармальна яго не аспрэчылі — ужо набліжаўся судовы працэс.

Пастановы Касынкінай аспрэчвалі ня толькі Гулак і Паганяйла.

Актывісты з Гомеля Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка таксама паскардзіліся на яе ў пракуратуру Менску. Казімір Кежун адказаў ім, што мера стрыманьня выбраная з улікам «цяжару зьдзейсьненага злачынства і ўстаноўленых у справе акалічнасьцяў». Праваабаронцы не пагадзіліся зь ім і выступілі на сайце «Вясны» з заявай, у якой назвалі такое вызначэньне «парушэньнем артыкула 26 Канстытуцыі Беларусі, паводле якога ніхто ня можа быць прызнаны вінаватым у злачынстве, калі яго віна ня будзе ў прадугледжаным законам парадку

* Радыё Свабода, 19.08.2011.

даказаная і ўстаноўленая выракам суду, які ўступіў у законную сілу»*.

Яны зьбіраліся далей абскарджваць пастанову Кежуна, але падзеі разьвіваліся хутка, і гэта страціла сэнс, расказаў Леанід Судаленка.

Іншы праваабаронца, Сяргей Усьцінаў, таксама абскардзіў стандартную адпіску Касынкінай у пракуратуры Менску. Казімір Кежун і яму адказаў, што мера стрыманьня абраная правільна і падставаў для адміністрацыйнай адказнасьці сьледчай Касынкінай за парушэньне заканадаўства аб зваротах грамадзян няма.

Але пракурор Кежун знайшоў у адпісцы Касынкінай адзін фармальны недахоп — яна ў сваёй пастанове не паведаміла пра парадак яе абскарджваньня. У сувязі з гэтым пракурор прапанаваў кіраўніку аддзелу папярэдняга расьсьледаваньня УДФР КДК па Менскай вобласьці і Менску разгледзець пытаньне аб прыцягненьні сьледчай Касынкінай да дысцыплінарнай адказнасьці. Пра гэта Кежун напісаў Усьцінаву. У канцы свайго ліста ён дапісаў: «Ухваленае рашэньне вы маеце права абскардзіць пракурору гораду Менску». Ці далі Касынкінай вымову, невядома.

Усе гэтыя адказы — нішто іншае, як бюракратычны «дакумэнтазварот», сьцяна адпісак, якую прабіць немагчыма.

Пракурор Кежун тут нібыта праяўляе прынцыповасьць, але ў дробным пытаньні, якое нічога ня значыць для лёсу Бяляцкага: Касынкіна не на-

---

* Адказ пракурора — мера стрыманьня адпаведная цяжару злачынства // Сайт Праваабарончага цэнтру «Вясна», 30.09.2011.



Акцыя вясноўцаў пад мурамі «Валадаркі» ў дзень нараджэньня Бяляцкага, 25 верасьня 2011 году.

пісала, каму на яе рашэньне можна паскардзіцца, хто будзе пісаць наступную адпіску. Фармальна гэта — парушэньне закону. Але калі б Кежун быў сапраўды прынцыповы, то дамогся б, каб было выкананае ягонае даручэньне сьледчай групе ў справе Бяляцкага пра запыт да замежных арганізацыяў, якія фінансавалі дзейнасьць «Вясны» праз рахункі Бяляцкага ў Польшчы і Літве, каб тыя паведамілі, для чаго яны перасылалі гэтыя грошы. Але гэтага зроблена не было.

Як пракурор, які ажыццяўляе нагляд за сьледз-

твам, Кежун мусіў давесьці выкананьне сваіх даручэньняў да канца, а ў адваротным выпадку — вярнуць справу на дасьледаваньне, не накіроўваць яе ў суд, тлумачыць юрыст Гары Паганяйла:

«У гэтым выпадку, відаць, была дадзеная каманда хутка накіраваць справу Бяляцкага ў суд. Зьверху ўмяшаліся і парэкамэндавалі Кежуну далей ня ўмешвацца, не тармазіць справу».

Але калегі Бяляцкага не спыняліся. 23 жніўня ў Менску, Горадні, Магілёве прайшлі несанкцыянаваныя акцыі ў яго падтрымку, на іх мінакам раздавалі ўлёткі пра Алеся. Пікеты скончыліся затрыманьнямі.

У верасьні 2011 году праваабаронца Сяргей Усьцінаў і навучэнцы моладзевага праваабарончага курсу распачалі бестэрміновую акцыю «Ні дня без заяўкі ў абарону Бяляцкага!» Толькі ў Менскі гарвыканкам было пададзена больш за 60 заявак на правядзеньне пікетаў у падтрымку Алеся, аналягічныя заяўкі былі пададзеныя як мінімум яшчэ ў 17 гарадах.

Усюды праваабаронцы атрымалі адмовы, прынамсі 15 зь іх былі абскарджаныя ў судах. З гэтай прычыны з уладамі судзіліся ў Менску, Жодзіне, іншых гарадах. Але марна. Адмовы былі стандартныя для любых іншых апазыцыйных заявак: заплянаванае іншае масавае мерапрыемства, пікетаваньне будзе ствараць перашкоды руху пешаходаў і машын…

«Такая рэзкая рэакцыя ўладаў на любы пратэст з нагоды арышту Бяляцкага, гэтыя тры тамы адпісак на хадайніцтвы аб паручальніцтве сьведчаць пра палітычны падтэкст справы Алеся і цэнтралізава-

насьць дзеяньняў улады дзеля здушэньня грамадзкага пратэсту з нагоды яго перасьледу — пратэсту, які ўзьняўся па ўсёй краіне», — перакананая Тацяна Равяка.

Затое перад будынкам генэральнай пракуратуры Польшчы, якая спрычынілася да выдачы банкаўскіх матэрыялаў, акцыя пратэсту прайшла. Таксама адбыліся акцыі за вызваленьне Алеся ў Вільні, Парыжы, Санкт-Пецярбургу…

## Лабковіч-сабака-ягу-ком

Камэнтуючы матэрыялы справы ў ходзе судовага працэсу, пракурор Сайкоўскі ўнутрыбеларускую і міжнародную актыўнасьць праваабаронцаў у падтрымку Бяляцкага, якая не спынялася з дня ягонага арышту, ацаніў па-свойму:

«Была арганізаваная кампанія па прыхоўваньні мэтаў пераводу грошай на рахункі Бяляцкага», — такую выснову ён зрабіў напрыканцы трэцяга дня слуханьняў.

Як выявілася ў судзе, у матэрыялы справы трапілі некаторыя зьвесткі пра тое, якім чынам пасьля арышту Алеся ягоныя калегі арганізоўвалі свае акцыі, у тым ліку збор подпісаў у яго падтрымку, пікеты, паручальніцтвы.

У справу трапіла электроннае ліставаньне аднаго зь лідэраў «Вясны» — юрыста Ўладзімера Лабковіча. Пракурор некалькі разоў назваў электронны паштовы адрас Лабковіча: «Лабковіч-сабака-ягу-ком». Гэта выклікала сьмех у залі.

Прыватную перапіску Лабковіча Сайкоўскі прызнаў «дакумэнтамі, якія сьведчаць пра дзей-

насьць на карысьць Бяляцкага», «спробай схаваць праўду, заблытаць сьледзтва і суд».

Уладзімер Лабковіч адразу пасьля навіны пра арышт Бяляцкага сапраўды ліставаўся з калегамі ў справе Алеся. Гаворка ішла пра арганізацыю кампаніі збору пісьмовых паручальніцтваў для зьмены меры стрыманьня. Адзін калега спытаўся ў Лабковіча: «Што казаць наконт літоўскіх рахункаў?» На гэта Лабковіч адказаў: «Усё казаць. Казаць, што на рахунак паступалі сродкі для дапамогі рэпрэсаваным».

Ніхто ня бачыў санкцыі пракурора на ўзлом электроннай пошты актывістаў «Вясны», яна не была прадстаўленая ў матэрыялах справы, што супярэчыць закону. Але тым ня меней сьледзтва атрымала доступ да электроннай пошты Лабковіча і, магчыма, ня толькі яго. Прычым сьледчыя, узламаўшы паштовую скрынку Лабковіча, далучыўшы ягоныя лісты да справы, нават не дапыталі яго ў якасьці сьведкі.

У прыватнасьці, пракурор зачытаў ліст Лабковіча да Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека з просьбай, каб паручальніцтва за Бяляцкага напісала ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру Шырын Эбадзі. У другім цытаваным лісьце Лабковіч просіць МФПЧ дакумэнтальна пацьвердзіць, што перасланыя імі грошы не былі даходам Бяляцкага. «Мы прасілі напісаць праўду», — заяўляе Ўладзімер Лабковіч.

Выкрадзеная перапіска Лабковіча нічога новага да разуменьня справы не дадала. Бакі патрактавалі яе кожны на сваю карысьць, ніякіх сакрэтаў сьледзтва ў ёй не знайшло. У выраку Бяляцкаму ніводнай спасылкі на лісты Лабковіча не было.

# Ноч на роздум.
# Правы і праваабаронцы

*Не пужайся, што здрадныя хмары*
*Неба ўслалі з канца да канца,*
*Што свае цемната ўнесла чары,*
*Закружыўся груган над папарам:*
*Яшчэ прыйдзе вясна!*

*Не пужайся, што лісьць пажаўцелы*
*Лес скідае з канца да канца,*
*Дый ня чуць птушак пеўчых дзень цэлы,*
*Прашмыгне толькі заяц нясьмелы:*
*Яшчэ прыйдзе вясна!*

*Не пужайся, што бедная ніва*
*Апусьцела з канца да канца,*
*Што мужыцкай рукой нешчасьлівай*
*Неужоннае скончана жніва:*
*Яшчэ прыйдзе вясна!*

*Не пужайся, што вольныя сілы*
*Ў путах дрэмлюць з канца да канца,*
*Што насільства ўсю праўду здушыла,*
*Што сьмерць густа капае магілы:*
*Яшчэ прыйдзе вясна!*
*Яшчэ прыйдзе!..*

Янка Купала. 1908 год

Гэтым вершам Янкі Купалы Алесь Бяляцкі адказваў на пытаньні журналістаў ці інтэрнэт-карыстальнікаў пра тое, калі ў Беларусь прыйдуць перамены да лепшага, калі ня будзе палітвязьняў, ня будзе пільнай патрэбы ў праваабаронцах ды ў ягонай «Вясьне». Словы клясыка жывілі і жывяць надзею, хоць рэчаіснасьць сее паняверку і стому.

У 2011 годзе Алесь казаў, што, ствараючы ў 1996 годзе праваабарончую арганізацыю «Вясна-96», ён не чакаў, што патрэба ў аб'яднаньні будзе такая працяглая і «Вясна» адзначыць свае 15-я ўгодкі. І яна адзначыла — арыштам свайго заснавальніка.

«Ён бараніў твае правы 15 гадоў — падумай пра яго хаця б 15 сэкунд», — такія банэры з партрэтам Алеся зьявіліся на многіх беларускіх сайтах.

## Алесь на Плошчы

19 сьнежня 2010 году Алесь Бяляцкі быў на Плошчы. Спачатку на Кастрычніцкай, потым — Незалежнасьці. Увесь дзень актывісты «Вясны» разам з прадстаўнікамі Хэльсынскага камітэту займаліся назіраньнем на выбарах прэзыдэнта, фіксавалі парушэньні, рыхтавалі выніковы даклад.

Бяляцкі камэнтаваў ход выбараў журналістам і замежным калегам-праваабаронцам. У офісе «Вясны» некалькі разоў адключаліся тэлефон і інтэрнэт, нейкі час не было электрычнасьці. Як сьведчыць Уладзімер Лабковіч, атмасфэра была напружаная. А 19-й гадзіне ўваход у офіс атачыла «наружка», тры супрацоўнікі ў цывільным з рацыямі, якія адкрыта здымалі ўсіх, хто заходзіў у офіс і выходзіў зь яго, на відэа.

А восьмай гадзіне Бяляцкі пайшоў на Кастрычніцкую плошчу, куды зьбіраліся незадаволеныя выбарамі і Лукашэнкам.

«Мы ўсе тут вельмі скептычна ставіліся да магчымасьці шматлюднай Плошчы — і выявілі сябе кепскімі прагназістамі. За выключэньнем Алеся Бяляцкага, які казаў: „Хлопцы, будзе шмат народу”. Дзесьці ў 20.15 ён патэлефанаваў нам адтуль, з Плошчы, ён быў такі ўражаны, у такім захапленьні, якога я даўно ад яго ня чуў. Ён адчуваў, што краіна мяняецца. Мы скептычна ставіліся да так званай лібэралізацыі, лічылі, што гэта гульня, што няма сыстэмных зьменаў, але адзначалі, што ёсьць нейкае паляпшэньне, якое можа паўплываць на грамадзтва. І вось менавіта так гэта ў той момант Бяляцкаму бачылася», — згадвае Ўладзімер Лабковіч.

Сам Лабковіч прыйшоў на плошчу Незалежнасьці пазьней і каля 22-й гадзіны сустрэўся зь Бяляцкім на ўчастку паміж Чырвоным касьцёлам і Домам ураду. Алесь суправаджаў праваабаронцаў з Нарвэгіі і Швэцыі, ніякіх бэджаў назіральнікаў на іх і на Алесю не было.

«Было бачна, што натоўп радзее, людзі пачалі разыходзіцца яшчэ да таго, як зьявіўся першы ланцуг спэцназу. Мы ня чулі, як білі шкло дзьвярэй Дому ўраду, гэта было далёка, мы толькі камэнтавалі гасьцям выступы лідэраў апазыцыі… Пазьней я з Алегам Гулаком падышоў туды, убачыў пабітыя шыбы, заўважыў кіраўніцтва менскай міліцыі, якое я добра ведаў з акцыяў апазыцыі. Мы з Гулаком іх спыталі: чаму не наводзіце парадак? У адказ тыя засьмяяліся і сказалі, што гэта ім не перашкаджае», — працягвае Ўладзімер Лабковіч.

Бяляцкі пайшоў паглядзець, што робіцца на ганку Дому ўраду, літаральна за 10 хвілін да «зачысткі». Лабковіч тым часам дапамагаў замежнікам вырвацца з абцугоў спэцназу, сувязі з Алесем у яго не было. Тым часам спэцназ запіхваў людзей у МАЗы-аўтазакі. Бяляцкаму ўдалося выратавацца. Як ён пазьней казаў Лабковічу, дубінкі спэцназу сьвісталі побач зь ім, але не зачапілі...

«Каля гадзіны ночы Алесь вярнуўся ў офіс „Вясны“, і мы адразу пачалі складаць сьпіс затрыманых, — распавядае Ўладзімер Лабковіч. — Нашы калегі завяршалі выніковую справаздачу з выбараў. Адначасова Алесь пісаў калегам-праваабаронцам за мяжу пра тое, як і што адбывалася ў Менску ў тую ноч. І нават тады, калі былі сотні затрыманых, калі ішлі ператрусы ў кандыдатаў у прэзыдэнты, у нас было спадзяваньне, што гэта часовая дэманстрацыя сілы, што гэта будзе максымум так, як у 2006 годзе, калі пасьля разгону затрыманыя абышліся адміністрацыйным пакараньнем. Пасьля трэцяй гадзіны ночы мы гэта абмеркавалі, і Алесь з гэтым пагадзіўся».

Уладзімер Лабковіч кажа, што літаральна ў гэты момант у офіс праз незамкнёныя дзьверы ўварваліся людзі ў спартовых чорных куртках і штанах, чалавек восем. Толькі адзін зь іх быў у міліцэйскай форме. Бяляцкі і Стэфановіч кінуліся стрымліваць іх у калідоры. Алесь крыкнуў Лабковічу: «Звані журналістам!» Людзі ў чорным ніяк не прадставіліся, і праваабаронцы адмаўляліся прапусьціць іх далей за дзьверы. Лабковіч і Стэфановіч мяркуюць, што, хутчэй за ўсё, гэта былі супрацоўнікі КДБ.

Адзін з апранутых у цывільнае дастаў пастанову на агляд памяшканьня, але прачытаць яе не пасьпелі — Валянцін Стэфановіч выхапіў яе і парваў на шматкі. Супрацоўнікі яўна не чакалі такога, ня ведалі, як на гэта рэагаваць, толькі сказалі Стэфановічу, што прыцягнуць яго за гэта да адказнасьці.

«У мяне тады быў такі ўзрушаны стан. Пасьля таго, што адбылося на Плошчы, пасьля арыштаў кандыдатаў у прэзыдэнты я думаў, што гэта наш апошні дзень на волі. І я разумеў, што калі ўжо ўварваліся, то будуць рабіць што захочуць», — згадвае Валянцін.

Слоўная перапалка працягвалася, пакуль супрацоўнікі ў чорным ня выклікалі міліцыянтаў з аўтаматамі. Прыехалі тры машыны зь Першамайскага РУУС.

Большасьць тых, хто быў у офісе, затрымалі і завезьлі ў Першамайскі РУУС Менску: у пастарунак трапілі актывісты «Вясны» Валянцін Стэфановіч, Уладзімер Лабковіч, Анастасія Лойка, Сяргей Сыс, Зьміцер Салаўёў, Андрэй Палуда, Уладзімер Нікалаеў, Канстанцін Старадубец і Алег Жлутка.

У офісе засталіся Алесь Бяляцкі і каардынатар назіраньня па Менску Валянціна Сьвяцкая. Бяляцкі як прапісаны ў гэтай кватэры застаўся прысутнічаць прыператрусе. Сьвяцкая наадрэз адмовілася ехаць зь міліцыянтамі, заявіла, што нікуды з офісу не паедзе, што яна прыйшла ў госьці да Бяляцкага. Алесь падтрымаў яе, сказаўшы супрацоўнікам у чорным: «Адзін я з вамі не застануся, ці мала якой дурноты вы мне падкінеце». Валянціна была ў офісе ўвесь час ператрусу.

Яна згадвае, што Лабковіч пра напад на офіс «Вясны» пасьпеў паведаміць Галіне Сямдзянавай, якая была сябрам менскай гарадзкой выбарчай камісіі. Галіна зьвязалася з прадстаўніцай місіі назіральнікаў АБСЭ Наірай Хачыкян. Сьвяцкая згадвае:

«Разам з кіраўніцай місіі назіральнікаў АБСЭ па Менску Наіра прыехала пад офіс, але гэтыя не пусьцілі мяне да дамафону, каб адчыніць дзьверы міжнародным назіральнікам. Яны брудна вылаяліся, і Наіра пачула гэта ў слухаўку. Калі пайшоўператрус, яны хадзілі па пакоях, а потым пачалі адключаць кампутары, ноўтбукі, паклікалі ўчастковага і пачалі складаць вопіс канфіскаванага. І толькі потым ужо, каля чацьвёртай раніцы, яны знайшлі панятых, адзін зь якіх быў п’яны дворнік…»

Наста Лойка згадвае, што ў РУУС іх завялі ў актавую залю, дзе яны былі пад аховай аўтаматчыка, па адным вадзілі ў кабінэты, бралі тлумачэньні, дзе знаходзіліся 19 сьнежня. Аўтаматчык увесь час бразгаў затворам. Андрэй Палуда, сам былы капітан міліцыі, ня вытрымаў і накрычаў на аўтаматчыка: «Як ты паводзісься са зброяй і як размаўляеш са старшымі па званьні!» Той адразу спыніў сваю гульню.

Валянцін Стэфановіч кажа, што міліцыянты ня ведалі іх і не разумелі, для чаго затрымалі вясноўцаў:

«Тады я зразумеў, што гэтым разам, відаць, абыдзецца. Мабыць, тады нас кінулі ў пастарунак, каб не заміналіператрусу ў офісе».

Супрацоўнікі ў чорным вынесьлі амаль усю

кампутарную тэхніку, удалося схаваць толькі два ноўтбукі. Уладзімер Лабковіч згадвае:

«Мы не былі падрыхтаваныя да падобных падзей, не лічылі гэта верагодным, і ў нас не было ніякага пляну на такі выпадак».

«Мы сапраўды не былі гатовыя да такога, таму што выбары праходзілі спакойна, гэта нас расслабіла. Мы не адчувалі ціску і зыходзілі з агульнага характару кампаніі, які не выклікаў нейкіх засьцярог. Увогуле за час дзейнасьці „Вясны" з 1998 году, калі ў нас зьявіўся офіс, і да 19 сьнежня 2010 году ў нас быў толькі адзінператрус, у 1999 годзе, перад Маршам Свабоды», — кажа Тацяна Равяка.

Каля 6-й раніцы сябры місіі назіральнікаў АБСЭ вырвалі вясноўцаў зь Першамайскага РУУСа. Тыя вярнуліся ў офіс, потым большасьць разышлася па кватэрах адпачыць. Але а палове на 8-ю ў офіс «Вясны» зноў пагрукалі людзі ў масках, хацелі забраць Лабковіча, пагражалі ўзламаць дзьверы. У офісе заставаўся Андрэй Палуда, ён іх не пусьціў, паклікаў Бяляцкага, які тэрмінова вярнуўся з дому. У пад'езьдзе офіса Бяляцкі сказаў няпрошаным гасьцям: «Хочаце — ламайце дзьверы, Лабковіча тут няма». Супрацоўнікі пэўны час пастаялі, а потым, пасьля сыгналу па рацыі, сышлі на вуліцу.

«Мая вэрсія такая, што ў КДБ тады вырашылі, што я нібыта меў дачыненьне да кампаніі кандыдата ў прэзыдэнты ад БНФ Рыгора Кастусёва, і ў тым ліку да арганізацыі Плошчы, бо на той момант я фармальна быў адказным сакратаром Управы БНФ. У гэты ж час шукалі і лідэра БНФ Аляксея Янукевіча», — кажа Лабковіч. Тады ж Алесь параіў Лабковічу на тыдзень недзе схавацца.

«Ягонай парады я ня выканаў. Мяне хапіла на суткі… Гэтаксама я зрабіў пасьля арышту Алеся 4 жніўня 2011 году, хоць такіх парадаў ужо не было. Арыштуюць дык арыштуюць, вырашыў я. Трэба працаваць», — згадвае Лабковіч.

Апоўдні 20 сьнежня Бяляцкі і Стэфановіч правялі заплянаваную прэсавую канфэрэнцыю пра вынікі незалежнага назіраньня за выбарамі і падзеі 19 сьнежня. Выснова праваабаронцаў была такая самая, як і пасьля папярэдняй кампаніі: «Прэзыдэнцкія выбары 2010 году не адпавядалі ключавым міжнародным стандартам дэмакратычных выбараў»*.

Але, папраўдзе, праваабаронцам было не да таго.

«Калі пасьля 19 сьнежня пайшлі ўсе гэтыя арышты,ператрусы, мы, вядома, спачатку былі шакаваныя гэтай навалай, таму што кожную хвіліну званіў тэлефон і казалі, што таго затрымалі, а тамператрус. Гэта было бесьперапынна да Новага году і пасьля, і плаўна з гэтых выбараў мы пераплылі ў іншую рэальнасьць і заняліся сваёй непасрэднай праваабарончай дзейнасьцю», — згадвае Валянцін Стэфановіч.

## Шукайце «Вясну»!

У тыя дні слова «Вясна» сталася паролем для шакаваных сваякоў соцень адміністрацыйна арыштаваных, дзясяткаў актывістаў і выпадковых удзельнікаў Плошчы, якія трапілі пад крыміналь-

* Выбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь 19 сьнежня 2010 году. Вынікі незалежнага назіраньня. Менск: Праваабаронцы за свабодныя выбары. 2011. С. 6.

ную адказнасьць. Разгубленым бацькам студэнтаў, якія ніколі раней не бывалі ў такіх сытуацыях, знаёмыя і незнаёмыя раілі: «Шукайце „Вясну!”» Шукала іх і сама «Вясна».

Тое, што арганізацыя знаходзіла палітвязьням адвакатаў, дапамагала іх сем’ям парадамі і грашыма, моцна раздражняла ўлады, — кажа праваабаронца Тацяна Равяка:

«Людзі траплялі ў такія сытуацыі, калі не разумелі, куды падацца, да каго кінуцца, у каго што спытаць, калі ты ня ведаеш, дзе твае родныя, што ім пагражае. Гэта паніка. А трымаць людзей у паніцы, у боязі — гэта адна з мэтаў таго, што робяць улады. Калі ж нехта зьбівае гэтую паніку і страх, чыніць нейкую падтрымку, паказвае, што ёсьць людзі, якія, што б ні здарылася, будуць дапамагаць да апошняга, наколькі будуць сілы і сродкі, то гэта раздражняла ўладу. Прычым людзям у такой сытуацыі патрэбная ня толькі матэрыяльная і юрыдычная дапамога, але перакананьне, што з гэтай бядой нешта можна і трэба рабіць. І ёсьць людзі, якія могуць навучыць, што».

29 сьнежня Тацяне Равяцы патэлефанавала невядомая жанчына, сказала, што ў яе толькі што забралі сына. «А хто ваш сын?» — «Іван Гапонаў, грамадзянін Расеі. Ён адседзеў 10 сутак, вярнуўся з турмы ў Жодзіне, але па яго прыехалі і забралі ў крымінальнай справе. Што мне рабіць?» Жанчына заплакала проста ў тэлефон. «Слухайце, — адказала Тацяна, — вам трэба зараз дапамагаць сыну, а ня плакаць. Трэба неадкладна знайсьці адваката, калі ня ўдасца, зьвярнуцца да нас у „Вясну”, мы дапаможам. Трэба дамагацца максымальнай інфармацыі

пра сына, у чым яго абвінавачваюць, якія доказы віны, дзе яго ўтрымліваюць, якія матэрыялы ёсьць у справе. Трэба таксама зьвязацца з амбасадай РФ. І абавязкова трымайце сувязь з намі».

Пазьней Сабіра Атакішыева, маці Гапонава, дзякавала Таццяне за дапамогу. На судзе яе сын як расейскі грамадзянін пад ціскам з Масквы і з расейскай амбасады атрымаў пакараньне, не зьвязанае са зьняволеньнем, — штраф.

Пасьля 19 сьнежня на працоўных сталах праваабаронцаў «Вясны» зьявіліся сьпісы з графамі: абвінавачаны, артыкул, кантакты маці, жонкі, адваката...

«Сказаць, што ўсё гэта мы перажылі з гонарам, з высока ўзьнятай галавой, было б няпраўдай. Вельмі цяжка было. Мы былі зьнясіленыя яшчэ выбарчай кампаніяй, чакалі, што выбары скончацца — адпачнем, а выявілася, што пасьля выбараў усё толькі пачынаецца. Трэба было шмат што арганізаваць, а ў нас канфіскавалі ўсю тэхніку. Мала было скласьці сьпісы затрыманых, трэба было яшчэ знайсьці магчымасьць іх апублікаваць у інтэрнэце», — згадвае Таццяна Равяка.

21 сьнежня 2010 году на сайце «Вясны» зьявіўся сьпіс асобаў, якіх прыцягнулі да крымінальнай адказнасьці за падзеі 19 сьнежня. Іх на той момант было 16. Алесь Бяляцкі тады распавёў Радыё Свабода, якім чынам зьбіралася інфармацыя:

«Мы сабралі гэтыя зьвесткі ад сваякоў затрыманых. Ім тэлефанавалі з КДБ і паведамлялі, што іх родныя ў сьледчым ізалятары КДБ. Яны самі ці іх знаёмыя пацьвердзілі нам гэтую інфармацыю.

Сёньня мы займаліся тым, што забясьпечвалі гэтых людзей адвакатамі, тых, у каго іх яшчэ няма»*.

Пазьней «Вясна» сабрала поўную інфармацыю пра 38 абвінавачаных за Плошчу, 11 падазраваных, а таксама пра абвінавачаных нібыта за хуліганскі ўчынак 18 сьнежня актывістаў Маладога Фронту Зьмітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава.

«Мы дапамагалі ўсім арыштаваным у справе за 19 сьнежня, толькі ў некаторых выпадках была праблема знайсьці іх сваякоў. Мы трымалі руку на пульсе гэтага расьсьледаваньня, і да нас даходзілі пагрозы з боку сьледчых КДБ, якія адкрыта казалі адвакатам, што яны ведаюць, хто аплачвае іх паслугі, ведаюць, што гэта робіць „Вясна", і што яны хутка пакладуць гэтаму канец», — згадвае Валянцін Стэфановіч.

Пасьля разгону Плошчы, калі па Беларусі рушыў каток палітычных рэпрэсіяў, трэба было знайсьці дзясяткі адвакатаў, якія пагадзіліся б бараніць палітычных вязьняў. У значнай ступені гэта легла на плечы актывістаў «Вясны». Праца адвакатаў была зьвязаная зь ціскам з боку сьледчых КДБ, праседжваньнем не адных сутак у прыёмных «Амэрыканкі» ў чаканьні, калі вызваліцца пакой для сустрэчы з падабаронным, а пакоі былі ўсё занятыя і занятыя… Адвакаты сталі адзінай крыніцай інфармацыі пра арыштаваных для сваякоў, журналістаў, замежных назіральнікаў і дыпляматаў. Іх тэлефоны разрываліся. За іх дзейнасьцю сачылі Мін'юст і карныя органы. Адвакаты вязьняў Плошчы хадзілі пад

* Бяляцкі: «Гэта паказвае нізасьць улады» // Радыё Свабода, 22.12.2010.

пагрозай страціць ліцэнзію, што ўрэшце зь некаторымі зь іх і сталася. Пазьней застаўся без ліцэнзіі адвакат Алеся Бяляцкага Зьміцер Лаеўскі.

Прычынай таго, што ўлады перасьледавалі адвакатаў, месяцамі не пускалі іх да падабаронных, было ня тое, што яны супрацоўнічалі зь «Вясною», перакананы Валянцін Стэфановіч, а тое, у якіх справах яны былі задзейнічаныя:

«Кавалёў і Канавалаў, засуджаныя за менскі тэракт, мелі адвакатаў, якія ніколі не супрацоўнічалі з праваабаронцамі, але яны таксама мелі праблемы з наведваньнямі і мала маглі ўплываць на ход працэсу. У гучных і палітычных справах у Беларусі ўлады не зважаюць ні на якія працэсуальныя нормы. І справа не ў пэрсоне адваката, а ў канкрэтнай устаноўцы, што ў адносінах да гэтых людзей можна нічога не выконваць».

Тым ня меней спадар Стэфановіч перакананы, што лепей наймаць не дзяжурнага «дзяржаўнага» абаронцу, а больш прынцыповага адваката, які ня будзе заплюшчваць вочы на парушэньні, а будзе патрабаваць, каб улады сур’ёзна ставіліся да працэсуальных нормаў і правоў падабаронных.

«Тое ж, што ў 2010 годзе ўдалося знайсьці столькі адказных і прынцыповых адвакатаў для ўсіх вязьняў Плошчы, сьведчыць пра тое, што дэвальвацыя іх прафэсіі не адбылася. Але цяпер, пасьля рэпрэсіяў і ў адносінах да саміх адвакатаў, сытуацыя мяняецца», — мяркуе Стэфановіч.

На судовым працэсе Бяляцкага на хадайніцтва адваката да справы было далучана інтэрвію апазыцыйнага палітыка, вязьня Плошчы Сяргея Вазьняка



Сяргей Вазьняк.

менскаму выданьню «Белгазета», апублікаванае 28 кастрычніка 2011 году. У ім Вазьняк кажа:

«Праваабарончы цэнтар „Вясна” пазбавілі рэгістрацыі і магчымасьці легальнай працы тут. Яны б адкрылі тут банкаўскі рахунак, плацілі б падаткі, і ўсё было б нармальна. Але іх выштурхнулі ў нелегальнае поле. Людзі адкрылі на сябе гэтыя рахункі, але грошы ж яны не на сябе трацяць — яны рэальна аказваюць прававую дапамогу рэпрэсаваным. Я гэта дакладна ведаю: маёй сям’і аказвалі дапамогу, калі я быў у СІЗА КДБ. Думаю, разумным людзям ясна, што Бяляцкі — ніякі не злачынца».

Валянцін Стэфановіч падлічыў, што са сьнежня 2010 году па красавік 2011-га ў офіс «Вясны» прыходзілі зьператрусамі і праверкамі 5 разоў. Але гэта не спыніла дзейнасьці арганізацыі.

Стэфановіч згадвае, што ў студзені 2011-га адзін з актывістаў, каму «Вясна» дапамагала (ён прасіў не

называць ягонага імя), прыбег у офіс арганізацыі. Ён быў вельмі ўсхваляваны і распавёў: яго выклікалі ў міліцыю і сказалі напісаць заяву, што ён ня мае прэтэнзіяў за зьбіцьцё на Плошчы 19 сьнежня. На стале ў міліцыі ён пабачыў цэлы стос расьпісак розных людзей пра тое, што «Вясна» нібыта давала ім грошы за ўдзел у дэманстрацыі апазыцыі. Гэта насьцярожыла Бяляцкага і Стэфановіча, бо выходзіла, што да справы аб масавых беспарадках могуць прыцягнуць і «Вясну».

Пра тое самае вясноўцам паведамілі, выйшаўшы з адміністрацыйнага арышту, некаторыя вязьні Плошчы — падчас пакараньня іх распытвалі пра «Вясну» і патрабавалі напісаць заявы, што там ім давалі грошы на арганізацыю масавых беспарадкаў.

«Але доказаў не сабралі, і ўрэшце да фальсыфікацыі ўдзелу „Вясны" ў масавых беспарадках справа не дайшла, — кажа Валянцін Стэфановіч. — Мы адкрыта працавалі і ніколі не хаваліся… Чаму нас дагэтуль не „прыхлопнулі", для мяне самога застаецца вялікім пытаньнем. У 2008 годзе быў такі моцны ціск, дыскрэдытацыя нашай арганізацыі ў дзяржаўных СМІ, што падавалася, што ўжо задушаць. Але тады пачалася лібэралізацыя. У 2010–11 гадах таксама не дабілі… Думаю, гэта зьвязана з тым, што „Вясна" — актыўная і вядомая на міжнародным узроўні арганізацыя, у тым ліку і ў ААН, Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека. Можа, гэта нас і бараніла. А як было на справе — адкрыюць архівы спэцслужбаў, пачытаем…»

Калі 28 лютага экс-кандыдат на выбарах прэзыдэнта Алесь Міхалевіч пасьля выхаду са сьлед-

чага ізалятара КДБ заявіў пра катаваньні ў гэтай турме, у тым ліку «расьцяжкі», трыманьне голымі на холадзе, запалохваньні і зьдзекі, Алесь Бяляцкі накіраваў пісьмовы зварот да генэральнага пракурора Беларусі Рыгора Васілевіча з патрабаваньнем зрабіць захады пракурорскага рэагаваньня па фактах катаваньняў у «Амэрыканцы»*. З КДБ і пракуратуры адказалі адпіскамі, што, маўляў, нічога такога не было.

Па дапамогу да «Вясны» ішлі ў розных жыцьцёвых сытуацыях.

Былога палітвязьня Ўладзімера Кобеца вызвалілі са сьледчага ізалятара пасьля таго, як прымусілі падпісаць дамову пра супрацоўніцтва з КДБ. Ён згадваў у размове са мной, што выйшаў з «Амэрыканкі» псыхалягічна зламаным, у вельмі цяжкіх думках, якія расколвалі душу. Першым чынам ён пайшоў да кіраўнікоў «Вясны», распавёў пра ўсё, прызнаўся. Пазьней у яго было яшчэ некалькі сустрэч, у часе якіх разам шукалі выйсьце. Бяляцкі і Стэфановіч падтрымалі яго, паставіліся да сытуацыі з разуменьнем, дапамаглі маральна і далі параду: Уладзімеру трэба зьехаць за мяжу і заявіць пра разрыў дамовы з КДБ. Так Кобец і зрабіў. Зьехаўшы ў Літву, ён выступіў з заявай пра разрыў той дамовы з КДБ і пра гвалт, якім яна была дасягнутая.

З 2006 году «Вясна» працуе са студэнтамі ў рамках Беларускай праваабарончай школы, чатыры разы на год у Вільні ў Беларускім Доме правоў чалавека праходзяць 10-дзённыя курсы. Алесь

* Алесь Бяляцкі просіць Генэральнага пракурора разабрацца з фактамі катаваньняў // Сайт Праваабарончага цэнтру «Вясна», 28.02.2011.

Бяляцкі выкладае ў гэтай школе курсы «Дзеяньні ў абарону правоў чалавека» і «Абаронцы правоў: праваабарончая дзейнасьць на нацыянальным і міжнародным узроўнях». У 2011 годзе пасьля разгону Плошчы і кампаніі дыскрэдытацыі праваабаронцаў конкурс на гэтыя курсы сярод беларускіх студэнтаў склаў 8 чалавек на месца.

«Гэта быў рэкорд за ўвесь час існаваньня гэтых курсаў — на 100 месцаў было пададзена 800 заявак, у тым ліку ад студэнтаў БДУ і Акадэміі кіраваньня пры прэзыдэнце... Так што можна зрабіць выснову: патрэба ў ведах аб правах чалавека ў беларускім грамадзтве вялікая», — лічыць Тацяна Равяка.

## Бяляцкі-сьведка

Назіральнікі ад «Вясны» былі на ўсіх працэсах за Плошчу, выступалі ў якасьці сьведак, давалі камэнтары журналістам. Ці спадзяваліся яны нейкім чынам паўплываць на прысуды? А калі не, дык дзеля чаго і каго сьведчылі, даводзілі, аспрэчвалі?

29 красавіка на працэсе над Андрэем Саньнікавым, Ільлём Васілевічам, Алегам Гнедчыкам, Фёдарам Мірзаянавым і Ўладзімерам Яроменкам, абвінавачанымі ў арганізацыі масавых беспарадкаў (Саньнікаў) і ўдзеле ў іх, Алесь Бяляцкі як сьведка заявіў суду, што ніякіх масавых беспарадкаў з боку дэманстрантаў на плошчы Незалежнасьці ня бачыў і што акцыя 19 сьнежня была мірная. Разам з Алесем у той дзень на працэсе сьведчылі журналіст Алег Грузьдзіловіч і праваабаронца Ўладзімер Лабковіч.



Суд над Андрэем Саньнікавым, на якім сьведчыў Алесь Бяляцкі.

Пасьля выступу Бяляцкі гэтак сказаў мне ў інтэрвію пра мэту свайго ўдзелу ў працэсе:

«Важна, што мы выступілі і пазначылі нейкія пазыцыі адносна таго, што адбывалася, адносна ў першую чаргу кваліфікацыі гэтай крымінальнай справы, кваліфікацыі, зь якой мы катэгарычна ня згодныя. Асноўны зьмест нашага выступу быў накіраваны супраць таго, што гэта былі масавыя беспарадкі. Ня ведаю, наколькі судзьдзя гэта ўлічыць — хутчэй за ўсё, ня ўлічыць, бо я пэсымістычна стаўлюся да ролі судзьдзі ў гэтым працэсе. Гэта




Сяргей Ханжанкоў.

адназначна палітычны працэс, і прысуд у адносінах да Андрэя Саньнікава і іншых абвінавачаных, я думаю, выносіцца непасрэдна самім Аляксандрам Лукашэнкам. Гэта палітычная помста за прынцыповую і выразную пазыцыю Саньнікава на працягу ўсіх апошніх гадоў і асабліва цягам гэтай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. Таму нашыя паказаньні больш важныя для фармаваньня грамадзкай думкі пра тое, што адбываецца тут, у судзе. На жаль, нашая роля як праваабаронцаў моцна абмежаваная і больш грамадзкая, чым такая, якая магла б паўплываць на вынік гэтага працэсу».

Як бачым, фармаваньне грамадзкае думкі тычылася ня толькі і ня столькі кваліфікацыі таго, што адбылося на Плошчы, колькі характарыстыкі самога суду, які сваёй поўнай залежнасьцю ад рашэньняў «зьверху» нагадаў такія ж залежныя суды савецкага часу.

Разам зь Бяляцкім у той дзень на працэсе пабываў былы савецкі дысыдэнт і палітвязень Сяргей Ханжанкоў. У 1963 годзе яго засудзілі на 10 гадоў зьняволеньня ў мардоўскіх лягерах за падрыхтоўку спробы ўзарваць менскую вежу-радыёглушылку. Ханжанкоў пазьней прыходзіў і на працэс Алеся Бяляцкага. У перапынку суду над Саньнікавым спадар Ханжанкоў сказаў:

«Вядома, гэта нагадвае мне мой працэс, нагадвае перш за ўсё поўнай адсутнасьцю судовай сыстэмы, таму што ніякай спаборнасьці бакоў няма і блізка. Як тады, так і цяпер. Тады гэта шчырэй было. А цяпер яны робяць выгляд, што яны нешта выслухоўваюць, але рашэньне будзе выносіцца не на гэтым судзе».

Аднак ёсьць у параўнаньні сучасных палітычных судоў з савецкімі і тое адрозьненьне, якое пакідае надзею, мяркуе Сяргей Ханжанкоў:

«І ўсё ж у савецкі час палітычныя працэсы былі больш суровымі. Імі кіравалі судзьдзі і пракуроры-сталіністы, перакананыя, што за імі праўда. У судзе не дапускаліся нават усьмешкі, ня тое што выгукі падтрымкі на адрас палітвязьняў. Сучасных беларускіх дысыдэнтаў судзяць цынікі. І ў гэтым, дарэчы, наша надзея. Бо тады была непрабіўная сьцяна. А цяпер гэта рухне, як картачны домік.

Варта толькі адну карту гэтую выцягнуць — і ўсё».

…У канцы 90-х Алесь Бяляцкі выступаў у якасьці грамадзкага абаронцы на палітычна матываваных крымінальных працэсах супраць віцебскага актывіста БНФ Уладзімера Плешчанкі і гомельскага праваабаронцы Яўгена Мурашкі. У такой жа якасьці Алесь удзельнічаў у грамадзянскіх і адміністрацыйных справах, пакуль законы ў Беларусі не былі зьмененыя. Цяпер грамадзкіх абаронцаў у суды не дапускаюць.

Апрача таго, Алесь Бяляцкі хадзіў назіральнікам на шмат якія палітычныя працэсы, пісаў заключэньні аб іх характары, выступаў з нагоды гэтых судоў з заявамі і камэнтарамі. Валянцін Стэфановіч кажа, што хтосьці зь вясноўцаў абавязкова быў на ўсіх палітычна матываваных судах. Яны ня толькі ацэньвалі доказы і працэдуры, пісалі справаздачы, але і выказвалі рэакцыю на гэтыя справы як праваабаронцы, прыцягвалі да іх увагу грамадзтва.

## 10 лістапада 2011 году.

# Суд. Дзень чацьвёрты. «Вясна» ў цэнтры ўвагі

Судовы канвэер 2011-га ўлады наладзілі па поўнай праграме: «варанкі» з суправаджэньнем, клеткі, куды гэтыя «варанкі» заяжджалі, канвойныя калідоры і клеткі ў судовых залях. Асобная сыстэма бясьпекі — для наведнікаў: кардон з мэталашукальнікамі на ўваходзе ў суд, такі ж кардон на ўваходзе ў залю, запіс пашпартных зьвестак, здымкі кожнага на відэа, праверка рэчаў і адзеньня, нават распрананьне, калі западозраць, што нехта хоча на сабе пранесьці плякат ці майку з надпісам у падтрымку палітвязьняў.

У калідорах утваралася жудасная цісканіна, бо людзей не пускалі ў залю, пакуль не прывязуць падсудных і ня будзе каманды.

Адміністрацыя судоў вызначыла чарговасьць пропуску ў залю: адвакаты падсудных, замежныя дыпляматы, сваякі падсудных, журналісты… Суровыя міліцыянты і пераапранутыя спэцназаўцы на крайніх месцах кожнага шэрагу лаваў кантралявалі паводзіны публікі. Апрача таго, каб менш было зычлівых твараў, палову залі запаўнялі навучэнцамі юрфаку ці ПТВ, «бэерэсэмаўцамі», як іх называлі

іншыя. «Бээрэсэмаўцы» не рэагавалі на ўшчуваньні сваякоў падсудных, не прадстаўляліся, толькі некаторыя казалі, што іх зьнялі з заняткаў і прывялі ў суд на практыку. Яны сядзелі з запалоханымі тварамі і пустымі вачыма, а праз гадзіну-другую працэсу, які іх не цікавіў, палова зь іх адкрыта спала. А ў калідоры заставаліся людзі, якія прыйшлі падтрымаць палітвязьняў і якім не хапіла месца. «Падсадных» заводзілі ў залю празь дзьверы для канвою, каб не сутыкаліся са звычайнай публікай. Гэтаксама праз канвойны ўваход перад пачаткам працэсу Бяляцкага ў залю ўпусьцілі журналістаў афіцыйных тэлеканалаў. Як распавядаў мне праваабаронца Павал Левінаў, напаўненьнем залі, праверкамі, прапускным рэжымам на працэсе іншага палітвязьня — Сяргея Каваленкі — кіраваў адмысловы супрацоўнік КДБ, які сядзеў у асобным пакоі на другім паверсе суду.

## Брама ляяльнасьці

10 лістапада, на чацьвёрты дзень працэсу, працэдуры на ўваходзе ў суд сталі яшчэ больш жорсткімі. Міліцыянты не дапускалі нікога ў футболках з партрэтам Бяляцкага ці з плякатамі. У каго іх знаходзілі пад швэдрам — прымушалі зьняць. Таго, хто здолеў адбіцца ад распрананьня і зьняў свой швэдар у залі, застаўшыся ў крамольнай майцы, выводзілі сілай. Гэтак, у прыватнасьці, здарылася са старшынёй камітэту «Салідарнасьць» Інай Кулей, якую выдалілі да канца працэсу Бяляцкага.

Пільна правяралі зьмесьціва торбаў, перакладваючы кожную паперку. Прычым тых, хто ішоў у суд

на іншыя працэсы, не чапалі, часам і праз «рамку» не прымушалі праходзіць. Старшыня Беларускага Хэльсынскага камітэту Алег Гулак мусіў зьняць футболку з партрэтам Бяляцкага пасьля дзьвюх няўдалых спробаў прабіцца ў залю.

З-за ўзмоцненых захадаў бясьпекі праверка зацягнулася. На пачатак не змаглі трапіць многія праваабаронцы і палітыкі, у тым ліку Вінцук Вячорка, Павал Левінаў, Зьміцер Салаўёў, Валеры Кавалеўскі. Яны зьвярнуліся да старшыні суду Маскоўскага раёну Менску са скаргаю на дзеяньні аховы, якая зацягвала праверку. Старшыня суду ўрэшце дазволіла ім прайсьці ў залю.

Замежныя праваабаронцы расцанілі гэтыя перашкоды як «неапраўданае абмежаваньне доступу ў суд, якое ёсьць празьмерным і парушае прынцып даступнасьці і адкрытасьці судовых пасяджэньняў». Выснова Міжнароднай назіральнай місіі Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі была наступная: «Беспрэцэдэнтныя меры бясьпекі, прынятыя на пасяджэньні 10 лістапада, ня маюць іншага тлумачэньня, акрамя імкненьня ўладаў стварыць дадатковыя перашкоды для назіральнікаў і іншых зацікаўленых асобаў, якія жадаюць трапіць на судовы працэс»*.

Узмоцненыя захады аховы былі выкліканыя тым, што ў папярэднія дні зрабіць працэс «стэрыльным» так і не ўдалося, людзі ўсё роўна праходзілі ў

* Міжнародная назіральная місія Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Кароткі агляд чацьвёртага дня судовага пасяджэньня па справе Алеся Бяляцкага // Сайт Камітэту міжнароднага кантролю за сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, 10.11.2011.



Алеся Бяляцкага прывялі на чарговае судовае пасяджэньне. Канваір здымае кайданкі.

судовую залю з партрэтамі Бяляцкага, і гэта мела розгалас. Але і новыя захады плёну не далі. Крамольныя футболкі ці плякаты праносілі ў залю да канца працэсу.

## Пракурорская лёгіка

10 лістапада пракурор Сайкоўскі далучаў да справы новыя матэрыялы і працягваў допыт Бяляцкага.

На запыт суду былі дасланыя матэрыялы з падатковай інспэкцыі Першамайскага раёну. Інспэкцыя накіравала ў суд копіі дэклярацыяў Бяляцкага аб

даходах і маёмасьці, а таксама акты праверкі ягоных даходаў і расходаў. Праверка паказала, што парушэньняў з боку Бяляцкага не было. Аднак было выяўлена, што расходы Бяляцкага ў нязначнай ступені перавышалі даходы. Ён гэта патлумачыў беспрацэнтнымі пазыкамі, што было пацьверджана дакумэнтамі. З таго перавышэньня Бяляцкі заплаціў падатак у суме 281 тысяча рублёў — гэта 33 даляры паводле курсу на лістапад 2011 году.

У інфармацыі з Мытнага камітэту былі прадстаўленыя дэкларацыі, акты на Бяляцкага з Гарадзенскай, Ашмянскай і Берасьцейскай мытняў. Выснова мытнікаў — парушэньняў выяўлена не было. Як зазначае Валянцін Стэфановіч, у 2008–2009 гадах кожнае перасячэньне мяжы Бяляцкім фіксавалася мытняй, ад яго патрабавалі дэкларацыяў, аглядалі рэчы, праўджвалі, ці не вязе ён грошы.

Пракурор зноў зачытаў дакумэнты наконт грантаў на дзейнасьць «Вясны», якія, як заявіў адвакат, былі здабытыя «непрацэсуальным шляхам». Аднак Алесь адмовіўся іх камэнтаваць, назваўшы «незаконнымі».

На чацьвёрты дзень працэсу судзьдзя паведаміў, што на даручэньне суду нарэшце перакладзеныя матэрыялы справы, афармленыя на замежных мовах. У графе «мэта пераводу грошай» — ад замежнай праваабарончай арганізацыі на літоўскі рахунак Бяляцкага — было пазначана: «для арганізацыі працы грамадзкіх прыёмных „Вясны"». Прычым адвакат адразу знайшоў у перакладзе памылку: «грамадзкія прыёмныя» пераклалі адзіночным лікам — «грамадзкая прыёмная».

Пракурор Сайкоўскі зачытаў зварот Нарвэскага

Хэльсынскага камітэту з патрабаваньнем вызваліць Алеся Бяляцкага, аднак увагу акцэнтаваў на іншым. У гэтым звароце сьцьвярджалася, што Алесь Бяляцкі — ляўрэат Прэміі свабоды імя Андрэя Сахарава (Sakharov Freedom Award) Нарвэскага Хэльсынскага камітэту за 2006 год. Пракурор запытаўся ў Бяляцкага, у якім памеры ён атрымаў гэтую прэмію, спадзеючыся выявіць факт прыхоўваньня даходу. Бяляцкі вымушаны быў расчараваць пракурора, патлумачыўшы, што гэтую прэмію атрымаў «у памеры граматы».

Адвакат Лаеўскі прадставіў суду выдадзеную «Вясною» праваабарончую літаратуру і папрасіў далучыць яе да справы. Бяляцкі патлумачыў суду, што кожны год «Вясна» выдае да 10 друкаваных выданьняў. Кніжная тэма разьвілася ў дыялёг:

**Пракурор:** Ці вы аплачвалі друк кніг тымі грашыма, якія атрымлівалі ад міжнародных арганізацый?

**Бяляцкі:** Так.

**Пракурор:** Якую працу вы праводзілі пры гэтым?

**Бяляцкі:** Большую частку кніг рыхтаваў ня я.

**Пракурор:** А хто яшчэ?

**Бяляцкі:** Не магу сказаць, хто яшчэ, бо яны могуць пацярпець за праваабарончую дзейнасьць.

Нібыта ў адказ на гэта пракурор пацікавіўся ў Алеся, ці была выдадзеная кніга, якую Бяляцкі перакладаў з польскай мовы некалькі гадоў таму. Алесь адказаў, што праца над кнігай ня скончаная: «Гэты працэс займае больш часу, чым фабрыкацыя крымінальных спраў супраць праваабаронцаў».

На падрыхтоўку перакладаў з польскай на беларускую Алесь меў дамову з польскім выдаўцом.

На просьбу адваката судзьдзя далучыў да справы копіі ліста зь Мін'юсту Літвы ў беларускі Мін'юст аб тым, што інфармацыя пра рух сродкаў на рахунках Бяляцкага і Стэфановіча несапраўдная. Суд далучыў да справы і ліст арганізацыі Civil Rights Defenders, якая давала «Вясьне» гранты на праваабарончую дзейнасьць, пра тое, што яна ня мае ніякіх маёмасных прэтэнзіяў да спадара Бяляцкага. Праўда, у выраку судзьдзя Бандарэнка пра гэтыя дакумэнты не згадаў.

У пракурора свая лёгіка: ён зачытвае літоўскі пратэст супраць выкарыстаньня дамовы аб прававой дапамозе ў мэтах палітычнага перасьледу Бяляцкага і заяву аб прыпыненьні выкананьня гэтай дамовы Літвой, але выснову робіць нечаканую і парадаксальную: гэта, на думку пракурора, даказвае, што дакумэнты, перададзеныя на Бяляцкага Літвою, якраз сапраўдныя. Адвакат выказаў недаўменьне ў сувязі з такімі высновамі пракурора.

Калі ж улічыць, што пракурор цалкам усьвядомлена і адкрыта ажыцьцяўляе гэты самы палітычны перасьлед, яго выснова ня будзе выглядаць нечаканай або парадаксальнай. Інакш кажучы, суд разглядае перасьлед палітычнага апанэнта ўладаў як свой непасрэдны абавязак і кіруецца ня правам, а практыкай, якая склалася ў краіне. Гэта значыць, судзьдзя адкрыта парушае прынцыпы юрыспрудэнцыі, ведаючы, што ня будзе за гэта пакараны, і галоўнае заданьне судзьдзі і пракурора — падагнаць палітычную падаплёку працэсу пад юрыдычныя працэдуры. Яны ахвотна выконваюць

загады «зьверху», бо разумеюць, што на лаве падсудных — «чужы», апанэнт той улады, якую яны прадстаўляюць.

На чацьвёрты дзень працэсу, як прызнаў пракурор, «сьледзтва атрымала матэрыялы з сайту „Вясны”». Пракурор зачытаў некаторыя зь іх: «Праваабарончы цэнтар „Вясна” — няўрадавая праваабарончая арганізацыя, створаная ў красавіку 1996 году падчас масавых акцыяў пратэсту дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі, якая пасьля арыштаў удзельнікаў дэманстрацыяў займалася дапамогай арыштаваным і іх сем’ям…»

«Ці адпавядае гэта сапраўднасьці?» — спытаўся Сайкоўскі ў Бяляцкага. Алесь адказаў: «У агульных рысах — так».

Гэта сапраўды была інфармацыя, узятая з сайту «Вясны», але, седзячы ў судовай клетцы, Алесь ня мог яе спраўдзіць. Пракурор просіць суд далучыць да справы новыя і новыя матэрыялы з сайту «Вясны», у тым ліку паведамленьні пра паручальніцтвы за Бяляцкага. Пры гэтым Сайкоўскі робіць выснову: паколькі гэтыя хадайніцтвы, разьмешчаныя на сайце «Вясны», адпавядаюць сапраўднасьці, то і іншая інфармацыя зьяўляецца праўдзівай. У гэты момант чакалася, што пракурор зачытае нешта сэнсацыйнае, але Сайкоўскі захаваў інтрыгу. Прысутныя ў залі вясноўцы ўспрынялі гэтыя дзеяньні пракурора як пачатак дасьледаваньня дзейнасьці «Вясны» ў якасьці незарэгістраванай арганізацыі, за што ў Беларусі існуе крымінальная адказнасьць.

Пракурор Сайкоўскі нават спытаўся ў Алеся: што з мэтаў ягонай арганізацыі немагчыма было выконваць з улікам патрабаваньняў дэкрэту Лука-

шэнкі пра гуманітарную дапамогу? Бяляцкі нічога не адказаў. Пазбаўленая рэгістрацыі арганізацыя ня можа ў прынцыпе зьвяртацца ў Дэпартамэнт па гуманітарнай дзейнасьці, як таго патрабуе дэкрэт, а нават калі б магла, то гэтая ўстанова, якая дзейнічае ў складзе кіраўніцтва спраў прэзыдэнта, ніколі б не зарэгістравала, напрыклад, дапамогу сем'ям палітвязьняў. Каб адпавядаць дэкрэтам Лукашэнкі, «Вясна» проста мусіла б спыніць працу.

На пытаньне Сайкоўскага «Чаму вы не спынілі праваабарончую дзейнасьць пасьля закрыцьця „Вясны" ў 2003 годзе?» Бяляцкі адказаў:

«Таму што закрыцьцё „Вясны" было незаконным, што прызнаў у 2007 годзе Камітэт ААН у правах чалавека, які абавязаў улады Беларусі зарэгістраваць „Вясну" цягам 90 дзён. На жаль, гэта не было выканана. Мы лічым, што парушаюцца нашыя правы, і таму не зьбіраемся спыняць праваабарончую дзейнасьць».

Зацікаўленьне «Вясною» скончылася нечаканай заявай Сайкоўскага: ён папрасіў зрабіць перапынак да 16 лістапада, каб прад'явіць Бяляцкаму новае абвінавачаньне «ў сувязі з новаадкрытымі фактамі». Пракурор нічога не патлумачыў, адно папярэдзіў, што новае абвінавачаньне будзе «істотна адрозьнівацца ад папярэдняга».

Заставалася толькі гадаць, што ён мае на ўвазе.

Паколькі напярэдадні Сайкоўскі здабыў матэрыялы з сайту «Вясны» і ў судзе сканцэнтраваў увагу на дзейнасьці праваабарончага цэнтру, шмат хто выказваў меркаваньне, што новае абвінавачаньне можа быць зьвязанае з артыкулам 193-1 Крымінальнага кодэксу (дзейнасьць ад імя незарэгістраванай



Пракурор Сайкоўскі пасьля працэсу.

арганізацыі, тэрмін пакараньня — да двух гадоў пазбаўленьня волі). Тым больш што ў судзе Бяляцкі не хаваў, што праца «Вясны» працягваецца і пасьля таго, як яе пазбавілі рэгістрацыі. У такім выпадку вясноўцы, якія выступалі на працэсе сьведкамі, маглі б аўтаматычна ператварыцца ў абвінавачаных.

Адразу пасьля абвяшчэньня перапынку ў працэсе былы адвакат Гары Паганяйла патлумачыў мне заяву пракурора тым, што, на ягоную думку, папярэдняе абвінавачаньне не знайшло ў судзе свайго пацьверджаньня, факты незаконнага ўтой-



Гары Паганяйла быў на ўсіх пасяджэньнях працэсу Бяляцкага.

ваньня Бяляцкім прыбыткаў на тэрыторыі Беларусі не былі даведзеныя. І справа можа быць «перафарматаваная» на мякчэйшы артыкул — за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Іншы былы адвакат, Павал Сапелка, засумняваўся: звычайна, калі пракурор хоча зьмякчыць пакараньне, ён адмаўляецца ад нейкіх пунктаў абвінавачаньня ў часе працэсу і ня просіць перапынку. Сапелка ня выключыў, што Бяляцкаму дадаткова



Павал Сапелка — адзін з адвакатаў, пазбаўленых ліцэнзіі за абарону палітвязьняў.

да ранейшых выставяць новыя абвінавачаньні, зьвязаныя зь дзейнасьцю ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Абодва дасьведчаныя юрысты казалі мне, што, хутчэй за ўсё, чакаецца артыкул аб дзейнасьці ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Але ў пракурора Сайкоўскага была іншая мэта.

# Ноч на роздум. Каго пасадзілі?

*У гэтай краіне ня маю я дому,*
*вось воблака — сяду і ў сьвет палячу*
*над гэтай гаморай, над гэтым садомам,*
*ні грошай, ні славы — я волі хачу.*

*У гэтай краіне ня маю я долі,*
*вось посах і торба і сотні дарог.*
*Па долю пайду. Не вярнуся ніколі.*
*Няхай мяне судзяць хоць людзі, хоць Бог.*

*У гэтай краіне ня маю я Бога,*
*ушчэнт разапселі яго сьвятары:*
*дзе церні павінны насіць — носяць рогі,*
*які ж тагды Бог, калі служкі зьвяры?*

*У гэтай краіне ня маю я роду,*
*забыўся народ мой найменьня дзядоў,*
*і сьвету ня бачыць далей азяроду,*
*і дзецям ня дорыць на шчасьце падкоў.*

*У гэтай краіне ня маю я песьні,*
*якая б народнай была і маёй,*
*якую б сябрына запела ў Бярэсьці,*
*а рэха ўзышло за Дняпром, за Дзьвіной...*

*У гэтай краіне ня маю я дому,*
*вось воблака — сяду і ў сьвет палячу*
*над гэтай гаморай, над гэтым садомам,*
*ні грошай, ні славы — я волі хачу,*

*бо ў гэтай краіне ня маю я волі...*

Анатоль Сыс.
Маналёг Апанаса Філіповіча. 1987 год

Пракурор Валеры Сайкоўскі ў адным са сваіх выступаў на працэсе заявіў, што Бяляцкі — «чалавек адукаваны і ў некаторых колах грамадзтва нават паважаны». Выснову з гэтага ён зрабіў такую: менавіта таму Бяляцкі добра разумеў, што трэба плаціць падаткі.

Сапраўды, Алесь Бяляцкі добра вядомы і паважаны ў Беларусі і за мяжой чалавек. Інтэлектуал, лідэр, ініцыятар і стваральнік, адзін зь піянэраў беларускага адраджэнскага руху, літаратуразнаўца, дырэктар музэю Максіма Багдановіча, палітык, дэпутат Менскага гарадзкога савету, адзін з кіраўнікоў першай апазыцыйнай партыі — Беларускага Народнага Фронту, праваабаронца, грамадзкі дзяяч, адзначаны шматлікімі міжнароднымі прэміямі.

Каб апісаць ролю Бяляцкага ў найноўшай гісторыі Беларусі, патрэбная асобная кніга.

## Дзяды-88

У сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага ў Менску і ў Жодзінскай турме Бяляцкі пачаў пісаць успаміны з часоў маладосьці — сваёй і незалежнай Беларусі. Гэтыя ўспаміны ён дасылае ў выглядзе лістоў, на якіх стаіць пячатка турэмнай цэнзуры, сваёй сяброўцы, актывістцы «Вясны» Алене Лапцёнак. Алена рэдагуе і друкуе іх у газэце «Народная Воля».

«Мы былі амбітнымі і не баяліся думаць за ўсю Беларусь»*, — згадвае ў гэтых успамінах Алесь 80-я гады XX стагодзьдзя.

---

* Алесь Бяляцкі. Пра часопіс «Бурачок» і палкоўніка Даніліна // Народная Воля, 21.10.2011.

У 1987 годзе ў Менску ўпершыню пачулі слова «Дзяды». З падручнікаў і этнаграфічных дасьледаваньняў яно выходзіла на вуліцу. Якраз на той год прыпаў сумны юбілей — 50-я ўгодкі масавага расстрэлу беларускіх пісьменьнікаў, дзеячоў культуры, мастацтва і навукі, а таксама грамадзкіх дзеячоў у 1937 годзе, калі ў адзін дзень 29 кастрычніка ў падвалах унутранай турмы НКВД (цяпер КДБ) у Менску былі забітыя больш за сто прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты, у тым ліку 22 — літаратары. Алесь Бяляцкі стаў ініцыятарам (падаў заяўку ў гарвыканкам) першай акцыі ў памяць сталінскіх ахвяраў, якая прайшла 30 кастрычніка 1987 году ў дзень памінаньня продкаў — Дзяды — каля помніка Янку Купалу ў Менску. На мітынг-рэквіем тады прыйшло каля сотні чалавек.

У 1988 годзе ў газэце «Літаратура і мастацтва» Зянон Пазьняк і Яўген Шмыгалёў апублікавалі артыкул «Курапаты — дарога сьмерці», які меў вялізны рэзананс у грамадзтве. Летам пасьля гэтай публікацыі адбылося першае шэсьце ў Курапаты. А ў верасьні моладзевыя нефармальныя суполкі «Тутэйшыя» і «Талака» пачалі падрыхтоўку да новых Дзядоў, таксама антысталінскіх. Літаратурная суполка «Тутэйшыя», кіраўніком якой быў Бяляцкі, мела пэўны легальны статус, бо дзейнічала «пры Саюзе пісьменьнікаў Беларусі». Таму заяўку на Дзяды падавалі, як і ў 1987 годзе, ад яе імя Анатоль Сыс і Алесь Бяляцкі. Яны зноў папрасілі ва ўладаў пляцоўку каля помніка Янку Купалу ў Менску.

Менскія ўлады не дазволілі акцыю на ранейшым месцы, а прапанавалі пляцоўку каля Ўсходніх могілак. Арганізатары пагадзіліся.

Неўзабаве, аднак, улады адмовіліся ад свайго рашэньня і заявілі, што дазволу на акцыю ня будзе ў сувязі з 60-годзьдзем камсамолу. Сапраўдная ж прычына была ў тым, што незадоўга да Дзядоў былі ўтвораныя грамадзкае аб’яднаньне «Мартыралёг Беларусі» і аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту. Стварэньне БНФ шакавала ўлады і выклікала жаданьне зацiснуць гайкі.

«Урэшце, калі ў другой палове кастрычніка ўсе спробы дамовіцца з уладамі скончыліся нічым, мы вырашылі, што ўсё роўна Дзяды будзем ладзіць, зьбіраем, запрашаем народ, нягледзячы ні на што. Мы ўпарта працягвалі падрыхтоўку, дамовіліся і патаемна надрукавалі на інстытуцкай памнажальнай машыне, на шэрхлай каляровай паперы некалькі тысяч абвестак-запрашэньняў на Дзяды, разрэзалі аркушы і заклеілі імі пад’езды», — згадвае той момант Алесь Бяляцкі ў сваіх пісаных у турме мэмуарах*.

Падтрымаў акцыю і аргкамітэт БНФ на чале зь Зянонам Пазьняком.

Дадатковую рэкляму маніфэстацыі зрабілі заклікі ўладаў праз газэты і радыё не хадзіць на «несанкцыянаванае» мерапрыемства.

«А за пару дзён да 30 кастрычніка, абранай даты Дзядоў, мяне выклікаў да сябе гарадзкі пракурор, — працягвае Алесь. — Ён абвясьціў мне афіцыйнае папярэджаньне, уручыў адпаведную паперку і прыгразіў, што калі адбудуцца беспарадкі, мне пагражае зьняволеньне да трох гадоў… Але я не

* Алесь Бяляцкі. Набліжалі, як маглі, гібель савецкага «Тытаніка» // Народная Воля, 28.10.2011.

вагаўся ні хвіліны. Адступаць у гэтай сытуацыі было для мяне — адмовіцца ад самога сябе».

30 кастрычніка да Ўсходніх могілак прыйшлі тысячы людзей. Міліцыя падрыхтавалася да разгону і яшчэ на падыходах хапала арганізатараў і актывістаў.

«Там упершыню ў новай гісторыі Беларусі адкрыта быў узьняты бел-чырвона-белы сьцяг. Як сказаў Зянон Пазьняк, на Дзяды ў тым годзе ішоў натоўп, а вяртаўся ўжо беларускі народ», — згадвае Алесь Бяляцкі. Сам ён мітынгу ня бачыў, бо яшчэ на пачатку акцыі яму пырснулі ў твар сьлезацечным газам, схапілі пад рукі і запхнулі ў міліцэйскі «ўазік».

Напрыканцы 1988 году, у самвыдатаўскім бюлетэні «Кантроль» — нефармальным органе «Тутэйшых», гэтыя падзеі апісваліся так:

«Яшчэ да пачатку Дзядоў пачаўся „хапун". Людзі ў цывільным тыцкалі пальцам у мастакоў Міколу Купаву і Аляксея Марачкіна. Была спроба затрымаць старшыню „Мартыралёгу Беларусі" Зянона Пазьняка. Ратуючы яго, „заляцелі" адразу аж трое „тутэйшых": В.Мартыненка, А.Дэбіш, А.Бяляцкі. Іх забралі, затое Пазьняка народ адбіў. Бяляцкага „апрацавалі" сьлезацечным газам з 10 сантымэтраў проста ў вочы. Ужо на Курапатах, куды дабралася некалькі групаў, правёў Дзяды тутэйшавец І.Бабкоў, пасьля чаго яго таксама пасадзілі ў машыну. А.Сыс вырваўся з-пад кантролю і прыбег з працы, калі ўсе ўжо разыходзіліся. Астатнія „тутэйшыя" хадзілі, рассыпаныя між народу. Бачылі, як у прастору паміж міліцыянтамі і народам нехта кінуў плястмасавую цацку-аўтамат: „Страляйце!" Бачылі, як кур-

санты, счапіўшыся і ціснучы людзей, білі дзяўчатак чаравікамі па лытках, а тыя крычалі. Бачылі, як у ланцугу з плястыкавымі шчытамі і каскамі нехта пасьлізнуўся і чалавек пяць, як даміно, паваліліся адзін на аднаго. Скандавалі разам з народам: „Ван-дэ-я! Ста-лі-ні-сты!"»*

На тых, каго затрымалі і павезьлі ў міліцыю, склалі пратаколы. Бяляцкаму напісалі: «Выкрикивал антисоветские лозунги». Потым зразумелі, што перабралі, пратакол перапісаўся, і зноў пад подпісам сьведак пайшла стандартная фармулёўка: «Участие в митинге», за якую Бяляцкі атрымаў у судзе 200 рублёў штрафу. Затрымалі і пакаралі тады дзясяткі чалавек.

«У мяне было адчуваньне поўнага бясьсільля і паразы», — піша ва ўспамінах Алесь. Штраф яму прысудзіў Першамайскі раённы суд, той самы, які праз 23 гады асудзіць яго на 4,5 года турмы. 200 рублёў Алесю дапамаглі сплаціць калегі — супрацоўнікі Інстытуту літаратуры Акадэміі навук, сабраўшы хто па рублю, хто па 50 капеек.

200 рублёў на той час было шмат — паўтары асьпіранцкія стыпэндыі Бяляцкага. Грошы Алесю перадаў дырэктар Інстытуту літаратуры Віктар Каваленка.

«Ён выклікаў мяне да сябе і сказаў: „Алесь, вось вам грошы, якія інстытут сабраў, заплаціце, калі ласка, штраф". І для мяне гэта было незабыўна. Я як запомніў — і дасюль забыць не магу. Людзі

* Цыт. паводле публікацыі: Алесь Аркуш. Вяртаньне ў «Тутэйшыя» // Сайт «Беларуская палічка», 2000.

мне дапамагалі»*, — так згадваў той момант сам Алесь.

Наступны разгон дэманстрацыі ў Менску адбыўся ўжо пры Аляксандру Лукашэнку, 4 студзеня 1995 году, калі на плошчу Незалежнасьці выйшла некалькі дзясяткаў чалавек з патрабаваньнем спыніць ціск на свабодную прэсу. Акцыю разагналі чатырма ўзводамі амапаўцаў. Быў жорстка зьбіты прафэсар БДЭУ Мікола Савіцкі. Пасьля гэтага цягам усяго прэзыдэнцтва Лукашэнкі рэдкая акцыя апазыцыі не завяршалася жорсткім разгонам.

## Наш сьцяг над Менскам

У 1990 годзе Алесь Бяляцкі быў абраны дэпутатам Менскага гарадзкога савету 21 скліканьня ў 241-й («Камуністычнай») выбарчай акрузе. Калі, выступаючы з трыбуны, ён прадстаўляўся як дэпутат ад «Камуністычнай» акругі і нязьменна выступаў з антыкамуністычнымі прапановамі, гэта выклікала іранічны сьмех у залі. Алеся вылучылі кандыдатам калектывы музэю Максіма Багдановіча і часопіса «Спадчына».

Дэпутат Бяляцкі ўвайшоў у камісію па гісторыка-культурнай спадчыне, якая, сярод іншага, займалася праблемамі рэабілітацыі рэпрэсаваных у сталінскія часы.

5 верасьня 1991 году ў жыцьці Бяляцкага як дэпутата, а таксама ягоных калегаў з фракцыі «Дэмакратычная плынь» быў важны дзень. Разглядалася пытаньне пра сымболіку. Дэмакраты прапанавалі

* Алесь Бяляцкі: «Зьмены непазьбежныя» // Радыё Свабода, 08.08.2011.

вярнуць Менску старажытны герб і дазволіць выкарыстаньне нацыянальных сымбаляў — бел-чырвона-белага сьцяга і гербу «Пагоня». Як згадвае дэпутат таго складу гарсавету Андрэй Завадзкі, ініцыятарам быў вядомы цяпер прафсаюзны дзяяч Генадзь Фядыніч. Яго падтрымалі ўсе дэпутаты ад БНФ і «Дэмакратычнай плыні».

У лісьце з турмы Алесь прыгадаў мне тую падзею:

«Бел-чырвона-белы сьцяг актыўна выкарыстоўваўся супрацоўнікамі музэю Багдановіча пры правядзеньні ўсіх нашых імпрэзаў: і на сьвяце Багдановіча ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладэчанскага раёну, і пры ўскладаньні кветак і правядзеньні імпрэзаў каля помніка Багдановічу. Сьцяг, прыгожа разгорнуты, стаяў адразу пры ўваходзе ў музэй, у фае. У той дзень, прадчуваючы, што ён можа быць прыняты і замяніць стары сьцяг савецкай Беларусі, я яго захапіў на сэсію і прынёс разам з дрэўкам. Пакінуў унізе, на ўваходзе ў гарсавет, каля міліцэйскага посту. Пасьля прыняцьця рашэньня я вобмігам зьбег уніз, да міліцыянтаў, узяў сьцяг і ўнёс пад аплядысмэнты яго ў залю гарсавету. Мы паставілі яго на чале залі, за сьпінаю ў сьпікера. А неўзабаве дэпутаты (сярод іх быў Міраслаў Кобаса) усьцягнулі яго на дах будынка гарсавету».

«Гэта быў кульмінацыйны момант цяперашняй сэсіі. Дэпутаты стоячы віталі нацыянальны сьцяг Беларусі. Ён заняў сваё месца ў залі пасяджэньняў, побач зь дзяржаўным сьцягам БССР. Здарылася гэта адразу пасьля таго, як народныя абраньнікі большасьцю галасоў ухвалілі рашэньне аб выка-

рыстаньні нацыянальнай сымболікі», — пісала пра тую падзею гарадзкая газэта*.

Над будынкам Менскага гарсавету з таго дня яшчэ два тыдні — да 19 верасьня 1991 году, калі Вярхоўны Савет зацьвердзіў нацыянальную сымболіку (бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня») у якасьці дзяржаўнай — луналі два сьцягі: бел-чырвона-белы і чырвона-зялёны.

Яшчэ адно важнае для Бяляцкага рашэньне было ўхваленае гарсаветам 9 сьнежня 1991 году — пра перайменаваньне вуліцы Максіма Горкага ў Менску ў вуліцу Максіма Багдановіча. Раней вуліца мела назву Траецкай, у XIX стагодзьдзі стала Аляксандраўскай. Менавіта на гэтай вуліцы нарадзіўся Максім, на ёй цяпер стаіць і ягоны музэй (вуліца Багдановіча, 7а).

Ініцыятыва перайменаваньня паходзіла ад Алеся Бяляцкага і іншых дэмакратычных дэпутатаў. У яе падтрымку сабралі подпісы жыхароў самой вуліцы. Фармальна перайменаваньне было ўнесенае ў плян сьвяткаваньня 100-годзьдзя Багдановіча, якое адзначалася 9 сьнежня 1991 году.

«Але гэта яшчэ нічога ня значыла, кожны пункт з гэтай праграмы трэба было папіхаць», — згадвае Алесь.

Рашэньне ўдалося прабіць дзякуючы высілкам намесьніка старшыні гарсавету Анатоля Гурыновіча, — распавёў мне былы дэпутат Менскага гарсавету Андрэй Завадзкі:

«У гарвыканкаме рашэньне давалася цяжка, было ажно тры галасаваньні, бо кіраўніца спраў

* Приняты решения // Вечерний Минск, 06.09.1991.

выканкаму выступала супраць. Калі ж рашэньне было ўхваленае, я выскачыў з пасяджэньня, ускочыў у таксоўку і паехаў у Опэрны тэатар, бо там ужо пачыналася ўрачыстае пасяджэньне з нагоды стагодзьдзя Максіма Багдановіча. І людзі чакалі гэтага рашэньня. Я пранік за кулісы і перадаў запіску пра тое, што перайменаваньне вуліцы ў гонар Багдановіча адбылося, міністру культуры Яўгену Вайтовічу, той — старшыні Вярхоўнага Савету Станіславу Шушкевічу, а Шушкевіч — паэту і дэпутату Вярхоўнага Савету Гілевічу. Ніл Гілевіч і агучыў гэтае рашэньне».

## Музэй Багдановіча

Алесь Бяляцкі стаў дырэктарам Літаратурнага музэю Максіма Багдановіча ў 1989 годзе. На хвалі перабудовы на заводах і ва ўстановах працоўныя калектывы сталі самі выбіраць дырэктараў. У конкурсе ў музэі ўдзельнічалі чатыры чалавекі. Нечакана для Мінкульту дырэктарам абралі Бяляцкага, 28-гадовага малодшага навуковага супрацоўніка. Празь месяц ваганьняў пасьля гэтых выбараў міністар культуры Беларусі Яўген Вайтовіч махнуў рукой — хай так і будзе! Алесь адпрацаваў дырэктарам музэю Багдановіча дзесяць гадоў — да 1998-га.

Пад яго кіраўніцтвам была адкрытая экспазыцыя самога музэю і трох яго філіялаў — гэта «Беларуская хатка», фальварак «Ракуцёўшчына» і экспазыцыя, прысьвечаная Багдановічу, у расейскім горадзе Яраслаўлі, дзе паэт жыў.

Экспазыцыя галоўнага музэю была адкрытая для

наведнікаў 8 сьнежня 1991 году — да стагодзьдзя з дня нараджэньня паэта. Бел-чырвона-белы сьцяг у музэі вісеў яшчэ да таго, як яго дазволілі ўлады, і пасьля таго, як яго забаранілі.

Музэй праводзіў навуковую працу, выдаваў кнігі, у ім праходзілі літаратурныя імпрэзы і сьвяты.

Калі Алесь стаў дырэктарам, музэй толькі ствараўся, былі патрэбныя новыя супрацоўнікі. У 1990 годзе на працу ў музэй прыйшлі Алена Кісялевіч (пазьней Лапцёнак) і Паліна Качаткова (пазьней Сьцепаненка), якая пазнаёмілася зь Бяляцкім яшчэ ў 1983 годзе ў Гомелі. Сьледам за Палінай у музэй прыйшла яе сяброўка-аднакурсьніца Таццяна Равяка.

Паліна распавяла мне:

«Алесь вучыўся ў Гомельскім унівэрсытэце ў маіх бацькоў, якія там былі выкладчыкамі гісторыі. Аднойчы, калі я была яшчэ цяжкім падлеткам, маці мне неяк сказала: паводзь сябе прыстойна, не грубі, бо да нас зойдзе студэнт, які будзе гаварыць па-беларуску. Ён сапраўды прыйшоў, калі я была дома, і я яго сустрэла. Я напрасілася папрысутнічаць пры размове дарослых. Ён быў вельмі прыгожы, падобны да польскага актора Даніэля Альбрыхскага. І я з ходу закахалася ў беларускую мову і Бяляцкага. Пазьней ён парэкамэндаваў мне паступаць на філфак БДУ ў Менск, казаў, што мы там сустрэнемся».

У 1985 годзе Паліна паступіла на беларускую філялёгію ў БДУ. Студэнткай яна дапамагала Алесю раздаваць улёткі БНФ, клеіць на слупах абвесткі пра адзначэньне Дзядоў у 1988 годзе, працавала ў музэі і ў «Вясьне». Дзявочае захапленьне Паліны



Паліна Качаткова (Сьцепаненка).

Алесем перарасло ў любоў да беларушчыны. Алесь і Паліна сталіся сябрамі на ўсё жыцьцё.

Усяго ў музэі працавала 10 навуковых супрацоўнікаў і 10 тэхнічных. Былыя супрацоўнікі музэю згадваюць Алеся як дэмакратычнага кіраўніка, які прыслухоўваўся да думак супрацоўнікаў, не накідаў свайго меркаваньня, умеў наладзіць паважлівыя і сяброўскія дачыненьні ў калектыве. Супольныя рашэньні і агульная адказнасьць за іх выкананьне сталіся асновай для посьпеху. Для калектыву Алесь арганізоўваў пад Новы год падарункі, завозіў харчовыя наборы супрацоўнікам у самыя галодныя гады, згадвае Паліна Сьцепаненка:

«У нас ніхто не хадзіў галодны. А калі ў каго не было лекаў, Алесь даваў нам бальзам Бітнэра».

Калектыў музэю сталеў у цікавы для Беларусі час, быў у віры падзей першых гадоў нацыяна907-

нага адраджэньня, станаўленьня незалежнай дзяржавы. Алесь і ягоныя супрацоўнікі і самі былі ініцыятарамі шмат якіх праектаў.

«Тое музэйнае жыцьцё адпавядала настроям эпохі, калі ўсе былі маладыя і была маладая незалежнасьць Беларусі, калі ўсе імкнуліся да творчай працы. Да таго ж музэй рабіў столькі цікавага і незвычайнага, у тым ліку міжнародныя навуковыя канфэрэнцыі і выданьне зборнікаў, адкрыцьцё новых экспазыцыяў. Была нейкая сьмеласьць, як у Алеся, так і ва ўсяго калектыву, жыць адкрытым культурным жыцьцём, не баяцца выказваць свае погляды», — распавяла мне іншая былая супрацоўніца музэю Тацяна Равяка.

Паліна Сьцепаненка ўспамінае, што калі стваралі філію музэю Багдановіча ў Ракуцёўшчыне, Алесь прапанаваў супрацоўнікам пасадзіць там лес:

«Паводле апісаньняў, калі ў гэтым фальварку ў 1911 годзе жыў Максім Багдановіч, там былі густыя лясы, але іх зьнішчылі ў часе Другой сусьветнай вайны, і ў 1970-я гады на месца лесу звозілі плястмасу і нейкія прамысловыя адкіды. Бяляцкі нас два разы вывозіў туды, і мы садзілі лес. Ехаў воз з канём, на возе былі сосны, елкі, ядловец, і мы за гэтым канём з рыдлёўкамі ішлі і садзілі гэты лес. Хацелі вярнуць краявід».

У музэі было цікава ня толькі супрацоўнікам і наведнікам. Музэй Багдановіча ў часы дырэктарства Бяляцкага быў цэнтрам беларускага жыцьця. Алесь Бяляцкі згадваў:

«Я разглядаў музэй як нацыянальную пляцоўку, а ня сховішча мёртвых рэчаў, таму там больш за год месьцілася дубаўцоўская „Наша Ніва“, туцілася

нейкі час герменчукоўская „Свабода”, праводзіліся сходы Ўправы і Сойму БНФ, адбывалася сьвяткаваньне ўніяцкіх Калядаў, зьбіралася Беларуская каталіцкая грамада, былі зарэгістраваныя дзясяткі няўрадавых арганізацый. Адным словам, музэй быў напоўнены сучасным беларускім жыцьцём»*.

У сярэдзіне 90-х з абраньнем на прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі пачыналася новая эпоха, на якую не маглі не адрэагаваць Алесь Бяляцкі і ягоныя паплечнікі. У 1996 годзе ў музэі Багдановіча зьбіралі перадачы першым беларускім палітвязьням, каб завезьці ў адміністрацыйную турму на вуліцы Акрэсьціна. Куплялі прадукты ў суседняй краме, наразалі і раскладалі ў пакеты зь лягатыпам музэю.

У 1998 годзе Бяляцкага выклікалі ў Міністэрства культуры.

«Пытаньне ў міністэрстве было пастаўленае рубам: ці, як яны тады казалі, мы займаемся палітыкай, ці культурай? Я напісаў заяву па ўласным жаданьні й сышоў з музэю»**, — згадваў той момант Бяляцкі.

Увосень 2011 году, калі Бяляцкі ўжо сядзеў у турме, да 120-х угодкаў з дня нараджэньня Максіма Багдановіча выйшла энцыкляпэдыя, прысьвечаная паэту, у якой быў ацэнены і ўнёсак Алеся ў фармаваньне экспазыцыі музэю і ягоных філіяў. Укладальнік энцыкляпэдыі Мікалай Трус, які ў 1998

---

* Аляксандар Тамковіч. Лёсы. Санкт-Пецярбург: Невский Простор, 2010. С. 215.

** Вячаслаў Ракіцкі. Сто адрасоў свабоды 1980–2010. Радыё Свабода, 2011. С. 72.

годзе замяніў Алеся на пасадзе дырэктара музэю, напісаў пра Бяляцкага:

*БЯЛЯЦКІ Алесь (Аляксандар Віктаравіч; н. 1962), беларускі літаратуразнавец, грамадзкі і культурны дзеяч. У 1989–98 дырэктар Літ. музэю М.Багдановіча. Пачатак працы А.Бяляцкага ў музэі супаў з інтэнсіўнай падрыхтоўкай экспазыцыі „Беларускай хаткі" і цэнтральнага будынка Літаратурнага музэю М.Багдановіча. Прымаў актыўны ўдзел у мерапрыемствах, прысьвечаных 100-годзьдзю з дня нараджэньня Багдановіча, якія праводзіліся ў Беларусі, а таксама ва Ўкраіне і ў Расеі. Пад яго кіраўніцтвам у першай палове 1990-х гадоў праводзілася будаўніцтва і адбылося адкрыцьцё філіялу музэю ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёну Менскай вобласьці і музэю М.Багдановіча ў Яраслаўлі. Ініцыятар выданьня архіўных зборнікаў, прысьвечаных публікацыі матэрыялаў пра жыцьцё Багдановіча, яго родных і знаёмых, выданьня ўспамінаў бацькі паэта А.Я.Багдановіча. Дасьледуе публіцыстычныя матывы ў паэзіі Багдановіча, аўтар артыкулаў пра жыцьцё і творчасьць Багдановіча. У музэі за час яго кіраўніцтва праводзіліся навуковыя канфэрэнцыі, сьвяты паэзіі і песьні ў Ракуцёўшчыне**.

* Максім Багдановіч. Энцыкляпэдыя. Менск: Беларуская энцыкляпэдыя імя Петруся Броўкі, 2011. С. 117.

## «Вясна»

Працу ў музэі Бяляцкі сумяшчаў зь дзейнасьцю ў Беларускім Народным Фронце. У канцы 90-х ён быў адказным сакратаром управы партыі і намесьнікам старшыні.

Калі пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі пачаліся першыя рэпрэсіі, пад якія трапіла шмат Алесевых аднапартыйцаў, ён узяўся за дапамогу арыштаваным і іхнім сем'ям. Фактычна Праваабарончы цэнтар «Вясна» ўзьнік у 1996 годзе пасьля брутальнага разгону ўладамі 40-тысячнага Чарнобыльскага шляху, калі сотні чалавек былі зьбітыя і арыштаваныя. Алесь тады арганізаваў групу валянтэраў, якая зьбірала інфармацыю пра рэпрэсаваных і дапамагала іхнім сем'ям. У гэтую групу ўвайшлі супрацоўнікі музэю: Паліна Сьцепаненка, Тацяна Равяка, Алена Лапцёнак.

Першапачаткова яны сумяшчалі працу ў музэі з праваабарончай дзейнасьцю.

«У нас напачатку не было адчуваньня, што фармуецца нейкая арганізацыя. Мы думалі, што гэтыя рэпрэсіі неўзабаве скончацца, што мы ўсё пераадолеем, што цяпер трэба памагчы людзям, а потым усё будзе добра і мы зноў будзем займацца літаратурай», — згадвае Тацяна Равяка.

Але ўсё пайшло іначай. У 1998 годзе Тацяне давялося рабіць выбар — пасьля таго як Алесь пакінуў музэй і запрасіў яе ў новую структуру. Тацяна распавяла:

«Бяляцкі прапанаваў мне перайсьці ў „Вясну", як у белы сьвет. Я не разумела, чым я там магу займацца. А ён сказаў: „Умееш пісаць — будзеш пі-

сацьˮ. Як філёляг гэтым і займалася. Пісала навіны на сайт, рэдагавала справаздачы, нашы выданьні, аналітычную і асьветніцкую праваабарончую літаратуру… Не скажу, што пры пераходзе ў мяне былі вялікія сумненьні. Я хацела перамен, і тады выбрала ня від дзейнасьці, а людзей, якім давярала і ведала, што зь імі будзе добра працаваць. Само ўяўленьне, што такое праваабарона, прыйшло да мяне пазьней».

Разам з Алесем у жніўні 1998 году ў «Вясну» перайшла Паліна Сьцепаненка, у лістападзе — Тацяна Равяка, у 2005-м годзе да іх далучылася іншая былая супрацоўніца музэю Багдановіча — Алена Лапцёнак.

У 1998 годзе Праваабарончы цэнтар «Вясна-96» быў зарэгістраваны ў Менску як гарадзкая грамадзкая арганізацыя. Праз 2 гады, са зьяўленьнем філіяў, ён стаў арганізацыяй агульнанацыянальнага маштабу.

Да арганізацыі далучыліся сябры БНФ, Маладога Фронту, прафсаюзныя дзеячы, актывісты чарнобыльскіх арганізацый, юрысты, былыя міліцыянты...

У 1998 годзе на запрашэньне Бяляцкага ў «Вясну» прыйшоў выпускнік юрыдычнага факультэту Міжнароднага інстытуту працоўных і сацыяльных адносін Валянцін Стэфановіч, з 2001 году ў «Вясьне» працуе выпускнік юрфаку Інстытуту сучасных ведаў Уладзімер Лабковіч.

Былая валянтэрка «Вясны» Паліна Сьцепаненка згадвае першыя гады сваёй працы:

«Мы вельмі сьціпла жылі, у нас былі невялікія заробкі, а часам іх не было зусім».

Адна такая «галодная зіма» выпала ў 2001 годзе. Тады тры месяцы ў арганізацыі не было сродкаў на заробкі супрацоўнікам, бо «Вясна» атрымлівае грошы ад спонсараў у выглядзе грантаў пад пэўныя праваабарончыя праекты, а гранты былі не заўсёды. Тады ў арганізацыі ўжо быў свой офіс непадалёк ад Камароўскага рынку.

«Калі ў нас не было ніякіх грошай, Алесь неяк паехаў на рынак, купіў два мяхі бульбы, купіў капусту, прывёз у офіс, нашаткаваў і заквасіў капусту ў слоікі, і кожны дзень мы варылі сабе абеды, бо на сталоўку не было грошай. Ён і сам гэта рабіў, бо адчуваў адказнасьць за людзей, хацеў захаваць калектыў, каб людзі не разьбегліся. І ніхто ня звольніўся», — распавядае Паліна Сьцепаненка.

Да 2003 году ў арганізацыі зьявіліся 4 зарэгістраваныя абласныя і 2 гарадзкія аддзяленьні. Агулам па ўсёй краіне ўзьнікла 17 філіяў, якія аб’ядноўвалі больш за 150 валянтэраў.

У 2003-м Вярхоўны Суд Беларусі скасаваў рэгістрацыю «Вясны». Прычынай стала незалежнае назіраньне за прэзыдэнцкай выбарчай кампаніяй 2001 году, якое арганізавала «Вясна» разам зь іншымі грамадзкімі аб’яднаньнямі. Арганізацыя тады вылучыла 2000 назіральнікаў. Улады ж заявілі, што яна пры гэтым парушыла выбарчае заканадаўства.

У 2007 годзе Камітэт у правах чалавека ААН разгледзеў скаргу Алеся Бяляцкага на незаконнае закрыцьцё «Вясны» і пастанавіў, што «ліквідацыя аб’яднаньня — мера, несувымерная парушэньням» і «ўмяшаньне ў свабоду аб’яднаньняў». Камітэт ААН рэкамэндаваў беларускім уладам на працягу

90 дзён аднавіць правы Бяляцкага і ягоных калег і зарэгістраваць іхнае аб’яднаньне. Але ўлады гэтай рэкамэндацыі ня выканалі.

Вясноўцы ня толькі абскарджвалі закрыцьцё сваёй арганізацыі, яны тройчы спрабавалі зарэгістраваць новае праваабарончае аб’яднаньне, але кожны раз Мін’юст адмаўляў: у 2007 годзе і двойчы — у 2009-м. Пасьля гэтага вясноўцы заявілі, што спыняюць гэтыя спробы і будуць працаваць без рэгістрацыі.

«Мы дзейнічалі, дзейнічаем і будзем дзейнічаць, незалежна ад наяўнасьці рэгістрацыі. Трэцяя спроба рэгістрацыі будзе апошняй пры тым парадку рэчаў, які склаўся на сёньняшні дзень ва ўзаемаадносінах уладаў з грамадзянскай супольнасьцю. Прычым мы акцэнтуем увагу на тым, што зрабілі ўсё, што маглі зрабіць у дадзенай сытуацыі», — заявіў Алесь Бяляцкі пасьля трэцяй адмовы*.

Гэта было агульнае рашэньне актыву «Вясны». Людзі засталіся працаваць у нелегальных умовах.

Ніхто не сышоў зь «Вясны» і ў трывожныя дні жніўня 2011 году, калі арыштавалі Алеся. Пад прэсінгам уладаў вясноўцы кансалідаваліся і шукалі любыя магчымасьці для абароны свайго лідэра.

«Усе мае „дасягненьні” як праваабаронцы — неад’емныя ад дзейнасьці „Вясны”, і вось ужо „Вясьне” было па сілах зрабіць многае з таго, што ніводзін праваабаронца-адзіночка не пацягнуў бы», — гэтак напісаў мне Бяляцкі з Бабруйскай турмы.

---

* Алесь Бяляцкі: Працэс рэгістрацыі для нас як праваабаронцаў мае ня меншае значэньне, чым сам факт рэгістрацыі // Сайт Праваабарончага цэнтру «Вясна», 13.08.2009.

## Бяляцкі-праваабаронца

У Бяляцкага быў асаблівы шлях у праваабарончай дзейнасьці — некабінэтны, публічны, вулічны і мітынговы. То Алесь раздае тэксты Дэклярацыі правоў чалавека каля будынка КДБ, то ён у «акрываўленай» футболцы ў часе акцыі супраць сьмяротнага пакараньня, то разам з калегамі, седзячы на падлозе ў залі пасяджэньняў, пратэстуе ў Вярхоўным Судзе супраць закрыцьця «Вясны»…

У адной са сваіх кніг Бяляцкі склаў сапраўдны гімн мітынгам:

«Мітынгі — рухавік зьменаў. Я бясконца люблю мітынгі, я захапляюся імі, бо ведаю, што бязь мітынгаў не запаліць людзкі настрой. Толькі на мітынгах гэтыя маленькія індывідуальнасьці, заціснутыя ўласнымі праблемамі, забабонамі і пэсымізмам, прыдушаныя спадчынай савецкага дэтэрмінізму, якія амаль заўсёды адчуваюць сябе тымі, ад каго ніколі нічога не залежыць, пераўтвараюцца ў магутную моц, у няспынную стыхію, якая ломіць сацыяльныя каркасы дзяржаваў, абяззбройвае войскі і прымушае дыктатараў у страху і адчаі адступаць»*.

Ня менш як пяць разоў Бяляцкі за ўдзел у несанкцыянаваных мітынгах адседзеў у турме на вуліцы Акрэсьціна ў Менску. А затрымлівалі яго, у тым ліку і як праваабаронцу, дзясяткі разоў, калегі нават ня могуць падлічыць усе такія эпізоды.

У разуменьні Алеся грамадзкі пратэст, мітынг, яркая вулічная акцыя могуць зрабіць для абароны

* Алесь Бяляцкі. Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера. Менск, 2006. С. 129.

правоў чалавека значна больш, чым рэзалюцыі і звароты.

У 1998 годзе Алесь разам са Зьмітром Бандарэнкам быў арганізатарам вялікай дэманстрацыі ў Менску, накіраванай супраць нэафашызму. Сам Алесь згадваў пра тую падзею:

«На той час РНЕ набірала сілу ў Беларусі, і нават былі выпадкі зьбіцьця людзей прыхільнікамі гэтага руху. На гэтую дэманстрацыю сабралася некалькі тысяч чалавек, і ў выніку я атрымаў 10 сутак зьняволеньня як арганізатар. Можна ганарыцца, у прынцыпе, што я атрымаў „суткі" за антыфашысцкую акцыю»*.

Часам мітынговыя жарсьці бралі верх, нават калі Алесь ня быў заяўнікам і арганізатарам акцыі. У 2001 годзе на сьвяткаваньні Дня Волі ў Менску Бяляцкі нечакана ўзяў на сябе кіраўніцтва дэманстрацыяй, уступіўшы ў спрэчку зь міністрам унутраных спраў Уладзімерам Навумавым.

«Я забыўся пра сваю праваабарончую назіральніцкую місію, ня першы раз апынуўшыся ў падобнай сытуацыі, калі нечакана даводзілася браць адказнасьць на сябе, выхапіў у некага з маладафронтаўцаў мэгафон і пачаў крычаць у запале: „На курган! На курган! Усім зьвярнуць направа!" Генэрал Навумаў падскочыў да мяне і... схапіўся за мэгафон. Каля яго мітусіўся зьбялелы высокі прапаршчык, мабыць, з аховы. Я моцна ірвануў мэгафон на сябе і зноў закрычаў: „На курган!" І вось моладзь тарганулася апошні раз і павяліла

* Наша Вясна. Праваабарончы цэнтар «Вясна». Гісторыя ў асобах. Вільня: Gudas, 2012. С. 19.

праз вуліцу на курган. Справа была зробленая. Іх было ўжо не спыніць. Амапаўцы закешкаліся на праспэкце, і пакуль іх перагрупавалі і падагналі да кургана, мітынг ужо амаль скончыўся»*.

Пасьля гэтай акцыі суд пакараў Бяляцкага 10 суткамі арышту.

На пачатку сваёй праваабарончай кар'еры Бяляцкі бараніў абвінавачаных у справе аб забойстве паплечніка Лукашэнкі Яўгена Мікалуцкага, які загінуў у 1997 годзе ад выбуху ў пад'езьдзе свайго дому ў Магілёве. Доказы на арыштаваных былі сумнеўныя, і Бяляцкі сабраў прэсавую канфэрэнцыю, на якую прывёў іхніх сваякоў. Іх потым паказалі па расейскіх тэлеканалах. Сьмяротны прысуд, які ім пагражаў, урэшце ня вынесьлі. Адзін з тых падсудных неўзабаве прыйшоў з жонкай у «Вясну» падзякаваць, што выратавалі яму жыцьцё.

Разам з Алегам Воўчакам Бяляцкі арганізаваў дапамогу сем'ям ахвяраў трагедыі на станцыі мэтро «Няміга» ў Менску, калі ў 1999 годзе ў цісканіне ў падземным пераходзе загінулі 53 чалавекі. Грамадзкі камітэт па расьсьледаваньні прычынаў трагедыі даручыў тады «Вясьне» стаць сваім працоўным органам. Супрацоўніцы «Вясны» Тацяна Равяка і Паліна Сьцепаненка напісалі кнігу пра гэтую трагедыю.

За 15 гадоў дзейнасьці «Вясны» Бяляцкі асабіста заступаўся за дзясяткі нявінна асуджаных палітыкаў, журналістаў, вязьняў Плошчы, арганізоўваў кампаніі незалежнага назіраньня на выбарах, пуб-

* Алесь Бяляцкі. Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера. Менск, 2006. С. 123.

лічна пратэставаў, шукаў адвакатаў, дапамагаў сем'ям палітвязьняў, выходзіў на пікеты, бараніў правы чалавека ў Беларусі праз ААН і іншыя міжнародныя арганізацыі… Менавіта таму такой хваляй салідарнасьці адказала беларускае грамадзтва на арышт Алеся.

У Беларускай праваабарончай школе Алесь выкладае курс дзеяньняў у абарону правоў чалавека, у якім дзеліць праваабарончыя дзеяньні на чатыры катэгорыі: прававыя, палітычныя, грамадзка-інфармацыйныя і асьветніцкія, а таксама распавядае пра прынцыпы праваабароны і дзейнасьць праваабаронцаў як у Беларусі, так і ва ўсім сьвеце.

Алесь ініцыяваў падрыхтоўку «Вясною» бюлетэню «Права на волю», што выходзіць з 1998 году, а таксама аглядаў-хронік парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі і аналітычных справаздач «Вясны», кніг пра лёсы палітвязьняў, навучальных дапаможнікаў, праваабарончых выданьняў і публікацый дакумэнтаў. Сайт «Вясны» ў інтэрнэце spring96.org, які публікуе навіны на беларускай, расейскай і ангельскай мовах, зрабіўся адной з самых апэратыўных і аўтарытэтных крыніц інфармацыі пра факты парушэньня правоў чалавека, гэткім сучасным аналягам хронікі «Аб усім, што баліць» Міколы Ермаловіча, якая выходзіла ў 1970-я гады.

У 2009 годзе на «Форуме Свабоды» ў Осла Алесь Бяляцкі распавядаў пра свой шлях у праваабарончую дзейнасьць:

«Я ўсё жыцьцё марыў вывучаць беларускую літаратуру, і калісьці ў 80-х гадах, седзячы ў спэцыяльным закрытым фондзе бібліятэкі Акадэміі Навук у Менску, я налічыў дзясяткі і сотні невядомых

грамадству прозьвішчаў беларускіх літаратараў, гісторыкаў, мастакоў, публіцыстаў, журналістаў, якія загінулі ў сталінскія 30-я гады, а іх творчасьць была надзейна схаваная ўладамі з-за „няправільных” грамадзкіх поглядаў. Культурная інтэлігенцыя ў тыя гады была амаль цалкам зьнішчаная, і стала зразумела, адкуль у нашым грамадстве ўзялося даўняе пабойваньне ўсяго беларускага і дэмакратычнага. Людзі памяталі начны гул „варанкоў”, у якіх вывозілі „ворагаў народу”, і масавыя расстрэлы ў прыгарадных лясах… У 80-х гадах студэнцкая моладзь аб’ядналася ў нефармальныя арганізацыі. Мы прагнулі свабоды, дэмакратыі, павагі да правоў чалавека, гэтыя прынцыпы былі запісаныя ў статутах нашых падпольных арганізацыяў. І ніхто тады ня ведаў, чым скончыцца гэтая барацьба з уладай: черговымі рэпрэсіямі ці зьмяненьнем палітычнага ладу, у што тады верылі толькі такія маладыя, як мы»*.

Выступ Алеся праходзіў у перапоўненай канфэрэнц-залі ў Grand Hotel, што ў цэнтры Осла. Яго асьвятляла каля сотні журналістаў, фае было аформленае фатаздымкамі зь Беларусі, беларускія мэлёдыі граў скрыпічны ансамбль з удзелам Аляксандра Рыбака, беларуса з Нарвэгіі, які пазьней стане пераможцам Эўрабачаньня-2009.

«Мы, людзі розных прафэсіяў — настаўнікі, юрысты, інжынэры, журналісты, — узялі гэта на сябе стыхійна, з-за існуючай патрэбы, бо адчувалі, што грамадства павінна самаарганізавацца

* Алесь Беляцкий — Осло Форум Свободы 2009 // YouTube, 09.09.2011.

і дапамагаць сабе з мэтай супрацьстаяць гвалту з боку ўладаў, — працягваў Бяляцкі сваю прамову з трыбуны ў Осла. — Праца ў „Вясьне” на доўгія гады стала для мяне тым заняткам, які забірае ўвесь мой час... Калі нам было па 20 гадоў і мы пачыналі небясьпечную гульню супраць савецкай таталітарнай сыстэмы, перад намі ў Беларусі амаль нікога не было. А цяпер за намі тысячы і дзясяткі тысяч маладых людзей, якім патрэбная дапамога больш сталых і дасьведчаных, мы нясем адказнасьць за моладзь, якая паверыла ў магчымасьць трансфармацыі нашага грамадзтва, паверыла ў нашы ідэі пабудовы незалежнай дэмакратычнай Беларусі. Гэтая адказнасьць — асноўны пасыл, які надае мне сілы і прымушае далей ісьці абраным шляхам. Я з аптымізмам гляджу ў будучыню, я ўпэўнены, што прыйдзе час — і плаціна страху і маны, якую мэтадычна збудавала цяперашняя ўлада, ня вытрымае і разваліцца пад ціскам хвалі ідэй правоў чалавека, дэмакратыі і свабоды».

У траўні 2012 году на чарговым «Форуме Свабоды» ў Осла, на які праваабаронцы ўсяго сьвету зьбіраюцца, каб абмеркаваць сытуацыю ў краінах, дзе парушаюцца правы чалавека, абмяжоўваецца свабода слова, прагучала справаздача старшыні Нарвэскага Хэльсынскага камітэту Б’ёрна Энгесланда — пра справу Бяляцкага.

## 16 лістапада 2011 году.
## Суд. Дзень пяты. «Новае» абвінавачаньне

Юрыст Лабковіч пільна назіраў за працай калегаў — судзьдзі Бандарэнкі і пракурора Сайкоўскага. Лабковіч бачыў, што і Бандарэнка, і Сайкоўскі выконвалі сваю функцыю без асаблівага энтузіязму. Уладзімер прызнаўся мне:

«Яны — гэта проста апарат, машына. Яе цяжка спыніць, у ёй нічога не здрыганецца падчас выкананьня загадаў зьверху. Сапраўды, пасьля 1996 году, пасьля ўчынку прэм’ера Міхаіла Чыгіра, міністра працы Аляксандра Саснова, намесьніка міністра замежных спраў Андрэя Саньнікава, якія падалі ў адстаўку на знак пратэсту супраць фальшывага рэфэрэндуму, што зацьвярджаў бязьмежную ўладу Лукашэнкі, ніхто з гэтага апарату гучна не сыходзіў. Лукашэнка можа думаць, што дастаткова мець такую вэртыкаль, такіх пракурораў і судзьдзяў ды два палкі АМАПу, каб утрымліваць уладу ў сваіх руках пажыцьцёва».

Сапраўды, судзьдзя на працэсе Бяляцкага паводзіў сябе пасіўна, рэдка ўступаў у дыялёг, мала пытаньняў задаваў абвінавачанаму і сьведкам, аддаваў ініцыятыву пракурору. Калі хто-небудзь парушаў парадак выкрыкам у падтрымку падсуднага, на гэта першымі рэагавалі міліцыянты-ахоўнікі, а не судзьдзя. Адчувалася, што ён і пракурор даволі

няёмка сябе адчувалі ў залі, запоўненай людзьмі, якія спачувалі Алесю, праваабаронцамі, міжнароднымі назіральнікамі, замежнымі амбасадарамі, журналістамі. Судзьдзя і пракурор не выглядалі на гэтым працэсе героямі, ухіляліся ад інтэрвію, мэханічна выконвалі юрыдычныя фармальнасьці і вялі працэс да выраку.

## Тайна 20 хвілін

На папярэднім пасяджэньні пракурор уразіў прысутных просьбай аб перапынку, каб падрыхтаваць абвінавачаньне «паводле нанова адкрытых акалічнасьцяў», якое «будзе істотна адрозьнівацца ад папярэдняга». Для напісаньня чатырох друкаваных старонак новага тэксту (каля 9 тысяч знакаў з прабеламі) у пракурора было пяць дзён, тры зь якіх — працоўныя.

Але калі 16 лістапада роўна а дзясятай судовае пасяджэньне аднавілася, пракурору зноў спатрэбіўся час. Ён зьвярнуўся да судзьдзі з хадайніцтвам: зрабіць яшчэ адзін перапынак для складаньня «больш удалых фармулёвак» новага абвінавачаньня. Па-расейску гэта прагучала як «более удачных формулировок». Юрыдычным абгрунтаваньнем хадайніцтва такі выраз служыць ня можа. Тым больш незразумела, на якую «ўдачу» спадзяваўся пракурор і для каго.

Судзьдзя Сяргей Бандарэнка абвясьціў перапынак на паўгадзіны. Пракурор вярнуўся ў залю пасяджэньня хвілін праз 10. Суд аднавіўся ў 10.30.

Поўная заля заінтрыгавана слухала, што ж новага будзе ў новым абвінавачаньні. Праваaба-



Заля на адным з пасяджэньняў суду над Бяляцкім.

ронцы зь «Вясны» падрыхтаваліся параўноўваць яго з ранейшым, узяўшы з сабою раздрукоўкі. Журналісты, грукаючы клявішамі ноўтбукаў, вялі жывыя рэпартажы на сайты сваіх СМІ. У глыбіні душы сябры і паплечнікі Алеся спадзяваліся, што абвінавачаньне стане мякчэйшым і Алеся змогуць выпусьціць з-за кратаў пад падпіску аб нявыезьдзе, што беларуская хваля салідарнасьці і міжнародны ціск паўзьдзейнічаюць на ўлады. Але калі Валеры Сайкоўскі скончыў чытаць «новае абвінавачаньне», то адрозьненьне ад папярэдняга змаглі заўважыць толькі спэцыялісты.

Бяляцкаму па-ранейшаму інкрымінавалася частка другая артыкула 243 Крымінальнага кодэксу

(ухіленьне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры). У тэкст абвінавачаньня дадалася толькі адна фраза.

У новым абвінавачаньні ішла гаворка пра быццам бы атрыманьне Бяляцкім «даходаў, зьвязаных з выкананьнем А.В. Бяляцкім абавязкаў, ускладзеных у рамках дасягнутых дамоўленасьцяў».

Як ні дзіўна, але гэтая фармулёўка фактычна яшчэ больш развальвала абвінавачаньне, бо яна падкрэсьлівала, што Алесь ня проста атрымліваў прыбытак, а выконваў нейкія абавязкі ці даручэньні адносна пералічаных на рахункі грошай. А значыць, трэба высьвятляць, што гэта былі за абавязкі, рабіць запыты да донараў ды іншае, пра што і прасіла абарона. І ў выніку трэба было выпускаць Бяляцкага з клеткі.

Так што фармулёўка насамрэч сур’ёзная… Дзіўна іншае — чаму Сайкоўскі ўключыў яе ў абвінавачаньне?..

Бяляцкі і абаронца скарысталі сваё права на 5-дзённы перапынак для азнаямленьня з «новым» тэкстам. Судзьдзя пагадзіўся і абвясьціў перапынак да 22 лістапада 2011 году.

Заставалася толькі здагадвацца, якія матывы былі ў пракурора — навошта было марнаваць 5 дзён дзеля адной фразы і навошта пасьля гэтага было браць яшчэ адзін перапынак? Мне падалося, што дзеяньнямі пракурора нехта кіраваў з-за межаў гэтай залі, і ў той дзень яму патрэбная была дадатковая кансультацыя.

Што да самой фразы «…зьвязаных з выкананьнем А.В. Бяляцкім абавязкаў, ускладзеных у рамках дасягнутых дамоўленасьцяў», то адкуль яна

ўзьнікла — больш-менш зразумела. На папярэдніх пасяджэньнях Бяляцкі настойліва казаў, што ён выконваў абавязаньні, узятыя ім перад замежнымі донарамі, і згодна зь імі перадаваў грашовыя сродкі трэцім асобам, што гэтыя грошы яму асабіста не належалі. Так што пракурор фармальна зачапіўся за гэтыя паказаньні Алеся і дапісаў тэкст абвінавачаньня. Але зьмест дабаўкі ніяк не тлумачыць усёй працэдуры перапрад'яўленьня абвінавачаньня, якую ініцыяваў пракурор. Нічога не дадае гэтае дапаўненьне і да пацьвярджэньня віны Бяляцкага, аніяк не ўзмацняе абвінавачаньне.

Міжнародныя і беларускія экспэрты, якія прысутнічалі на працэсе, чакалі, што пракурор выкарыстае супраць Алеся артыкул 193-1 (дзеяньні ад імя незарэгістраванай арганізацыі). Валянцін Стэфановіч у той час быў перакананы:

«Мы адназначна думалі, што справа ідзе да ўзмацненьня абвінавачаньня, яго пагаршэньня для Алеся шляхам дабаўленьня яшчэ аднаго артыкула. Пры двух артыкулах дзейнічаў бы прынцып паглынаньня меншага пакараньня большым (за дзейнасьць ад імя несанкцыянаванай арганізацыі — да 2, за ўтойваньне даходаў у асабліва буйным памеры — да 7 гадоў зьняволеньня), але судзьдзя мог бы ўлічыць гэта і даць Алесю не 4,5 года, а 6 у межах санкцыі. Але штосьці перадумалі ў самы апошні момант».

Абвешчаны на пачатку пасяджэньня перапынак сапраўды даў падставы выказаць здагадку, што пункт абвінавачаньня, зьвязаны зь дзейнасьцю незарэгістраванай арганізацыі, мог быць выключаны зь яго непасрэдна ў дзень пасяджэньня.

«Мне чамусьці падалося, што ў пракурора было два тэксты новага абвінавачаньня. Зьдзіўляла тое, што ён папрасіў усяго 20 хвілін на ўдакладненьне нейкіх фармулёвак, улічваючы, што тэкст быў у надрукаваным выглядзе — ён што, асадкай зьбіраўся яго ўдакладняць? Мабыць, параіўшыся з кіраўніцтвам, ён і прынёс у залю адзін з двух загадзя падрыхтаваных тэкстаў новага абвінавачаньня… Але гэта толькі здагадкі. На справе ўлады адмовіліся ад выкарыстаньня ў справе Бяляцкага артыкула 193-1 Крымінальнага кодэксу не ў апошнюю чаргу таму, што ён ужо занадта палітызаваны і ператвараў бы працэс над Алесем і з фармальнага пункту гледжаньня ў палітычную расправу», — сказаў мне Стэфановіч. Валянцін мяркуе, што на дзеяньні пракурора і пазыцыю ўладаў магло паўплываць заключэньне Вэнэцыянскай камісіі Рады Эўропы «Да дэмакратыі праз права» наконт артыкула Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь аб дзейнасьці ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Заключэньне было накіраванае літаральна за дзень да прад'яўленьня Бяляцкаму новага абвінавачаньня, 15 лістапада 2011 году, на адрасы кіраўнікоў абедзьвюх палат Нацыянальнага сходу, прэзыдэнцкай адміністрацыі, КДБ.

У дакумэнце адзначалася, што пакараньне за дзейнасьць ад імя афіцыйна не зарэгістраванай арганізацыі, якое прадугледжваецца артыкулам 193.1, не адпавядае міжнародным стандартам, яно «робіць дзейнасьць незарэгістраваных аб'яднаньняў па сутнасьці немагчымай, а значыць, па сутнасьці абмяжоўвае права на свабоду асацыяцый».

# Ноч на роздум. Замежныя місіі Алеся

*Кожны дзень гінуць мужнасьць і сьвятасьць.*
*Кожны дзень, выпускаючы дых,*
*Паміраюць хлапчынкі расьпятыя,*
*І збавіцель ня помніць пра іх.*
*Ў зыркіх ранах, крывавыя, голыя,*
*Што ні дзень павісаюць яны*
*На крыжах з бамбуку, магноліі*
*І суровай паўночнай сасны.*
*Не пасьпеўшы зрабіцца мужчынамі,*
*Сустракаюць са зброяй бяду.*
*Галаву не на грудзі дзяўчынам,*
*А на сьлізкую плаху кладуць.*
*Плацяць катаргай і эшафотамі*
*За братоў сваіх душу жывую,*
*Хочуць дыхаць — задушаць гаротаю,*
*Хочуць думаць — сьсякуць галаву.*
*У чырвонай ад сонца Касьцілії,*
*Ў парнай сэльве і ў зорных ільдах*
*Кожны дзень яны бураць Бастылію:*
*Чалавечы свой, просты жах.*
*Але йдуць і за век свой ратуюць,*
*За дзіцячы сьлед на траве,*
*За высокую годнасьць расьпятую,*
*За найменьне тваё, Чалавек.*
*Дзе плаціць яшчэ столькі даводзіцца*
*За свабоды ўласнай лядо?*

*О зямля, сьвятая калодніца,*
*Гора, мужнасьці, сьмерці юдоль!*
*У былым іх — трушчобы няветлыя,*
*У сучасным — глухая турма,*
*І няма для іх раю сьветлага,*
*І суду іхнім катам — няма.*
*Толькі час вам уздасьць поўнай мераю.*
*Але ўсё ж — пакуль прыйдзе той час, —*
*Калі ёсьць на зямлі гэтай вера,*
*Калі варта жыць — то для вас.*

Уладзімер Караткевіч.
Баляда плахі. 1968 год

З Уладзімерам Караткевічам Алесь асабіста знаёмы ня быў, але менавіта творы Караткевіча зрабілі зь Бяляцкага сьвядомага беларуса.

У лісьце з Бабруйскай калёніі Алесь напісаў:

«Караткевіч аказаў на мяне вялізны, вызначальны ўплыў у пляне кшталтаваньня нацыянальнай сьвядомасьці і нацыянальнай годнасьці. Упершыню я прачытаў ягонае „Дзікае паляваньне караля Стаха”, а затым і „Каласы пад сярпом тваім”, і „Хрыстос прызямліўся ў Гародні”, як вучыўся яшчэ ў школе ў 9-м і 10-м. Я даваў яго чытаць іншым сваім сябрам і сяброўкам, і ад яго ідзе пачатак мяне як беларуса, яшчэ расейскамоўнага, са шматлікімі савецкімі забабонамі і малымі беларускімі ведамі, але пасьля прачытаньня Караткевіча ў мяне канчаткова і назаўсёды зьнікла пытаньне „Хто я?” і зьнік комплекс непаўнавартасьці, што мы „западлы народ”… Як празаік Караткевіч — вяршыня непераўзыдзеная, наш беларускі геній».

## Вязень сумленьня

Аляксандар Лукашэнка і дзяржаўныя СМІ Беларусі імкнуліся пераканаць у адсутнасьці палітычных матываў перасьледу Бяляцкага. Беларускі кіраўнік некалькі разоў казаў, што, маўляў, у Амэрыцы за няплату падаткаў даюць нашмат большыя тэрміны, чым атрымаў Бяляцкі.

Але ў Эўразьвязе і ЗША, у міжнародных арганізацыях гэтую справу ўспрынялі менавіта як палітычную, а не эканамічную.

Рэакцыя міжнароднай супольнасьці на арышт і вырак праваабаронцу была рэзка нэгатыўная, гучная і рашучая. 11 жніўня 2011 году праваабарончая арганізацыя Amnesty International прызнала Бяляцкага вязьнем сумленьня*.

Акцыі ў яго абарону прайшлі каля дыпляматычных місіяў Беларусі ў Варшаве, Вільні, Ерэване, Кіеве, Маскве, Парыжы, Стакгольме…

З патрабаваньнем вызваліць Бяляцкага выступілі Злучаныя Штаты Амэрыкі, Эўрапейскі Зьвяз, АБСЭ, Рада Эўропы, урады Нямеччыны, Чэхіі, Францыі, Польшчы, Літвы… За яго заступіліся вядомыя грамадзкія дзеячы шмат якіх краін сьвету, у тым ліку ляўрэаты Нобэлеўскай прэміі міру экспрэзыдэнт Польшчы Лех Валэнса і Шырын Эбадзі з Ірану, старшыня Маскоўскай Хэльсынскай групы Людміла Аляксеева, прэзыдэнт Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Сугайр Бэльхасэн, прэзыдэнт Рады БНР Івонка Сурвіла… У падтрымку Алеся выступілі сябры Рады пры прэзыдэнце Расеі

* Belarus must free activist held on tax evasion charges // Сайт Amnesty International, 11.08.2011.




Маніфэстацыя ў падтрымку Алеся каля беларускай амбасады ў Парыжы, 2011 г.

ў справе разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці і правоў чалавека.

Супольны пратэст з прычыны арышту Бяляцкага заявілі 64 праваабарончыя арганізацыі — сябры і партнэры Сеткі Дамоў правоў чалавека:

«Мы, ніжэйпадпісаныя 64 праваабарончыя арганізацыі, сябры і партнэры Сеткі Дамоў правоў чалавека, рашуча асуджаем вырак суду, згодна зь якім Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 года пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці. Мы заклікаем улады Беларусі неадкладна зьняць усе абвінавачаньні супраць Алеся Бяляцкага і спыніць яго крымінальны перасьлед».

Дакумэнт, адрасаваны Аляксандру Лукашэнку,

генэральнаму пракурору Беларусі Аляксандру Канюку і першаму намесьніку міністра юстыцыі Аляксандру Білейчыку, падпісалі:

Беларускі Дом правоў чалавека ў выгнаньні ў Вільні, Літва

Дом правоў чалавека ў Баку — ад імя наступных НДА:

— Інстытут свабоды і бясьпекі рэпартэраў

— Таварыства юрыдычнай адукацыі

— Таварыства гуманітарных дасьледаваньняў

Дом правоў чалавека ў Осла — ад імя наступных НДА:

— Міжнародная арганізацыя барацьбы з голадам Food First

— Інфармацыя аб ахове здароўя і правах чалавека

— Фонд Дамоў правоў чалавека

— Нарвэскі камітэт Бірмы

— Нарвэскі Хэльсынскі камітэт

— Голас Тыбэту

Фонд правоў чалавека Рафта (Нарвэгія)

Хэльсынскі фонд правоў чалавека (Польшча) — ад імя наступных НДА:

— Група Гарызонт

— Хэльсынскі камітэт

— Асацыяцыя маладых журналістаў «Поліс»

— Хэльсынскі фонд правоў чалавека

Дом правоў чалавека ў Сараеве — ад імя наступных НДА:

— Асацыяцыя жанчын-грамадзянак «Рэнэсанс»

— Фонд CURE

— Хэльсынскі камітэт правоў чалавека ў Босьніі і Герцагавіне

— Рэгіянальны каардынатар моладзевых груп

— Сэрбская грамадзянская рада — Рух за раўнапраўе — Рада Сараева

— Цэнтар «Жанчына і грамадзтва»

Дом правоў чалавека ў Тбілісі — ад імя наступных НДА:

— Грузінскі цэнтар псыхасацыяльнай і мэдычнай рэабілітацыі ахвяр катаваньняў

— Цэнтар правоў чалавека

Расейскі дасьледчы цэнтар правоў чалавека — ад імя наступных НДА:

— Група «Праваабарончая сетка»

— Незалежная псыхіятрычная асацыяцыя Расеі

— Маскоўскі цэнтар за турэмную рэформу

— Маскоўская Хэльсынская група

— Фонд правоў маці

— Міжнародная арганізацыя супраць гвалту

— Правы дзіцяці

— Права на жыцьцё і грамадзянскую годнасьць

— Фонд сацыяльнага партнэрства

— Саюз камітэтаў салдацкіх маці Расеі

Дом правоў чалавека ў Заграбе — ад імя наступных НДА:

— Асацыяцыя садзеяньня ў забесьпячэньні роўных магчымасьцяў для людзей з абмежаванымі магчымасьцямі

— B.a. B.e.

— Цэнтар вывучэньня праблем міру

— Дакумэнта-Цэнтар «Зварот да мінулага»

— Грамадзянскі камітэт правоў чалавека

— Svitanje — Асацыяцыя аховы і ўмацаваньня псыхічнага здароўя

Украінскі Хэльсынскі саюз правоў чалавека

Індэкс цэнзуры (Вялікабрытанія)

Артыкул 19 (Вялікабрытанія)

Цэнтар прававой трансфармацыі (Беларусь)

НДА M'ART (Украіна)

Цэнтар прававых і палітычных дасьледаваньняў «СІМ» (Украіна)

Івана-Франкоўская праваабарончая група (Украіна)

Дзіцячая экалягічная грамадзкая арганізацыя «Флора» (Украіна)

Грамадзкая арганізацыя «Тэрыторыя посьпеху» (Украіна)

Крымскі Праваабарончы цэнтар «Action» (Украіна)

Інфармацыйны цэнтар правоў чалавека (Кіеў, Украіна)

Цэнтар правоў чалавека «Поступ» (Луганск, Украіна)

Таварыства правоў чалавека ў Крывым Розе (Украіна)

НДА ўкраінскай моладзі «Фонд Рэгіянальных Ініцыятываў»

Фонд разьвіцьця прававых тэхналёгіяў (Украіна)

Херсонскі абласны фонд міласэрнасьці і здароўя (Украіна)

Інстытут дэмакратыі Піліпа Орліка (Украіна)

Östgruppen — Швэдзкая ініцыятыва за дэмакратыю і правы чалавека

Абаронцы грамадзянскіх правоў (Швэцыя)

Дацкі інстытут правоў чалавека (Данія)

«Чалавек у нядолі» (Чэская Рэспубліка)

Міжнароднае партнэрства ў правах чалавека (Бэльгія)

СІВІКУС: Сусьветны альянс за грамадзянскі ўдзел (ПАР)*

У сьвеце прымаліся шматлікія заявы, рэзалюцыі, звароты з прычыны арышту і суду над Алесем.

«Алесь Бяляцкі быў схоплены на хвалі жорсткага перасьледу абаронцаў правоў чалавека і актывістаў у Беларусі. Улады Беларусі маюць права караць ухіленьні ад выплаты падаткаў як злачынства, але гэтыя абвінавачаньні — відавочна палітычна матываваныя і былі выстаўленыя проста дзеля таго, каб спыніць яго праваабарончую дзейнасьць. Адмаўляючы ў рэгістрацыі недзяржаўным арганізацыям і гэтым самым не дазваляючы ім дзейнічаць адкрыта, урад Беларусі прымушае такіх актывістаў, як Алесь Бяляцкі, выкарыстоўваць для фінансаваньня сваёй працы банкаўскія рахункі ў суседніх краінах. Ён павінен быць вызвалены неадкладна і безумоўна»**, — гэтак заявіў Джон Дальхёйсэн, намесьнік дырэктара Amnesty International у справах Эўропы і Сярэдняй Азіі.

Віцэ-прэзыдэнт Бундэстагу Нямеччыны Катрын Гёрынг-Экарт абвясьціла, што ўзяла апеку над Алесем Бяляцкім, заявіўшы пры гэтым: «Я лічу Алеся Бяляцкага вязьнем сумленьня рэжыму Лукашэнкі і

* Call for immediate release and rehabilitation of Ales Bialiatski // Сайт Human Rights House, 24.11.2011.

** Belarus activist facing jail over «politically motivated» tax charges // Сайт Amnesty International, 03.11.2011.




Вызваленьня Алеся Бяляцкага патрабуюць у Брусэлі.

заклікаю да яго неадкладнага і безумоўнага вызваленьня і гарантыі абароны яго жыцьця і фізычнага стану»*.

МЗС Беларусі гэтую сусьветную хвалю палітычнай, грамадзянскай і чалавечай салідарнасьці зь Бяляцкім назваў «прыкладам выкарыстаньня падвойных стандартаў», заявіўшы, што Алеся нібыта перасьледуюць не за праваабарончую дзейнасьць, а за няплату падаткаў, за што караюць і на Захадзе, і што кампанія салідарнасьці — гэта «ціск на судовыя органы Беларусі»**.

---

* Prisoner's Godparenthood: Katrin Göring-Eckardt adopts Ales Bialiatski // Сайт Libereco, 13.10.2011.

** Агенцтва Інтэрфакс, 24.11.2011.

Ня менш важная прычына гэтай салідарнасьці — асоба самога Бяляцкага, які стаў аўтарытэтным міжнародным дзеячом. Ён намесьнік старшыні Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека, выконваў важныя місіі гэтай арганізацыі ў Тунісе і Кіргізстане, удзельнічаў у назіраньні за выбарамі ў Азэрбайджане і Ўкраіне, мае партнэрскія адносіны з многімі замежнымі праваабаронцамі і палітыкамі.

## Бакінская Плошча

«На прыступках будынка Савету міністраў, дзе, мабыць, адбываўся мітынг, людзі спрабавалі неяк арганізаваць абарону, але ў паветры несупынна мільгалі сотні дубінак, ішла страшная малацьба», — гэта цытата не пра падзеі на плошчы Незалежнасьці ў Менску 19 сьнежня 2010 году, хоць яна і цалкам ім пасуе. Гэта цытата з кнігі Алеся Бяляцкага «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера», якая выйшла ў 2006 годзе, з разьдзелу пра Азэрбайджан.

17 кастрычніка 2003 году, калі ў гэтай краіне ўлада з рук памерлага прэзыдэнта Гейдара Аліева шляхам выбарчых маніпуляцыяў і пагромаў апазыцыі перадавалася ягонаму сыну Ільхаму, у Баку адбываліся падзеі, вельмі падобныя да менскай Плошчы-2010. Назіральнікам, а часам і ўдзельнікам іх быў беларус Алесь Бяляцкі. І, як дома ў Беларусі, у Баку ён таксама займаўся знаёмай праваабарончай працай, «выносіў параненых з поля бітвы». Прычым у гэтым выпадку ня толькі ў пераносным, але і ў прамым сэнсе.

З 2001 году «Вясна» — сябра Эўрапейскай сеткі арганізацыяў назіраньня за выбарамі (ENEMO). Вясноўцы працавалі ў Кіргізстане, Украіне, Сэрбіі, Косаве, Казахстане...

У складзе місіі IDEE (няўрадавы Інстытут дзеля дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе — Institute for Democracy in Eastern Europe) пад эгідай АБСЭ на выбарах прэзыдэнта Азэрбайджану 15 кастрычніка 2003 году назіральнікамі працавала дванаццаць актывістаў «Вясны». Усяго ў місіі было 200 чалавек. Насуперак асноўнай назіральнай місіі АБСЭ, якая фактычна выказалася за легітымнасьць азэрбайджанскіх выбараў, місія IDEE прывяла багата фактаў парушэньняў выбарчага працэсу і заклікала міжнародную супольнасьць не прызнаваць гэтыя выбары. Сам Алесь так апісваў калізію:

«Гэта быў скандал. Уголас размова зайшла пра тое, што ні Эўропа, ні Амэрыка, зыходзячы са сваіх стратэгічных інтарэсаў, не хацелі псаваць адносінаў з новым прэзыдэнтам Ільхамам Аліевым. Яны спадзяваліся, што крыху пазьней пераканаюць яго пайсьці на дэмакратызацыю краіны зьверху. Апазыцыя была ў шоку, яны ўголас казалі, што заходняя дэмакратыя ім здрадзіла, бо каля двухсот дэмакратычных актывістаў сядзелі ў турме, дзе іх катавалі, білі, а Эўрапейскі Зьвяз і Амэрыка прызналі выбары легітымнымі. Наша місія ратавала гонар дэмакратыі ў іх вачох»*.

Афіцыйна Ільхам Аліеў набраў 79,46% галасоў. Гэтая лічба з дакладнасьцю да аднаго працэнта

* Алесь Бяляцкі. Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера. Менск, 2006. С. 115.

адпавядае выніку, які 20 сьнежня 2010 году абвясьціла старшыня ЦВК Беларусі Ярмошына для Аляксандра Лукашэнкі — 79,65%.

Як і апанэнты Лукашэнкі ў 2010-м, у 2003 годзе азэрбайджанская апазыцыя не прызнала вынікі выбараў, і на наступны дзень пасьля іх каля 5 тысяч прыхільнікаў Ісы Гамбара, апазыцыйнага кандыдата ў прэзыдэнты ад партыі «Мусават», рушылі па цэнтральных вуліцах сталіцы да плошчы Азадлыг. Улады накіравалі туды полк унутраных войскаў і спэцназ, якія яшчэ больш брутальна, чым у Менску, разагналі дэманстрацыю. У сутычках былі ахвяры.

Такога пабоішча я ня бачыў у жыцьці, — пісаў Алесь Бяляцкі пра тыя падзеі, сьведкам якіх ён стаў разам зь іншым беларускім назіральнікам, юрыстам са Смаргоні Алесем Дзергачовым:

«Мы выйшлі на вуліцу, убачылі на асфальце россып камянёў, пырскі пабітага аўтамабільнага шкла, калюжыну крыві, некалькі разьбітых шыбаў і перакулены міліцэйскі аўтобус. Мы пасунуліся ў бок гатэлю „Апшэрон", які стаіць на адным з краёў плошчы Азадлыг. На гэтую плошчу, як мы меркавалі, і маглі пайсьці зараз дэманстранты.

Мы ўбачылі, можа, зь пяць-сем тысячаў людзей, вакол якіх мітусіліся, як восы, паступова сьціскаючы кола, АМАП, міліцыянты, яшчэ нейкія спэцчасткі МУС, апранутыя ў лёгкую форму і з доўгімі дубінкамі. У іхні бок ляцеў град камянёў, і яны прыкрываліся шчытамі.

Мы падышлі як мага бліжэй, стаўшы каля гатэльнага фантану, імкнучыся разгледзець, што ж там адбываецца. А плошча ўсё болей і болей напаў-

нялася спэцчасткамі. Пачуліся стрэлы, мы аж сьцепануліся, і было незразумела, ці то гэта стралялі газавымі гранатамі ў бок людзей, ці то з аўтаматаў, якія целяпаліся за сьпінамі ў некаторых спэцназаўцаў. Няўхільна сьціскалася кола вакол тых, хто не пасьпеў ці не захацеў сыходзіць з плошчы… Вось ідзе пахістваючыся стары чалавек, а да яго падлятае здаровы, як бык, апрануты ў чорны гарнітур, мужчына, мабыць, нейкі пераапрануты гэбіст ці міліцыянт. У руках у яго драўляны брус паўтары мэтры даўжынёй, і ён з усяго размаху перацягвае ім старога. Той зусім не бароніцца, а толькі прысьпешвае хаду, спрабуючы ўцячы, але яго падхопліваюць паліцыянты ў форме і, зьбіваючы на хадзе дубінкамі, цягнуць у аўтабудку з закратаванымі вокнамі.

А вось у наш бок бяжыць нейкі мажны чарнявы малады хлопец, у ягоных руках жоўтая прэс-карта, пэўна, журналіст. Усе гэтыя сто мэтраў, якія ён дабіраецца да нас, яго бесьперапынна б'юць дубінкамі міліцыянты. Калі ён падбягае, дык проста страчвае прытомнасьць і валіцца пад ногі дзяўчатам-назіральніцам, якія стаяць побач з намі. Дзяўчаты нахіляюцца над ім, тузаюць, спрабуюць ажывіць. А я з трывогаю назіраю, як ад агульнага натоўпу паліцыянтаў аддзяляецца атрад чалавек зь пятнаццаць зь дзьвюма аўчаркамі і трушком, закінуўшы дубінкі на плечы, выцягнуўшыся ў зьмейку адзін за адным, тупацяць у наш бок. У мяне яшчэ цепліцца надзея, што яны куды-небудзь зьвернуць улева ці ўправа, але ж не, яны бягуць проста на нас. Я азіраюся, хлопец-журналіст яшчэ ляжыць непрытомны і адступаць нам няма як. Тады я выстаўляю левую

руку з павязкаю АБСЭ, другой рукою махаю бэйджам і голасна крычу: „АБСЭ! АБСЭ!"

Вось падбягаюць першыя байцы з аўчаркамі. У іхніх вачах палае глухі дрымучы азарт. У апошні момант да іх даходзяць мае крыкі, і яны, стрымліваючы аўчарак, праносяцца побач. А за імі ланцужком падбягаюць па адным усе спэцназаўцы. І кожны зь іх, гледзячы некалькі імгненьняў на мяне, спрабуе зразумець, што я там крычу, а потым прымае рашэньне на маю карысьць. Мяне не сьцебанулі, калі б хоць адзін закрануў, астатнія білі б ужо без разбору. Нам пашанцавала.

Пасьля гэтага мы хутка адцягнулі журналіста ў кусты, дзе ён трохі адсопся і расплюшчыў затуманеныя вочы. А на плошчы адбываўся канец трагедыі, дубінкі ўзьляталі ўсё часьцей, людзей расьцягвалі па машынах, неўзабаве там засталіся толькі міліцыянты»*.

Яшчэ ў часе назіраньня на ўчастках Бяляцкі разам з калегамі ратаваў ад зьбіцьця, выцягваў зь міліцэйскіх пастарункаў назіральнікаў ад апазыцыйных партыяў. «Ішлі да начальніка раённай міліцыі, пагражалі міжнародным скандалам»**, — піша Алесь. І вызвалялі.

Пасьля разгону бакінскай Плошчы ў краіне пачалася зачыстка апазыцыі. Сотні людзей былі параненыя і зьнявечаныя, адзін дэманстрант загінуў, а двое хлопцаў памерлі пасьля катаваньняў у зьняволеньні. Па ўсёй краіне прайшлі арышты.

Навісла пагроза арышту і над лідэрам апазыцыі,

---

* Алесь Бяляцкі. Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера. Менск, 2006. С. 176–179.

** Тамсама. С. 126.

кандыдатам на выбарах Ісой Гамбарам. Бяляцкі разам з прадстаўнікамі місіі IDEE Ірэнай Лясотай і Пэтрушкай Шустравай паехалі на кватэру да Гамбара, адкрыта зьявіліся з павязкамі назіральнікаў АБСЭ. За кватэрай сачылі спэцслужбы. На выхадзе зь яе былі арыштаваныя некалькі аднапартыйцаў Ісы, а яму самому перадалі, што калі ён паспрабуе выйсьці з кватэры, то адразу будзе арыштаваны.

«У такой нэрвовай сытуацыі ўлады маглі ў любы момант прыняць рашэньне пра арышт Ісы Гамбара. Ня ведаю, ці магла на гэта паўплываць хоць нейкім чынам нашая прысутнасьць, але Ірэна папрасіла мяне застацца на ноч. Нам паслалі проста на паркетнай падлозе ў залі, дзе мы і спалі ўпокат. Затым наступныя тры дні ў кватэры Ісы кругласуткава дзяжурылі беларусы і ўкраінцы з нашай назіральніцкай місіі»*, — піша пра той эпізод Алесь Бяляцкі. Ісу тады не арыштавалі.

## Віцэ-прэзыдэнт фэдэрацыі

У 2004 годзе «Вясна» стала сябрам Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека — МФПЧ (La Fédération internationale des ligues des droits de l’Homme — FIDH). Гэтая арганізацыя са штаб-кватэрай у Парыжы цяпер аб’ядноўвае 164 праваабарончыя лігі па ўсім сьвеце. Калісьці ў яе ўваходзіла Беларуская Ліга правоў чалавека, якую ўзначальваў Яўген Новікаў. Але пасьля яго пераходу ў стан дзяржаўных прапагандыстаў кантакты замежных і беларускіх праваабаронцаў зь ім былі спыненыя.

«Вясну» ў МФПЧ прынялі на кангрэсе ў Эк-

* Тамсама. С. 198.

вадоры, дзе арганізацыю прадстаўляў Валянцін Стэфановіч. МФПЧ была ў складанай сытуацыі, бо незадоўга да кангрэсу ўлады ліквідавалі «Вясну» як легальную арганізацыю. Але, ведаючы беларускіх праваабаронцаў і разумеючы мэту гэтых дзеяньняў уладаў, фэдэрацыя вырашыла факт ліквідацыі праігнараваць.

У красавіку 2007 году на кангрэсе ў Лісабоне Алесь Бяляцкі быў абраны адным зь віцэ-прэзыдэнтаў Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека. Ён стаў першым прадстаўніком постсавецкай прасторы ў кіраўніцтве арганізацыі. Алесь ацаніў гэты факт як міжнароднае прызнаньне таго, што сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ненармальная.

Як віцэ-прэзыдэнт МФПЧ Бяляцкі езьдзіў у праваабарончыя місіі ў самыя розныя краіны. Адразу пасьля рэвалюцыі ў Тунісе Алесь прыехаў туды, узяў удзел у канфэрэнцыі пра пераход ад дыктатуры да дэмакратыі. У Эгіпце ён быў яшчэ да рэвалюцыі, якая выкінула з крэсла прэзыдэнта Хосьні Мубарака.

## Куба

Кубу Алесь наведваў зь місіяй салідарнасьці з дэмакратычнымі актывістамі ў 2008 і 2010 гадах. Ён ехаў як звычайны турыст. Хаваючыся ад мясцовай спэцслужбы, заходзіў у раёны, якія турысты абмінаюць, бачыў галечу, таталітарныя парадкі, знаёміўся зь людзьмі, якія супрацьстаяць рэжыму Кастраў. Іх аказалася нямала.

«На жаль, пра некаторыя дэталі гаварыць рана», — напісаў мне пра паездкі на Кубу сам Алесь:

«Адчуваньне, як быццам бы я апынуўся ў гадах свайго дзяцінства са звыклым антуражам: піянэры з чырвонымі гальштукамі, візуальныя лёзунгі, значна большы страх, чым зараз у нас. Другое ўражаньне — тое, што і ў гэтай сытуацыі там тысячы людзей, якія штосьці робяць дзеля зьменаў, нягледзячы на перасьлед і ўціск. І людзі, зь якімі я сустракаўся з апазыцыйных палітыкаў, грамадзкіх актывістаў, былі вельмі інтэлігентнымі і адукаванымі. Тут можна правесьці паралель з намі. Але адрозьненьне — большасьць зь іх ніколі не былі за мяжою. І ўсе выгоды цывілізацыі — сотавыя тэлефоны, кампутары, інтэрнэт — да іх прыходзяць пазьней, чым да іншых.

Увогуле ж гэтыя паездкі я ўспрымаў як частку сваёй працы, я набіраўся досьведу, вучыўся стойкасьці і мужнасьці і дапамагаў як мог. Сам дзяліўся сваім досьведам, і важна было кубінцам паказаць, што яны не пакінутыя, не адны».

Апошні раз Бяляцкі наведваў Кубу разам з Валянцінам Стэфановічам, які распавёў мне:

«Мы прыехалі сустрэцца з кубінскімі дысыдэнтамі, падтрымаць іх. Мы тады прывезьлі ім лекі, флэшкі, дыскі, тое, што ім недаступна. Мы ім казалі, што перамены могуць адбыцца хутка, як гэта было з СССР, і да іх трэба рыхтавацца.

Мы сустрэлі на Кубе надзіва шмат незадаволеных людзей, якія спрабуюць нешта рабіць у рэпрэсіўных умовах. Напрыклад, сустракаліся з блогеркай, якая свае тэксты распаўсюджвае на дысках, з былымі палітвязьнямі. У Гаване мы зайшлі ў кватэру, якая выкарыстоўваецца дысыдэнтамі як публічная бібліятэка, перадалі ў яе стос эўрапейскіх газэт. Там

жа нас чакала дзесяць дысыдэнтаў. Калі пасьля сустрэчы зь імі мы выйшлі адтуль, нас аклікнулі супрацоўнікі кубінскай службы бясьпекі, пачалі пытацца, што мы там рабілі. Мы адказалі ім, што шукалі, дзе пераначаваць.

Яны супакоіліся, толькі калі ўбачылі нашыя беларускія пашпарты, але зьвесткі зь іх перапісалі».

Як сьведчыць Саша Кулаева з МФПЧ, Алесь як віцэ-прэзыдэнт фэдэрацыі шмат працаваў у постсавецкім рэгіёне, выдатна валодаў сытуацыяй, гаварыў зь людзьмі на адной мове. Ён працаваў над стратэгічным разьвіцьцём рэгіянальнай сеткі МФПЧ, ініцыяваў дасьледчыя місіі і сам браў у іх удзел. У рамках такой місіі ён езьдзіў у Грузію адразу пасьля вайны з Расеяй у 2008 годзе. У Армэніі Алесь клапаціўся пра палітвязьняў пасьля крывавага разгону дэманстрацыі пратэсту ў Ерэване 1–2 сакавіка 2008 году, якая скончылася сьмерцю 10 чалавек, масавымі арыштамі і крымінальнымі справамі*.

## Кіргізстан

Цяжкай выдалася паездка Бяляцкага ў складзе дасьледчай місіі МФПЧ у Кіргізстан у разгар міжэтнічнага канфлікту на поўдні краіны 20–28 чэрвеня 2010 году. Алесю разам зь місіяй праваабаронцаў давялося прысутнічаць пры эксгумацыі целаў ахвяраў, калі ў самую сьпёку вайскоўцы раскопвалі

* Саша Кулаева: «Алесь заўсёды быў там, дзе патрэбная была салідарнасьць» // Сайт Праваабарончага цэнтру «Вясна», 01.11.2011.

брацкія магілы, даставалі трупы, мэдыкі выяўлялі прычыны сьмерці ахвяраў, а місія гэта фіксавала.

У зоне канфлікту частка насельніцтва ставілася да праваабаронцаў агрэсіўна, бо тыя паведамлялі праўду пра пагромы, рабункі, забойствы, патрабавалі захадаў дзеля абароны ўзбэцкай меншасьці.

Пасьля наведваньня вёскі Папан непадалёк ад гораду Ош, дзе Бяляцкі і дзьве мясцовыя актывісткі праваабарончай фэдэрацыі Азіза Абдзірасулава і Талекан Ісмаілава, а таксама расейская журналістка Аксана Чалышава праводзілі расьсьледаваньне, 27 чэрвеня, калі яны на кароткі час пакінулі машыну, каб папіць гарбаты, невядомыя падпілавалі шрубы задняга кола.

Кола адляцела, калі машына ехала праз горы. Дзякуючы таму, што кіроўца быў спрактыкаваны, машыну ўдалося ўтрымаць на перавале. Хутка пад’ехала міліцыя, але вінаватых не знайшлі.

Сам Алесь напісаў мне пра той выпадак:

«Кола адвалілася, ужо як мы выяжджалі на роўную дарогу пасьля сэрпантыну. А там бы ўсё магло скончыцца вельмі сумна. Кола было так пашкоджанае, што назад яго паставіць было нельга. Таму з Ошу прыгналі эвакуатар і машыну вывезьлі на ім. Чаму гэта адбылося? Так у іх запалохваюць праваабаронцаў, бо і Талекан Ісмаілава, і Азіза Абдзірасулава, зь якімі мы ехалі, — вельмі баявыя праваабаронцы, актыўныя і гераічныя безь перабольшаньня жанчыны. Падчас кіргіска-ўзбэцкага канфлікту яны рэальна рызыкавалі сваім жыцьцём, каб спыніць гвалт і ўратаваць мірных жыхароў, як узбэкаў, так і кіргізаў».

У незалежнай справаздачы Бяляцкі з калегамі

зрабілі выснову, што колькасьць ахвяраў красавіцкіх беспарадкаў на поўдні Кіргізстану афіцыйна была моцна заніжаная, што на судовых працэсах па выніках гэтых падзеяў парушаліся законы, што парушаліся правы праваабаронцаў і адвакатаў. Паводле місіі МФПЧ, «загінулі сотні людзей, тысячы атрымалі раненьні, у асноўным зь ліку этнічных узбэкаў»*.

Міжэтнічны канфлікт на поўдні Кіргізстану ў справаздачы МФПЧ быў названы «катастрофай, якую можна было прадбачыць».

1–3 сьнежня 2010 году ў чарговай кіргіскай паездцы Бяляцкі і Сугайр Бэльхасэн заклікалі Бішкек прызначыць мандат міжнароднай камісіі для расьсьледаваньня міжэтнічных сутыкненьняў. У турэмным шпіталі ў Бішкеку яны наведалі праваабаронцу ўзбэцкага паходжаньня Азімжана Аскарава, якога засудзілі на пажыцьцёвае зьняволеньне нібыта за ўдзел у чэрвеньскіх беспарадках, хоць ён быў толькі назіральнікам і фіксаваў пагромы на відэа.

Алесь напісаў мне пра гэты выпадак:

«Калі мы пад’ехалі да турмы, Сугайр пазванілі з Тунісу і паведамілі, што ў яе памёр бацька. Яна проста здранцьвела, і сьлёзы на вачах. Вось у такім стане мы пайшлі на спатканьне. Яно адбывалася ў прысутнасьці начальніка калёніі. Увайшоў Аскараў. Мы сядзелі ўтраіх, з намі была юрыстка з Цэнтру супраць карупцыі Аіда, якая працавала ўвесь гэты час з Аскаравым. Яна ўстала, яны абняліся з Аскаравым і абое заплакалі. Равуць ледзь не наўзрыд.

* Президент Международной Федерации за права человека (FIDH) посетила Азимжана Аскарова в заключении // Сайт Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека, 10.12.2010.

Сугайр сядзіць, у яе сваё гора. І ў мяне сьлёзы на вачах выступілі. Ініцыятыву размовы я ўзяў на сябе. Аскараў троху супакоіўся і распавёў, як яго затрымалі, як катавалі — выбівалі паказаньні. Ён у злачынстве не прызнаўся».

Аскараў заявіў Сугайр і Алесю, што і пасьля заканчэньня судовага працэсу ён быў жорстка зьбіты супрацоўнікамі аховы.

Амбудсмэн Турсунбэк Акун, зь якім сустрэліся кіраўнікі МФПЧ, заявіў ім, што ён ініцыяваў у справе Аскарава стварэньне спэцыяльнай камісіі, якая вынесла заключэньне: «Аскараў ні ў чым не вінаваты». Бэльхасэн і Бяляцкі запатрабавалі новага бесстароньняга суду, каб віна з Аскарава была зьнятая. Бяляцкі тады сказаў кіраўніку адміністрацыі кіргіскага прэзыдэнта: «Справа Аскарава — гэта ня ваша ўнутраная справа, яна набыла міжнародны рэзананс».

Па выніках гэтай паездкі Алесь выступіў з заявай:

«Сытуацыя з правамі чалавека ў Кіргізстане цесна зьвязаная з палітычнай нестабільнасьцю ў краіне. Калі не рабіць канкрэтных дзеяньняў для барацьбы зь беспакаранасьцю вінаватых у найгрубейшых парушэньнях правоў чалавека, дапушчаных падчас красавіцкіх і чэрвеньскіх падзеяў і пасьля іх, ні пра якую стабільнасьць ня можа быць і гаворкі»*.

* Тамсама.

## Казахстан

У чэрвені 2010 году Алесь ад імя МФПЧ езьдзіў у Казахстан, у горад Усьць-Каменагорск, каб наведаць у зьняволеньні Яўгена Жоўціса, кіраўніка Казахстанскага бюро за правы чалавека. Сустрэча ў калёніі-пасяленьні доўжылася каля дзьвюх гадзін. Алесь перадаў Яўгену словы падтрымкі, паведаміў, што за яго вызваленьне змагаюцца праваабаронцы сьвету, перадаў, што Нарвэскі Хэльсынскі камітэт узнагародзіў яго прэміяй імя Сахарава.

«Мая галоўная задача была — падтрымаць яго маральна, ну і каб адміністрацыя бачыла, што да яго прыяжджаюць, што ён ня зьнік з поля зроку», — напісаў мне пра той выпадак Алесь у лісьце з Бабруйскай турмы.

«Алесь заўсёды быў салідарны зь іншымі праваабаронцамі, якія цярпелі ганеньні, асабліва з тымі, хто быў у турмах», — сказала мне Саша Кулаева.

Пад ціскам Захаду Жоўціса амніставалі. 17 лютага 2012 году ён выйшаў на волю.

## Расея

У 2009 годзе Алесь Бяляцкі разам з Уладзімерам Лабковічам езьдзіў назіральнікам у Маскву на суд над старшынём расейскага Праваабарончага цэнтру «Мэмарыял» Алегам Арловым, калі на таго завялі справу нібыта за паклёп на кіраўніка Чачні Рамзана Кадырава. Бяляцкаму нашмат цяжэй, зазначыў Арлоў, прыехаўшы на суд над Алесем:

«Вядома, гэтыя два працэсы непараўнальныя: Алесь — за кратамі, я знаходзіўся і знаходжуся на волі. І тым ня менш для мяне прыемная і вельмі



Алег Арлоў, Натальля Пінчук, Андрэй Пачобут на судзе над Бяляцкім.

важная такая салідарнасьць. І я папросту лічыў сваім абавязкам ехаць у Менск, каб быць на працэсе, назіраць самому, сьведчыць пра тое, як ён праходзіць, спрыяць прыцягненьню ўвагі да гэтага працэсу, перш за ўсё ў маёй краіне — Расеі, і выказаць падтрымку Алесю, яго сябрам і паплечнікам»*.

Супраць Арлова завялі крымінальную справу за паклёп у сувязі зь ягонай заявай пра адказнасьць прэзыдэнта Чачні Рамзана Кадырава за забойства супрацоўніцы «Мэмарыялу» Натальлі Эстэміравай. 14 чэрвеня 2011 году Арлову вынесьлі апраўдальны прысуд.

Бяляцкі быў знаёмы з Натальляй Эстэміравай,

* Алег Арлоў: Грамадзтва павінна прачнуцца. Новы час, 02.12.2012.

незадоўга да яе гібелі сустракаўся зь ёю ў Грузіі. У 2009 годзе падчас суду над Арловым Бяляцкі і Лабковіч распаўсюдзілі заяву:

«Хоць улады Беларусі ўжываюць іншыя рэпрэсіўныя мэтады, але вынікі такога супрацьстаяньня ўладаў і грамадзянскай супольнасьці атрымліваюцца практычна аднолькавымі. У нашых грамадзтвах існуе вялікі ўзровень страху. Улады, прыкрываючыся дэклярацыйнымі заявамі, цалкам ігнаруюць правы грамадзянаў Чачні і Беларусі. Права моцы, а не закону пануе ў нашых краінах»*.

* «Права моцы, а не закону пануе ў нашых краінах» // Сайт Праваабарончага цэнтру «Вясна», 08.10.2009.

## 22 лістапада 2011 году.

# Суд. Дзень шосты. Самае кароткае пасяджэньне

Бяляцкі на судзе выглядаў упэўнена. Было відаць, што ён моцна схуднеў, што твар ягоны даўно ня бачыў сонца, але ён быў акуратна падстрыжаны і паголены. Усе дні судовага працэсу Алесь быў у кашулях-каўбойках свайго ўлюбёнага, як сьведчыць жонка Натальля, вішнёвага колеру, — у падобнай кашулі яго арыштавалі 4 жніўня 2011 году. З-пад расшпіленых гузікаў віднелася футболка з надпісам «Вясна». Знаны беларускі пісьменьнік Уладзімер Арлоў, які разам зь іншымі літаратарамі прыйшоў у суд падтрымаць калегу, адзначыў, што Бяляцкі трымаецца надзвычай годна:

«Безумоўна, турма наклала свой адбітак. Але ў яго тая самая ўсьмешка, тыя самыя вочы, дух яго, воля яго моцныя…»

### Судовае сьледзтва скончанае

Шосты дзень судовага працэсу быў самы кароткі. Пасяджэньне доўжылася ўсяго 10 хвілін.

Пракурор зазначыў, што новых пытаньняў да падсуднага ня мае, толькі спытаўся, ці пацьвяр-

джае ён свае ранейшыя паказаньні, дадзеныя на працэсе.

Бяляцкі сказаў, што асэнсаваў гэтак званае новае абвінавачаньне і прыйшоў да высновы, што яно нічым не адрозьніваецца ад папярэдняга:

«І таму лічу непатрэбным даваць па ім паказаньні, паколькі я даваў паказаньні паводле ранейшага абвінавачаньня. Само абвінавачаньне я не прызнаю, лічу яго неабгрунтаваным, што паказалі папярэднія пасяджэньні суду».

У гэты дзень судзьдзя Бандарэнка далучыў да справы шэраг дакумэнтаў, у тым ліку атрыманую на просьбу пракурора даведку Мін'юсту Беларусі пра тое, калі Бяляцкі з паплечнікамі зьвярталіся па рэгістрацыю «Вясны» і чаму ім было адмоўлена.

Апошняя акалічнасьць сьведчыла, што Бяляцкаму сапраўды маглі рыхтаваць абвінавачаньне за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, таму й даслалі гэты запыт у Мін'юст, мяркуе Валянцін Стэфановіч.

Такім чынам, судовае сьледзтва 22 лістапада скончылася. Судзьдзя прызначыў на 23-га спрэчкі бакоў.

# Ноч на роздум. Як выдавалі Алеся?

**У кабінэце прэзыдэнта рэспублікі**

*Тым часам менскія прыяцелі рабілі, што маглі, каб ратаваць мяне.*

*Аднойчы тав. Чарвякову* далажылі аб прыходзе X і Y людзей, якія займалі ў літаратуры беларускай выдатнае месца.*

*Чарвякоў прыняў іх адразу.*

*— А мы да вас, Аляксандар Грыгор’евіч. У справе Аляхновіча.*

*— Я так і думаў. Была ў мяне ягоная матка. Прынесла мне ягоную заяву. Я даў перапісаць на машынцы, бо цяжка расчытаць. Напісана макам на цянюсенькай паперы, страшэнна пакамечана...*

*— Ну, няма дзіва. Гэтая заява разам зь лістом да нас была ўпхнутая ў пушачку ад сярнічкаў... Мабыць, іншага спосабу ня меў...*

*— Ну, што-ж, турма — ня цётка. Там строга.*

*— Ну, дык што думаеце, Аляксандар Грыгор’евіч. Нам здаецца, што тут нейкае непаразуменьне. Можа-б вы пагаварылі зь Пілерам**...*

*— Ну што-ж, пагаварыць можна. А калі што, дык вы-б маглі за яго паручыцца?*

*— Ну, ведама.*

---

* *Пару год пасьля застрэліўся перад арыштам, які пагражаў яму.*

** *Тагачасны старшыня Менскага ГПУ.*

*— Мо нешта і ўдасца зрабіць... Хаця, ведаеце, гэта даўгая працэдура... Але, праўду кажучы, ці варта нават нешта рабіць?.. Дык-жа ўжо хутка дзясятыя ўгодкі рэвалюцыі... Будзе шырокая амністыя. Тады яго звольняць і бяз нашых захадаў.*

*— Думаеце, што ён падпадзе пад амністыю?*

*— Маю надзею... А калі-б... Ну, тады трэ будзе падумаць... Так ці сяк я ня думаю, каб ён доўга праседзеў.*

*— Але-ж засудзілі яго на 10 год.*

*— Ну, што ў нас значыць дзесяць гадоў! Можа быць засуджаным на дзесяць, а праседзець толькі год, два... Але, трэба прызнацца, што абставіны для яго злажыліся вельмі непамысна...*

Францішак Аляхновіч.
У капцюрох ГПУ. 1937 год

Алесь Бяляцкі — дасьледчык творчасьці Францішка Аляхновіча, аўтар публікацый пра гэтага пісьменьніка, які перажыў і першым апісаў савецкі ГУЛАГ. У прадмове да перавыданьня кнігі Аляхновіча «Ў капцюрох ГПУ» Бяляцкі напісаў:

«Цяжка назваць каго-небудзь зь беларускай інтэлігенцыі першай паловы XX стагодзьдзя, хто не паспытаў бы турэмнай баланды. Частка беларускай літаратуры створаная ў турмах»*.

Праз сто гадоў, на пачатку XXI стагодзьдзя, шмат каму зь беларускай інтэлігенцыі, апазыцыйных палітыкаў давялося за сваё змаганьне «за Беларусь» паспытаць той самай турэмнай баланды. Лік

* Францішак Аляхновіч. У капцюрох ГПУ. Менск, 1994. С. 6.

сядзельцаў ідзе на сотні. І па-ранейшаму ў турмах ствараецца беларуская літаратура. Піша ў зьняволеньні і Алесь Бяляцкі.

У згаданай прадмове ён высока ацаніў рэалізм Аляхновіча як аўтара аўтабіяграфічнага твору:

«З будзённага апісаньня такіх эпізодаў, як вываз вязьняў зь менскай турмы на расстрэл, гульня зь дзецьмі, што бегаюць па турэмных калідорах, вымушаная масавая прастытуцыя нявольных кабетаў, і шматлікіх іншых атрымліваецца жахлівая сюррэалістычная і алягічная карціна Зла, усьвядоміць якую розум нармальнага чалавека да канца проста ня можа»*.

У публікацыях і інтэрвію Алесь сьцьвярджаў, што цяперашняя рэпрэсіўная сыстэма бярэ свой пачатак у сталінскіх судах-тройках і ГУЛАГу.

Аляхновіч шчыра прызнаецца ў сваёй наіўнасьці, бо паверыў у прапаганду аб беларусізацыі ў БССР, пакінуў тэрыторыю Польшчы, дзе беларусы цярпелі ад нацыянальнага прыгнёту, але мелі сваю фракцыю ў Сэйме, і пераехаў у Савецкую Беларусь. Неўзабаве ён апынуўся ў турме, а потым у лягеры на Салаўках. Польскія ўлады выменялі яго ў Саветаў на іншага такога ж наіўнага беларускага дзеяча Браніслава Тарашкевіча, які ў Менску быў прысуджаны да расстрэлу і згінуў.

Цётка Бяляцкага са Сьветлагорску Галіна Дзячэнка, даведаўшыся, што я быў на ўсіх пасяджэньнях суду над Алесем, папрасіла выключыць дыктафон і спыталася: «Чаму ж яны выдалі Алеся?» Цяжка было адказаць на гэтае пытаньне ў некалькіх

* Тамсама. С. 9.

словах. Адзінае, што я сказаў: гэта было зроблена ненаўмысна, па наіўнасьці…

Хоць пэўнасьці ў мяне няма: наіўнымі ці цынічнымі былі польскія і літоўскія чыноўнікі, якія дапамаглі «беларускаму ГУЛАГу» засудзіць Бяляцкага?

У пэўнай ступені наіўным ідэалістам быў сам Алесь, які даверыўся палітычным і бюракратычным структурам суседніх краін, спадзяваўся, што, навучаныя ўласным горкім камуністычным мінулым, новыя дэмакратычныя дзяржавы кіруюцца найперш каштоўнасьцямі і будуць абачлівымі ў дачыненьнях зь менскім рэжымам. Спадзеў не апраўдаўся.

## Прававая дапамога менскаму рэжыму

Тлумачэньняў, перапрашэньняў, здагадак, папрокаў, заяваў і спэкуляцый у адказ на пытаньне Галіны Дзячэнкі было шмат. Зь літоўскага і польскага бакоў. Зь Менску. Было глыбокае зьдзіўленьне і расчараваньне гэтым неабачлівым крокам чыноўнікаў у Польшчы і Літве, а таксама ў іншых краінах Эўразьвязу.

У Літве і Польшчы арышт Бяляцкага выклікаў палітычныя скандалы, слуханьні ў парлямэнтах, публікацыі ў СМІ, службовыя расьследаваньні і адстаўкі. У СМІ прагучалі здагадкі пра палітычныя альбо карупцыйныя матывы ў дзеяньнях чыноўнікаў гэтых дзьвюх краін Эўразьвязу.

Кіраўніца дэпартамэнту міжнароднага права Міністэрства юстыцыі Літвы Аўшра Бярнацене, пэрсанальна адказная за выдачу зьвестак пра Бя-



Дарыюс Куоліс.

ляцкага, 18 жніўня пакінула пасаду. Але неўзабаве яе прынялі на працу ў Нацыянальную судовую адміністрацыю. Пазьней літоўскія СМІ выказалі падазрэньне наконт карупцыйных матываў яе ўчынку. Яны выявілі, што муж Бярнацене мае ў Менску юрыдычную кантору, якая кансультуе бізнэсоўцаў у справе прыбытковых інвэстыцыйных праектаў у Беларусі. Газэта Lietuvos žinios 26 жніўня ў артыкуле «За галаву дысыдэнта — мільённыя інвэстыцыі?»* напісала, што за некалькі дзён да выдачы Літвою зьвестак на Бяляцкага ўлады Беларусі ўхвалілі інвэстыцыйны праект у Магілёўскай вобласьці на суму 77 мільёнаў эўра. Літоўскіх бізнэсоўцаў кансультавала юрыдычная фірма мужа Аўшры Бярнацене — Bernotas & Dominas

* Rasa Kalinauskaitė. Už disidento galvą – milijoninės investicijos? // Lietuvos žinios, 26.08.2011.

Glimstedt… Але афіцыйнай рэакцыі на гэтую публікацыю не было.

Дырэктар Віленскага інстытуту грамадзянскай супольнасьці Дарыюс Куоліс у размове са мною назваў падазрэньні газэты Lietuvos žinios «вельмі сур’ёзнымі»:

«Падазрэньні маюць падставы, але нашае праваcудзьдзе, нашыя спэцслужбы іх не праверылі і не адказалі, што ж тут было. І калі нашыя спэцслужбы, палітыкі, камітэт парлямэнту ў справах нацыянальнай бясьпекі маўчаць, значыць, ня ўсё добра ў літоўскай дзяржаве».

Спадар Куоліс пасьля арышту Бяляцкага зьбіраў подпісы пад лістамі літоўскіх інтэлектуалаў да прэзыдэнта Грыбаўскайце, Сэйму Літвы з патрабаваньнем асабістай і палітычнай адказнасьці службовых асобаў, вінаватых у выдачы інфармацыі пра Алеся. Але выніку ад гэтых лістоў не было, канстатуе Куоліс:

«Улада маўчыць, зьмястоўнага адказу не было. Выдача Бяляцкага так і застаецца ў Літве цёмнай гісторыяй. Ёсьць меркаваньні, але яснасьці няма. Тое, што Літва і яе ўрад зганьбіліся, — гэта факт. Але як гэта адбылося, чаму быў выданы Бяляцкі, — нашыя спэцслужбы і палітыкі ня выявілі. Ня мелі палітычнай волі і патрэбнасьці гэта зрабіць».

Спадар Куоліс не выключае, што быў у справе выдачы Бяляцкага і «сьлед літоўскіх спэцслужбаў альбо палітыкаў, якія гандлявалі з рэжымам Лукашэнкі».

Развагі пра магчымыя палітычныя ці эканамічныя матывы грунтаваліся на тым, што на той момант у дачыненьнях уладаў Беларусі і Літвы

склалася пэўнае паразуменьне, якое дазваляла рабіць высновы, што Вільня — свайго роду адвакат Менску ў Эўразьвязе.

У эканамічных адносінах Літвы і Беларусі ў 2011 годзе былі выгадныя для Вільні зрухі. Экспарт беларускіх калійных угнаеньняў цалкам перайшоў з латыскага Вэнтсьпілса ў літоўскую Клайпеду, Беларуская нафтавая кампанія падпісала найбуйнейшы ў сваёй гісторыі кантракт на пастаўкі нафтапрадуктаў празь літоўскі тэрмінал Klaipėdos Nafta — на 2,5 мільёна тон мазуту, выробленага на Мазырскім НПЗ і наваполацкім «Нафтане». Генэральны дырэктар Klaipėdos Nafta Рокас Масюліс назваў гэты кантракт, які дазволіў літоўскай кампаніі цалкам запоўніць партфэль заказаў на 2012 год, «гістарычным пагадненьнем».

Літва настойліва выступала супраць эканамічных санкцыяў Эўразьвязу адносна рэжыму ў Беларусі. Прэзыдэнт Літвы Даля Грыбаўскайце некалькі разоў сустракалася з Аляксандрам Лукашэнкам і размаўляла зь ім прыязна, а беларускую апазыцыю, наадварот, жорстка крытыкавала.

13 верасьня 2011 году ў інтэрвію Літоўскаму радыё яна заявіла:

«Калі прыгледзецца больш уважліва, то некаторых зь дзевяці кандыдатаў, якія ўдзельнічалі ў прэзыдэнцкіх выбарах, фінансаваў і падтрымліваў Крэмль. Калі гутарыш ці чуеш, як размаўляюць некаторыя прадстаўнікі апазыцыі, то мы часьцей за ўсё ня чуем, што іх прыярытэт і мэта — незалежная Беларусь. Гэтага амаль ня чуем. Часьцей за ўсё чуем, што трэба больш грошай і што Расея, у прынцыпе, — сябар. Гэта, несумненна, выклікае

ў нас пэўную занепакоенасьць, бо нацыянальным інтарэсам Літвы адпавядае незалежны сусед, незалежная краіна»*.

Беларускія дзяржаўныя СМІ падсумавалі яе словы так: «Беларускую апазыцыю цікавяць толькі грошы»**.

Самая масавая літоўская газэта Lietuvos rytas у рэдактарскай рубрыцы «Знакі часу» ацаніла гэтую заяву вельмі красамоўна — «Вуснамі Грыбаўскайце гаварыў сам Лукашэнка»:

«Пасьля такога яе пляўка, які пакрыў ганьбай усю Літву, дэмакратычнаму сьвету толькі і застаецца думаць, што выдача беларускіх апазыцыянэраў Міністэрствам юстыцыі была заканамернай, можа, нават загадзя сплянаванай — чыноўнікі проста паводзілі сябе так, як падабаецца літоўскаму прэзыдэнту»***.

16 верасьня галоўны рэдактар Lietuvos rytas Рымвідас Валатка зноў вярнуўся да гэтай тэмы і зазначыў на старонках газэты: «Прэзыдэнт Грыбаўскайце прапусьціла цудоўную нагоду прамаўчаць».

«Ці прасіў Бяляцкі ў Грыбаўскайце грошай? Неяк цяжка паверыць. Калі не прасіў, дык ці павінна прэзыдэнт Літвы, дзяржавы, якая лічыць сябе прававой і дэмакратычнай, так цынічна зьдзекавацца з чалавека, які толькі з-за халуйства і інфантыльнасьці літоўскіх чыноўнікаў, калі не назваць гэта яшчэ дакладней, мусіць бавіць час у лукашэнкаўскай турме?

* Агенцтва BNS, 13.09.2011.

** Агенцтва БелТА, 13.09.2011.

*** Laiko ženklai // Lietuvos rytas, 15.09.2011.

Нават калі б тое, што, гледзячы з пагардай на цкаваных Лукашэнкам, зьбіваных дома і на вуліцы нават за воплескі, катаваных у турмах беларускіх апазыцыянэраў і іх блізкіх, сказала пра іх Грыбаўскайце, было праўдай, гэта ні на кроплю ня зьменшыла б злачынства, учыненага нашымі дзяржаўнымі ўстановамі, найперш міністэрствамі юстыцыі і замежных спраў, якія выдалі аднагоадзінага Бяляцкага»*.

Газэта канстатавала, што за гэты прыкры інцыдэнт у Літве так ніхто і ня быў пакараны, што скандал імкнуліся «замяць», а расьсьледаваньне міжведамаснай працоўнай групы «было ператворанае ў фарс».

Дарыюс Куоліс пазыцыю Грыбаўскайце называе няяснай:

«Прэзыдэнт тут самаўхілілася, зразумелай пазыцыі ў яе не было. А тыя папрокі на адрас беларускай апазыцыі сталіся для яе ганьбай. Паводле нашых законаў прэзыдэнт мае ўплыў на спэцслужбы. Ці скарысталася яна гэтым у выпадку з расьсьледаваньнем выдачы Бяляцкага, мы ня ведаем, як ня ведаем і пра ролю літоўскіх спэцслужбаў у самой выдачы. Я б не адкінуў і такой думкі, што яны садзейнічалі КДБ Беларусі. Ёсьць іншыя выпадкі дзіўных паводзін нашых спэцслужбаў (у прыватнасьці, перасьлед імі чачэнскай сям'і Гатаевых, перасьлед расейскіх дысыдэнтаў), якія мяне падштурхоўваюць да такой думкі».

Віленскі палітоляг, экспэрт незалежнага Цэнтру

* Rimvydas Valatka. Prezidentė D.Grybauskaitė praleido puikią progą patylėti // Lietuvos rytas, 16.09.2011.

ўсходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў Віціс Юркініс, камэнтуючы на маю просьбу выдачу Літвой Бяляцкага, адной зь яе прычын назваў тое, што рашэньні беларускага рэжыму больш прадказальныя, чым рашэньні Эўразьвязу і Літвы, якія, «прайшоўшы ўвесь бюракратычны ланцуг, практычна сыходзяць на нішто»:

«Трэба ясна зразумець, што ў Беларусі ёсьць дыктатар і рэжым, які будзе выкарыстоўваць усе прававыя і пазаправавыя сродкі, каб нанесьці шкоду абаронцам правоў чалавека і актыўным грамадзянам, якія выступаюць за дэмакратычную Беларусь. У Літве ж шараговыя бюракраты разглядаюць Беларусь, як, напрыклад, Латвію».

Спадар Юркініс прызнае, што, сапраўды, шыхты вэртыкалі, у якой за крок улева, крок управа — пакараньне, могуць эфэктыўна дзейнічаць пры выкананьні палітычных замоваў, у той час як у дэмакратычных краінах кожны чыноўнік мае свае паўнамоцтвы, абапіраецца на законы і дамовы, якія можна часам па-рознаму трактаваць. Арганізаваныя аўтарытарныя структуры могуць карыстацца зь «недысцыплінаванасьці» дэмакратыяў, якія не адчуваюць варожага атачэньня, у якіх няма рэпрэсіяў і свае правы можна абараніць у судзе.

Віціс Юркініс перакананы, што ніякай зацікаўленасьці ў выдачы дакумэнтаў на Бяляцкага на дзяржаўным узроўні не было.

«Гэта выключана. Я гэтую справу разглядаю як вельмі трагічную, але памылку. Літва і Польшча — саюзьнікі дэмакратыі ў Беларусі, і інтарэс да Беларусі ў Эўразьвязе вельмі вялікі. Польшча зь Літвой — дзьве важныя краіны ў эўрапейскіх перамовах



Віціс Юрконіс.

наконт Беларусі. Я ўвесь гэты інцыдэнт разглядаю чыста як правакацыю рэжыму Лукашэнкі супраць дзьвюх краін, якія ў 2011 годзе старшынявалі ў АБСЭ (Літва) і Эўразьвязе (Польшча). Гэтай правакацыяй улады Беларусі выключылі Літву і Польшчу з гульні ў самы складаны момант для менскага рэжыму за ўвесь час яго існаваньня. І ўся міжнародная ўвага пайшла на справу Бяляцкага. На жаль, ні Літва, ні Польшча не змаглі супрацьстаяць гэтай правакацыі. І гэта толькі паказвае, што як у Літве і Польшчы, гэтак і ў Эўразьвязе ў цэлым мы толькі рэагуем на выклікі зь Беларусі. Няма нармальнай стратэгіі: што і як рабіць».

Віціс Юрконіс мяркуе, што беларускі рэжым таемна працуе ў суседніх краінах, шукае паплечнікаў. Але ён перакананы, што нельга дазволіць сабе раскошу шукаць у гэтай справе вінаватых у

Польшчы і Літве, шукаць там нейкую змову супраць беларускай дэмакратыі, бо гэта будзе працай на карысьць Лукашэнкі.

Такой самай думкі трымаюцца паплечнікі Алеся Бяляцкага ў «Вясьне» Валянцін Стэфановіч і Ўладзімер Лабковіч.

«Злосьці на Літву і Польшчу ў мяне няма ніякай. Мне падаецца, што ўсе зрабілі з таго, што адбылося, правільныя, слушныя высновы», — напісаў мне з гэтай нагоды сам Бяляцкі.

## Перапрашэньні зь Вільні...

Міністар юстыцыі Літвы Рэмігіюс Шымашус неўзабаве пасьля арышту Бяляцкага паведаміў, што зь Вільні ў Менск за 2010–11 гады была выдадзеная банкаўская інфармацыя на 400 беларусаў, але з апазыцыі ў іх лік трапілі толькі Бяляцкі і Стэфановіч:

«Дзякуй Богу, што іншых падобных інцыдэнтаў нібыта ўдалося пазьбегнуць. Міністэрства юстыцыі не перадавала ніякіх іншых зьвестак пра магчымых дысыдэнтаў і праваабаронцаў»*.

Рэагуючы на скандал, улады Літвы выказалі жаль і папрасілі прабачэньня ў Бяляцкага і ягонай сям'і. 5 жніўня, на наступны дзень пасьля арышту Алеся, Мін'юст Літвы на знак пратэсту прыпыніў аказаньне прававой дапамогі ўладам Беларусі.

Міністар замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс назваў выпадак зь Бяляцкім «сплянаваным выпадам недэмакратычных сілаў у адказ на нашу падтрымку апазыцыйных рухаў у Беларусі, якая

* Агенцтва BNS, 11.08.2011.



Рэмігіюс Шымашус.

значна павялічылася ў апошнія гады». Амбасадар Літвы ў Беларусі Эдмінас Багдонас перадаў Натальлі Пінчук выбачэньні ад ураду Літвы ў сувязі з выдачай дакумэнтаў, якія прывялі да арышту яе мужа. Багдонас заявіў, што афіцыйны Менск падступна выкарыстаў інструмэнты двухбаковага прававога супрацоўніцтва для перасьледу сваіх апанэнтаў.

## ...і з Варшавы

Натальлю таксама запрасілі ў Варшаву, дзе кіраўніцтва Сэйму Польшчы папрасіла прабачэньня за інцыдэнт.

Польскі міністар замежных спраў Радаслаў Сікорскі першым з урадоўцаў папрасіў прабачэньня за выдачу дакумэнтаў на Бяляцкага:

«Прашу прабачэньня ад імя Рэчы Паспалітай. Заганная памылка насуперак засьцярогам МЗС. Падвоім намаганьні дзеля дэмакратыі ў Беларусі», — напісаў ён у сэрвісе Twitter.

29 лістапада ў Познані на Форуме грамадзянскай супольнасьці краін Усходняга партнэрства Эўразьвязу Радаслаў Сікорскі абяцаў, што Польшча возьме ўдзел у кампэнсаваньні канфіскаванай маёмасьці Бяляцкага*.

Генэральны пракурор Польшчы Анджэй Сэрэмэт пацьвердзіў, што засьцярогі ягоным падначаленым наконт магчымых запытаў з боку беларускіх уладаў пра рахункі апазыцыянэраў сапраўды былі. На жаль, іх праігнаравалі, прызнаў Сэрэмэт.

Вінаваты ва ўчыненым кіраўнік аддзелу міжнародных дачыненьняў Офіса генэральнага пракурора Польшчы Кшыштаф Каршніцкі пасьля скандалу звольніўся сам, ягоную намесьніцу Анну Вісьнеўскую, якая падпісала дакумэнты на Бяляцкага для перадачы іх у Менск, звольніў Сэрэмэт. Паводле ягоных словаў, зь Менску ў Варшаву ў 2011 годзе прыйшло два запыты на выдачу банкаўскай інфармацыі на апанэнтаў улады — зь Менску пыталіся пра рахункі яшчэ аднаго апазыцыянэра, але таго Польшча ня выдала. Хто гэта быў, пракурор не паведаміў, як і не сказаў, якім крытэрам карысталіся ягоныя чыноўнікі, выдаючы аднаго і захоўваючы ў таямніцы інфармацыю на іншага.

У сваім адказе працоўнай групе ў справе Беларусі пры аб'яднаньні няўрадавых арганізацыяў

* Polska weźmie udział w kompensacji mienia odebranego Bialackiemu // Portal Spraw Zagranicznych, 30.11.2011.



Радаслаў Сікорскі.

Grupa Zagranica ад 8 верасьня 2011 году Анджэй Сэрэмэт напісаў, што апублікаваць сьпіс беларускіх грамадзян, адносна якіх Польшча выканала аналягічныя запыты беларускага боку, не дазваляе польскі закон 1997 году аб ахове асабістых зьвестак. «Аналіз выкананых запытаў не дае падставаў для думкі, што перададзеная інфармацыя магла б спрычыніцца да палітычна матываваных рэпрэсіяў супраць дзеячоў беларускай дэмакратычнай апазыцыі… Былі зробленыя арганізацыйныя дзеяньні, якія прадухіляюць падобныя памылкі ў будучыні», — запэўніваў спадар Сэрэмэт.

1 верасьня генэральны пракурор Польшчы пастанавіў спыніць дзеяньне пагадненьня зь Беларусьсю аб спрашчэньні працэдуры прававой дапамогі ў крымінальных справах, якое было падпісанае ў 2002 годзе. Згодна з гэтым пагадненьнем рэгія-




Генэральны пракурор Польшчы Анджэй Сэрэмэт.

нальныя беларускія пракуратуры маглі непасрэдна зьвяртацца ў аналягічныя польскія органы. Праз 6 месяцаў пасьля афіцыйнага паведамленьня на адрас Менску (гэта тэрмін, які фармальна патрабуецца для выхаду з дамовы) такая магчымасьць зьнікла. Усе запыты ў адпаведнасьці зь беларуска-польскай дамовай аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных, працоўных і крымінальных справах ад 1994 году павінны праходзіць праз Генэральную пракуратуру Польшчы і будуць паводле рашэньня Сэрэмэта «жорстка кантралявацца і правярацца».

Запэўніваньні чыноўнікаў у Вільні і Варшаве, што яны не разумелі, на каго выдаюць інфармацыю, гучалі непераканаўча. Калі яны і ня ведалі асабіста, хто такі Бяляцкі, то не маглі не зьвярнуць увагі, што ў саміх банкаўскіх раздрукоўках, якія

яны перасылалі ў Менск, былі пазначаныя праваабарончыя мэты пераводаў і што грошы прыходзілі ад міжнародных праваабарончых цэнтраў.

Магчыма, сапраўды дзейнічаў руцінны бюракратычны мэханізм перадачы зьвестак, пад які падпалі сотні розных людзей. Але пасьля 19 сьнежня 2010 году Мін'юст Літвы і Генпракуратуру Польшчы папярэджвалі, што да падобных запытаў зь Менску трэба ставіцца абачліва. Чыноўнікі праігнаравалі гэтыя папярэджаньні, парушылі свае ўнутраныя інструкцыі і патрабаваньні тых самых міждзяржаўных дамоваў аб прававой дапамозе. Выявілася, што бюракратычныя мэханізмы дзейнічаюць незалежна ад палітычных, што заявы Вільні і Варшавы з асуджэньнем менскага рэжыму і словы салідарнасьці зь беларускай дэмакратыяй для літоўскай і польскай бюракратыі нічога ня значаць.

Чыноўнікі й да сваіх грамадзян ставяцца не заўсёды ўважліва, а тут чужы дысыдэнт…

Польскі журналіст Цэзары Галіньскі мяркуе, што, хутчэй за ўсё, карупцыйных матываў ці палітычнай замовы ў выдачы Бяляцкага не было:

«Я схільны да думкі, што выдача Польшчай дакумэнтаў на Бяляцкага — гэта была памылка, выкліканая тупізной польскіх чыноўнікаў. Наагул палякі зь вялікай павагай ставяцца да праблемаў правоў чалавека, яны тут маюць матыў свайго гістарычнага доўгу: як калісьці мы атрымлівалі дапамогу з Захаду для пабудовы дэмакратыі ў нашай краіне, так хочам цяпер дапамагаць нашым суседзям. Але гэта застаецца на ўзроўні дэкларацыяў і добрых пажаданьняў. Калі гэтыя дэкларацыі сутыкаюцца з рэаліямі, з чынавенствам і бюракратыяй,

то, на жаль, гэта атрымліваецца не на карысьць прынцыпаў салідарнасьці».

Нягледзячы на перапрашэньні, Польшча і Літва моцна сапсавалі свой міжнародны імідж. Амэрыканскія аналітыкі з цэнтру Stratfor прызналі, што выдача канфідэнцыйнай інфармацыі пашкодзіла рэпутацыі Польшчы і Літвы як прытулку беларускай апазыцыі*.

* Stratfor: Poland, Lithuania suffer strategic setback in Belarus // Warsaw Business Journal, 16.08.2011

# 23 лістапада 2011 году.
# Суд. Дзень сёмы. Дэбаты

Назіраючы за дэбатамі і рэплікамі бакоў на палітычных працэсах у Беларусі, заўважаеш, што пракуроры нібыта ня чуюць довадаў падсудных і адвакатаў, не зьвяртаюць увагі на іх заўвагі і высновы. А судзьдзя чуе толькі адзін бок — пракурора. Так было і на працэсе Бяляцкага. Пракурор у дэбатах фактычна паўтарыў сваё абвінавачаньне, аргумэнтуючы яго здабытымі ў ходзе працэсу доказамі і не зьвяртаючы ўвагі на тыя доказы, абставіны і сьведчаньні, якія апраўдвалі падсуднага.

Ад пракурораў у судах і не чакаюць нічога добрага, ад іх у дэбатах чакаюць адказу на адно пытаньне: «Колькі?» — колькі гадоў зьняволеньня запатрабуе ён для падсуднага?

Частка 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, паводле якой абвінавачвалі Бяляцкага, прадугледжвае самыя розныя віды пакараньня. У пракурора быў выбар, ён мог «запатрабаваць» для Алеся «хімію» (абмежаваньне свабоды) — да пяці гадоў, але мог бы і два-тры, бо санкцыя дазваляе. Мог бы запатрабаваць пазбаўленьня волі па мінімуму — тры гады, Алесь жа не рэцыдывіст. Мог бы прапанаваць ня ўзмоцнены, а агульны рэжым адбыцьця пакараньня. Мог бы адмовіцца ад канфіскацыі маёмасьці...

## Пракурор: 5 гадоў з канфіскацыяй

Пракурор Сайкоўскі ў дэбатах выступаў каля 20 хвілін. Гэтага часу яму хапіла, каб зрабіць выснову: «Доказаў, дасьледаваных у судзе, у сукупнасьці дастаткова для прызнаньня Бяляцкага вінаватым». І яшчэ: «Сапраўднасьць банкаўскіх дакумэнтаў не выклікае сумненьняў. Тое, што на іх няма пячатак і подпісаў, неістотна». Гэтак ён адказаў на закіды абароны наконт неправамоцнасьці незавераных банкаўскіх раздрукоўвак.

Усе сумнеўныя з пункту гледжаньня абароны дакумэнты ён прызнаваў праўдзівымі, тлумачэньні Бяляцкага і ягонага адваката — спробамі ўхіліцца ад адказнасьці. Праваабарончы цэнтар «Вясна» Сайкоўскі назваў «неправамоцнай арганізацыяй, якая ня можа ўплываць на выкананьне абавязку аплаты падаткаў грамадзянінам Бяляцкім».

Адказваючы на пытаньне судзьдзі: «Ці зьяўляюцца сродкі, якія паступалі на рахункі Алеся Бяляцкага, прыбыткамі?», пракурор спаслаўся на Падатковы кодэкс, паводле якога павінны абкладацца падаткам усе даходы, якія прыйшлі з-за мяжы. «Пад выключэньні выпадак зь Бяляцкім не падпадае», — заявіў ён.

Сайкоўскі дадаў, што ад ніводнай з замежных арганізацый-фундатараў не паступілі дакумэнты, якія пацьвярджалі б, што Бяляцкі не павінен плаціць падаткі з атрыманых грошай.

«Такім чынам, устаноўлена, што расходаваньне грошай на літоўскім і польскім рахунках ажыцьцяўлялася Бяляцкім на ўласнае меркаваньне, і гэтыя



Пракурор перад выступам.

грошы адносяцца да ягоных прыбыткаў», — заявіў пракурор і папікнуў Алеся:

«Асаблівай увагі заслугоўвае асоба Бяляцкага. Ён нават не абцяжарваў сябе сумленнасьцю ў аплаце падаткаў, у той жа час карыстаецца ўсімі сацыяльнымі выгодамі. Ён меў магчымасьць легальна дзейнічаць ад імя сваёй арганізацыі, бо парушэньні, за якія яна была закрытая, зьяўляюцца папраўнымі».

Заявы Бяляцкага, што крымінальная справа супраць яго інсьпіраваная КДБ, абвінаваўца ацаніў як ягоны піяр: «Меркаваньне пра тое, што органы дзяржбясьпекі перасьледуюць яго за праваабарончую дзейнасьць, зьяўляецца меркаваньнем і жаданьнем прыцягнуць да сабе ўвагу. Гэты зварот быў адрасаваны ня столькі суду, колькі прысутным у залі».

Сайкоўскі заявіў, што акалічнасьцяў, якія зьмякчаюць віну Бяляцкага, няма.

Выснова пракурора была жорсткая:

«Прашу прызначыць Бяляцкаму пакараньне ў выглядзе 5 гадоў пазбаўленьня волі з адбыцьцём пакараньня ў папраўчай калёніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці».

Прысутныя ў залі былі прыгаломшаныя.

Кіраўнік расейскага Праваабарончага цэнтру «Мэмарыял» Алег Арлоў па выніках працэсу заявіў, што справа Бяляцкага ў прынцыпе развалілася, сьледзтва адкрыта парушала законы і рабіла падтасоўкі, спадзеючыся, што суд будзе на ягоным баку. Патрабаваньне пракурора спадар Арлоў ацаніў як драконаўскую меру: «Яго на адзін дзень няма за што садзіць. І вось ні за што чалавек зараз можа атрымаць 5 гадоў».

## Адвакат: Апраўдаць!

Зьміцер Лаеўскі выступаў у дэбатах паўтары гадзіны, абагульняючы доказы ў абарону Бяляцкага, выяўленыя і агучаныя ў ходзе працэсу. Ён разьбіраў усе юрыдычныя хібы крымінальнай справы. Адвакат яшчэ раз зьвярнуў увагу суду на тое, што банкаўскія дакумэнты з Польшчы і Літвы ня маюць доказнага значэньня; што само абвінавачаньне было складзена неканкрэтна — не былі пазначаныя пэўныя арганізацыі, ад якіх паступалі сродкі, памеры сродкаў; што абвінавачаньне было сфармулявана агульнымі словамі, а гэта парушае правы абвінавачанага, бо немагчыма абвяргаць няпэўныя прэтэнзіі.



Адвакат рыхтуецца да выступу.

Адвакат дадаў: абарона прадставіла дакумэнт, які сьведчыць, што літоўскі бок прызнаў перададзеныя раней зьвесткі несапраўднымі. «Гэта адзіны ва ўсёй крымінальнай справе дакумэнт, завераны службовай асобай і гербавай пячаткай», — заўважыў абаронца.

Адвакат таксама зазначыў, што частка матэрыялаў справы — ананімныя звароты, а гэта супярэчыць Крымінальна-працэсуальнаму кодэксу; шэраг расьпісак увогуле не адносіцца да справы, і гэта «стварае ў суду ілжывае ўражаньне пра наяўнасьць нейкай доказнай базы». Адвакат заявіў, што грошы, якія прыходзілі на рахункі Бяляцкага, не былі даходамі Алеся, а атрымліваліся для праваабарончай дзейнасьці, у тым ліку для дапамогі рэпрэсаваным. На спасылку пракурора на Падатковы кодэкс адвакат адказаў цытатай з гэтага ж дакумэнту:

«Да аб’ектаў падаткаабкладаньня не адносяцца сродкі, атрыманыя ад адной асобы іншай для выкананьня пэўных абавязкаў ці перадачы трэцім асобам».

Адвакат дадаў, што сьледзтва і суд ня выявілі фактаў атрыманьня Бяляцкім эканамічнай выгады ад гэтых сум, бо за пэрыяд, да якога адносіцца абвінавачаньне, Бяляцкі не набываў ніякай маёмасьці, якая не была б пацьверджаная ягонымі задэклараванымі даходамі. Лаеўскі падкрэсьліў, што ў справе адсутнічаюць прыкметы ня толькі інкрымінаванага Алесю складу злачынства, але і грамадзка небясьпечнага дзеяньня як такога.

Адвакат заявіў таксама пра бяздоказнасьць прадстаўленых у суд актаў падатковай праверкі, а таксама выказаў сумнеў у мэтазгоднасьці выкліку ў якасьці сьведак шэрагу дапытаных у судзе службовых асоб. У той жа час адвакат заўважыў, што большасьць зь іх усё роўна давалі паказаньні на карысьць падсуднага. Урэшце адвакат згадаў прынцып прэзумпцыі невінаватасьці і спаслаўся на Пасланьне прэзыдэнта РБ аб пэрспэктывах разьвіцьця сыстэмы судоў краіны, дзе ў якасьці аднаго з напрамкаў удасканаленьня крымінальнага судаводзтва называлася «выключэньне фактаў неабгрунтаванага асуджэньня»:

«Мой падабаронны — такі ж чалавек, як і любы іншы грамадзянін Рэспублікі Беларусь. І таму ён мае права на тое, каб і ў дачыненьні да яго Закон па дадзенай справе ўжываўся так, як гэты Закон напісаны, і „без купюр”. Пракуратура, закліканая сачыць за выкананьнем Закону, ня проста заняла іншую пазыцыю, але і дапусьціла ўзбуджэньне, а

пасьля і накіраваньне гэтай справы ў суд. Справы, якая расьсьледавалася цэлай сьледчай групай з чатырох дасьведчаных сьледчых. Справы, у якой, па вялікім рахунку, акрамя некалькіх нікім не завераных старонак тэксту зь літарамі і лічбамі, якія мы тут называем банкаўскімі выпіскамі аб руху сродкаў, нічога і няма».

Усё гэта — падставы для таго, каб вынесьці апраўдальны прысуд, — заявіў Лаеўскі:

«Прашу апраўдаць Бяляцкага па прад'яўленым абвінавачаньні ў поўным аб'ёме, адмовіць у задавальненьні грамадзянскага пазову, скасаваць арышт, накладзены на маёмасьць, якая зьяўляецца агульнай сумеснай уласнасьцю Бяляцкага і Пінчук».

Напаміны адваката пра аб'ектыўнасьць і спаборнасьць бакоў у працэсе, пра абавязак сьледзтва і суду зьбіраць зьвесткі, якія апраўдваюць абвінавачанага, нарэшце — пра прэзумпцыю невінаватасьці сьведчылі, што ён добра разумее фактычны стан беларускага правасудзьдзя, якое забыла гэтыя прынцыпы і ператварылася ў рэпрэсіўны мэханізм улады. Калі б судзьдзя прыслухаўся да аргумэнтаў адваката, калі б мэханізм раптам даў збой, гэта сталася б нейкім цудам, сэнсацыяй. У гуманнасьць беларускіх судоў у палітычна матываваных справах ніхто ня верыць. Ня верыў і сам Бяляцкі.

# Ноч на роздум. Неапошняе слова Алеся

Па сканчэньні дэбатаў бакоў суд даў Бяляцкаму магчымасьць выступіць з апошнім на гэтым працэсе словам перад тым, як будзе абвешчаны вырак. Алесь прамаўляў 40 хвілін, ацэньваючы і сваю крымінальную справу, і справу свайго жыцьця — абарону правоў чалавека, і сытуацыю ў Беларусі.

## Бяляцкі: «Я не шкадую ні пра адзін свой крок»

*Апошняе слова Алеся Бяляцкага на судзе 23 лістапада 2011 году паводле дыктафоннага запісу, зробленага ў залі судовага пасяджэньня:*

«Я згодны з кожным словам адваката. Лічу, што тыя аргумэнты, якія ён прывёў, маюць дастатковае юрыдычнае абгрунтаваньне і дастаткова падставаў для сур'ёзных адносінаў да іх. У той жа час я знаходжуся ў дастаткова складанай сытуацыі, бо выдатна разумею, што гэтая справа ад пачатку да канца мае палітычны падтэкст, і выступленьне адваката і маё апошняе слова, на жаль, нагадваюць голас чалавека, які крычыць у пустыні і якому вельмі цяжка дакрычацца. І я сябе адчуваю зараз тым, які крычыць у пустыні, спрабуючы дакрычацца да сонца. Тым ня менш я маю што сказаць.



**Пра палітычны кантэкст**

Пачну, мабыць з таго, што літаральна перад тым, як я патрапіў у зьняволеньне, мой сябра даў мне пачытаць старую савецкую кніжку пра супрацьдзеяньне КДБ праваабаронцам у Савецкім Саюзе. Кніжка напісаная ў 80-я гады. Яна была дастаткова цікавая, таму што вельмі шмат з таго, што апісваецца там, перагукаецца з тым, што адбываецца ў Беларусі ў апошнія гады. І я вызначыў бы асноўныя задачы, якія ставілі тады спэцслужбы перад сабою. Першая — дыскрэдытаваць праваабаронцаў, абвясьціць іх „тунеядцамі”, як гэта было ў выпадку з паэтам Ёсіфам Бродзкім. Ці абліць брудам, паказаць іх несамастойнасьць, як гэта было ў выпадку з Андрэем Сахаравым. Ці абвінаваціць у фінансавых махінацыях, што тычыцца пісьменьніка Васіля

Аксёнава. Ці проста зрабіць вар'ятамі, як было ў дачыненьні да беларускага праваабаронцы Міхася Кукабакі, які сядзеў у «псыхушцы» шэсьць гадоў за тое, што распаўсюджваў Усеагульную дэклярацыю правоў чалавека ў Беларусі. Сорак гадоў прайшло — і неверагодна, але сытуацыя паўтараецца. Я адчуваю сябе гэтыя апошнія тры з паловай месяцы, як быццам бы я вярнуўся ў Савецкі Саюз. І проста на нейкім іншым узроўні адбылася рэінкарнацыя ўсяго таго, што было раней.

Калі 17 студзеня праводзіўся вобшук у Ракаве, дзе ў нас хата знаходзіцца, ехалі мы на машыне з супрацоўнікамі КДБ (маладыя хлопцы гадоў па 35), дарога туды займала дзесьці гадзіну, і я спрабаваў іх разгаварыць. Пытаюся: «А што вы ўсё працуеце нейкімі старымі мэтадамі — шантажуеце, вярбуеце людзей, вобшукі гэтыя праводзіце? Няўжо недастаткова вам той інфармацыі, якая ёсьць у інтэрнэце зараз, якую мы гаворым?» Таму што як праваабаронцы мы дастаткова адкрытыя. Дастаткова зайсьці на сайт «Вясны» (вось і шаноўны грамадзянін пракурор гэта пацьвердзіў), там дастаткова інфармацыі пра нашую дзейнасьць — чым мы займаемся, якія нашыя задачы, якія мэтады. За гэты год толькі я даў чатыры вялікія інтэрвію, дзясяткі розных камэнтароў СМІ, у тым ліку ў інтэрнэце, якія складаюць дастаткова поўную карціну. Прааналізуйце — і вы будзеце ведаць, чым займаюцца праваабаронцы. Ну, яны сумеліся і кажуць: маўляў, старыя мэтады таксама добрыя, так што мы працуем так, як нас вучылі. Ну, я ня веру ў тое, што КДБ і іншыя дзяржаўныя службы, якія цікавіліся і цікавяцца дзейнасьцю «Вясны», ня веда-

юць, чым займаецца «Вясна» і ў прыватнасьці я як старшыня арганізацыі. Калі яны сапраўды бачаць у праваабаронцах, у прыватнасьці ў «Вясьне», канал для перапраўкі ў Беларусь фінансавых сродкаў для «фінансаваньня радыкальнай апазыцыі», як пісаў у сваім лісьце генэрал Вягера… Цікава толькі, дзе яны знайшлі гэтую радыкальную апазыцыю ў Беларусі, няхай бы паказалі! У гэтым выпадку я лічу, што гэта іх недапрацоўка, непрафэсіяналізм, гэта ўваходзіць у сэрыю такіх казак-страшылак, якія мы чулі ў 2006-м годзе, калі старшыня КДБ Сухарэнка распавядаў пра радыкальную апазыцыю, якая зьбіралася труціць менскі водазабор кактэйлем з настоеных на вадзе дохлых пацукоў. Я мяркую, што КДБ добра ведае і ўсьведамляе, чым на самой справе займаюцца праваабаронцы ў Беларусі, і я ў прыватнасьці, і сьвядома і мэтанакіравана працуе супраць праваабаронцаў, выкарыстоўваючы любыя мэтады для іх перасьледу. Гэтае цкаваньне добра арганізаванае ў межах выбудаванага рэжыму.

І дастаткова паглядзець: у 1998–99 гадах была першая перарэгістрацыя няўрадавых арганізацый, калі сотні арганізацый не былі зарэгістраваныя. У тым ліку і «Вясна-96» не прайшла перарэгістрацыю, і «заслуга» ў гэтым Міністэрства юстыцыі. Тая грамадзянская супольнасьць, якая толькі пачала станавіцца на ногі ў 90-х гадах, неяк структуравацца, афармляцца — яна адчула моцны прэсінг з боку дзяржавы. І тады ж былі выкінутыя зь Беларусі дабрачынныя фонды, рэзка была абмежаваная магчымасьць легальнага фінансаваньня няўрадавых арганізацый. Руку да гэтага прыклала і адміністрацыя прэзыдэнта. У 2003–2004 гадах была пра-

ведзеная цэлая кампанія па закрыцці няўрадавых арганізацый: каля 400 арганізацый былі ліквідаваныя, у тым ліку і Праваабарончы цэнтар «Вясна» і яшчэ некалькі праваабарончых арганізацый. І, нягледзячы на тое, што ў 2007 годзе было прынятае рашэньне Камітэту па правах чалавека ААН аб аднаўленьні рэгістрацыі «Вясны», яно было праігнараванае. І руку да гэтага прыклалі і Міністэрства замежных спраў, і Міністэрства юстыцыі. Спроба рэгістрацыі ў наступныя гады была адхіленая — Мін'юст зноў жа ня бачыў патрэбы ў існаваньні праваабарончых арганізацыяў у Беларусі. А ў 2006-м годзе быў уведзены 193-1 крымінальны артыкул, які перасьледуе дзейнасьць незарэгістраваных арганізацый, што зьяўляецца абсалютным нонсэнсам. Нагадаю, што гэтыя зьмены ў крымінальнае заканадаўства былі прадстаўленыя зноў жа старшынёй Камітэту дзяржаўнай бясьпекі. Дарэчы, літаральна пару тыдняў таму Вэнэцыянская камісія вынесла рашэньне аб тым, што гэтыя зьмены ў Крымінальным кодэксе Беларусі не адпавядаюць міжнародным пагадненьням, падпісаным Беларусьсю, якія адносяцца да грамадзянскіх і палітычных правоў. 2011 год асаблівы, калі была арганізаваная сапраўдная кампанія цкаваньня і Праваабарончага цэнтру «Вясна», і мяне як старшыні. Хацелі таксама, каб за кратамі апынуўся і Валянцін Стэфановіч, але гэта не атрымалася.

Усё гэта, канечне, складае палітычны кантэкст перасьледу мяне за маю праваабарончую дзейнасьць.

**Пра адносіны ўладаў да праваабаронцаў**

Не сакрэт, што ў Беларусі склалася аўтарытарная ўлада, якая ня бачыць месца для праваабаронцаў у краіне. Нерэгістрацыя праваабарончых арганізацый зьвязаная менавіта з гэтым. Шмат маіх сяброў, калег былі выкінутыя з афіцыйных месцаў працы за гэтыя гады, яны перасьледаваліся ў адміністрацыйным парадку і іншым чынам. На жаль, улада ня церпіць канкурэнцыі: перасьледуе палітычных апанэнтаў, абмяжоўвае грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды — правы на сходы, мітынгі, аб'яднаньні, атрыманьне і распаўсюд інфармацыі, свабодныя і справядлівыя выбары. Улада не дазваляе разьвівацца грамадзянскай супольнасьці, разбурае яе. Грамадзкая воля паралізаваная апошнім часам. І людзі, большасьць зь якіх знаходзіцца на працоўным кантракце, жывуць пад прэсінгам, страхам. Улада ня церпіць крытыкі — перасьледуе журналістаў і праваабаронцаў. І сёлетнія судовыя працэсы — над Андрэем Пачобутам, нада мною — якраз зьяўляюцца пацьверджаньнем гэтаму. Гэта працэсы з адной абоймы, хаця яны маюць быццам бы фармальна розныя крыніцы. І галоўная супярэчнасьць, інтрыга бачыцца мне ў тым, што ўсе гэтыя дзеяньні ўлады ні ў чым не адпавядаюць ні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, ні міжнародным пагадненьням, якія заключыла дзяржава Беларусь, ужо будучы самастойнай і ўзяўшы сабе ў спадчыну тыя абавязкі, якія ў свой час яшчэ браў Савецкі Саюз. І я, і мае калегі пра гэта гаварылі, мы пра гэта гаворым і будзем гаварыць, таму што гэта ёсьць ісьціна.

Я нагадаю, што Канстытуцыя Рэспублікі Бе-

ларусь, артыкул 36, гарантуе права на свабоду аб’яднаньняў, якое парушаецца, артыкул 34 гарантуе права на атрыманьне і распаўсюд інфармацыі, артыкул 33 — на свабоду меркаваньняў, перакананьняў і іх свабоднае выказваньне, артыкул 59 — абавязвае дзяржаўныя органы ў межах сваёй кампэтэнцыі прымаць неабходныя меры для ажыцьцяўленьня абароны правоў і свабодаў асоб. Таксама артыкул 21 гаворыць пра тое, што дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзянаў, замацаваныя Канстытуцыяй, законам і прадугледжаныя міжнароднымі абавязкамі дзяржавы. Гэтыя міжнародныя абавязкі — Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, артыкул 19, які гаворыць пра тое, што кожны чалавек мае права на свабоду перакананьняў, на свабоднае выказваньне іх, на свабоду бесьперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананьняў і свабоду шукаць, атрымліваць, распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі. А таксама артыкул 20, які сьцьвярджае, што кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый. Міжнародны пакт пра грамадзянскія і палітычныя правы (які Беларусь падпісала і мусіць выконваць) — артыкулы 19 і 22 сьцьвярджаюць практычна тое самае. Існуе дакумэнт, пра які я казаў раней — Дэкларацыя ААН пра праваабаронцаў, якая датычыцца непасрэдна працы праваабаронцаў і якая сьцьвярджае, што кожны чалавек мае права індывідуальна і сумесна зь іншымі заахвочваць і імкнуцца абараняць і зьдзяйсьняць правы чалавека і асноўныя свабоды. Гэта значыць — праводзіць мірныя сустрэчы і сходы, ствараць няўрадавыя арганізацыі, асацыяцыі, групы, уступаць у іх і

ўдзельнічаць у іх дзейнасьці. Маю права ведаць, шукаць, здабываць, атрымліваць, мець у сваім распараджэньні інфармацыю пра ўсе правы чалавека. Маю права свабодна публікаваць, перадаваць, распаўсюджваць меркаваньні, інфармацыю і веды пра ўсе правы чалавека і асноўныя свабоды. Маю права мець рэальны доступ да ўдзелу ў кіраваньні сваёй краінай праз права прадстаўленьня ва ўрадавыя органы, установы заўвагаў, прапановаў адносна паляпшэньня іх дзейнасьці, прыцягваць увагу да любога аспэкту іх працы. Маю права прапаноўваць і прадстаўляць прафэсійную і кваліфікаваную прававую дапамогу ў справе абароны правоў чалавека. Маю права на бесьперашкодны доступ да міжнародных органаў, якія валодаюць кампэтэнцыяй атрымліваць, разглядаць паведамленьні ў пытаньнях правоў чалавека. Кожны чалавек мае права ўдзельнічаць у мірнай дзейнасьці, накіраванай супраць парушэньняў правоў чалавека. А пункт 13 сьведчыць пра тое, што кожны мае права індывідуальна і сумесна зь іншымі запрошваць, атрымліваць і выкарыстоўваць рэсурсы спэцыяльна для мэтаў заахвочваньня абароны правоў чалавека і асноўных свабодаў мірнымі сродкамі.

Дык навошта ж вы гэтую Дэклярацыю падпісвалі? Я да вас зьвяртаюся як да дзяржаўнага чыноўніка, які прадстаўляе дзяржаву [Алесь кажа гэта пракурору Сайкоўскаму]. Не падпісвалі б! Выходзьце з ААН, выходзьце з АБСЭ! Усё будзе нармальна тады, будзе зразумела, дзе мы знаходзімся. Згодна з абавязкамі, узятымі ў рамках АБСЭ, Беларусь бралася паважаць правы сваіх грамадзянаў, самастойна ці сумесна зь іншымі ўносіць актыўны

ўклад у разьвіцьцё абароны правоў чалавека і асноўных свабодаў і ўжываць неабходныя меры для эфэктыўнага забесьпячэньня гэтага права. Гэта Венская, Мадрыдзкая сустрэчы, прысьвечаныя пытаньням, якія адносяцца да бясьпекі Эўропы. Згодна з Капэнгагенскай канфэрэнцыяй па чалавечым вымярэньні дзяржавы-ўдзельніцы АБСЭ пагадзіліся прадстаўляць роўныя магчымасьці праваабаронцам і грамадзянскай супольнасьці для ўдзелу ў заахвочваньні і абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў. Відавочна, што дзяржава парушае гэтыя правы грамадзянаў. Відавочна, што працэсы такога кшталту, як нада мной, маюць палітычны характар.

Адносіны ўладаў да праваабаронцаў у розных краінах без выключэньняў — гэта лякмусавая паперка, па якой можна даволі дакладна вызначыць узровень дэмакратычнасьці грамадзтва. І, як правіла, у аўтарытарных рэжымаў дзейнасьць праваабаронцаў выклікае незадавальненьне. У гэтым шэрагу Беларусь не зьяўляецца выключэньнем. Ёсьць такія постсавецкія краіны, як Узбэкістан, дзе дзясяткі праваабаронцаў сядзяць у турме, асуджаныя па артыкулах, якія выглядаюць значна горш за мой. Падкідваюць два патроны, падкідваюць пяць грамаў наркотыкаў — і садзяць на дзесяць гадоў. Восем чалавек з узбэцкай арганізацыі, якая ўваходзіць у Міжнародную фэдэрацыю правоў чалавека, віцэ-прэзыдэнтам якой я зьяўляюся, зараз знаходзяцца ў зьняволеньні. У Расеі ёсьць Паўночны Каўказ, дзе праваабаронцаў проста забіваюць. Так у Чачні застрэлілі нашую добрую знаёмую Натальлю Эстэміраву. Ёсьць Кіргізія,

дзе праваабаронцаў перасьледуюць незразумелыя ваенізаваныя групоўкі. І ёсьць Беларусь — з «праўдападобнасьцю» вось гэтага перасьледу. Таму я сьцьвярджаю, што гэтае абвінавачаньне ў нейкіх там фінансавых парушэньнях, парушэньнях падатковага заканадаўства — гэта поўная лухта, і мая справа не зьяўляецца звыклай і звычайнай справаю. Бо інакш бы гэтае абвінавачаньне не падтрымліваў цэлы начальнік аддзелу гарадзкой пракуратуры. І сьледчая група не складалася б з чатырох афіцэраў ДФР, якія, дарэчы, сябе вельмі няўтульна адчувалі, ведучы гэтую справу, і відавочна было, што ім гэтая справа сто гадоў была не патрэбная. Таксама не было б такога ажыятажу вакол будынка суду, што мы назіраем падчас усяго гэтага працэсу. І не было б машыны ДАІ, якая суправаджае мяне кожны раз з «Валадаркі». Я выходжу — і ўсе, каго вязуць на суд, сьмяюцца — што, сёньня зноў зь мігалкай паедзем?

**Пра кампанію ў дзяржаўных СМІ**

Асобна трэба сказаць пра афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, якія таксама шмат увагі надаюць гэтаму працэсу і непасрэдна мне. «Беларусь сегодня», афіцыйная дзяржаўная газэта, якая выдаецца на сродкі ўсіх падаткаплатнікаў, піша 6 жніўня: *«Специализирующиеся на финансовых расследованиях офицеры уже давно располагали информацией, что господин Беляцкий уверенно самостоятельно распоряжается крупными финансовыми средствами. Говорят о миллионах евро. Не исключено, выяснится, что нынешние пылкие*

*правозащитники получали от этой борьбы неплохие личные дивиденды».*

Інфармацыя ад 10 жніўня: *«Беляцкий имеет на счетах в Вильнюсе большие суммы, которые перевозит в Минск, скорее всего, по карточкам. Беляцкий официально числится безработным, не имеющим официально ни копейки дохода. Официально Беляцкий не имеет ни кола ни двора... Он имеет в резерве еще и неплохой земельный участок, тоже в красивом месте».* Гэты зямельны ўчастак зьяўляецца заліўным лугам, на якім нельга нічога будаваць, таму што ён ахоўваецца як прыродная гаспадарка і знаходзіцца проста каля маёй хаты. Там мой сусед каня пасе, можна яшчэ ў валейбол пагуляць — вось як бы і ўсе выгоды гэтага ўчастка.

17 лістапада: *«Ему нужно объяснить, как удалось приобрести столько дорогой недвижимости и как это соотносится с правозащитной деятельностью».* А якая гэта «дорогая недвижимость», мы слухаем па беларускім тэлебачаньні. Канал «Беларусь 1» перадае: *«„Сітраен” за восем тысяч даляраў»*, які рэальна каштаваў 2 300 эўра плюс мыта, гэта 3 000 эўра, і быў увезены сюды пабіты. *«Рамонт кватэры за 60 тысяч даляраў».* Што гэта за кватэра, на якую трэба такія грошы патраціць? Кватэра, у якой мы з жонкай жывем, мае плошчу ў 61 мэтар. *«Адпачывае штогод за мяжой, ходзіць у дарагія рэстараны»* — гэта ўсё гавораць афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Я не магу не расцэньваць гэтую інфармацыю як прамы ціск на суд і на прыняцьце рашэньня ў гэтай справе, які яшчэ раз падкрэсьлівае, што гэтая справа мае палітычны кантэкст.

**Пра Праваабарончы цэнтар «Вясна»**

Падчас гэтага працэсу шмат гаварылася пра Праваабарончы цэнтар «Вясна». Я рады гэтаму і хацеў бы яшчэ трошкі дадаць пра гэтую арганізацыю, бо без разуменьня працы праваабаронцаў у Беларусі, без разуменьня тых умоваў, у якіх мы працуем, можа, Высокаму Суду будуць недастаткова зразумелыя тыя матывы і эпізоды дзейнасьці, якія разглядаліся падчас судовага працэсу. У статуце «Вясны» (які ўжо не працуе, бо арганізацыя закрытая) напісана, што ў сваёй дзейнасьці арганізацыя кіруецца дзейнай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, міжнароднымі дамовамі, ратыфікаванымі Рэспублікай Беларусь. Фактычна гэта так і застаецца. І, як мы бачым, міжнародныя пагадненьні, якія падпісала Беларусь, даюць магчымасьць любому грамадзяніну Беларусі выконваць праваабарончыя абавязкі і быць праваабаронцам. І, назваўшыся праваабаронцам, чалавек мусіць быць праваабаронцам, мусіць выконваць праваабарончыя абавязкі. Мы працуем у гэтых легальных рамках.

І сёлета ўжо 15 гадоў як існуе Праваабарончы цэнтар «Вясна», які працуе ў вельмі няпростых умовах, асабліва пасьля 2006 году. Я нагадаю, што арганізацыя была створаная вясною 1996 году, зарэгістраваная ў лютым 1998 году як гарадзкая арганізацыя, затым у чэрвені 1999 году — як рэспубліканская арганізацыя. І дзейнасьць, якой займалася «Вясна», яе асноўны накірунак — гэта правядзеньне маніторынгу выкананьня ўладамі Беларусі канстытуцыйных і міжнародных абавязкаў у галіне грамадзянскіх правоў і свабодаў. Гэта ўключае ў сябе разнастайныя віды дзейнасьці — пра-

вядзеньне маніторынгу заканадаўства і практыкі (якім чынам гэтае заканадаўства, гэтыя правы і свабоды ў Беларусі выконваюцца). І натуральна, што адной з асноўных задачаў, чым мы займаліся на працягу ўсіх гэтых гадоў, была дапамога ахвярам палітычных рэпрэсіяў. Першыя палітвязьні ў нас зьявіліся ў 1996 годзе, фактычна гэта і паслужыла штуршком для стварэньня Праваабарончага цэнтру «Вясна». За гэты час мы дапамаглі тысячам людзей. Тысячам! Часам гэта была дробная дапамога, часам большая. Гэта дапамога рознага кшталту — збор інфармацыі, распаўсюд інфармацыі. І гэта тая праца, якую больш ніякая арганізацыя не рабіла. Таксама мы займаліся адукацыяй і асьветай, у тым ліку і ў рамках сумесных праектаў зь іншымі праваабарончымі арганізацыямі. Гэта і стварэньне Беларускага Дому правоў чалавека ў Вільні, і праца па адукацыі найперш моладзі, і аналітычная праца па напісаньні дакладаў па сытуацыі з правамі чалавека, па сытуацыі з умовамі ўтрыманьня ў месцах зьняволеньня (я зараз маю шмат новай інфармацыі і думаю, што гэты даклад у нас адновіцца калі-небудзь), і правядзеньне назіраньня за выбарамі.

Ліквідацыя ў 2003 годзе Праваабарончага цэнтру «Вясна» якраз і зьвязаная з правядзеньнем назіраньня за выбарамі ў 2001 годзе. Тым ня менш з 2004 году Праваабарончы цэнтар «Вясна» стаў сябрам Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека. З 2007 году я зьяўляюся віцэ-прэзыдэнтам Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека — і гэта сьведчаньне эфэктыўнасьці працы як праваабаронцаў у «Вясьне», так і ўвогуле беларускіх праваабаронцаў. Мы маем дастаткова высокі аўтарытэт. І ўсе прэміі

і званьні, якія тут пералічваліся, гэта ня ёсьць пэрсанальная заслуга Бяляцкага ці «Вясны». Гэта падкрэсьлівае тую драматычную сытуацыю, якая склалася з правамі чалавека ў краіне. Міжнародная супольнасьць такім чынам зьвяртае ўвагу беларускага ўраду на тое, што трэба тут штосьці мяняць. Беларускі ўрад прымае нейкія іншыя рашэньні, і мы бачым, якім чынам — і шляхам гэтага працэсу — рэагуе на падобныя заўвагі.

Тройчы мы спрабавалі зарэгістравацца: у 2007-м і двойчы ў 2009-м гадах. Кожны раз працэс рэгістрацыі для нас — дастаткова складаная працэдура. Гэта падрыхтоўка статута, гэта прыезд людзей. І вось падчас апошняй рэгістрацыі на ўстаноўчы сход прыяжджае больш за 80 чалавек (можаце прыкінуць, што толькі на праезд гэтыя людзі трацяць грошай у агульнай суме каля тысячы даляраў), арэнда памяшканьня — асобнае пытаньне. Мы зьбіраемся, праводзім гэты сход. Міністэрства юстыцыі чытае дакумэнты: «Ага, у вас памылкі. Вось недакладныя дадзеныя: адзін з вашых заснавальнікаў указаў, што ён зьяўляецца супрацоўнікам сярэдняй школы, а трэба было ўказаць — сярэдне-адукацыйнай школы; яшчэ адзін напісаў, што ён кіраўнік гуртка, а трэба было напісаць, што ён кіраўнік сэкцыі, бо так указана ў штатным раскладзе…» І гэта ёсьць падставы! Вярхоўны Суд пагаджаецца — фармальная падстава ёсьць. Калі мы просім у Міністэрстве юстыцыі, каб далі нам час выправіць гэтыя заўвагі, міністэрства кажа: «А мы ня маем такога права, мы маем права не даваць гэты час». Гэта ёсьць стаўленьне беларускай дзяржавы да сытуацыі з рэгістрацыяй няўрадавых арганізацый.

Усе гэтыя гады, асабліва апошнія, мы праводзілі грамадзянскія кампаніі — гэта і кампанія супраць сьмяротнага пакараньня, гэта і кампанія «Стоп 193-1», у якой мы бралі ўдзел разам зь іншымі праваабарончымі арганізацыямі, гэта і кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Мы назіралі за выбарамі ў 2008, 2010 гадах. Мы рыхтавалі даклады, выступы, агляды, бралі ўдзел у міжнародных канфэрэнцыях. Асобна трэба адзначыць міжнародную дзейнасьць Праваабарончага цэнтру «Вясна». Мы ўдзельнічалі ў праваабарончых місіях па дасьледаваньні сытуацыі з правамі чалавека ў іншых краінах. Мы неаднойчы бралі ўдзел у міжнародным назіраньні за выбарамі, сябры арганізацыі маюць сур'ёзны вопыт у правядзеньні выбараў, ведаюць, як праводзяцца выбары ў іншых краінах — ва Ўкраіне, Кіргізіі, Таджыкістане, Расеі, эўрапейскіх краінах. Мы бралі ўдзел у канфэрэнцыях, арганізаваных АБСЭ, Радай Эўропы, Эўрапейскім Зьвязам, Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў, розных форумах і фэстывалях, дзе, як я мяркую, дастаткова годна прадстаўлялі Беларусь. І значэньне праваабаронцаў у гэтай сытуацыі, калі рэпутацыя Беларусі за мяжой, у цывілізаваных краінах, гранічна кепская, яно дастаткова вялікае. Таму што мы паказваем, што ў Беларусі ёсьць нармальныя людзі, людзі, якія разумеюць, што такое правы чалавека, што такое дэмакратыя. І ў будучыні, я думаю, ніхто ня зможа сказаць, што ў гэтыя складаныя для Беларусі часы ніхто ў краіне нічога не рабіў. Я мяркую, што мы шмат у чым ратуем гонар беларусаў на сёньняшні дзень і надалей будзем рабіць гэта ў любых умовах, дзе б мы ні знаходзіліся — на волі ці ў турме.

**Пра 2010 як год «паляваньня» на «Вясну»**

Можна меркаваць, што ўвесь 2010 год праходзіла незаконнае патаемнае адсочваньне дзейнасьці Праваабарончага цэнтру «Вясна». Пра гэта сьведчаць так званыя дакумэнты, прадстаўленыя КДБ, якія леглі ў аснову праверкі дзейнасьці мяне і Стэфановіча. Ну, і папярэднія гады. Гэта пацьвярджае праца Дому правоў чалавека. У нас ёсьць як мінімум некалькі прызнаньняў пра тое, што спэцслужбамі туды засылаліся маладыя людзі, студэнты, якія потым як бы прызнаваліся ў тым, што яны давалі зьвесткі пра працу, пра гэтыя навучальныя школы па правах чалавека, якія мы праводзілі. І невядома, якія высновы з гэтага зрабілі зноў жа органы КДБ, але такія факты мелі месца.

І тое, што прадстаўленыя ананімныя дакумэнты, якія зьявіліся на пачатку ўсяго гэтага расьсьледаваньня, яны былі, як выглядае, здабытыя на пачатку 2010 году. Пра гэта сьведчыць дата дакумэнтаў, канец 2009 — пачатак 2010 году. Але ходу ім далі толькі ў канцы кастрычніка 2010 году. Чаму? Я, канечне, відавочна гэта зьвязваю з выбарамі. Таму што ў верасьні былі абвешчаныя прэзыдэнцкія выбары 2010 году, і мы, прадстаўнікі розных праваабарончых арганізацый, абвясьцілі правядзеньне кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Гэтая кампанія ставіла за мэту маніторынг усіх этапаў выбараў на адпаведнасьць міжнародным выбарчым нормам і ўнутранаму выбарчаму заканадаўству. Была праведзеная адкрытая прэс-канфэрэнцыя, дзе была дастаткова падрабязна апісаная структура гэтага назіраньня, расказана пра тое, колькі людзей будзе ўдзельнічаць, якім чынам будзе адбывацца

гэтае назіраньне. Мы былі максымальна і гранічна адкрытыя — бясконца ішлі інтэрвію, камэнтары, ішоў вал інфармацыі пра тое, што бачылі нашыя назіральнікі падчас гэтых выбараў. Трэба сказаць, што склалася ўнікальная сытуацыя, таму што Цэнтральная выбарчая камісія, а таксама тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі рэагавалі на гэтую нашу інфармацыю. Мы маем дзясяткі пацьверджаньняў такіх рэагаваньняў. Яны выпраўлялі тыя недахопы, на якія ўказвалі нашыя назіральнікі. Але, тым ня менш, актыўнасьць праваабаронцаў, як я мяркую, відавочна выклікала вось гэтую праверку, і 3.11.2010 году, а гэта яшчэ разгар выбарчай кампаніі і разгар нашага назіраньня, зьявіўся гэты ліст генэрал-маёра Вягеры Шведу. І я нагадаю гэтую перапіску, яна дастаткова цікавая.

У гэтым лісьце намесьнік старшыні КДБ зьвярнуўся да намесьніка генэральнага пракурора Шведа з тым, што *«паступіла ананімная заява... прадстаўнікамі незарэгістраванай арганізацыі ПЦ „Вясна" ў мэтах фінансаваньня радыкальнай апазыцыі выкарыстоўваюцца грашовыя сродкі, якія паступаюць з-за мяжы... яны выкарыстоўваюцца ў супрацьпраўных мэтах, а таксама на асабістыя патрэбы Бяляцкага і Стэфановіча...»* Была просьба аформіць міжнароднае сьледчае даручэньне і накіраваць яго ў кампэтэнтныя органы Літвы для праверкі гэтай інфармацыі. У сваю чаргу, 15.11.2010 намесьнік генэральнага пракурора Швед зьвярнуўся да намесьніка старшыні Камітэту дзяржаўнага кантролю Верамко, перанакіраваўшы гэты зварот Камітэту дзяржаўнай бясьпекі, з даручэньнем *«правесьці праверку ў дачыненьні*

*кіраўнікоў ПЦ „Вясна" сумесна з супрацоўнікамі КДБ».* Што такое «сумесна з супрацоўнікамі КДБ» — дагэтуль для мяне зьяўляецца вялікай таямніцай. Што там было — ці яны нас на «праслушку» паставілі, ці яшчэ што — незразумела. Ну, і падзеі 19 сьнежня, канечне, яшчэ больш інтэнсыфікавалі гэтую сытуацыю. Я нагадаю, што ў ноч з 19-га на 20-га сьнежня супрацоўнікамі Першамайскага РУУС быў праведзены агляд у маёй кватэры, імі было канфіскавана 17 кампутараў, затрымана 12 чалавек, якія займаліся правядзеньнем назіраньня на выбарах. І цікава, што ні паперы, ні дакумэнты, ні інфармацыя з гэтых кампутараў у гэтай справе так і ня ўзьнікла, хаця старшыня КДБ Зайцаў зьвяртаўся да Зянона Ломаця з тым, што *«ў выніку канфіскавана аргтэхніка, дакумэнтацыя, якая мае дачыненьне да матэрыялаў праверкі, праведзенай у дачыненьні да кіраўнікоў ПЦ „Вясна", і агляд канфіскаваных прадметаў будзе зьяўляцца легалізаванай доказнай базай у дачыненьні да ўказаных асобаў. Аргтэхніка знаходзіцца ў Першамайскім РУУС горада Менска. Інфармуем для вырашэньня пытаньня пра ўзбуджэньне крымінальнай справы супраць функцыянэраў ПЦ „Вясна"».*

Пасьля сытуацыя была нэрвовая, зразумела. Цікавым у гэтым пляне зьяўляецца наступны дакумэнт, які прасьвятляе, што ж рабілася далей. 24.12.2010 — даклад старшага інспэктара маёра Кулака, які паведамляе, што *«23.11.2010 ім была праведзена працоўная нарада з прадстаўнікамі КДБ Сінягубам і Мацкевічам»* — гэта, я падазраю, куратары «Вясны» — *«па выніках якой выпрацаваны напрамкі дзейнасьці па ўказаных матэрыялах*

*праверкі».* Значыць, адбылася гэтая нарада з супрацоўнікамі КДБ, а потым яны пайшлі ў пракуратуру. 25.11.2010 — «*у пракуратуры горада Менска была праведзена працоўная нарада з начальнікам аддзела па наглядзе за выкананьнем падатковага заканадаўства грамадзянінам Сайкоўскім».* [Наступнае пытаньне Алесь Бяляцкі адрасуе пракурору Сайкоўскаму.] Вось цікава было б, каб вы распавялі, пра што вы там размаўлялі падчас той нарады. Грамадзянін Сайкоўскі спэцыялізуецца на падатках. У яго ў адной руцэ 233-ці, а ў другой — 243-ці*, ён адной падразае, а другой — па галаве. Адной падразае, а другой — па галаве. Я так мяркую. І гэтыя падыходы, якія выкарыстоўваліся ў дачыненьні да бізнэсмэнаў, былі выкарыстаныя і ў дачыненьні да «Вясны». Маёр Кулак піша, што *«падчас гэтай нарады з грамадзянінам Сайкоўскім у дзеяньнях Бяляцкага і Стэфановіча ня ўгледжаны склад злачынства, прадугледжанага артыкулам 233, паколькі адсутнічае факт зьдзяйсьненьня прадпрымальніцкай дзейнасьці і атрыманьня даходу ад гэтай дзейнасьці. Але кваліфікаваць дзеяньні апошніх па артыкуле 243 у частцы атрыманьня даходаў магчыма пасьля атрыманьня інфармацыі ад падразьдзяленьня фінансавай выведкі Літвы, устанаўленьня фактаў аб нясплаце падаходнага падатку па выніках падатковай праверкі ў буйным памеры».* Фактычна, 25.11.2010 была вырашана ўся парадыгма і ўсе наступныя дзеяньні ДФР, сьледзтва на працягу ўсіх гэтых месяцаў. Таму што па 233-м

* Арт. 233 КК РБ — «Незаконная прадпрымальніцкая дзейнасьць», арт. 243 КК РБ — «Ухіленьне ад сплаты сум падаткаў, збораў».

артыкуле далей праверка праводзілася за ўвесь гэты месяц, і ў дакладзе Кулака пра гэта пішацца, што *«падчас працы па матэрыялу ў Дэпартамэнце фінансавага маніторынгу выпатрабавана інфармацыя ў дачыненьні Бяляцкага, Стэфановіча і іх сваякоў, дзейнасьці ПЦ „Вясна" і фінансавых апэрацыяў, якія маглі б быць зьвязаныя з атрыманьнем злачынных даходаў ад ажыцьцяўляемай ПЦ „Вясна" дзейнасьці. Згодна рэсурсаў, гэтая дзейнасьць не ўстаноўленая. Выпатрабаваньне дэкларацыі пра даходы і маёмасьць Бяляцкага і Стэфановіча, а таксама праверка дакладнасьці ўказаных там зьвестак у цяперашні час праводзіцца падатковымі органамі ва ўзаемадзеяньні з супрацоўнікамі КДБ...»* Зноў супрацоўнікі КДБ — яны ўзаемадзейнічалі з ДФР, з падатковымі органамі. Вось чаму я сьцьвярджаю яшчэ раз, што справа гэтая ад пачатку да канца курыравалася КДБ. Праверка па 233-м артыкуле нічога не дала. Адпаведна, пайшла праверка празь Міністэрства падаткаў і збораў. Гэтая праверка працягвалася да атрыманьня як быццам бы зьвестак зь Літвы і з Польшчы, што адбылося толькі ў красавіку.

Паралельна, я хацеў бы заўважыць, праходзілі іншыя дзеяньні, якія сьведчаць пра перасьлед праваабаронцаў у Беларусі. 17.01.2011 — вобшук, праведзены КДБ ва ўсіх маіх памяшканьнях (у кватэрах і ў доме ў Ракаве), падчас якога былі канфіскаваныя пэўныя паперы, ноўтбук. Дзе інфармацыя з гэтых папераў? Там, дарэчы, былі нейкія фінансавыя паперы, якія маглі б быць цікавымі падчас гэтага сьледзтва. Супрацоўнікі КДБ, мабыць, вырашылі іх не прадстаўляць, таму што,

магчыма, яны сьведчылі б якраз супраць той вэрсіі, якую афіцыйна на сёньняшні дзень выкладае спадар Сайкоўскі. 16.02.2011 Генпракуратурай было вынесена папярэджаньне мне за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. І з чым яно зьвязана, як не з праваабарончай дзейнасьцю — патлумачыць немагчыма.

Паралельна праводзілася дыскрэдытацыя ў сродках масавай інфармацыі. Асобна я хачу зьвярнуць увагу на матэрыял, які быў зьмешчаны ў газэце «Беларусь Сегодня» адразу пасьля выбараў, дзе фігуруюць фактычна тыя самыя дакумэнты, якія былі прадстаўленыя ананімна КДБ для праверкі ў ДФР. Якім чынам «Беларусь Сегодня» атрымала гэтыя дакумэнты? Можа, яна зьяўляецца органам Камітэту дзяржаўнай бясьпекі? Няхай шаноўны, так сказаць, Якубовіч тады падпіша «Беларусь Сегодня. Орган КГБ» і друкуе тады гэтыя дакумэнты. Тым ня менш, гэтыя дакумэнты зьявіліся на пачатку студзеня фактычна. Там былі яшчэ фатаздымкі іншых дакумэнтаў. Бачна, што дыскрэдытацыя дзейнасьці праваабаронцаў ішла фактычна паралельна.

**Пра абвінавачаньне**

Калі паглядзець тыя «банкаўскія раздрукоўкі», якія былі прадстаўленыя падчас сьледзтва, хачу толькі паўтарыць, што яны не выклікаюць у мяне ніякага даверу. Я лічу, што яны несапраўдныя. І нават з улікам гэтага ў гэтых радках няма ніводнага пераводу сродкаў без пазнакаў, і ўсе пазнакі сьведчаць пра тое, што існаваў кантроль за сродкамі з боку партнэраў «Вясны», указваліся мэты расходу гэтых сродкаў. Таксама відавочна, што я не распараджаўся

гэтымі сродкамі, гэтыя сродкі прызначаліся не для мяне, а для «Вясны». Што датычыцца актаў падатковай інспэкцыі, я лічу іх незаконнымі. Гэтыя акты грунтуюцца на несапраўдных зьвестках, на поўным неразуменьні сэнсу гэтых зьвестак супрацоўнікамі Міністэрства па падатках і зборах.

З 16 чэрвеня, калі такі акт быў прадстаўлены мне, па 4 жніўня, дзень майго арышту, я выяжджаў зь Беларусі і вяртаўся ў Беларусь як мінімум шэсьць разоў. Таму ўсе меркаваньні, што я магу зьнікнуць падчас расьсьледаваньня гэтай справы, застацца за мяжой, яны ня маюць ніякіх падставаў. Я адчуваю сябе абсалютна невінаватым. І мяркую, што, наадварот, гэтыя ўмовы свабоднага выезду і ўезду былі дадзеныя мне для таго, каб, магчыма, я зьехаў і такім чынам ускосна пацьвердзіў сваю віну ва ўтойваньні так званых падаткаў.

Праваабарончай дзейнасьцю і ўвогуле грамадзкай дзейнасьцю я займаюся практычна ўсё маё жыцьцё. У гэтым годзе — 30 гадоў, як я займаюся грамадзкай дзейнасьцю. І пэрыяд, калі я адчуваў сябе больш-менш спакойна і свабодна — гэта з 1991 па 1995 год. Пры такой кепскай сытуацыі, якая склалася ў краіне пэрманэнтна на працягу апошніх гадоў, натуральна, што крымінальны перасьлед мог пачацца ў кожную хвіліну, у кожны год. І тое, што магло адбыцца — адбылося. Таму я не шкадую ні пра адзін свой крок, зроблены за гэтыя 30 гадоў у пляне абароны дэмакратыі, правоў чалавека ў Беларусі. Я гэта рабіў сьвядома».

Заля сустрэла выступ Бяляцкага авацыяй. Судзьдзя на гэта ніяк не адрэагаваў і прызначыў вынясеньне выраку на раніцу 24 лістапада.

## Нашчадкі Андропава

У якасьці пасьляслоўя да апошняга выступу Бяляцкага ў судовым працэсе хачу зьвярнуць увагу на кнігу пра ўціск праваабаронцаў у СССР, якую згадвае Алесь на самым пачатку сваёй прамовы. Гэта кніга савецкага амэрыканіста Мікалая Якаўлева «ЦРУ супраць СССР» (1979), што выходзіла шматтысячнымі накладамі на расейскай і мовах розных народаў Савецкага Саюзу.

Яна была напісаная на асабістае распараджэньне старшыні КДБ Юрыя Андропава, які фактычна вербаваў Якаўлева.

Якаўлеў у кнізе сьцьвярджаў, што «праваабаронцы цягаюць каштаны з агню ў інтарэсах псыхалягічнай вайны ЦРУ супраць Савецкага Саюзу»*.

Аўтар імкнецца паказаць, што праваабарончы рух у СССР інсьпіраваўся і фінансаваўся ЗША ў пэрыяд халоднай вайны, і ў якасьці фактаў, якія павінны былі запляміць дысыдэнтаў у вачах народу, называе вялікія сумы ў рублях і далярах, якія пераводзіліся ці ўвозіліся на «падрыўную дзейнасьць» у Савецкі Саюз. Якаўлеў цытуе напісаныя канспіратыўнай мовай лісты праваабаронцаў з СССР у ЗША з просьбамі аб фінансаваньні, абвінавачвае ў карысьлівых матывах Алену Бонэр, Андрэя Сахарава, Аляксандра Салжаніцына.

Пра тройчы асуджанага праваабаронцу Аляксандра Гінзбурга, які быў распараднікам створанага Салжаніцыным «Расейскага грамадзкага фонду

* Яковлев Н. ЦРУ против СССР. М.: Эксмо, 2003. С.271.

дапамогі перасьледаваным і іх сем’ям», Якаўлеў напісаў:

«У ходзе сьледзтва было ўстаноўлена і іншае — па-буйному падмануў Гінзбург спэцслужбы і Салжаніцына, які даверыў яму грошы на вядзеньне падрыўной працы. Большая частка той сумы ў 360 тысяч даляраў, несумненна, асела ў кішэнях «дабрадзея», чый шырокі лад жыцьця ў бытнасьць распараднікам „фонду” выклікаў зьдзіўленьне ў тых, хто ведаў яго»*.

Пра «каштаны з агню» цяперашнія беларускія прапагандысты ня пішуць, але галоўны ўрок сваіх савецкіх папярэднікаў засвоілі — болей пісаць пра фінансавыя злоўжываньні дысыдэнтаў, у гэта недасьведчаныя чытачы хутчэй паверацць. Алесь Бяляцкі нездарма знайшоў у кнізе Якаўлева шмат агульнага зь беларускай афіцыйнай прапагандай, скіраванай супраць яго і іншых праваабаронцаў.

Ніяк не апраўдваючы завербаванага КДБ аўтара гэтай кнігі, хачу зьвярнуць увагу на тое, што ён і ягоны бацька ў 1952 годзе былі арыштаваныя, перажылі і допыты, і этапы. Іх вызвалілі з турмы пасьля сьмерці Сталіна, але цалкам не рэабілітавалі. Холад ГУЛАГу толькі крыху астудзіў душу Якаўлева, але пасеяў у ёй страх на ўсё жыцьцё… Што прымушае цяперашніх беларускіх прапагандыстаў, судзьдзяў і пракурораў дыскрэдытаваць праваабаронцаў і фабрыкаваць супраць іх справы, застаецца загадкай.

* Яковлев Н. ЦРУ против СССР. М.: Эксмо, 2003. С.266.

# 24 лістапада 2011 году.
# Суд. Дзень восьмы. Прысуд

За суткі да абвяшчэньня прысуду ўжо ніхто не спадзяваўся, што ён будзе мяккі, адно разважалі, колькі «скіне» судзьдзя з таго тэрміну, які запатрабаваў пракурор. Як паказвае досьвед, судзьдзі даюць крыху мякчэйшае пакараньне. Звычайна — на адзін год. Гэта нібыта паказвае, што судзьдзя ўзважвае, шукае зьмякчальных акалічнасьцяў. Судзьдзя Бандарэнка «ацаніў» свой гуманізм на паўгода — менавіта на столькі ён скасьціў тэрмін.

## 4,5 года турмы з канфіскацыяй

24 лістапада, у дзень абвяшчэньня выраку Бяляцкаму, судовая заля была перапоўненая, месцаў усім не хапіла, частка людзей стаяла ў праходах, а частка ў залю ня трапіла ўвогуле. На першым радзе селі родныя Алеся, жонка Натальля і сястра Вольга. Ягоны сын Адам, які зьехаў вучыцца ў Польшчу па праграме імя Каліноўскага, на вырак бацьку прыехаць ня змог. У залю прыйшлі заходнія дыпляматы, беларускія і замежныя праваабаронцы, палітыкі, журналісты. Родныя і знаёмыя віталі Алеся, які чакаў прысуду ў судовай клетцы. Амаль уся заля махала Бяляцкаму рукамі, людзі казалі: «Мы цябе вельмі любім!» Бяляцкі адказваў:



Алесь Бяляцкі перад прысудам.

«Я вас таксама», махаў рукою ў адказ, усьміхаўся. Таксама ён павітаўся і коратка пагутарыў з адвакатам Лаеўскім. Пракурор Сайкоўскі сядзеў на сваім месцы, скрывіўшы вусны і падпіраючы рукою падбародзьдзе.

Судзьдзя Бандарэнка прыйшоў у залю з тэчкай, у якой ляжаў вырак Алесю, і спытаў пра меркаваньне бакоў: чытаць увесь прысуд ці толькі рэзалюцыйную частку?

Алесь Бяляцкі запатрабаваў, каб судзьдзя чытаў увесь прысуд і каб рэзалюцыйную частку яму пераклалі на беларускую мову.

Судзьдзя сустрэў гэтую просьбу выразам незадавальненьня на твары. Паўгадзіны ён зачытваў

увесь вырак, часамі зьбіваючыся на скорагаворку. Запавольваў чытаньне толькі на лічбах. З залі патрабавалі, каб судзьдзя чытаў больш выразна, але ён не рэагаваў, сьпяшаўся далей:

«Суд лічыць, што магчымае толькі пазбаўленьне волі з канфіскацыяй, і не знаходзіць магчымасьці для больш мяккага пакараньня».

Актывістка «Вясны» Тацяна Равяка дастала нейкім цудам пранесены ёю ў залю плякат з надпісам: «Свабоду Алесю Бяляцкаму, віцэ-прэзыдэнту Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека, кіраўніку цэнтру „Вясна" ў Беларусі» і партрэтам праваабаронцы за кратамі. Ахова ніяк на гэта не зрэагавала. Равяка павярнула плякат, каб яго пабачылі ва ўсіх кутках залі.

Судзьдзя таксама не зьвярнуў на гэта ўвагі і зачытаў вырак:

**Бяляцкага Аляксандра Віктаравіча прызнаць вінаватым ва ўхіленьні ад сплаты падаткаў шляхам унясеньня ў дэкларацыю заведама лжывых сьведчаньняў, што пацягнула за сабой шкоду ў асабліва буйным памеры, і на падставе часткі другой артыкула 243 прызначыць пакараньне ў выглядзе пазбаўленьня волі на тэрмін 4 гады 6 месяцаў з канфіскацыяй маёмасьці.**

«Вам зразумелы прысуд?» — спытаў Бандарэнка ў Бяляцкага. Алесь зноў папрасіў перакласьці рэзалюцыйную частку на беларускую мову. «Вырак на беларускай мове вам будзе зачытаны пазьней», — адказаў Бандарэнка, хутка закрыў судовае паседжаньне і выйшаў праз дарадчы пакой.

Заля загула ад абурэньня. «Ганьба!» — першым крыкнуў Алег Воўчак, ягоны вокліч падхапіў Ан-

дрэй Пачобут, потым іх падтрымалі іншыя і пачалі скандаваць «Ганьба!» разам. Зьміцер Салаўёў крыкнуў: «Свабоду Бяляцкаму!», пэнсіянэрка, якую я бачыў ці не на ўсіх мітынгах апазыцыі, заклікала: «Свабоду закладнікам рэжыму!» Некаторыя жанчыны заплакалі.

Алесь Бяляцкі ўспрыняў вырак спакойна. Узмахам рукі з клеткі ён разьвітаўся зь людзьмі, нешта праз краты сказаў родным, але гэтага ўжо было не чуваць у агульным гуле. Пакуль канваіры выводзілі Алеся, ён пасьпеў крыкнуць: «Жыве „Вясна"!»

Людзі адгукнуліся: «Жыве!»

Пракурор Сайкоўскі пасьля вынясеньня прысуду выйшаў праз натоўп людзей, якім не хапіла месца ў залі, не азіраючыся пайшоў на другі паверх. Людзі ўчынілі яму абструкцыю: зьдзекліва пляскалі ў ладкі і «дзякавалі» за працу, крычалі: «Слава герою! Маладзец…»

Калі Алеся вывелі, да ягонай жонкі Натальлі са словамі падтрымкі падышоў часовы павераны ў справах ЗША Майкл Скэнлан, за ім і іншыя дыпляматы. Амбасадар Літвы Эдмінас Багдонас выказаў спачуваньні і словы падтрымкі і даў Натальлі нумар свайго мабільнага тэлефона.

Было бачна, як перажывала Натальля, хоць і казала журналістам, што, зыходзячы з кампаніі ў дзяржаўных СМІ, скіраванай супраць Алеся, прысуд для яе быў чаканы:

«Мы ведалі пра такое магчымае разьвіцьцё падзей яшчэ да арышту Алеся. Гэта быў сьвядомы выбар. Яшчэ недзе за месяц да арышту Алеся мы ўжо рыхтаваліся і сьвядома йшлі на гэта, ведаючы, чым гэта пагражае».



Натальля Пінчук і Майкл Скэнлан.

Натальля моцна хвалявалася і шукала адпаведныя словы, калі яе з усіх бакоў абступілі журналісты:

«Зразумела, будзь я адна, у гэтай сытуацыі, з гэтай праблемай было б досыць цяжка. Мяне падтрымлівае тое, што людзі прыходзяць, тэлефануюць, выказваюць словы падтрымкі, і ня толькі словы, а гатовыя дапамагчы ўсім, чым могуць. Гэта, зразумела, дае магчымасьць адчуваць сябе не адзінокай».

Натальля казала журналістам, што спадзяецца на міжнародную падтрымку ў справе вызваленьня Алеся.

У фае суду актывісты Праваабарончага цэнтру



Палкоўнік Яўсееў вырывае транспарант.

«Вясна» Зьміцер Салаўёў, Марына Статкевіч і Алена Лапцёнак разгарнулі транспарант з надпісам «Вясну не спыніць!»

Людзей у вэстыбюлі было шмат, і міліцыянты не адразу даўмеліся, як адрэагаваць на гэта, аж пакуль фотарэпартэры не пачалі здымаць транспарант. Намесьнік начальніка менскай міліцыі Ігар Яўсееў, які асабіста кіраваў аховай на працэсе, закрычаў на актывістаў:

«Ніякіх банэраў! Гэта будынак суду, я вас зараз затрымаю! Хто вам дазволіў тут вешаць банэр?» Зьміцер не пагаджаўся аддаваць транспарант, але Яўсееў яго проста вырваў. Праўда, нікога за гэта не арыштавалі, толькі перапісалі пашпартныя

зьвесткі. Палкоўнік Яўсееў, вядомы сваім асабістым удзелам у разгоне апазыцыйных акцыяў у Менску, баяўся, каб і тут не пачаўся мітынг.

Пазьней Тацяна Равяка распавяла пра свой эмацыйны стан у момант вынясеньня выраку Алесю:

«Мяне душылі сьлёзы, хоць я чалавек не сэнтымэнтальны, вельмі стрыманы, але прысуд Бяляцкаму для мяне стаўся нейкім шокам. Да вечара ў мяне ўжо вочы счырванелі, нос распух… Раўла як бялуга… Нават ня памятаю, што раней было ў мяне нагодай для такіх сьлёз».

Сябры Праваабарончага цэнтру «Вясна» ў супольнай заяве назвалі прысуд Бяляцкаму распраўай:

«Прысуд нашаму калегу — вынік шматгадовай рэпрэсіўнай палітыкі ўладаў Беларусі ў дачыненьні да праваабарончых арганізацыяў: выпіхваньне з прававога поля праз пазбаўленьне афіцыйнага статусу, адмовы ў рэгістрацыі з надуманых прычын новых аб’яднаньняў, стварэньне перашкодаў і ціск з боку КДБ і іншых спэцслужбаў»*.

## Экспэрты: Вырак падлягае скасаваньню

Па сьлядах працэсу Бяляцкага юрысты далі нямала крытычных ацэнак працэсу і выраку. Спынюся на адной.

Амэрыканская асацыяцыя юрыстаў (American Bar Association, ABA) падрыхтавала і перадала ў Менскі гарадзкі суд сваё экспэртнае заключэньне,

* Заява сяброў Праваабарончага цэнтру «Вясна» з нагоды прысуду Алесю Бяляцкаму // Сайт Праваабарончага цэнтру «Вясна», 24.11.2011.

падпісанае адвакатам Ўолтэрам Ўайтам і прэзыдэнтам Амэрыканскай асацыяцыі юрыстаў Ўільямам Робінсанам.

У ім прызначэньне турэмнага зьняволеньня Бяляцкаму за нявыплату асабістага падаходнага падатку на сродкі, выкарыстаныя ад імя ягонай арганізацыі, названае «парушэньнем артыкула 22 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах»:

*Прызначэньне турэмнага зьняволеньня ёсьць парушэньнем права апэлянта на свабоду аб'яднаньняў, несувымернае ніякай законнай мэце... Апэлянт мае права згодна зь міжнародным правам на стварэньне аб'яднаньняў і збор сродкаў у падтрымку дзейнасьці арганізацыі. Беларусь ня можа накладаць якія-небудзь абмежаваньні на названыя правы, калі для гэтага няма неабходнасьці ў дэмакратычным грамадзтве; пры гэтым такія абмежаваньні павінны быць сувымерныя законным урадавым інтарэсам. Ускладаньне асабістай падатковай адказнасьці за грашовыя сродкі, ня выплачаныя апэлянту ў выглядзе заработнай платы, не спрыяе забесьпячэньню законных дзяржаўных інтарэсаў**.

Паводле Амэрыканскай асацыяцыі юрыстаў, уладам Беларусі не ўдалося давесьці, што прызначанае Бяляцкаму пакараньне — неабходнае ў дэмакратычным грамадзтве і сувымернае дзяржаўным інтарэсам. Само абвінавачаньне Бяляцкага названае

* Заява экспэрта па міжнародным праве, пададзеная ад імя Амэрыканскага аб'яднаньня адвакатаў, па справе «Беларусь супраць Бяляцкага» // Сайт Амэрыканскага аб'яднаньня адвакатаў, 22.12.2011.

«вынікам незаконнага рашэньня пра ліквідацыю ягонай арганізацыі «Вясна»:

*Вынесены яму прысуд парушае яго права на свабоду аб'яднаньняў у адпаведнасьці зь Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, падпісаным Рэспублікай Беларусь, і таму падлягае скасаваньню.*

Такім чынам аўтарытэтная амэрыканская асацыяцыя, якая існуе з 1878 году, аб'ядноўвае 410 тысяч юрыстаў і ўсталёўвае акадэмічныя стандарты для юрыдычных ВНУ ЗША, адказала і на закіды Лукашэнкі, што ў Амэрыцы за такое Бяляцкі «ня вылез бы з турмы»*.

* Гл. разьдзел «Дзіўны зварот пракурора».

# Ноч на роздум. Усё наперадзе

*У гушчарах, затканых імглою,*
*шэрым змрокам, на золку, ў зару*
*ахвяруем Табе мы сабою*
*кожны дзень, кожны час, Беларусь.*

*І няма ў сэрцах жаху, ні жалю,*
*мы адвагай змагарнай гарым:*
*не чужыя жануць нас удалеч,*
*але Ты нас вядзеш да зары.*

*І мы верым, яна разгарыцца,*
*ўстане зноў над краінаю дзень,*
*бо ня стане змагар, не скарыцца*
*прад нягодай ніколі, нідзе.*

*Хмараў дым над абшарамі тае,*
*вецер дыхае мятай, быльлём.*
*Беларусь, Беларусь залатая,*
*за Цябе, за Цябе мы ідзём!*

Натальля Арсеньнева.
1958 год

Апошні разьдзел гэтай кнігі — пра вынікі і наступствы справы Бяляцкага – жыцьцё будзе дапісваць і пасьля таго, як аўтар паставіць кропку. Асэнсаваньне гэтай справы, яе ўплыў на ўнутраную сытуацыю ў Беларусі і адносіны Беларусі з Захадам будуць трываць прынамсі да моманту вызваленьня Алеся Бяляцкага з турмы. Спадзяюся, што дачаснага, што яму не давядзецца чакаць волі чатыры з паловай гады, адмераныя судом.

## Міжнародная рэакцыя

Вырак Бяляцкаму выклікаў пратэсты ва ўсім сьвеце. Вось толькі некаторыя загалоўкі паведамленьняў у СМІ адразу пасьля абвяшчэньня прысуду беларускаму праваабаронцу:

*The New York Times, ЗША*:

**Беларускі праваабаронца засуджаны**

«Вядомы змагар за правы чалавека ў Беларусі засуджаны да чатырох з паловай гадоў турэмнага зьняволеньня пасьля працэсу за ўхіленьне ад выплаты падаткаў, які заходнія ўрады асудзілі як палітычна матываваны»*.

*Le Monde, Францыя*:

**Апазыцыянэр Алесь Бяляцкі засуджаны на 4,5 года турмы**

«Вярхоўны прадстаўнік у зьнешняй палітыцы Эўрапейскага Зьвязу Кэтрын Эштан і камісар ЭЗ у адносінах з краінамі-суседзямі Штэфан Фюле асудзілі „палітычны працэс”, зьвязаны з важнай

* Michael Schwirtz. Belarus: Rights Activist Sentenced // The New York Times, 26.11.2011.

працай спадара Бяляцкага на карысьць ахвяр рэпрэсій»*.

*Gazeta Wyborcza, Польшча*:

**Бяляцкі засуджаны**

«„Вырак Алесю Бяляцкаму стаўся выракам правам чалавека ў Беларусі, пацьвярджэньнем невыкананьня дзейным рэжымам асноўных стандартаў грамадзянскіх правоў і свабод, запісаных ва Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека ААН”, — адзначана ў заяве МЗС Польшчы»**.

Кэтрын Эштан і Штэфан Фюле выступалі з нагоды арышту Алеся некалькі разоў. 24 лістапада яны назвалі прысуд Бяляцкаму «сымбалем уціску грамадзянскай супольнасьці, які ўзмацняецца пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 году».

19 сьнежня 2011 году з нагоды першай гадавіны драматычных падзеяў у Менску Кэтрын Эштан і дзяржсакратар ЗША Гілары Клінтан заклікалі Менск «да неадкладнага вызваленьня і рэабілітацыі ўсіх палітычных зьняволеных, у тым ліку былых кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта Андрэя Саньнікава і Мікалая Статкевіча, а таксама праваабаронцы Алеся Бяляцкага».

У 2011 годзе сьпіс беларускіх чыноўнікаў, супраць якіх дзейнічаюць візавыя і маёмасныя санкцыі Эўрапейскага Зьвязу, павялічыўся на шэсьць асобаў, вінаватых у перасьледзе Алеся Бяляцкага. У сьпіс увайшлі судзьдзя Бандарэнка, пракурор Сайкоўскі,

---

* L’opposant Ales Bieliatski condamné à quatre ans et demi de prison Biélorussie // Le Monde, 25.11.2011.

** Andrzej Poczobut. Bialacki skazany // Gazeta Wyborcza, 24.11.2011.

міністар падаткаў і збораў Уладзімер Палуян, судзьдзя Менскага гарадзкога суду Ўладзімер Корнаў, які адхіліў скаргу адваката на пастанову Першамайскага суду аб утрыманьні Бяляцкага пад вартай, пракурор Вольга Герасімовіч, якая выступала супраць вызваленьня Бяляцкага на працэсе ў Менскім гарадзкім судзе, пракурор Максім Шастакоў, які перадаў справу Бяляцкага ў Першамайскі раённы суд Менску.

Рашэньнямі ад 10 кастрычніка і 16 сьнежня Рада Эўрапейскага Зьвязу ўключыла гэтых чыноўнікаў у сьпіс асобаў, чые актывы ў Эўразьвязе падлягаюць замарожваньню і якім забараняецца ўезд на тэрыторыю аб'яднанай Эўропы. У выніку такіх асобаў у Беларусі стала 210.

Пасьля прысуду Бяляцкаму Беларусь трапіла ў «чорны сьпіс» міжнароднай Абсэрваторыі ў абароне праваабаронцаў (The Observatory for the Protection of Human Rights Defenders) як краіна, у якой праваабаронцаў саджаюць у турмы.

## Беларуская рэакцыя

Пра наступствы і вынікі справы Бяляцкага для Беларусі я папрасіў выказацца самога Алеся і аўтарытэтных у беларускім грамадзтве людзей.

Алесь Бяляцкі ў лісьце з турмы ад 21 траўня 2012 году напісаў:

«Нас не ўдалося выціснуць на маргінэс. Так атрымалася, што ў праваабароне ў Беларусі працуюць ці не найбольш эфэктыўныя і дасьведчаныя ў грамадзкім сэктары людзі і арганізацыі. Не заўважаюць слабых і няздольных, а нас, і ў прыватнасьці мяне,

бачыш як заўважылі. Думаю, што мы паўплывалі і працягваем уплываць на адносіны ў нашым грамадзтве да разуменьня сытуацыі з правамі чалавека ў краіне. І гэта самае істотнае [...] Адзінае, пра што даводзіцца шкадаваць, гэта тое, што ў мяне было зусім недастаткова часу на сям'ю. Але ў такі час мы жылі і жывем. Час вельмі важны і вызначальны для нашага грамадзтва, які патрабуе нашых вялікіх намаганьняў, а часам і ахвярнасьці».

Філёзаф Валянцін Акудовіч называе Алеся Бяляцкага змагаром, сымбалем беларускага грамадзянскага супраціву:

«Напэўна, былі ў нас больш яркія фігуры, якія знаходзіліся больш навідавоку, былі больш мэдыйныя фігуры нашага супраціву. Аднак някідкая праца Алеся, але такая ўпартая, сьвядомая, засяроджаная, ягоная самаахвярная праца дае падставы пэрсаніфікаваць менавіта праз яго беларускі супраціў. Там, дзе ён упэўнены і ў чым упэўнены, ён спакойна і рашуча, без залішняй рыторыкі рухаецца ў тым кірунку і йдзе да канца. У ім ёсьць вельмі моцны ўнутраны стрыжань, цэласнасьць. Ён сустракае перашкоды і цяжкасьці, якія зараз выпалі яму, зь нейкім ясным спакоем, з упэўненасьцю ў тым, што той шлях, які ён абраў, не выключае і турмы, што гэта нармальна — сядзець за сваю дабрадзейнасьць у беларускай турме».

Валянцін Акудовіч зь вялікай павагай ставіцца да самаахвярнага ўчынку Алеся, які, маючы магчымасьць зьехаць з краіны, вырашыў прайсьці праз судовы перасьлед і турму:

«Што датычыць грамадзкага плёну ад гэтай ахвярнасьці, то тут няма адназначнага адказу. Чым



Валянцін Акудовіч.

такі крок каштоўны — дык гэта тым, што чалавек яго робіць не таму, што з гэтага будзе станоўчы вынік, а таму, што ён яго не зрабіць ня можа. І я ня ўпэўнены, што гэтыя ахвяры зьмяняюць нешта ў нас. Можа, сума іх, большых і меншых ахвяраў, стварае нейкую крытычную масу, якая пакрысе, далёка не раўназначна гэтым ахвярам, штосьці зьмяняе ў кожным з нас. Але ня ў гэтым я бачу іх каштоўнасьць, а ў тым, што ёсьць людзі, здольныя на падобныя крокі. Калі ў грамадзтве такіх людзей няма, калі яны раз-пораз не зьяўляюцца, то такое грамадзтва сапраўды мае мала шанцаў на будучыню».

Валянцін Акудовіч лічыць, што арышт Бяляцкага быў задуманы як чарговае зьвяно ў дзейнасьці рэпрэсіўнай сыстэмы ўлады, якая толькі пасьля шырокага міжнароднага розгаласу зразумела, што



Пётра Садоўскі.

пралічылася. Магчыма, гэта прымусіць больш не садзіць праваабаронцаў. Такім чынам, Алесь прыкрыў сабою праваабарончы рух, мяркуе Валянцін Акудовіч.

Першы амбасадар Беларусі ў ФРГ, мовазнаўца і культуроляг Пётра Садоўскі трымаецца больш пэсымістычнай думкі:

«Ня думаю, што ўлады Беларусі нешта адчулі. Я не мяркую, што яны думаюць, што перабольшылі і апякліся. Наадварот, яны зразумелі, што выбіваньне з гульні такіх ключавых фігур для іх надзвычай плённае. Улады не шкадуюць, яны нічога не зьбіраюцца мяняць і будуць ісьці ў рэпрэсіўным кірунку. Што да апазыцыі, то адсутнасьць Бяляцкага і яго дапамогі нашымі дэмакратычнымі сіламі вельмі адчуваецца».

Мастак Аляксей Марачкін прычыны арышту і



Аляксей Марачкін.

асуджэньня Бяляцкага бачыць у прыродзе гэтай улады:

«Рэжым ненасытны. Алесь ніякай шкоды не зрабіў дзяржаве, ён абараняў людзей, тых, хто змагаецца за незалежнасьць, свабоду, за чалавечую годнасьць і хто пацярпеў ад рэжыму. І ўлады ў гэтым убачылі небясьпеку, не даравалі. Ці ацэніць гэты чын Алеся беларускае грамадзтва? Думаю, што ў цэлым наш народ сьпіць, апутаны павуціньнем замшэласьці і дзяржаўнай прапаганды. Але актыўная частка грамадзтва, безумоўна, ацаніла ўчынак Алеся. Ягоныя пакуты, як пакуты Някляева, Саньнікава, іншых палітвязьняў набліжаюць час вызваленьня ад гэтых путаў. Дарэмна гэта не праходзіць».



Вінцук Вячорка.

Сябра Алеся з раньніх 80-х Вінцук Вячорка зьвяртае ўвагу на тое, што справа супраць Алеся Бяляцкага не завершаная, што яго працягваюць перасьледаваць, узьнікаюць новыя справы за выплату пені са штрафаў, працягваюцца працэсы наконт канфіскацыі маёмасьці Бяляцкага і офіса «Вясны».

«Ён праваабаронца, ён ня кідаў выкліку цяперашняму рэжыму ў якасьці палітычнай альтэрнатывы, ён законна дамагаўся выкананьня правоў чалавека. У гэтым сэнсе ягоны арышт — гэта новая ступень жорсткасьці рэжыму: тое, што ён выдатнага праваабаронцу дэманстратыўна пасадзіў у турму.

Чаму менавіта Бяляцкі? Рэч у ягонай асобе. Я яго ведаю з 1982 году. Алесь — цэльны чалавек з выпакутаваным сьветапоглядам, які з савецкіх часоў

мае прынцыпы, дзейнічаў у антыкамуністычным падпольлі, які ў самыя гарачыя гады барацьбы за свабоду і незалежнасьць нашай краіны быў сярод заснавальнікаў БНФ. Ён неканьюнктурны чалавек, які да скону пранясе свае прынцыпы. Гэтым тлумачыцца ягоны аўтарытэт сярод палітычна актыўных людзей і праваабаронцаў, гэтым тлумачыцца нянавісьць рэжыму да яго».

Пісьменьнік Уладзімер Арлоў згадаў паездку ў вёску Смаляны Аршанскага раёну, дзе ў канцы траўня 2012 году ён прэзэнтаваў сваю кнігу «Пакуль ляціць страла»:

«Я зразумеў, што там людзі ведаюць, хто такі Бяляцкі, прынамсі настаўнікі. А пасьля сустрэчы ў мяне пра Алеся спыталася адна старшаклясьніца: „Скажыце, як там справы ў Бяляцкага, я чытаю ў інтэрнэце пра яго, а што насамрэч?” І гэта мяне вельмі ўсьцешыла. Тое, што дзяўчынка з занядбанага цяпер мястэчка ведае Бяляцкага, было для мяне істотным сыгналам. У мяне нават настрой узьняўся».

Уладзімер Арлоў перакананы, што справа Бяляцкага — безумоўна палітычная, гэта працяг яго змаганьня за Беларусь:

«Ведаючы Бяляцкага яшчэ зь яго студэнцкіх гадоў, калі ён прыяжджаў да мяне ў Полацак, хачу сказаць, што гэта чалавек, які калісьці абраў сабе шлях і ня збочваў зь яго. Ён знайшоў сваю радзіму — Беларусь і вырашыў служыць ёй. Спачатку рабіў гэта ў аб’яднаньні маладых літаратараў „Тутэйшыя”, потым — на пасадзе дырэктара музэю Максіма Багдановіча, пазьней — як праваабаронца.




Уладзімер Арлоў.

У самых розных іпастасях мы яго ведалі, але гэта быў адзін і той жа Алесь Бяляцкі».

Праваабаронцы спатрэбяцца Беларусі яшчэ доўга, і найперш такія, як Бяляцкі, кажа Ўладзімер Арлоў. Ён, як і іншыя мае суразмоўцы, перакана്ны, што турма ня зломіць Алеся:

«Такія людзі, як Бяляцкі, у няволі толькі загартоўваюцца. Уздымаюцца на іншы ўзровень, па новых прыступках зьдзяйсьняюць сваё духоўнае ўзыходжаньне. Думаю, што з турмы ён выйдзе больш самазаглыбленым, нават набудзе іпастась філёзафа».

Вінцук Вячорка ня хоча гадаць, калі вызваляць Алеся, але ён пераканаы:

«Пасьля турмы ён будзе тым жа самым Алесем, які ані на мілімэтар ня здаў сваіх каштоўнасьцяў і не капітуляваў… Па-другое, незалежна ад ступені міжнароднага ўдзелу ў ягоным лёсе, ягоны аўтары-

тэт у краіне вырасьце. Гэта нягледзячы на тое, што ў беларусаў увязьненьне ня надта спрыяе папулярнасьці грамадзкага дзеяча або палітыка».

Своеасаблівай рэакцыяй уладаў на справу Бяляцкага сталіся «антырэвалюцыйныя папраўкі» ў Крымінальны кодэкс і іншыя законы. Яны былі ўхваленыя ў кастрычніку 2011 году. Гэтыя зьмены забараняюць атрыманьне замежных грантаў на дзейнасьць недзяржаўных аб'яднаньняў і караюць за гэта.

Міжнародная арганізацыя Frontline Defenders выказала перакананьне, што гэтыя папраўкі былі ўключаныя ў сувязі са справай Алеся Бяляцкага.

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях» дапоўнены палажэньнем:

«Рэспубліканскім і мясцовым грамадзкім аб'яднаньням, іх саюзам забараняецца захоўваць грашовыя сродкі, каштоўныя мэталы і іншыя каштоўнасьці ў банках і нябанкаўскіх крэдытна-фінансавых арганізацыях, якія знаходзяцца на тэрыторыі замежных дзяржаў».

Аналягічныя палажэньні былі ўнесеныя і ў Закон аб палітычных партыях. А ў Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь зьявілася дапаўненьне, якое варта працытаваць цалкам:

«Артыкул 369-2. Атрыманьне замежнай бязвыплатнай дапамогі ў парушэньне заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Атрыманьне, а таксама захоўваньне, перамяшчэньне замежнай бязвыплатнай дапамогі для ажыцьцяўленьня экстрэмісцкай дзейнасьці ці іншых дзеяньняў, забароненых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, або фінансаваньня палітычных партый,

саюзаў (асацыяцый) палітычных партый, падрыхтоўкі або правядзеньня выбараў, рэфэрэндумаў, адкліканьня дэпутата, члена Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, арганізацыі або правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацый, пікетаваньня, забастовак, вырабу або распаўсюджваньня агітацыйных матэрыялаў, правядзеньня сэмінараў або іншых формаў палітычнай і агітацыйна-масавай працы сярод насельніцтва, учыненыя на працягу году пасьля накладаньня адміністрацыйнага спагнаньня за такія ж парушэньні, — караюцца штрафам, або арыштам на тэрмін да трох месяцаў, або абмежаваньнем волі на тэрмін да трох гадоў, або пазбаўленьнем волі на тэрмін да двух гадоў».

Судзіць праваабаронцаў і апазыцыянэраў за нясплату падаткаў — надта нязручна, дый не дадуць болей уладам Беларусі банкаўскай інфармацыі з-за мяжы. Новы артыкул Крымінальнага кодэксу дазваляе саджаць у турму толькі за атрыманьне грантаў.

## Нобэлеўская намінацыя Бяляцкага

Бяляцкага вылучалі кандыдатам на Нобэлеўскую прэмію міру ў 2006 і 2007 гадах. Гэта рабілі дэпутаты парлямэнту Нарвэгіі, якія такім чынам хацелі адзначыць праваабарончую дзейнасьць Алеся і «Вясны», а таксама прыцягнуць увагу міжнароднай супольнасьці да рэпрэсій у Беларусі, асабліва пасьля разгону Плошчы 2006-га. У 2007-м Бяляцкага ўключылі ў шорт-ліст з шасьці намінантаў.

Трэцяе вылучэньне Алеся адбылося пасьля ягонага арышту. Вылучэньне зьняволеных праваабаронцаў на Нобэлеўскую прэмію міру — не навіна. Пяць дысыдэнтаў сталі ляўрэатамі гэтай прэміі, седзячы ў вязьніцы, канцлягеры, пад хатнім арыштам: антыфашыст Карл фон Асецкі (Нямеччына, 1935), навуковец і праваабаронца Андрэй Сахараў (СССР, 1975), Лех Валэнса (Польшча, 1983), змагары за правы чалавека Аун Сан Су Чжы (Бірма, 1991), Лю Сяо-бо (Кітай, 2010).

Права на вылучэньне кандыдатаў на гэтую прэмію маюць сябры нацыянальных парлямэнтаў і ўрадаў, сябры нарвэскага Нобэлеўскага камітэту міру, рэктары і прафэсары ўнівэрсытэтаў, сябры шэрагу міжнародных інстытутаў, ляўрэаты прэміі ранейшых гадоў і іншыя асобы.

Да 1 лютага 2012 году, тэрміну, калі завяршылася вылучэньне намінантаў на Нобэлеўскую прэмію міру, Алеся Бяляцкага намінавалі 190 дэпутатаў польскага Сэйму і Сэнату, 5 дэпутатаў украінскай Вярхоўнай Рады, на сэсіі Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы былі сабраныя намінацыі на вылучэньне Алеся яшчэ ад 41 дэпутата нацыянальных парлямэнтаў з 27 краінаў кантынэнту. Асобныя намінацыі Бяляцкага накіравалі ў Нобэлеўскі камітэт дэпутаты парлямэнтаў Чэхіі, Славаччыны, Нарвэгіі, а таксама прэм’ер-міністар Славаччыны Івэта Радзічава. Ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі міру 2003 году з Ірану Шырын Эбадзі даслала свой намінацыйны ліст на Алеся ў Осла 31 студзеня.

Польскі дэпутат Анджэй Галіцкі, прэзэнтуючы 27 студзеня ў Сэйме ініцыятыву намінаваць Алеся Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру, заявіў:



Анджэй Галіцкі.

«У Эўропе няма месца Гулагам. Той, хто ёсьць дэмакратам і эўрапейцам, павінен актыўна супрацьстаяць таму, што адбываецца ў Беларусі. Ніводзін дэмакрат і эўрапеец ня можа быць абыякавы да існаваньня Гулагу ў Эўропе. Алесь Бяляцкі сымбалічна прадстаўляе ўсіх рэпрэсаваных у Беларусі. Мы памятаем, як мы ганарыліся, якія мы былі шчасьлівыя, калі Данута Валэнса атрымлівала Нобэлеўскую прэмію, бо сам Лех Валэнса быў зьняволены, інтэрнаваны. Тады мы адчулі руку, пададзеную вольнымі грамадзтвамі Эўропы і сьвету. Цяпер мы абавязаныя падаць руку грамадзянам Беларусі, якія так моцна чакаюць звычайнай свабоды, звычайнай справядлівасьці. Адзінай віной Алеся Бяляцкага было тое, што ён быў занадта ўразьлівы, каб не дапамагаць ахвярам рэжыму»*.

* Wniosek o nagrodę Nobla dla Alesia Bialackiego // Сайт Парлямэнцкага клюбу Грамадзянскай плятформы, 27.01.2012.

У кастрычніку 2011 году ў Беларусі быў створаны грамадзкі камітэт падтрымкі вылучэньня Алеся Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру. У яго ўвайшлі многія грамадзкія дзеячы, у тым ліку калегі Бяляцкага зь «Вясны», старшыня руху «За свабоду» Аляксандар Мілінкевіч, старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, расейская праваабаронца Людміла Аляксеева, кіраўнік арганізацыі Freedom House Дэйвід Крэймэр.

Сябра камітэту Валянцін Стэфановіч зазначыў, што разглядае гэтую намінацыю як дадатковую акцыю ў абарону Бяляцкага, яшчэ адно дзеяньне дзеля ягонага вызваленьня.

Усяго на Нобэлеўскую прэмію міру 2012 году разам зь Бяляцкім быў вылучаны 231 намінант — 188 асоб і 43 арганізацыі з усіх куткоў сьвету*. Сярод іх яшчэ адзін палітвязень — Юлія Цімашэнка, экс-прэм’ер ураду Ўкраіны. А таксама былы прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан, былы канцлер ФРГ Гельмут Коль, амэрыканскі салдат Брэдлі Мэнінг, якога абвінавачваюць у выдачы сакрэтных дакумэнтаў для сайту WikiLeaks, прэзыдэнт Тунісу Мунсыф Марзукі, дысыдэнты з Кубы Асвальда Пая і Ёані Санчэс. Сярод вылучаных на прэмію арганізацыяў — Эўразьвяз, расейскі Праваабарончы цэнтар «Мэмарыял», тэлеканал «Аль-Джазіра».

12 кастрычніка 2012 году ў Осла быў абвешчаны ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру за 2011 год. Ім стаў Эўрапейскі Зьвяз. Такім чынам была адзначаная роля гэтай арганізацыі ў пашырэньні міру, стабільнасьці, дэмакратыі і правоў чалавека.

* Агенцтва France Presse, 27.02.2012.

# Пасадзіць Бяляцкага

*Пасьляслоўе рэдактара*

Кажучы пра Алеся Бяляцкага, я бязь лішняга патасу згадваю пра найлепшыя якасьці чалавека. Прыцягальнае спалучэньне ўпартасьці і дабрыні дазволіла яму стаць пасьпяховым архітэктарам чалавечых супольнасьцяў.

Ёсьць такое трапнае назіраньне. Два незнаёмыя расейцы, заходзячы ў пусты вагон электрычкі, як правіла, сядаюць побач. Два незнаёмыя беларусы — у розных канцах вагона. Беларусы — індывідуалісты, ім не ўласьцівая абшчыннасьць. Для іх нефармальнага самааб’яднаньня спрадвеку існавалі народныя сьвяты (Купальле), талокі (на будоўлі ці зборы ўраджаю) і дні памяці продкаў (Дзяды).

Аднойчы, вандруючы з Алесем па нашых родавых котлішчах на Палесьсі, мы заехалі ў нараўлянскую вёску, адкуль ягоная маці. Алесь паказаў, дзе стаяла хата, дзе жылі сябры, і мы рушылі на могілкі. Нібыта звычайныя вясковыя клады разьмяшчаліся проста ў лесе. Беларуская паганская традыцыя на Дзяды ўсёй сям’ёй пад’ядаць на магілах продкаў вядомая. Але тут было нешта большае. Побач з могілкамі, на ўсю іх даўжыню, быў зладжаны даўжэзны, мэтраў на трыццаць, стол, а пры ім — такія ж даўжэзныя лавы. Гэта значыць, што тут на Дзяды ўся вёска сядала разам.

Натуральна, могуць быць і іншыя кшталты нефармальнага аб’яднаньня, прынесеныя цывілізацыяй, але ў аснове, «у крыві», у мэнтальнасьці беларусаў ляжаць гэтыя тры матывы — народныя сьвяты з супольнымі сьпевамі і рытуаламі, талака і памінаньне продкаў. І калі на пачатку 1980-х Алесь Бяляцкі ствараў першыя нефармальныя суполкі

моладзі, яны кіраваліся гэтымі матывамі — ладзілі каляндарныя сьвяты, працавалі на археалягічных раскопках, знаходзілі месцы масавых пахаваньняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Ужо праз некалькі гадоў гэтых суполак стане так шмат, што яны аб'яднаюцца ў моладзевы рух, выйдуць у палітычнае вымярэньне і прынясуць сваёй краіне незалежнасьць. Бяляцкі і ў новых умовах будзе рабіць сваю працу архітэктара чалавечых супольнасьцяў — створыць музэй, каталіцкую грамаду, праваабарончы рух. Гэтым разам іх аб'яднаньне мелася прывесьці не да рэвалюцыйных пераменаў, а да стварэньня беларускага грамадзтва як такога.

Бяляцкі — асноватворны пэрсанаж гісторыі. Пасадзі яго на пустым месцы, тут неўзабаве зьявіцца музэй, царква і праваабарончая арганізацыя. Культура, вера і права. Зразумела, гэта будуць ня столькі будынкі, колькі людзі, грамадзянская супольнасьць, пачаткі грамадзтва.

Напэўна, беларускае грамадзтва сёньня ўжо было б створанае, калі б у 1994 годзе да ўлады не прыйшоў першы і пакуль адзіны прэзыдэнт з цалкам адваротнай праграмай ператварэньня краіны ў «невялікі калгас» («Беларусь — это небольшой колхоз. Мне в Минске всё видно и без местной власти».) Жорсткая вэртыкальная мадэль калгасу адмаўляе саму магчымасьць існаваньня грамадзтва і атамізуе насельніцтва. Тут усе аднолькавыя, а любая ініцыятыва можа паходзіць толькі зьверху. Усё нефармальнае і самакаштоўнае выключаецца. Ані выбараў, ані свабоды слова, ані несанкцыянаваных сходаў ці аб'яднаньняў у «невялікім калгасе» няма і быць ня можа. Тым, хто замахваецца на калгасную мадэль, прапануецца эміграцыя, або турма, або зьнікненьне бязь вестак.

У нашым выпадку гэта канфлікт сьветапоглядаў. Прэзыдэнт слушна лічыць, што ніякага праваабарончага руху ў «невялікім калгасе» быць

не павінна, інакш гэта не калгас. Таму Бяляцкі як архітэктар беларускага грамадзтва павінен быць ізаляваны ад народу, бо дзейнічае ў цалкам адваротным афіцыйнай дактрыне кірунку. У гэтым яго злачынства. І ня так важна тое, што будзе напісана ў судовай справе ці прамоўлена на працэсе, як тое, што Бяляцкі мусіць быць ізаляваны. І ізалюе яго насамрэч ня суд і не праваахоўныя органы, а сам старшыня «невялікага калгасу». Адсюль гэтая клетка, адмова ў зьмене меры стрыманьня і, нарэшце, турма.

Зь веку ў век сьвет робіцца больш гуманным менавіта таму, што імкнецца не да парадку, як у «невялікім калгасе», а да гармоніі, да ўліку чым большай колькасьці розных галасоў, жаданьняў, дадзенасьцяў. У аснове такога ўліку ляжыць рэальны падзел улады і праца многіх архітэктараў, якія будуюць грамадзтва.

Прэзыдэнт бачыць у Бяляцкім вобраз свайго канкурэнта і рэальнай альтэрнатывы і пагрозы сваёй асабістай уладзе. І пакуль ён будзе прэзыдэнтам, Бяляцкі будзе сядзець у турме, прынамсі ў ізаляцыі, а ў Беларусі ня будзе грамадзтва і масавай салідарнасьці, якая можа быць толькі ў грамадзтве. Ня будзе свабоды слова і аб’яднаньняў, ня будзе беларускае мовы, ня будзе правоў чалавека.

Напэўна, прэзыдэнта б задаволіла эміграцыя Бяляцкага. Але той не згадзіўся. Напэўна, прэзыдэнт хацеў бы, каб Бяляцкі ў турме зламаўся, напісаў «прашэньне аб памілаваньні», але наўрад ці ён сам верыць у магчымасьць гэтага. І таму ўсё, што можа прэзыдэнт супраць Бяляцкага, — гэта фізычная ізаляцыя.

Чаго ня можа зрабіць прэзыдэнт супраць Бяляцкага, — гэта зьмяніць ягоныя чалавечыя якасьці і перашкодзіць росту ягонага аўтарытэту. Алесь і сапраўды стаў для многіх асобаю роўню Вацлава Гаўла, або Нэльсана Мандэлы, або Леха Валэнсы.

Пасьля прысуду сотні людзей крычалі Бяляцкаму, што яны любяць яго, тысячы пра гэта падумалі. І гэты ягоны аўтарытэт мусіць пашырацца як у сьвеце, так і ў Беларусі. Дыктатар перамагае сёньня, герой перамагае ў прынцыпе. Бязьмежнасьць паўнамоцтваў дыктатара абмежаваная прасторай і часам, бо парадак і ёсьць мяжа. Бязьмежнасьць аўтарытэту героя не абмежаваная нічым.

*Сяргей Дубавец*

# Біяграфія Алеся Бяляцкага

Аляксандар (Алесь) Віктаравіч Бяляцкі нарадзіўся 25 верасьня 1962 году ў мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёну Карэліі, куды ягоныя бацькі выехалі зь Беларусі на заробкі.

У 1964 годзе Алесевы бацька — Віктар Усцінавіч і маці — Ніна Аляксандраўна вярнуліся ў Беларусь. Месцам жыхарства сям'я абрала Сьветлагорск.

У Сьветлагорску Алесь скончыў сярэднюю школу № 5.

У 1979 годзе ён паступіў на гісторыка-філялягічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, дзе распачаў літаратуразнаўчую і грамадзкую дзейнасьць. У 1984-м атрымаў дыплём выкладчыка філялёгіі. Перад паступленьнем у асьпірантуру Інстытуту літаратуры Акадэміі навук БССР працаваў настаўнікам у Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласьці.

У 1984 годзе Алеся Бяляцкага прызвалі ў войска. Служыў пад Сьвярдлоўскам у артылерыйскай частцы.

Пасьля вяртаньня з войска працягваў вучыцца ў асьпірантуры, займаўся навуковай, літаратурнай і грамадзкай дзейнасьцю.

У 1986 годзе Бяляцкі стаў адным са стваральнікаў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», быў старшынём гэтай арганізацыі (1986–1989).

У 1988 годзе выступіў адным з заснавальнікаў таварыства «Мартыралёг Беларусі», быў сябрам арганізацыйнага камітэту Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», сакратаром Управы (1996–1999) і намесьнікам старшыні (1999–2001) БНФ, быў заяўнікам першай масавай акцыі ў Беларусі — мітынгу «Дзяды» ў 1988 годзе.

Асьпірантуру Інстытуту літаратуры Акадэміі навук БССР Алесь скончыў у 1989 годзе, ад абароны кандыдацкай дысэртацыі адмовіўся. На яе аснове ў 1991 годзе выдаў манаграфію «Літаратура і нацыя».

У 1990 годзе Бяляцкі стаў адным з арганізатараў Беларускай каталіцкай грамады.

Непрацяглы час Бяляцкі працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам Музэю гісторыі беларускай літаратуры. У выніку конкурсу ў 1989 годзе Алесь быў абраны дырэктарам Літаратурнага музэю Максіма Багдановіча. На гэтай пасадзе працаваў да 1998 году. Пад яго кіраўніцтвам была адкрытая экспазыцыя літаратурнага музэю і трох яго філіялаў.

У 1991–1995 гадах Бяляцкі быў дэпутатам Менскага гарадзкога савету.

З 1996 году Алесь — старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна». У 2003-м «Вясна» была пазбаўленая дзяржаўнай рэгістрацыі рашэньнем Вярхоўнага Суду. У 2007 годзе Камітэт у правах чалавека ААН пасьля пазову Алеся Бяляцкага прызнаў ліквідацыю «Вясны» парушэньнем свабоды асацыяцыі сяброў арганізацыі і рэкамэндаваў аднавіць у правах Бяляцкага і яго калег.

У 2007-м і двойчы ў 2009 годзе рабіліся беспасьпяховыя спробы зарэгістраваць арганізацыю ў Міністэрстве юстыцыі.

Алесь Бяляцкі — сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтру, Беларускай асацыяцыі журналістаў.

У 2006 годзе Бяляцкі выдаў кнігу нарысаў і эсэ «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера».

У 2006 годзе ён быў узнагароджаны швэдзкай прэміяй імя Пэра Ангера, Прэміяй свабоды імя Андрэя Сахарава Нарвэскага Хэльсынскага камітэту, прэміяй Homo Homini чэскай арганізацыі People in Need («Чалавек у нядолі»).

У 2007 годзе Алесь Бяляцкі быў абраны віцэ-прэзыдэнтам Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека.

Муніцыпалітэт гораду Генуя (Італія) ў 2010 годзе надаў Алесю Бяляцкаму званьне «Ганаровы грамадзянін Генуі».

Алесь Бяляцкі быў арыштаваны 4 жніўня 2011 году. 24 лістапада 2011 году яму прысудзілі 4,5 года пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму за нявыплату падаткаў з грошай, якія ён атрымліваў ад замежных праваабарончых фондаў для дапамогі палітычным рэпрэсаваным у Беларусі і іхнім сем’ям.

Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, урады і парлямэнты краін Эўразьвязу і ЗША назвалі гэты прысуд незаконным і запатрабавалі ад уладаў Беларусі вызваленьня Бяляцкага.

У 2012 годзе Алесь Бяляцкі быў уганараваны прэміяй Нарвэскага саюзу пісьменьнікаў «За свабоду слова», польскай прэміяй імя Льва Сапегі, узнагародай абаронцы правоў чалавека Дзяржддэпартамэнту ЗША.

Бяляцкага вылучалі на Нобэлеўскую прэмію міру ў 2006, 2007 і 2012 гадах.

У 2012 годзе Алесь Бяляцкі адзначыў 25-годзьдзе шлюбу з Натальляй Пінчук. Маюць сына Адама.

# Простая мова. Выказваньні Алеся Бяляцкага

**Пра беларускае адраджэньне:**

«Гэта справа не на месяц, не на два. Гэта ня хобі. Гэта справа ўсяго жыцьця! Пачынаецца адраджэньне! Дзеля гэтага я гатовы на ўсё»*.

**Пра пачатак антыкамуністычнай дзейнасьці:**

«Я дастаткова рана пачаў ставіцца крытычна да савецкай рэчаіснасьці. Гэта ішло паступова, пачынаючы ад пытаньняў, зьвязаных з мовай і культурай. Яшчэ ў школе я захапіўся беларускай літаратурай, потым паступіў на гомельскі філфак і сутыкнуўся з рэзкім абмежаваньнем ужываньня мовы, з палітыкай дэбеларусізацыі, якая праводзілася тады (дый праводзіцца і цяпер).

Быў унутраны пратэст, спачатку індывідуальны. Калі ў 1981 годзе я пачаў першым на факультэце паўсюль размаўляць па-беларуску, спачатку зь мяне сьмяяліся, хутка перасталі. Пасьля знайшліся аднадумцы, і мы спрабавалі супрацьстаяць русыфікацыі на сваім узроўні. Упершыню ў Гомелі на пачатку 80-х зьявілася група студэнтаў, якія сьвядома размаўлялі на беларускай мове. У 1984 годзе, калі я заканчваў унівэрсытэт, у нас ужо некалькі дзясяткаў чалавек размаўлялі па-беларуску»**.

**Пра дэмакратычныя карані Беларусі:**

«У нас, у Беларусі, традыцыі змаганьня за свабоду і дэмакратыю маюць вельмі моцныя гістарычныя карані.

---

* Ліст Алеся Бяляцкага Сяргею Сысу. 1981 г.

** Віталь Цыганкоў. Алесь Бяляцкі: «У беларусаў існуе калектыўны інстынкт страху» // Свободные новости Плюс, 01.09.2010.

Залаты век, апошняя траціна XVIII стагодзьдзя, калі ў нас буялі розныя філязофскія школы, калі мысьляры разьвівалі паняцьце правоў чалавека, якое ўпершыню загучала тады на нашых землях, мелі доступ да ўлады і займаліся пераўтварэньнямі ў эканоміцы і адукацыі. Яны ў тыя часы ўжо рыхтавалі адмену прыгону, і сам Ж.-Ж. Русо зьбіраўся пераехаць жыць у Беларусь. Гэта быў вельмі цікавы час, які скончыўся з падзеламі Рэчы Паспалітай і акупацыяй Беларусі дэспатычнай Расейскай імпэрыяй»*.

**Пра беларускую мову:**

«Пасьля фізычнага гвалтоўнага зьнішчэньня хваляў беларускага адраджэньня гэпэушнікамі ды санацыяй, а затым фашыстоўцамі ды эмдэбэшнікамі, менавіта на падвалінах беларускае мовы адбывалася кожнае чарговае адраджэньне нацыянальна сьведамых беларусаў, якія зноў гатовыя былі ісьці на сьмерць. І вось таму ў 50-я гады пачаўся брутальны наступ на аснову нацыі — беларускую мову»**.

**Пра падтрымку ў грамадзтве:**

«Немагчыма, каб на пустым полі адразу вырас добры ўраджай. Гэтае поле трэба добра ўгнойваць, працаваць зь ім, камяні выбіраць… А тое, што пакінула на ім камуністычная ўлада пасьля 70 гадоў у Беларусі, можна назваць такой выпаленай зямлёй... Былі часы ў канцы 80-х гадоў, калі мы літаральна ведалі адзін аднаго ў твар… А на пачатку 90-х гэта ўжо хутка зьмянілася — зьявіліся тысячы і дзясяткі тысяч… Мы займелі ўстойлівую падтрымку ў грамадзтве. Фактычна шмат у чым летуценны рух, які абапіраўся толькі на нейкія аскабалкі, што засталіся ад ранейшых традыцый палітычных, культурных, займеў вельмі цьвёрды грунт.

---

* Тамсама.

** Алесь Бяляцкі. Літаратура і нацыя. Менск, 1991. С. 102.

Цяпер мы маем сваіх 25–30 працэнтаў падтрымкі. І менавіта тады яны высьветліліся, менавіта тады яны фармаваліся. І гэта нямала. Гэта мільёны людзей, якія адназначна бачаць Беларусь іншай»*.

**Пра галоўную мэту жыцьця:**

«Усё іншае — вучоба, асьпірантура, праца ў музэі — усё гэта было сродкам выкананьня тых мэтаў, якія мы ставілі ў самым пачатку — дабіцца незалежнай, дэмакратычнай Беларусі»**.

**Пра рэжым Лукашэнкі:**

«Так ня раз было ў гісторыі: калі ў дыктатараў сканчаўся народны давер, яны трымаліся пры дапамозе гвалту і падману, пры дапамозе сваіх апрычнікаў»***.

«Неапраўдана суровы прысуд паказаў, па-першае, поўную несамастойнасьць беларускай судовай сыстэмы, а па-другое, той жывёльны страх, што пануе ў беларускіх уладаў і якім ахоплены прэзыдэнт Лукашэнка, які баіцца страціць асабістую ўладу і дзеля яе ўтрыманьня гатовы пайсьці на злачынства. Але беларускі рэжым не арыгінальны ў такіх учынках. Ізноў жа, гісторыя паказвае, што рэпрэсіямі супраць палітычных апанэнтаў дабіцца многага немагчыма. Рэжымы, якія ня здольныя зьмяняцца, урэшце развальваюцца ў адно імгненьне. Упэўнены, што такі ж лёс чакае і беларускі рэжым»****.

«Сталіншчына — ідэйны падмурак сёньняшніх беларускіх уладаў. Змрочная здань „правадыра народаў” распасьцерлася над Беларусьсю»*****.

* Радыё Свабода, 10.10.2011.

** Тамсама.

*** Алесь Бяляцкі. Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера. Менск, 2006. С. 235.

**** Тамсама. С. 251.

***** Тамсама. С. 268.

**Аб правах чалавека:**

«Я лічу, што гэта стратэгічная памылка і нават у пэўным сэнсе драматычная памылка палітыкаў 20 стагодзьдзя — аддзяляць правы чалавека ад дэмакратычных каштоўнасьцяў, ад незалежнасьці. Пачынаючы з 80-х незалежны моладзевы беларускі рух, у які я тады ўваходзіў, заўсёды разглядаў гэтыя пытаньні разам — правы чалавека і незалежнасьць Беларусі, дэмакратыя і рынкавая эканоміка — гэта тыя рэчы, якія ўяўлялі і ўяўляюць для мяне адзінае цэлае»*.

**Пра «Вясну»:**

«У прынцыпе, я задаволены вынікамі нашай працы за 15 год. Мы шмат зрабілі для разуменьня важнасьці правоў чалавека палітыкамі і грамадзкасьцю Беларусі — тымі людзьмі, якія пасьля зьмяненьня сытуацыі будуць арыентавацца на гэтыя правілы і стандарты ў сваёй дзейнасьці, у адрозьненьне ад цяперашняй улады»**.

**Пра суд:**

«Такое адчуваньне, што гэты суд быў патрэбны, каб праверыць, што мы рабілі ўсе гэтыя 15 гадоў. А на 10 сьнежня мне хочацца паўтарыць для ўсіх: „Ня бойцеся!” Гэта тое, што сказаў у 80-я папа Ян Павал II, калі прыехаў у камуністычную Польшчу. Больш ён нічога тады не сказаў, але і гэтага хапіла»***.

---

* «Чалавек, яго правы і свабоды павінны зьяўляцца асноўнай каштоўнасьцю грамадзянскай супольнасьці» // Беларуская інфармацыйна-аналітычная інтэрнэт-газэта Euramost.org, 22.07.2005.

** Тацяна Сьнітко. Алесь Бяляцкі: «Час зрабіў нам выклік. Мы яго прынялі» // Сайт Праваабарончага цэнтру «Вясна», 25.09.2011.

*** Ліст Алеся Бяляцкага з Жодзінскай турмы. Сьнежань 2011.

# Паказьнік асобаў*

**А**



**Б**



* За выключэньнем Алеся Бяляцкага.

**В**



**Г**

**Л**



**М**

**Р**



**С**

### Ч



### Ш



### Э



### Ю



### Я



Валер Каліноўскі на Кастрычніцкай плошчы ў часе акцыі апазыцыі пасьля выбараў прэзыдэнта. Менск, сакавік 2006 г.

## Пра аўтара

Валер Каліноўскі, карэспандэнт Радыё Свабода. Нарадзіўся ў 1967 годзе ва Ўкраіне ў райцэнтры Казанка Мікалаеўскай вобласьці ў сям'і ўкраінкі і беларуса. Вырас на радзіме бацькі ў вёсцы Моладава Іванаўскага раёну Берасьцейскай вобласьці. У прафэсійнай журналістыцы з 1987 году. Працаваў у іванаўскай раённай газэце «Чырвоная звязда», абласной «Мінскай праўдзе», моладзевай «Чырвонай змене», у «Звяздзе» першых гадоў незалежнасьці Беларусі. Быў уласным карэспандэнтам па Беларусі газэты «Киевские ведомости», агенцтва France Presse, супрацоўнічаў з украінскімі службамі Радыё Свабода і BBC. На беларускай «Свабодзе» з 2000 году. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ і асьпірантуру Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру НАН Беларусі. Аўтар публікацыяў на тэмы этнаграфіі і рэлігіязнаўства ў беларускіх і замежных навуковых часопісах і зборніках матэрыялаў навукова-практычных канфэрэнцыяў. Жыве ў Менску.

# The Byalatski Matter

Political prisoner Ales Byalatski is a renowned Belarusian civil rights activist and author, founder and chairman of the "Vyasna" human rights center, and vice-president of the International Federation of Human Rights.

In November 2011, a Minsk court convicted him to 4.5 years in prison. Byalatski was accused of withholding taxes on funds allegedly received from foreign donors and used for the legal defense of the politically repressed in Belarus.

The governments and parliaments of the US and many EU countries as well as various international human rights organizations declared Byalatski's conviction illegal and politically motivated, and called for his unconditional release.

Byalatski has been nominated for the Nobel peace prize.

"The Byalatski Matter" tells of Byalatski's eight day trial and lifelong struggle first against the soviet dictatorship and then against the authoritarian regime of Alexander Lukashenka. It recalls both the activist's days in the first NGOs and in the Minsk city government, and describes his international missions to other countries where human rights have been grossly violated — Azerbaijan, Kazakhstan, Kyrgyzstan, Cuba, Russia.

This book is part of the RFE/RL Belarus Service's "Liberty Library" series. Its author is Valer Kalinouski, a long-time RFE/RL correspondent.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.




**Дарога
праз Курапаты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.: іл.




**Poems on Liberty:
Reflections for
Belarus.**
*Пераклады Веры
Рыч.*
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў
клясыка беларускай
літаратуры ў этэры
Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004.




**Дуліна
ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.



**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.



*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.



**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.



**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак
і песень 100
удзельнікаў
перадачы
«Барды Свабоды».
Мультымэдыйны
DVD-дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.



*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
192 с.: іл.



**Галасы
Салідарнасьці.**
Міжнародная
падтрымка
беларускай
дэмакратыі.
Мультымэдыйны
DVD-дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў
Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
330 с.




**Саўка ды Грышка.
Год першы.**
Калекцыя 50
песьняў – падзеі
году ў сатырычным
дуэце Лявона
Вольскага з самім
сабой на Радыё
Свабода.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.



*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная
энцыкляпэдыя
Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.



*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.



*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.



*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.